# Адкуль з'яўляюцца яны?..

Колькі сябе памятаю — заўсёды лічу прыступкі: ці падымаюся на чацвёрты паверх у сваю невялічкую кватэру, ці спускаюся ў падземны пераход, метро, скляпенне пад хатай, іду ў госці, забягаю ў крамы, наведваю лазню — паўсюль і заўсёды я іх лічу. Гэта нешта неад'емнае ад мяне. Я размаўляю з кімсьці, думаю аб нечым — і раптам на маім шляху ляжаць ці паўстаюць прыступкі — у галаве ўсё сціхае, а ўнутраны голас разам з нагамі перабірае: адна, дзве, тры, дваццаць шэсць, сорак адна... Закрадваецца думка, што я павінен быў стаць матэматыкам, а мо і не простым — вялікім матэматыкам.

Я — матэматык. Смяшнейшага анекдота для тых, хто мяне ведае, не прыдумаеш. Ды я і маўчу, не прызнаюся аб здагадцы і навязлівай думцы пра матэматыку. Няхай буду ведаць гэта я адзін. Калі шчыра, іншым разам становіцца крыўдна і да шчымлівасці ў грудзях балюча. Ад чаго? Ды ад таго, што наш велькі сучасны свет страціў для сябе генія матэматыкі — мяне. Каб не крывіць душой, прызнаюся: адзін раз за кілішкам гарэлкі, пасля таго як схадзілі ў лазню, я падзяліўся адкрыццём з былым аднакласнікам, а цяпер урачом санэпідэмстанцыі Юркам Мошкіным. Ён, праўда, не смяяўся, а каўтнуўшы стограмовачку, задумаўся, доўга думаў, паспелі выпіць яшчэ па адной, налілі па наступнай, вось тады ён і спытаў: «А ці не ёкнуўся ты ў дзяцінстве з прыступак? Можа, цёмна было, а можа, паслізнуўся і пракаціўся па прыступках, як па пральнай дошцы?» Тады я змоўчаў,

перавёў гаворку на нешта іншае. Бо не было такога. Што я не пры сваёй памяці, а? Ды і не хацелася чуць ад яго парады наконт кансультацыі ў псіхіятра-спецыяліста. Зараз гэта дужа ў модзе. Ледзь што дзе засвярбела, кальнула ў баку ці ёкнула сэрца — бягуць з лямантам да спецыялістаў. А што яны? Глянуць, пашчупаюць, прапішуць валяр'янкі, аспірыну ці анальгіну ды і адправяць дамоў: «Пройдзе. Усё ў вас пройдзе. Не хвалюйцеся, адпачніце».

Во такая ад іх карысць. Яны не больш і не менш як слесары чалавечага цела. А душа? Што такое душа, хачу спытаць я ў вас? Ыгы, разводзіце рукамі. Яе быццам бы няма. А калі некаму дужа карціць — тады шукай яе сам: выварочвай вантробы, перабірай кішкі, вымотвай сухажылле, дабірайся да сэрца. Толькі каму хочацца такі боль трываць? Не, не шмат аматараў душы.

Але, навошта нам гэтая прамудыстыка. Зусім пра іншае карцела расказаць. Дык во, каб нейк вызваліцца ад матэматычнай геніяльнасці, паехаў я ў вёску да бабы Арыны, роднай матулі маёй маці. Там-та ўжо ніякіх прыступак. З ганка адразу ўваход у сенцы, а з іх у хату. І ўсё гэта падзяляе адзін-адзінюсенькі парог. Не буду ж я, пераступаючы яго, увесь час гаварыць: адзін, адзін, адзін. Вар'ят і то не дойдзе да такой мяжы.

Прыкаціў у вёску на пачатку лета. Там-сям, пад вокнамі хат, паўз дарогу, квітнеў яшчэ запознены бэз. Па ўзмежках палёў і агародаў не паспела выгараць ад сонца зеляніва травы, а на прырэчным лузе выцягнуліся яркія крупінкі зязюльчыных слёзак. Дужа любімых кветак маёй малодшай сястры Нінкі. Вёска, нягледзячы на свой доўгі век, здавалася маладой і прыхарошанай. Сабакі і тыя не былі злоснымі, ленавата ляжалі каля веснічак хат і абыякавым позіркам праводзілі мяне, чужынца. Мроістае паветра, якое ўвабрала незлічоныя пахі летняга дня, казытала ў носе і лашчыла зблеклы

твар. На дарозе ў шэрым высахлым пяску сярод трэсак і дробнага смецця корпаліся куры. Тут жа, паперад мяне, метраў за дзесяць, незалежна і ганарліва ішлі дзве плямістыя цялушкі з ледзь пазначанымі рагамі на галаве. А на ліпе, перабітай пасярэдзіне маланкай, у буслянцы стаяў бусел і папраўляў сухія галіны, якія вытыркнуліся і вольна пагойдваліся — ці то ад няўлоўнага ветру, а мо і ад цяжару самога бусла.

Ох, вось яна вёска і ніякіх прыступак. Далоў матэматыку, далоў навязлівае лічэнне. Проста глядзець, дыхаць, радавацца і быць шчаслівым. Бо няшчасным тут, у такім месцы, быць немагчыма. Як каму, а мне здаецца менавіта так.

— Авой, дзетка маё прыехала,— баба Арына быццам чакала. Яна стаяла за брамкай, абапёршыся локцем на замшэлыя штыкеціны.— І бліноў я наляпала, Максімачка, чулася мне на твой прыезд, снілася, быццам бы ўсю ноч сватоў з хаты гнала. Во ты і прыкандыбаў, мой любчык. Але, пайшлі ў хату, здарожыўся ж, знацца. Там мне і пра ўсю радзіну раскажаш. Глянь ты, як рассакаталася я,— баба Арына адкрыта ўсміхнулася і, каб не выстаўляць на людзі паўз'едзеныя дзясны, па звычцы, прыкрыла рот карычнявата-попельнай рукой.

У хаце ўсё тое ж, што і пяць, дзесяць гадоў таму. Тут, відаць, час заблытаўся ў старых, парэпаных сценах, у высахлых дубовых і кляновых галінах, якія кожны год мяняе бабуля па кутох хат на Троіцу. А мо час баіцца пераступаць хісткі парожак паміж сенцамі і жылым пакоем. Парог няроўны, шчарбаты, на ім кожную зіму бабуля наколвае смольныя цельпушкі на шчэпкі на распал у печы. А як дыхаецца? Бліны ж са смятанай — цуд!

— Дык усе здаровенькія, усе на нагах? Ну то і дзякаваць Богу. І я патроху ківаюся, нічога сябе пачуваю. Толькі спіна, халера б на яе, прыхопіць, тады ўжо паляжу, пакачаюся, яна і ўлашчыцца — адпусціць. Ты еш,

слухай мяне і еш. Выгаваруся хоць, а то распёрла ад слоў, як мех-крапіўнік. Змарнелы нейкі ты, Максімачка. Цяперака слабыя пайшлі людзі. Звонку глядзіш, дык, здаецца, здаравенныя, сытыя мужыкі і бабы, а нутро-то ва ўсіх гнілое. Гэта як пні-трухлявікі ў лесе. Паб'юць іх шашалі ўсярэдзіне, і толькі шкарлупіна стаіць і блішчыць, а піхнеш жа нагой — адна трухлядзь і ўзаўецца, аж вочы засціць. Ты ж звонку змарнелы, затое, можа, нутро здаровае і чыстае, як лёд, а, Максімка?

— Ага!

— Тады і добра. Добра тады,— бабуля прымоўкла, аб нечым думае. Пасля, нібы спахапіўшыся, пытаецца: — Можа, хлусіш мне?.. Калі нешта смыліць — прызнайся. Я цябе вылекую за адзін мірг вока. Ніякімі таблеткамі труціць не стану. Слова і зёлкі — во ў чым сіла. Ты так яхідна не ўсміхайся, Максімачка, не гняві сілу, якую не ведаеш, якую не бачыў, ды і вухам не чуў.

— Я што? Я нічога. Наеўся ад пуза, яно вунь праз папругу пераваліласся. Так еўшы, не доўга і тлушчам заплысці. Буду што вяпрук кормны. Не, так есці...

— Хто есць, Максімачка, той і цягне. Нездарма ж старыя людзі яшчэ мне, як была я ў дзеўках, гаварылі: «Не пад'ясі — і залатую фурманку аддасі». Тлушчам нашы людзі не заплываюць. Калі чалавек не зломак, рукі на месцы ды вока гаспадарскае, то і няма калі прылегчы ці прысесці. Паўсюль, дзетка, рукі прыкласці трэба. Без гэтага, без клопату і стол пусты будзе, што тая лысіна ў майго суседа. Дзеда Чупрэя памятаеш? Ну я пра яго лысіну і кажу. Можа б, табе прылегчы трохі, усё ж з дарогі. А я пакуль збегаю шчаўе нашчыпаю. Заўтра халаднік згатуем. Вазьмі падушку на куфры, што ля маёй пасцелі, і прыляж на канапку. Аддышыся, дзетка. Ай-ай-ай, такі змарнелы. Паспі, Максімачка.

Я прылёг. Не паспеў адпусціць на нагавіцах папругу, а сон ужо затуманіў вочы. І снілася мне вялізная

мармуровая лесвіца, халодныя прыступкі якой пачыналіся з цэнтральнай гарадской плошчы нашага горада і, упёршыся ў пульхныя, што бабуліны бліны, аблокі, хаваліся за імі. Адну за адной пераадольваў я прыступкі, узмакрэла і прыліпла да цела кашуля, сасмягла ў роце, язык, як кавалак свінца, ледзь варочаўся ў роце. Налічыўшы тысячу пяцьсот трыццаць сем гнёткіх прыступак, я паслізнуўся. Хоць не, здаецца, не паслізнуўся, а нехта нябачны шмаргануў мяне за нагу ды так моцна, аж трэснула ў калене. Я скочваюся ўніз і кожную прыступку адчуваю, пералічваю рэбрамі і хрыбтом. Мармуровыя прыступкі восамі джаляць у бакі, абпальваюць праз вопратку цела, нібы крапіва-пякучка. Стылыя шліфаваныя камяні дзядоўнікам упіваюцца ў скуру. Галавы зусім не адчуваю, не хапае паветра, пальцы знямелі, не слухаюцца — імі не зачапіцца. А я ўсё роўна лічу прыступкі, толькі ў адваротным парадку. Але, нарэшце, праз плойму лічбаў у галаву прабіваецца думка, што гэта мая канчына. І я выціскаю з сябе крык, ад якога б сцішыўся і змоўк чэрвеньскі пярун.

— Максімачка, дзетка, чаго ты? Прачніся, мой сакале,— баба Арына гладзіць мае ўспацелыя валасы.— Сасніў нешта?

— Пляцецца ўсялякая брыдота.

— Проста, Максімачка, не звычны спаць ты днём. А значыцца, і не трэбака змушаць сябе. Хутка і сонца зойдзе. Падымайся, схадзі паглядзі на гародчык мой. Мо што мужыцкай рукой і падправіш. Нядобра спаць на зыходзе сонца. Галава — што наліты макацёр будзе, проста-такі разломіцца. Ідзі прайдзіся, а я пакуль сёетое на вячэру збяру. А во, ледзь не ўпусціла: вечарамі ў нас пагулянкі ладзяцца. Матруна ж памерла, дык унукі і адмыкаюць хату, ігрышчы спраўляюць. Глядзіш — расштурхаешся і сходзіш да сваіх пагодкаў. Дзевак у нас многака падрасло, можа, і прыляжа якая да цябе.

— Я зараз. Вазьму цвікі, сякеру і абгледжу штыкетнік.

Сонца паўзло па краі лесу. Яно, вырваўшыся з хмар, нібы патрапіла ў прорву: пусты кавалак бяздонна-блакітнага неба запоўніўся яркім, але не рэжучым вочы святлом. На сэрцы ўпершыню, за доўні час, стала лёгка і прыемна. Я яго не адчуваў, здавалася: у грудзях ружовы паветраны шарык. У старую брудна-шэрую калоду пад гнуткай вішняй зляталіся пчолы. Тут жа, у садку, стракатала сарока. Я яе не бачыў, але яна была дзесьці побач. І адразу аднекуль з памяці выплыла прымаўка: «Калі добрая падзея, сарока, стракачы, а калі дрэнная — прэч ляці». Не паспеў я трэці раз даказаць словы, як птушка змоўкла, быццам яе і не было.

Ціха, лёгка і саладкавата-шчымліва на душы. Ні аб чым і ні пра што не думаецца. А можа, і не хочацца думаць. Падгнілы знізу штыкетнік зарос густым пырнікам. На дубовых слупках выраслі касцяністыя грыбымумкі. Яны, як талеркі пад вузламі, што засталіся ад абсечаных сукоў. Там-сям на замшэлых штыкецінах іржа з'ела дрот, і дубчыкі трымаюцца на чэсным слове. Лепш іх не кранаць, няхай стаяць: ствараюць ілюзію надзейнай аховы і моцы.

Ай, не хочацца нічога рабіць, ды і які з мяне сталяр-рамонтнік. Навошта ўвогуле гэты плот бабулінаму агароду. Лапік бульбы, дык ён адразу за хатай, а тут яблынькі ды вішні.

— Максімка, вячэраць хадзі,— гукнула бабуля.

Павячэраць — занятак варты. Тым больш збіраюся пайсці на грышча. Як гэта кажуць: «Выбірай жонку не на грышчы, а на ржышчы».

Не, па мне лепш на грышчы. Яечню кожная сасмажыць, а вось вока палашчыць ды душу ўскалыхнуць — не кожнай дадзена.

Адзін, два, тры, чатыры, пяць... Цьфу ты, нядобрая, слупы прыперла лічыць. Не, хопіць, хопіць пад гарляк і прыступак.

Павячэраўшы, пайшоў я ў Матруніну хату. Адтуль,

з-за купчастых вербаў ляцела прыглушаная, з сіпавінанем мелодыя. Чым бліжэй падыходзіў да месца пагулянак, тым ясней чуўся хрыпаты голас спявачкі. У расчыненыя вокны вылятала змучаная прайгравальнікам песня: «Ах, мамачка, на саначках каталась я ўвесь дзень...», далей нельга было нічога разабраць.

Зайшоўшы ў гарбаценькія сенцы, пры цьмяным святле, сярод гурту хлопцаў і дзяўчат я пазнаў Суконную Вальку, яна жыве праз дзве хаты ад бабулі. Павітаўшыся са знаёмымі хлопцамі, я прытуліўся плечуком да сцяны, непадалёк ад Валькі.

— Сёння паедзем гуляць у Лучкі,— па сакрэце шапанула Валька.— Брыгадзіраў Лёнік паабяцаў узяць у канюшні двух жарабкоў. Запражэм калёсы і да Лучкоўскіх у госці. Я ціхенька паклічу цябе. Няхай меншыя гуляюць тут, ім яшчэ рана раз'язджаць, ды па вёсцы і пагалоску могуць пусціць. Пабудзь усярэдзіне, я за табою заскочу. Але ж і паправіўся ты, ледзь пазнала. Ну, я зараз, пачакай там.

У хаце, пад нізкай столлю з цьмянай электралямпачкай і абадранымі газетамі на сценах, танцавала некалькі дзяўчынак і юнакоў. Хутчэй за ўсё старэйшыя школьнікі. У іх пад нагамі парыпвала і прагіналася падлога. А на доўгай вузкаватай лаўцы, паўз печ, сядзела з пяток дзяцей. Яны час ад часу штурхалі адно аднаго, паказвалі на танцораў пальцамі і сарамліва, з яхідцай хіхікалі. На нейкую хвіліну акінулі мяне цікаўным позіркам і, не знайшоўшы нічога вартага іх увагі, адвярнуліся. Нікога з дзяцей я не пазнаў, ды і танцоры падаліся незнаёмымі.

Пастаяўшы крыху, прыгледзеўшыся да хаты і гульбішча, захацелася прысесці на куцы падаконнік, але ў гэты момант у расчыненыя дзверы праслізнула Валька і, лёгенька хіснуўшы галавой, зноў знікла ў сенцах. Не засяроджваючы на сабе ўвагі, я выйшаў следам.

— Падводы за вёскай, у бярэзніку, пайшлі хутчэй. Там нас чакаюць.

Гучна стракацелі цвіркуны, сярод травы рэдка прамільгвалі зеленаватыя вочкі светлякоў. А пад нагамі адчуваўся лёгкі пясчаны пыл, які ўзбілі за дзень капыты кароў і коняў, ногі вяскоўцаў, колы машын і трактараў.

— Колькі да Лучкоў кіламетраў будзе?

— Ад сілы, пяць. На паўгадзіны дарогі. Ці ты ні разу там не быў? — Валька здзіўлена паціснула плячыма.— Тамака клуб добры і хлопцы з дзеўкамі мірныя. Мы з імі ў згодзе, не тое што з каменскімі сінюгамі. А, сам пабачыш. Лучкоўскія больш пад гармошку скачуць, там ці не ўсе хлопцы ўмеюць граць. Ты не падумай, што толькі адны вясковыя танцы — не. Яны і «муху», і «шэйк» так скляпаюць, што падатруць нос вашым гарадскім ансамблям. Думаю — табе спадабаецца.

Коні, уціснутыя ў аглоблі, часта і абыякава фыркалі. Над вухам нудна пішчэлі камары, а з недалёкага балотца далятаталі спевы жаб.

Я з Валькай сеў на апошняй трэцяй падводзе. За фурмана ў нас быў Коля Перцаў, мо гады на два старэйшы за мяне, але ж я добра помню яго. Асабліва тое, як лавілі мы кашом рыбу ў былым кяжацкім возеры і як шчупак, уцякаючы з каша, шуснуў у расшпіленую шырынку Колевых штаноў. Але тое было даўно. Дужа даўно.

Цяпер жа коні беглі трушком, манатонна звінелі цуглі на аброцях, хіхікалі хлопцы з дзяўчатамі, а над нашымі галовамі, над вузкай дарогай сярод вялізнага лесу, рассцілалася зорнае неба з ядраным маладзіком.

— Максімка, а ці добра зараз у горадзе? — Валя плечуком дакранулася да маіх грудзей, і я адчуў лёгкую і мяккую цеплыню яе цела.— Людзі кажуць, быццам бы галаднавата і халаднавата тамака цяпер. І ты мо прыехаў да бабы Арыны, каб трошкі ад'есца.— Валя хіхікнула.

А я змоўчаў. Што было казаць? Жылося ў горадзе

і сапраўды нялёгка. Толькі ж, здаецца, і вяскоўцы не дужа раскашавалі.

— Ой, Максімачка, можна, я сяду бліжэй да цябе? — Валя ледзь не ўсім целам хацела ўціснуцца ў мае, не надта ўжо і шырокія, грудзі.

Я міжволі заўважыў, як сцішылася моладзь на ўсіх падводах, насцярожылася. Толькі фыркалі коні ды парыпвалі павозкі. Падалося, што цямнейшым стала і неба, а яркія зоркі і месячык нібы зацягнуліся туманам. І дарога вузейшай стала між цёмных сцен лесу. Ад чаго б усё гэта так?

— Валя, а што здарылася? — ледзь чутна запытаўся я.— Чаму ўсе змоўклі?

Валя нейкую хвіліну маўчала. Мо думала: ці гаварыць, ці не. Але вось яна горача зашаптала мне на вуха:

— Зараз будзем праязджаць міма былога шклянога завода князя Крапоткіна. Тут жа побач і могільнік, на якім пахаваны сам князь і ўся яго старэйшая радзіна, ды і вяскоўцаў ранейшых там закопвалі. Ой, Максімачка, давай памаўчым, я пазней дакажу ўсё.

Коні беглі лёгкім трушком. Усе маўчалі, і толькі самотна, з нейкім надрывам шумеў лес. Было дзіўна, што хлопцы нават не курылі цыгарэтаў, а дзяўчаты не перашэптваліся і не хіхікалі, як зусім нядаўна.

Коля Перцаў надрыўна кашлянуў, Валя здрыганулася ўсім целам: моцна абхапіла мяне за плечы. Стаў бачны нейкі вэрхал і на папярэдніх дзвюх павозках. І тут жа, у гэтую хвіліну, спыніліся коні, як быццам бы нехта нябачны заступіў ім дарогу. Хлопцы з усёй сілы шморгалі за лейцы, нокалі на жывёлін, пстрыкалі па іх спінах дзягамі, але коні толькі пераступалі з нагі на нагу, але ні кроку не зрабілі ні ўзад, ні ўперад.

— Божачкі мае, што гэта такое? — Валін голас трымцеў, як асіна пад ветрам.

Нехта з першай павозкі злез на зямлю. Агледзеў каня і прысвіснуў.

— Хлопцы! — гукнуў ён.— Не ведаю, як у вашых, а ў майго Бурага ногі моцна перавязаны нейкімі ніткамі. Паглядзіце на сваіх.

— Ну і смяльчак Сашка Трыфановіч, а так бы сядзелі, як пні,— Валька заўважна паспакайнела, адсунулася ад мяне і скокнула з калёс на зямлю. Я злез таксама.

— І ў нашага ногі пераплецены,— нехта сказаў ад другой павозкі.

— Каб жа толькі ў вашых, але і ў нашай Стралы,— раздражнёна буркнуў Колька Перцаў.— І дзе яны ўлезлі ў гэтыя ніткі? Хоць, якія ніткі, хутчэй — пяньковыя вяроўкі. Вось дык зараза.

— У каго ёсць нож? — падаў голас Сашка Трыфановіч.— Пашукайце, бо голымі рукамі нічога не зробіш.

Парыўшыся па кішэнях, знайшлі складанчык. Яго перадалі Сашку, а самі ўсе пасталі купкай, воддаль ад павозак.

— Панакідаюць на дарогах розных вяровак ды ніток, і блытайся ў іх. Добра, хоць коні не паваліліся, ног не паламалі. А то б хоць на плячах нясі да вёскі,— гэта адным дыхам прастрачыла невядомая мне дзяўчына.— Цяпер людзі сталі абы-якімі, я, здаецца...

— Памаўчала б хоць ты, Ганька,— Валя цыкнула на гаманлівую сяброўку.

— Кашаль замучыў, курыць хачу. У каго ёсць махорка? Ну не жміцеся, мне на адну круцёлку,— Колька Перцаў палапаў па кішэнях пінжакоў у хлопцаў, што стаялі бліжэй да яго.

— От, Пятрок, халера б на цябе, маеш з кілаграм самасаду, а маўчыш, калі-небудзь прыгадаю...

— Чаго вы там пасталі! Хлопцы, хадзіце сюды, аднаму мне не ўправіцца. Колькі я ні рэжу гэтыя ніткі-путы, а іх усё больш і больш бярэцца.— Сашка нягучна мацюкнуўся.

Усе зноў прыціхлі, нават не адганялі ад твараў надакучлівых камароў. Хлопцы паразыходзіліся да павозак.

Мы з Колем схіліліся каля пярэдніх ног Стралы. Кабылка апусціла галаву і мызай ленавата адпіхвала нас ад сябе. Я паспеў намацаць каўтун нітак на яе капытах. Ніткі былі таўставатыя і гладка-халодныя, як гадзюкі. Адхапіўшы руку, я адчуў халодныя пісягі на спіне, а ў пальцах лёгкае паколванне, як усё роўна пасля марозу.

Нечакана затрашчэла сухое голле ў кустах. З боку былога шклянога завода князя цьмянымі палоскамі з іскаркамі нешта бліснула. Сціншаныя коні рвануліся ўперад, але путы моцна трымалі іх. На першай павозцы храснула аглобля. Гук глухаватым стрэлам пранёсся над цёмнымі сасонкамі і елкамі, над нашымі галовамі і бясследна растаў.

Мы яшчэ не паспелі ачомкацца ад незразумелага ўнутранага жаху, як заўважылі, што з усіх бакоў насоўваюцца на нас вялізныя чорныя здані. Павольна, няспешкі яны ўзялі павозкі ў цеснае кола. Здавалася, што мы адгароджаныя ад усяго свету вялізнай бочкай, у якой нельга знайсці ніводнай шчыліны. Вольным засталося толькі неба са жменяй зорак і скупым водблескам месячыка.

Мы збіліся купкай, цісНуліся адно да аднаго, як бы хочучы зліцца ў нешта суцэльнае і моцнае, каб прабіць цёмную сцяну зданяў.

Толькі цяпер я ўбачыў прасветы вачэй у зданяў. Гэтыя цьмяныя праблiскі замыкаліся круглым ланцужком. Але вось адна вялікая пачвара аддзялілася ад астатніх і прасунулася на нейкі крок, два да нас.

— Мамачка мая! — усклікнула Валька. Я мацней сціснуў яе халодную руку.

— З вас нам патрэбны два чалавекі,— прахрыпеў Чорны прывід.

— Толькі два,— паўтарыла кола зданяў.

— Імі будуць ён і яна,— прывід паказаў на мяне і Валю.

Больш за ўсё цяпер я баяўся за Валю. Ад пачутых слоў яна затрэслася, бы тая засохлая быліна пад ветрам. Халодная рука ўспацела, пальцы ўздрыгвалі, як бы ловячы нешта нябачнае. Усе маўчалі, як без'языкія.

Канечне, кожны думаў пра сябе. Ім хацелася хутчэй пазбавіцца нечаканай сустрэчы з няіснымі зданямі, якія тым не менш стаяць вакол нас і ў якіх усе мы палонныя.

— Пайшліце! — Чорны прывід зрабіў праход у цесным цёмным коле зданяў. Незаўважна мы з Валяй аддзяліліся ад гурту хлопцаў і дзяўчат і, не хочучы таго, рушылі за вялізнымі плямамі, у палоне якіх цяпер мы былі толькі ўдваіх.

— Максімка, а навошта нас забралі? Куды нас вядуць, Максімачка? — Валя бязгучна плакала.

— Ты не бойся. Усё будзе добра. Я ведаю, што ўсё будзе добра.— Нічога разумнейшага я прыдумаць не змог. Ды і што магло прыйсці ў галаву ў такой нерэальнай, дурнаватай сітуацыі. Пад нагамі шапацела леташняе лісце. Квола патрэсквалі галінкі,ігліца. Ішлі мы, не выбіраючы дарогі, але і не навобмацак. Дрэвы быццам самі саступалі перад намі, разбягаліся ў бакі, робячы нешырокі прамы праход. Прывіды-здані моўчкі сунуліся вакол нас.

— Што будзе з намі,— не сціхала Валя.— І мамка звар'яцее, калі ёй раскажуць, дзе і ў каго я апынулася. Ой-ёй-ёй, і навошта паехала на гульбішча. Во дык пагуляем, Максімачка, мо і на ўвесь век хопіць...

Здані як быццам не слухалі нашай размовы. Яны моўчкі сунуліся вакол.

Я ж думаў аб адным: як супакоіць Валю, адагнаць ад яе страх і тую асуджанасць, якая адчувалася ў кожным яе слове, у кожным кроку.

— Чаго, Валюх, нам баяцца? Што адбылося, тое адбылося. Паправіць нешта цяжкавата, а мо і немагчыма ці ўвогуле не трэба. Тое жыццё, з якім кожны дзень і паўсюль сутыкаешся,— устыла. Дык, можа, і нядрэнна

паспытаць нечага новага, невядомага. Таго, у што не верыш і якое, аказваецца, ёсць, існуе. Гэта мы бачым з табою на свае вочы.

— Максім, што ты вярзеш? Паслухай, што менціць язык! — Валя спатыкнулася. Я падхапіў яе ■ зямлі. Здані спыніліся. Той Чорны, мо крыху вышэйшы і танейшы за астатніх, прывід, які выбраў нас з Валяй, правуркатаў:

— Прыйшлі. Пасядзім трохі. Я адлучуся, але хутка буду.— Ён павярнуўся да астатніх зданяў і нешта прашыпеў ім. Як я ні ўслухоўваўся — не мог разабраць ані слова.

Так прасядзелі мы да раніцы, пакуль не паплылі па небе густыя кудзелі аблокаў. Сонца ніяк не магло прабіцца праз іх, тонкія худзенькія промні на нейкую долю хвіліны вырываліся з палону хмар і зноўку знікалі. Мо з-за гэтага летняя раніца так была падобная на глыбокую восень. У ранішняй шэрасці здані здаваліся яшчэ больш гнёткімі і чорнымі. Яны, як гнілыя, трухлявыя калоды, сядзелі гуртам на ўрасянелай траве каля нас. Усе чакалі галоўнага — Чорнага.

Валя, наплакаўшыся ўволю, паспела задрамаць. Мой жа сон нібы заблудзіўся. Мінула яшчэ ці не больш за гадзіну, і вось з-за шурпатага ствала яліны выплыў Чорны.

— Падымайцеся, вас ужо чакаюць,— загадаў ён.

— Ой, дзе мы, Максімка? — прахапілася ад дрымоты Валя. Спуджана зірнула па баках і абмякла, як зялёны кляновы ліст, які патрапіў у вар.— Дык гэта не сон, усё папраўдзе,— яна зноў бясслёзна ўсхліпнула.

— Ну-ну, трымайся, мая дзяўчынка,— ■ якой толькі мог лагоднасцю і пяшчотай прамовіў я.— Ужо ж гаварыў, што ўсё будзе добра, ты ж са мною, а таму і не бойся нічога. Добра? Ну й малайчынка, так і трэба.

Я гаварыў гэтыя словы, не верачы ў іх ні на грамуль-

ку, ні на макавае зернейка. У самога ў грудзях сэрца трапятала, як хвост загнанай ваўком авечкі.

Незаўважна ўсе мы перайшлі шырокую паляну і спыніліся каля цагляных развалін. Некалі, відаць, тут быў земляны склеп, а мо і нешта іншае, ды і ці так важна гэта для мяне з Валяй цяпер. Адно можна з упэўненасцю сказаць: гэта быў не калодзеж.

— Спускайцеся! — прыглушана загадаў Чорны прывід. Астатнія здані хуценька абступілі нас. Яны адрэзалі дарогу да адступлення. Перад вачыма халодным праломам застыла напаўзарослая расшчыліна.

— Каб на вас чума напала,— міжволі вылаяўся я. Здані зарагаталі, абдаўшы нас ■ Валяй імжыставолкім і зімнім подыхам. Ад гэтага ў мяне аж кальнула ў скронях і здрыгануліся каленкі. «Божа мой, толькі б не заўважыла майго спалоху Валя. Трэба неяк трымацца. Заціснуць аслізлага чарвяка боязі падэшвай у зямлю, каб і не выпаўз, не вытыркнуўся. Я ж веру ў свой лёс, у сваю ахоўную і шчаслівую зорку. Нікому яна не дазволіць пакрыўдзіць мяне, а тым больш звесці са свету. Я і Валя, нашы жыцці знаходзяцца пад непадступнай аховай маёй нябеснай зоркі».

Гэтыя думкі ўзніклі ў галаве зусім нечакана. Быццам нехта прашаптаў іх на вуха. Адразу стала лягчэй дыхаць і паспакайнела на сэрцы.

— На ўсё воля Боская,— нібы пачуўшы мае думкі, прамовіла Валя.

Пачварныя прывіды-здані яшчэ ямчэй гагатнулі ад слоў дзяўчыны. Яны ўсё цясней і цясней згуртоўваліся — і вось-вось піхнуць нас у чорнае зерава невядомасці землянога склепа.

Ад аднаго ўяўлення, што гэтыя брудныя тухлючкі дакрануцца да майго цела — ледзь не званітавала. Не чакаючы непрыемнага моманту, я схапіў Валю за танклявую талію і рашуча зрабіў крок у бяздонне...

* * * Нудна рыпіць калымага. Яе рассохлыя колы падскокваюць на дарожным каменні, тузаюцца ў выбоінах. Дзед Гардзей цягне павозку за адзіную аглоблю, я ж падпіхваю збоку. Дрэнна, што ў дзеда няма каня. А больш за ўсё мне хочацца спаць. Ну і што, калі дах нашай хаты-зямлянкі павінен хутка абваліцца, а на сценах у палец таўшчынёй мокрая цвіль. Проста трэба больш прапаліць дроў у грубачцы ды накрыцца дзяружкай — во і было б цёпла. І жылі б далей так з дзедам. Тады б цяпер я яшчэ спаў, а дзед наварыў бы размочанага бобу. Ён такі смачны і мяккі.

— Падсабляй, падсабляй, хлопча. Не так ужо і далёка засталося. У Яўхіма табе будзе і ўежна, і добра. Дужа цёплая, яшчэ новая ў яго хата і багаты стол. Мне ўжо, дзетка, не перазімаваць. Просяцца косці ў зямлю, спакою хочацца. Яўхім жа выведзе цябе ў людзі. Ён хоць і страшнаваты чалавек, але падбірае сірот, ставіць на ногі і пускае ў свет. Можа, у яго і не адзін ты будзеш, то і добра, усё ж весялей. А за мяне хай не баліць твая душа. Ты ж падсабляў рабіць дамавіну. Як толькі мне няўмоц пагоршае, я туды і лягу. Як-небудзь усцягну накрыўку, а ўжо пасля зімы папросішся ў Яўхіма, прыйдзеш на наш хутар і пахаваеш мяне. Калі яшчэ здолею, то і яміну выкапаю, каб клопатаў менш табе было. Во так, хлопча, усё і зладзіцца.— Дзед Гардзей яшчэ нешта гаворыць, але я не чуў. Вочы засвяціліся слязамі, а сэрца гоцкае так, што, здаецца, выскачыць праз вушы. Ці лёгка яму так гаварыць, а мне слухаць? Ён адзіны чалавек, які любіць і гадуе мяне. Не, ужо не гадуе, а гадаваў.

Яўхіма я баюся. Ні разу не бачыў, а баюся. Хто б толькі не заходзіў да нас, а калі ўспаміналася імя Яўхіма — гаворка спынялася. Людзі адчувалі сябе чамусьці вінаватымі, адзін ад аднаго хавалі вочы і хутчэй парываліся пайсці з зямлянкі. Але дзед яго паважае і мо

таму давярае мяне толькі Яўхіму. Дзед Гардзей нічога дрэннага не хоча ж мне, а тады чаго страшыцца. І я не буду баяцца, я ўжо не баюся.

З горкі каламажка пакацілася шпарчэй. Перацягнулі яе праз грудок напаўзгнілых галін, збочылі на сцежку.

— Вунь і Яўхімава хата. Ты пачакаеш мяне каля варотаў, а я перагавару з гаспадаром. Ен ведае аб нашым прыходзе, то я ўладкую ўсё хутка.

Яўхімава хата была быццам груган — бліскуча-чорная. Ці то дзёгцем выпацканая, мо нейкім тавотам. Ва ўсялякім разе плечуком да яе не прыхілішся. З коміна вырываўся сажны дым, густы і цягучы, як перапаленая смала. Ці не ад яго так брыдка пахла навокал. Дзед Гардзей знік за цяжкімі дзвярыма сенцаў. І адразу ж на ганак ускочыў чарнейшы за восеньскую ноч певень. Уважліва агледзеўся навокал і як вой-абаронца застыў на месцы, шырока растапырыўшы крылы.

«Вось тут цяпер і буду жыць. Не хочацца, як мне не хочацца. А можа, збегчы куды-небудзь. Так далёка, каб не бачыць гэтых непраходных лясоў і балот, ёдкіх туманаў і няўшчукных дажджоў. Дзесьці ж ёсць і другі свет: цяплейшы і святлейшы — лепшы. Дзеду Гардзею ўсё роўна паміраць, ад мяне яму ніякай помачы не трэба. Усё, кідаю калымагу і промільгам, на перарыў дыху ў нябачны лепшы свет уцяку. Пачакаю адну хвілю і ўцяку». Але не паспеў я адпіхнуцца ад каламажкі з нейкім дзедавым начыннем, як адчыніліся дзверы ■ сянец. На парозе ўзніклі дзед Гардзей і другі, гарбаценькі і ўвесь у валасах, што той мядзведзь, стары, відаць, сам гаспадар Яўхім. Ен стаяў уладна, як цельпушок, нейкае імгненне паядаў мяне халодным позіркам, але вось узняў руку і ленавата хіснуў, падзываючы да сябе.

— Цяпер ён твой і бацька, і матка, заступнік і абаронца,— мне чулася ў голасе дзеда Гардзея нейкая скруха і жаль.— Слухайся яго і будзеш Уладаром. Я ж пра-

вільна кажу, Яўхім? Ну вось! Аддаю яго табе. Вучы. І як гаварылі продкі: косці нашы, а мяса ваша. Забірай каламажку і хлопца, а я пайшоў.

— Сіла ў жылы твае,— буркнуў Яўхім. І дзед Гардзей пайшоў, ні разу не азірнуўшыся.

— Імя цяпер тваё Марка! — ляпнуў Яўхім па маім плячы.

Не ведаю як, але ўлавіў я і недаказаныя камлюкаватым гарбуном словы: «... і прыйдзецца жыць табе, як Марку ў пекле...» Далей жа ў вушах загучала песня ды такая жаллівая і самотная, што аж выціснула сэрца, як анучку, працяла кожны пазванок спіны... «Доля ж твая горкая, гарчэй палыну... Гарчэй тваёй долечкі ў свеце няма...» Так магла спяваць толькі маці, мая матуля, якую я не памятаў, а мо і не бачыў. Але ж зараз яна спявала песню мне, спявала крадком, аднаму-адзінюсенькаму на вуха.

— Чаго калом стаў, ідзі ў хату! — Яўхім піхнуў ў плечы, і я выцяўся скроняй аб вушак дзвярэй.

«Хай цябе, гарбун кляны, на Здзьвігі гадаўкі і цмокі аплятуць»,— сам сабе вылаяўся я і зайшоў у прапахлыя кісляцінай сцены сянец. Яны былі вялізныя, не хапала вачэй, каб ахапіць усе закуткі, па якіх хаваўся абрыўкамі змрок. Паўсюль віднеліся ўбітыя ў сцяну драўляныя клямкі-вешальні, на якіх мясціліся невядомыя мне рэчы. Але адзін пучок я добра разгледзеў, гэта былі высушаныя і звязаныя за лапкі земляныя і вадзяныя жабы, побач вісела ці не кацiная шкурка п бязвокім чэрапам.

— Хопіць выпячваць зенкі, яшчэ нагледзішся,— прыкрыкнуў гарбун,— заходзь у хату, там мы з табою пагаворым і абмазгуем тое-сёе.

Я не верыў сваім вачам — жылы пакой хаты быў яшчэ большы за сенцы. Падлога з чырванаватым адлівам гарачая, як чэрань грубачкі, на якой так добра грэлася ў дзеда Гардзея. Паўз глухую сцяну стаяла з тузін вялізных бліскучых місак, цэбраў на пяць кож-

ная. З некаторых ішла пара, ружовая, шэрая, крывавая, з адценнем зеляніны. На вокнах, а іх усяго два — тоўстае палатно з плямамі і пацёкамі. Шэсць пугачоў з гарачымі вачыма сядзела на покуце, пад самай столлю. Пры нашым з'яўленні птушкі заварушыліся, залопалі крыламі. Падалося, што зараз яны накінуцца на мяне, як раз'юшаныя ваўкалакі.

— Сціхніце, пагані,— буркнуў Яўхім.— А ты сядай на лаўку, за стол. Памяркуем, як жыць мусім і чаму вучыцца пачнем. Гардзей гаварыў, што хлопец ты не дурны. Гэта ўжо не так і мала. Цяпер скажы, ці ўмееш лічыць і хоць збольшага чытаць?

— Не-а, ня ўмею...

— За тыдзень навучышся, Варка падсобіць. Гэй, лярва, дзе ты там?! Выходзь на святло, да маіх вачэй! — гукнуў, здавалася, у пустую хату Яўхім-гарбун.

З нейкага закутка выпаўзла дзяўчынка, мая пагодка з перапэцканым тварам і рукамі. Пудліва зірнуўшы на Яўхіма, яна ўглед зелася ў мяне.

Праз неверагодны лабірынт памяці, усплёскі нейкага, а мо і нейчага мінулага я ўспомніў, што дзесьці ўжо бачыў яе. А мо і няпраўда. Хваравітае трызненне мазгоў, стомленасць. Але, няўжо гэта думкі мае? Адкуль яны плывуць, як прабіраюцца ў маю нішчымную і нікчэмную істоту? Фу!

— Варка, навучыш гэтага бейбуса хоць трохі чытаць і добра лічыць. Праз тыдзень праверу. Кніжкі ж, ты ведаеш, дзе ляжаць. З верхняй шуфляды не бяры, вучы па новых.

— Так, Уладар,— піскануламдзяўчынка і незаўважна знікла.

— Учора вечарам прывёў яе адзін з пасланнікаў, а, бачыш, як абвыклася,— Яўхім ад задавальнення пстрыкнуў пальцамі.— І ты во так хутчэй абжывайся. А зараз ты абавязаны памыцца ў кожнай з міс, што паўз сцяну стаяць. Распранайся і залазь у першую. Апратку

выкінь у кут, дам другую, нязменную, на ўсё жыццё. Яна будзе тваім целам. Не бойся, цяпер ты тут свой, часціна ўся, што перад вачамі і чаго пакуль не бачыш. Пайшлі да міс спазнання.— Яўхім падняўся сам і падштурхнуў мяне.

— О, Уладар над уладарамі зямнымі і падземнымі, над людзьмі і нячыстымі сіламі, над цемрай і ноччу, над згубай і згубіцелямі, над сілай моцнай, нячыстай! Я клічу цябе быць сведкам і галавой прыёму ў нашае кодла яшчэ аднаго пасланца, хто пранясе тваю моц да апошняга ўздыху. Праз рукі якога будзеш правіць ты, Уладар! Дай згоду! Запалі агонь Нячыстай сілы! — Гарбун пляснуў тры разы ў ладкі, крутнуўся на месцы і з усёй моцы прытупнуў нагою.

Я чакаў, што зараз адбудзецца нешта страшнае, пагражальнае, але ў хаце нічагусенькі не змянілася. Толькі працяжна рыпнулі масніцы на покуце.

— Ыгы,— буркнуў Яўхім сабе пад нос,— знацца, рана цябе прымаць... рана. Нехта перашкоду чыніць, адгароджвае душу тваю ад Бацькоўскай рукі. Пакуль што я не ведаю, хто гэты вораг. Пакуль што... Але праз хвіліну ён выплыве. Зараз з'явіцца над місамі-катламі. Заплюшчы вочы і стой перада мною,— Гарбун паклаў рукі на мае плечы, кашлянуў і высокім басам закрычаў на ўсю хату: — Нядзеля з панядзелкам, аўторак і серадою, чацвер з пятніцаю, а субота адна, як гэта дзіцё малада. Ночка цёмная, зоры згаслыя, вятры буйныя адначасныя, дзе б ні быў вораг хрышчаны, хай ён выплыве над катламі, стане яваю перад намі. Ды не сам я бачу, і не сам прашу, нясуць чэрці нам усю яго душу. Першы бачыць, другі чуе, трэці скажа!

На нейкую хвілінку ўсталявалася цішыня.

— Глядзі! — Яўхім Гарбун з усяе сілы страсянуў мяне.

Над місамі-катламі з рознакаляровай парай вымалявалася схуднелая постаць жанчыны. Лахманы яе апрат-

кі шкуматаліся ветрам, бялюткія босыя ногі стаялі ў лужыне бруднай вады. Яна да некага цягнула трапяткія рукі, усім целам парывалася ўперад, толькі ж нешта ці нехта нябачны не пускаў яе, трымаў на месцы. Я бачыў, як з вачэй у жанчыны каціліся буйныя слёзы, яны бобам сыпаліся ў лужыну.

— Хто яна?

— Я не ведаю.

— Хто яна? — Яўхім гадзюкай шыпеў над самым маім вухам.

— Не ведаю, не ведаю, я не ведаю...

— Кляты выблядак,— з непрыхаванай радасцю і цеплынёй прашаптаў Гарбун.— То добра, што не ведаеш. Лягчэй спасцігнеш таямніцы, якія не кожнаму дадзена спазнаць... А яна, яна здабыча крумкачоў. Чэрві і тыя не захочуць жэрці гэта выпетранае цела. Ты, Марк, ад граху з'явіўся на свет, без кахання. Якая брыдота — каханне. Выдумка слабых, нікчэмных жабракоў і калек. Тым, хто моцны целам і духам — не трэба казка пра каханне. Яны бяруць усё сваімі рукамі. Усё, што ім лягло на вока. Гэтыя словы і для цябе закон! Згінь, насланнё! — Яўхім правёў далонню перад маімі вачыма, як быццам зняў павуціну, і знікла постаць жанчыны над катламі.

Але адразу ж я пачуў знаёмы голас, той голас, які чуўся мне на Яўхімавым парозе.

«Дзіцятка маё ты любае, сыночак ты мой аднакроўны... Куды ж ад мяне ўбіраешся? Ды адкуль цяпер мне цябе выглядаці, выклікаці? Ці з дарогі далёкай, ці з сасонкі высокай? Не забудзь мяне, дзетанька, не забудзь мяне, яснае...»

— Хопіць гультаіць. Усяму свой час,— Яўхім сядзеў ужо на лаве за сталом.— Пойдзеш зараз з Варкай на старыя могілкі. Яна ведае куды. Там знойдзеце разрытыя яміны, назбіраеце па рэшату касцей... адным словам, усяго, што патрапіць пад рукі. Гэта і прынясеце

дамоў. Да поўначы паспееце. Во і будзе твой першы крок да ўлады і сілы. Памятай: ты — перанароджаны, новы. У цябе няма мінулага, а ёсць толькі будучыня! Варка, гатовая ты ўжо ці не? Рэшаты вазьмі пад загнетам. І пачопкі тамака ляжаць. Забірай хлопца і цягніцеся. Я ж пакуль пачарую адзін. Вашыя вочы яшчэ не прыдатныя, маладыя для вартай справы. Ідзіце, ідзіце, а то набліжаецца гадзіна смутку, не ўпусціць бы яе.

Яўхім выпіхнуў мяне з Варкай на ганак. Вячэрняе сутонне гусцела. Елкі рыпелі старымі камлямі, гойдалі вершалінамі пад напорлівымі парывамі ветру. Было зябка. Сэрца аж сціскалася ад холаду. Вынашаная сярмяжка не грэла цела. Неяк у адну хвіліну адубелі рукі, пальцы з кулакоў не было моцы расшчапіць. Варка адчувала сябе не лепей. Схуднелы, па-лісінаму выцягнуты яе тварык пасінеў. Як ні ўглядайся, не ўбачыш у ім ніводнай крывінкі, адзнакі жывіцы. Закінутыя за плечы рэшаты рабілі нас падобнымі да гарбуноў.

Адно радавала, што хоць ногі ў нядрэнным абутку. Гумавыя бахілы, абвязаныя вяроўкамі, крыху грэлі. Але вось мінулі палядак, зайшлі ў хвойнае густалессе, вецер ужо не так даставаў, крыху пахарашэла. Зацяплілася і ўсярэдзіне.

— Ці далёка гэтыя могілкі, Варка? — спытаў я гэта знарок, каб хоць з нечага пачаць гаворку.

— Нядужа. Пройдзем Ласіны ручай, мінем Багуннікава балота, а за Асіннікавай грывай і могілкі. Мяне ўчора вадзіў туды Яўхім. Цэлы кош мы назбіралі там усяго. Ты не страшся. Наш гаспадар, ну Яўхім, закляцце на нас наклаў, то ўжо ніякая сіла ні да цябе, ні да мяне не падступіцца. Ды і могілкі там не свянцоныя. Грэшныя яны. Там хавалі самагубцаў ды тапельцаў. А яны, каб ты ведаў, усе пад уладай Яўхіма.

— Слухай, Варка, а навошта Гарбуну рэшткі нябожчыкаў, усе іх косткі, рэбры, чарапы?

— Ты пра якога Гарбуна?

— Ды я так заву Яўхіма.

— А-а. Ён з іх зварыць нейкае зелле. Варыць у тых трынаццаці катлах, якія каля сцен у хаце. А пасля, як сам Яўхім гаворыць, гатуе з зелля сулу.

— Навошта гэта яму?

— Я пакуль не ведаю. Мабыць, патрэбна. Ён нічога так проста не робіць. Але наш Яўхім добры. Так нехта гаварыў. Толькі не помню хто...

— А адкуль ты прыйшла да Гарбуна? Хто цябе аддаў яму?

— Не ведаю. Нічога не ведаю. Днямі прачнулася ў Яўхімавай хаце,— Варка крышку сцішыла хаду. На імгненне прыпыніўся і я.— Думаю, што раней мяне не было. Я ж нічагусенькі не памятаю. Хачу ўспомніць хоць бы бацьку ці маці, а не магу. Мо іх у мяне і не было... — Варка спынілася каля бліжэйшага дрэва і абаперлася на яго плечуком.— Праўда, іншым разам да мяне далятаюць нейкія і нечыя галасы, але пазнаць і разабраць іх не магу. Яны пераблытаныя, як суконныя ніткі. І так тлумна ад чужых галасоў, хоць вушы пянькою затыкай. Вось так са мной бывае, Марк... А ўвогуле, відаць, што я ніколі-ніколечкі да пазаўчарашняга дня не жыла.

— Табе лягчэй. У мяне ж быў... не-не, ёсць дзядуля. Зараз ён нямоглы, дужа стары. І каб я не згубіўся адзін, каб па людзях не пайшоў, дзядуля і аддаў мяне Яўхіму на вучэнне. Толькі ж і я памятаю свайго дзядулю нейкім адным днём. Ды яшчэ перад вачыма засталася доўгая дарога, якой мы ішлі да Яўхімавага котлішча.

— Во-во, і ты такі ж, як я. Нейкія няправільныя мы, нялюдскія. Хоць чаму нялюдскія? Яўхім не каго ж небудзь выбраў, а нас. Не і не. Усё гэта пустое. Чым больш думаеш, тым большы верад у галаве. Пайшлі, а то запознімся. Яшчэ не на адзін мах у нас шляху.

Сцежка ўжо ледзь праглядвалася паміж дрэў. Схопленыя худзенькім лядком лужыны, дзе-нідзе зусім вы-

мерзлыя, гулка трашчалі пад нагамі. Паветра наскрозь праціналася пругкімі прутамі-жылкамі марозу. З кожным крокам я мацней і мацней адчуваў востры пах серы. Ён наплываў аднекуль спераду, перабіваў хваёвую стыласць і глыбока асядаў у маіх грудзях.

— Нешта брыдка пахне, ты не адчуваеш, Варка? — здушана папытаўся я ў дзяўчыны.— Забівае дыхавіцу смурод.

— Не пужайся. Зараз міне гэта. І я, калі першы раз ішла да ямін, то галава кружылася ад паху. А цяпер во і нічога. Ледзь-ледзь адчуваю. Ты ўдыхай ротам, тады не так забівае ён грудзі. Ну як, паспрабаваў?

— Ыгы.

— Цяпер засталося ісці нядоўга. На нейкі мірг вока.

Варка змоўкла. Цішыня. Глыбокая і бяздонная цішыня. Не чуваць і нашых крокаў па ўмёрзлай зямлі. Зоркі, якія выплылі на небе, з-за вэлюму аблокаў падаюцца падслепаватымі. Як ні дзіўна, але ўжо не адчуваецца той халадэчы, якая напачатку праціналa цела, дабіралася да кожнай жылкі і пажылкі.

— Во і мінулі Асіннікаву грыву. Зараз добра глядзі пад ногі. Тут шмат накідана жалезных рагацін-прапорак. Яўхім гаварыў, што людзі з навакольных вёсак так абараняюць жытло ад беспрытульных душ самагубцаў. Смешныя людзі, праўда, душы ж бесцялесныя, а яны прапорак панаставілі.

Толькі Варка дагаварыла, як аднекуль збоку, па правую ад нас руку, нясмела завыў воўк. А з-пад ног, у тое ж імгненне, юлой узнялося ў паветра адубелае лісце, яно пражавелай бляхай грымнулася аб сухастоіну і цяжкавата абрынулася на дол.

У мяне ад страху, як авечы хвост, затрапятала сэрца, ссутуліліся плечы, і я спыніўся. Варка азірнулася:

— Не бойся. Гэта нас пужаюць душы самагубцаў. Дужа любяць яны тое, што засталося ад іхніх целаў, не хочуць расстання са сваімі косткамі, берагуць іх, як

крумкачы адкладзеныя ў гняздо яйкі. Я зараз сыпану попелам ад крыжа, і супакояцца яны, стануць цішэйшыя за кураня ў гаршку з капустай.

Варка выцягнула з кішэні ў адзежках худы кулачок і з размаху, як насеннае зерне, сыпанула на дарогу.

— Цяпер будзе зусім ціха. Пахаваюцца яны да наступнай ночы.

Мы прайшлі яшчэ з сотню метраў. Навокал ніводнага сполаху. Дзіўна, але падалося мне, што вось зараз іду не я. Ну, не я. І ўсё гэта нейкі далёкі, глухі і забыты сон. У які не можа ўварвацца ніякі гук. І я знаходжуся ў сне, з якога хачу вырвацца, толькі ж сон мяне не адпускае. Ён усмактаў мяне ў сваё ўладанне, як ненажэрная дрыгва.

— Ты што, спіш ідучы? — нарэшце далятае да вушэй Варчын голас.— Тры разы аклікнула, а ты як нямко.

— Ды задумаўся.

— Няма калі думаць. Вось за гэтай палоскай сасонніку пачынаюцца яліны. Перакідвай на грудзі рэшата. Глядзі, як раблю гэта я.

Варка спрытным рухам шмарганула пачопку, і рэшата імгненна перасунулася з-за спіны.

— Ай, нічога ў цябе не атрымліваецца. Ды не так. Давай я дапамагу. Ты, Марк, як уломак. Яўхім дужа не любіць маруднасці. Прыйдзецца табе вучыцца ўсяму.

Неглыбокім, як я пазней зразумеў, ямінам ноч надавала абрысы прорвы. Густа раскіданыя адна каля адной, яны стваралі абрысы фантастычнага малюнка, які нагадваў незямную пачвару. Так, я бачыў гэты малюнак не сваім зрокам, і нават не ўнутраным, а нейкім знешнім, не належачым мне, але які працінаў мяне. Даваў магчымасць, як птушцы з вышыні палёту, накрыць вачыма магілкі няшчасных самагубцаў.

— Давай руку, я першая спушчуся ў яміну. Затым спаўзеш і ты.

Косткі былі халодныя, як лёд. Варка паклала ў сваё рэшата чэрап, назбірала рассыпаных рэбраў. І я, перадольваючы гідлівасць, укінуў у рэшата некалькі прадаўгаватых костак. Тут, у яміне, зямля надзіва была мяккая і пульхная. Пясок так і прасыпаўся праз пальцы.

* * * Ганна подбегам шыбавала па дарозе. Збоку здавалася, што яна пераломіцца ад натугі. Ноч ціснула на плечы жанчыны, гнала яе так, што не патрэбен быў і бізун.

— А божачкі мае, а думалася ж, што светлым дзяньком дайду да Яўхіма. Дык во не, ноч заспела, спаўзла, як чума нябачная. Але не вернешся ўжо ж. Нямнога засталося, зусім нямнога. А калі на тое, дык чаго баяцца? Тут ніякага чалавека не стрэнеш. Адны кажаны ўлетку сноўдаюць, цяперака ж усё ўледзянела, усё маразам схоплена.— Жанчына гаманіла сама сабе, не прыцішваючы хады, раз-пораз асцярожна перакладваючы з рукі ў руку ладны вузельчык.

— Упарылася, ой, упарылася. Можа, стаць ды перадыхнуць... Не. Яшчэ захварэю. За плечы хапане сцюдзёным ветрам, во і зляжаш. А мне гэтага ніяк нельга. Лёнік тады зусім і ад мяне, і ад дзяцей адрачэцца. Яму толькі дай зачэпку. Гэта ж трэба так стацца: выраксяі дзяцей і мяне, чужаніцамі сталі, горш, чым ворагі заклятыя. А ўсё праз Ермачышыну Таццяну. Каб яна, гадаўка, за вячэрай папярхнулася. Няхай страва колам у яе ў горле застране. І чым яна Лёніка прыгаварыла ды прычаравала. Можа, кабыла гэта ласістая, нашэптанага зелля падзупырыла. Таму ён, дурань, так і вар'яцее. Адзін уратунак — Яўхім. Толькі ён зможа яшчэ ў нечым падсабіць. Сіла ў яго вялікая, хоць і перагаворваюцца, што нячыстая. А мне ўжо без розніцы, абы ў сям'і зноўку ўсё ладам ды мірам пайшло. Не так балю-

ча за сябе, як за дзяцей. Віны іхняй ні на макавае зернейка нямашака ў тым, што скруціўся, звярцеўся бацька з Ермаковай поганню. І Наталля, і Антон як ваўчаняты сталі. Усе вечары па кутках сядзяць, баяцца вочы ад падлогі ўзняць, толькі б не сустрэцца позіркамі з бацькам. Вось як яно здараецца. Нечакана, негада́на, а зваліцца бяда-гора на сям'ю і клуміся, ратуйся, шукай выйсця на ўсіх чатырох баках. А ці знойдзеш? Хто яго ведае.

Гэта ж трэба дадумацца, каб са стрэльбай на мяне кінуцца. У грудзі наставіць і гідліва глядзець, як трапечацца маё цела ад жаху. Людцы мае добрыя, што толькі не перадумала ды не перажыла я за тыя хвіліны, можна сказаць, пад касою Смерці-смертухны. Добра, што хоць дзеці на прыпечку спалі, не бачылі бацькавай звярынасці.

А ўсё ж падвучае ды пад'юджвае Лёніка Ермачыха. Не магу выгаворваць паганае імя Таццяна. Ніколі ў жыцці не змагу я больш палюбіць гэтае слова. У ім адно толькі гора для мяне.

Дзякуй добрым людзям, што падказалі схадзіць да Яўхіма. Як і што б там ні было, а дам згоду на ўсё, каб толькі паправіць сям'ю, каб вярнуць былое.

Ганна ішла гэтай дарогаю першы раз. Але ёй здавалася, што ўсё наўкола ведае яна даўным-даўно, ад самага нараджэння. Так даходліва і яскрава, з найдрабнейшымі падрабязнасцямі апісала і расказала пра дарогу да Яўхіма старая Макрыда. Некалі ў маладосці была яна ведзьмаковай палюбоўніцаю. Так гаварылі людзі. Толькі праўда гэта ці не — хто ведае. Проста так не спытаеш, ад сораму згарыш за бяздумныя словы. Ды і гэтая цікаўнасць можа пайсці не на карысць. Не даведаешся адразу, што ў галаве ў той Макрыды ці Яўхіма. Макрыда зараз ужо адышла ад нячыстых спраў. Затое вось да Яўхіма дарогу ўказала. «Нічога не бойся,— шамкала бяззубая старая,— раскажы Яўхіму ўсю праўду, нічога

не ўтойвай. І самае галоўнае — згаджайся з кожным яго словам. Запомні яшчэ адно: вазьмі адбітак Таццянінага следу на зямлі. Крадком як-небудзь прыгледзь і асцярожна здымі разам з зямлёю, толькі не паблытай — абавязкова з левай нагі. Добра гэта робіцца рыдлёўкай. Прынясі след мне, а я ўжо яго ўмацую, каб не рассыпаўся. Думаю — Яўхім абавязкова запатрабуе ў цябе след разлучніцы. Зрабі ўсё, што я сказала, далей ад людскіх вачэй, без сведкаў. Так яно будзе лепш. І ніякіх плётак не ўзнікне. Ды і пазбавіш сябе ад клопату лішні раз ісці ў глушэчу да Яўхіма. Наконт платы дамовіцеся самі, але на ўсялякі выпадак прыхапі што-небудзь з золата, ну пярсцёнак там які ці залатую капейчыну. Падкі Яўхім да гэтай жоўтай заразы».

Ганна ўжо які раз за дарогу асцярожна перакладвала з рукі ў руку вузельчык. У ім яна несла акрамя Таццянінага следу, залатога пярсцёнка яшчэ двухлітровы гладыш з мёдам, фунты тры масла, ладны кавалак сала і трубку выбеленага палатна — усё на пачастунак ведзьмаку. Мо з-за гэтага ён лепш прыме Ганну, хутчэй і з большым жаданнем дапаможа.

«Ніколі не думала я, што наляціць бяда-няшчасце на нашу хату, што прыйдзецца мне душой пакрывіць і бегчы цёмным лесам да страшнага чалавека, прасіць у яго помачы. Думай не думай, але калі гарыць сям'я, калі пакутуе не толькі свая душа, але і душы дзяцей крэўных, то пажар хоць чымсьці, а тушыць трэба. Слёзы не ідуць у помач. Колькі іх выліта не толькі чорнай ноччу, а і днём. Ды ўсё дарэмна. Яны не раўнуючы як масла для агню. Божа мой, святы і найвышэйшы, чым я цябе ўгнявіла? За якія грахі абрынуў на мяне і маіх дзяцей цяжар нелюбові? Чаму счужэлі мы нашаму кармільцу? Малілася я табе, Госпадзі, дзённа і ношна. На каленцах прасіла пасобіць, пашкадаваць нас, аж не — глухі ты да маіх слоў. Грэшная я, Госпадзі, каму гэта ведаць, як не табе. Мо з-за гэтага ты і не чуеш словы мальбы маёй...

Засталося адно спадзяванне — Яўхім. Дасць, можа, ён прываротнага зелля, ці нашэпча вадзіцы, ці ветрам прымуся прыгарнуць назад мужыка майго. І забудзе ён клятую разлучніцу Таццяну. Я ўжо для гэтага нічагусенькі не пашкадую. Усё аддам, і нацельнае разам — толькі б дабіцца суладдзя».

У галаве ў Ганны ўсё неяк блыталася: думка перабівала думку, усплывалі малюнкі шчаслівага мінулага, але ў іх імгненна ўрываліся лаянкі і кулакі Лёніка.

«Во жытка дык жытка. І звар'яцець так можна. Што са мною робіцца? Хутчэй бы ўжо дайсці. Будзе хоць нешта пэўнае, хоць сякая-такая вядомасць.

Ага, вунь і хата, здаецца, праблісквае на палядку. Дарожка прамёханька да яе выскоквае. Тут Яўхімава логава. Хто ж яшчэ ўшчэміцца ў такую глушэчу, убаку ад ўсяго людскага: ад іх вушэй і вачэй. Чаго ж так сэрца тахкае ў грудзях? Я ж ужо сказала сама сабе: не страшуся Яўхіма. Гэта, відаць, ад дарогі і перасільнай хады».

Жанчына не помніла, як увайшла ў загароджу, як адчыніла весніцы і прайшла ў сенцы. Толькі калі расчыніліся Ганне насустрач дзверы з хаты, яна ачомкалася.

— Заходзь, заходзь, чаго спынілася за парогам? — Яўхім сядзеў за сталом і перацiраў пальцамі нейкія травы. Палахлівы паўзмрок цьмяна асвятляў аблічча старога. Ён здаўся Ганне ўчарнелым каршуном, які гатовы вось-вось узляцець і закрыць раскінутымі крыламі ўвесь прасцяг над галавой.

— Уваходзь жа ты, жанчына! Ці ногі да дошак прымёрзлі? Калі дарогу такую адолела, то зрабі і апошніх некалькі крокаў.

Ганна ўвайшла ў хату.

— Добранькі вам вечар, гаспадар. Няхай здароўя будзе поўныя грудзі...

— Ды ўжо ж будзе. Куды яно дзенецца. Кладзі свой клунак на ўслон і прысаджвайся. Ногі, нябось, гудуць,

як сасонкі ад ветру. Гавары без сораму і ўхілаў, за чым прыйшла. Хоць, папраўдзе, як толькі глянуў у вочы — усё зразумеў і даведаўся. Значыцца, хочаш мужыка дадому і падолу вярнуць. Прыліп да другой, маладзейшай дзеўкі, здаецца.

— Так, дзядзечка Яўхім. Праўду, чыстую праўду кажаце. Як у ваду глядзіце. Раней усё было дужа добра. Жылі і сабе, і другім на радасць. Але ж знюхаўся мой Лёнік з Таццянай, дзеўкай з нашага селішча.— Голас у Ганны задрыжэў, як аціжэлая восеньская павуціна пад скразняком. Ей так хацелася выплеснуць гнятлівы боль з душы гэтаму ўсемагутнаму чалавеку. На вачах нагортваліся слёзы, якія жанчына праз сілу стрымлівала. Толькі ж невядомы ёй раней унутраны голас нашэптваў: «Асцярожней, бабачка, пацярпі, не разгортвай душу і сэрца адразу. Бо, можа, прыйдзецца затым і пашкадаваць...»

І Ганна патроху супакойвалася. Язык як быццам нехта прытрымліваў, калі хацелася ёй сказаць пра самае патаемнае: што гатовая яна на ўсё, абы вярнуць Лёніка, толькі б стаў ён ранейшым, такім жа блізкім і дарагім.

— Ты гавары, я слухаю,— крэкнуў Яўхім.

— Раней жа, дзядзечка, мы жыць адно без аднаго не маглі. І ён, і я з паўслова ведалі, што хочацца нам, аб чым думаецца і марыцца. А цяпер жа ваўкі ваўкамі. Глядзіць ён на мяне, як на зямную жабу ці на балотную вужаку. Хай бы толькі на мяне, але і ад дзяцей адцураўся, чужынцамі яны сталі для яго... Цяпер жа ў салодкім сне ўспамінаю ранейшыя гады. Шчасце ж было ў нас неабдымнае, ён без мяне не мог і дня прадыхаць, а ўжо ж я і гадзіначкі не магла асіліць, каб хоць слоўцам не перакінуцца. Толькі адным днём на сенажаці прычаравала Лёніка клятая Ермачышына блудніца, паганка растаптаная. Яшчэ ноччу адчула, што нешта здарыцца, адбудзецца непапраўнае. Такі сон сасніўся, што

ўсё маё цела да апошняй жылкі пературзаў, пера-
круціў...

— Ну-ну, раскажы-ка яго,— бліснуў вачыма Гарбун.

— Ага. Дык вось як,— Ганна задумалася.— На плошчы вялізнага горада, век такога не бачыла, стаіць разлічоная колькасць людзей. І ўсе яны вясёлыя, радасныя, як на пагулянцы. На якога ні зірні — вочы блішчаць балотным агнём. І не ціха яны стаяць, а нешта крычаць, чагосьці патрабуюць ці то чакаюць. Дробны дождж на галовы сыпле, такі толькі восенню бывае. Але ж ніхто з людзей не разыходзіцца, як смалой прыцягнула іх... І раптам бачу я сама сябе. Уся абадраная і абарваная, скрываўленая, быццам падраненая птушка. А доўгія косы мае, якіх ніколі не насіла, пасмамі звісаюць на плечы, грудзі — перашкаджаюць глядзець. Толькі ж не стаю я разам з усімі, а вядуць мяне хмурыя салдаты праз натоўп, нейкімі доўгімі палкамі папіхаючы. І каб ты ведаў, дзядзечка, як мне ўсё ўстыла, як было цяжка і горка. Гарчэй, чым крушына. Былі там яшчэ і коннікі. Яны шарэнгай стаялі паўз рэчкі. Адтуль цягнула нясцерпным холадам, ад чаго імжа здавалася ледзяной. Я не адчувала ног, яны былі босымі і таксама ў крыві. На балконе недалёкага старога дома я бачыла яшчэ дзесяткі тры мужчын. Яны ўсе былі багата апрануты, як паны і громка, на ўсю плошчу, рагаталі. Ад іх ганебных галасоў у мяне закладвала вушы, калацілася цела. Самае вялікае жаданне, якое тады я мела, гэта, каб хутчэй усё скончылася, правалілася ў прорву. Дзікі натоўп таксама роў, бачачы мяне. Быццам галодныя, звар'яцелыя былі яны. Напіралі на тых людзей, якія, ведучы мяне, ахоўвалі. Шмат было там і жанчын. Вось іх я ненавідзела больш, чым каго. Усе яны шпурлялі ў мяне каменне. Не помню ўжо як, але давялі, нарэшце, мяне да сярэдзіны плошчы. На вялікім узмосце каля калодкі з сякерай у руках стаяў мой Лёнік. Не, ён не

спачуваў мне, а смяяўся. Напачатку хацела я прасіць у яго абароны, толькі ж ягоны смех патушыў у спакутаваных маіх грудзях апошнюю іскарку надзеі на выратаванне. І вось успіхнулі мяне на памост. Цяпер я была над усімі, вышэй за ўсіх. Дзіўна, што стала мне неяк цяплей, хоць вецер шкуматаў мае лахманы без жалю. У тое імгненне аднаго хацелася мне: пабачыць сонца, хоць адзіны промнік, які б праламаў гнёткае цяжкое неба і падтрымаў мяне. Але натоўп крычаў, як аб'еўшыся чамярыцы: «На калодку галаву распусніцы!» Я пакорліва падпарадкавалася, адкінуўшы валасы з шыі. Лёнік паспешліва абхапіў сякеру дзвюма рукамі і з усяго размаху апусціў на калодку. Нейкае імгненне яшчэ мне бачылася, як радасна ўзвыў натоўп, як пляскалі ў ладкі жанчыны, як свісталі з балкона дома модныя паны. Лёнік жа, абцёршы твар рукавом, ленавата спусціўся з памоста. І тут жа прабіўся праз суцэльныя мокрыя хмары танюсенькі промень сонца...

А днём пасля гэтага сну і заспела я Лёніка з Ермачышынай дзеўкай пад стажком. Не, каб ад сораму згарэць, у ногі кінуцца ды прасіць у мяне прабачэння, ён жа вылаяўся і як ляжаў з Таццянай, так і застаўся. Яны нават сорам свой не прыкрылі. І стала ўсё з гэтага дня з ног на галаву. Цэлае селішча цяпер пра гора маё ведае, людзі пальцамі патыкаюць на наша дворышча, а некаторыя дык і ў кулак смяюцца. Дзядзечка родны, як усё роўна падмянілі мужыка. Спрабавала я ўразуміць яго і добрым словам, ласкаю, просьбамі і грозьбамі, а ён усё роўна як лёд. Ад горкіх дум хутка і каўтун на маёй галаве завядзецца, вочы ад слёз выцвітуць. Дзядзечка Яўхім, дарагі ты мой, дай рады, памажы гору майму. Толькі на цябе ўсе спадзяванні.

— Сон твой ясны быў, як белы дзень. Грахі ранейшыя, ды дужа страшныя вяртаюцца да цябе. Гэта нам на руку. Не была ты ніколі манашкаю,— Яўхім адкрыта ўсміхнуўся.— Не душа на першым месцы, а плоць. І гэ-

та нам, як дармавы скарб, што на дарозе знойдзены.

Вядзьмак гаварыў няспешна, праз задумленасць. Здавалася: кожнае слова ім узважана і прадумана. Ягоны пераканаўчы голас абнадзейваў Ганну, даваў магчымасць паверыць, што ўсё яшчэ можа змяніцца да лепшага.— У цябе няма выбару. Калі дасі згоду на маю прапанову — вернецца да цябе мужык, высахне і сыдзе ў зямлю нашкодзіўшая суперніца, трэба толькі прынесці ейны след.

— Я прынесла яго, дзядзечка. Ужо прынесла, ён тутака, у клунку. І маленькі гасцінец ёсць вам,— Ганна кінулася да клунка, каб развязаць яго.— Зараз усё выкладу на стол, каб вы пабач...

— Не спяшайся, усё сваім часам,— астудзіў парыў жанчыны Яўхім.— Спачатку паслухай мяне, а затым ужо і да цаны дойдзем. Просьба твая не з цяжкіх. Невялікія высілкі для яе выканання трэба. Але ты не з простых прасіцелек... У тваіх лёсах шмат супрацьлеглага... Ты напалову цёмная і светлая. Гэта ўжо цяжэй, бо няма яснасці, што возьме верх. Тутака трэба твая дапамога. Шчырая, а не ўхільная... Адным словам, вось што скажу: за гэта дзела ты павінна Уладару цемры аддаць душу і цела, а таксама душы дзяцей і маткі тваёй роднай!

Пачуўшы такое, Ганна акамянела. Яўхімавы словы, як пярун, ударылі па жанчыне. На нейкае імгненне яна страціла ўспрыняцце часу: у вачах цёмна, у вушах глуха. Толькі цяжкое дыханне, як у загнанай кабылкі, вырывалася [redacted] Ганніных грудзей.

— Ды няма ў гэтым нічога страшнага,— як праз сон даляцелі да жанчыны словы ведзьмака.— Ты хочаш зараз быць шчаслівай, бачыць вясёлыя вочы мужыка, адчуваць ягонае каханне і цеплыню моцных рук — ці не так? Ага! Толькі за ўсё трэбака плаціць. А за такое дзела і плата асаблівая. Не намі гэта заведзена, не нам і адмяняць. Спакон веку так.— Словы Гарбуна былі мяг-

чэйшыя за лебядзіны пух і цяплейшыя за бацькавы.— Ну, што для цябе цяпер душа? Пустое слова — не больш. Яна не прылашчыць і не сагрэе, не накорміць дзяцей, не пацалуе ў твае прыгожыя вочы. Ці не так? Сам табе і адкажу, што так. Цяпер думаем далей. Твае дзеці ні слыхам, ні дыхам ведаць не будуць, што яны ў закладзе. Гэта, наадварот, ім на карысць, толькі падсабленне ў жыцці. Ім, як нікому, паўсюль шэнціць будзе. Зайздроснікі аж локці адгрызуць. Во, як усё добра абварочваецца. Пра матку і размовы няма. Ей ужо ўсё роўна. Яна хоча аднаго-адзінюсенькага — каб ты ў шчасці была. Дзеля гэтага любая матка аддасць грэблівую сваю душу. Бачыш: з усіх бакоў для цябе выгода...

Ганна ачомалася ад спалоху, павярнула галаву да шчыльна зачыненых дзвярэй. Нейкае няўлоўнае імгненне, і яна клубком коціцца з ведзьмаковага ганка. Жанчына не чуе слоў Гарбуна, яны, як ільдзіны, разбіваюцца аб яе спіну, не дасягаючы слыху. Расхрыстаную апратку паддзімае вецер, хустка чорнай плямінай засталася ляжаць на грудку снегу каля варотаў. І змрок ночы для Ганны быў цяпер не такі страшны, як напярэдадні. Аніводнай зоркі на небе. Шумяць, стогнуць дрэвы, быццам перагружаныя каменнем колы павозкі.

І раптам невядома адкуль усхапілася мяцеліца. Крыштальнае марознае паветра заснудзілася мільярдамі снежных віхур. Яны, як вужакі, як брыдкія гадаўкі, акручвалі жанчыну, аплятал̆і ногі і рукі, згіналі да долу, падбіваліся пад адзежыны, высякалі вочы — не давалі дыхнуць. А яна бегла, бегла далей ад Яўхіма, ад ягонага логава, ад жахлівай прапановы, якая больш за мароз студзіла кроў, сціскала, выкручвала сэрца. Забыцца на ўсё, выкінуць з галавы, як смецце з хаты. Але ж ведзьмаковы словы, што кароста, прысталі да жанчыны, здаецца, чапляліся да яе ласінымі кляшчамі.

«Божа мой светлы, адзіны і недзялімы, чаго ж мяне занясло ў праклятае месца? Дзетачкі мае, матулька

родная, выбачайце неразумную, даруйце звар'яцелай. Як выбрацца з гэтай мяцеліцы, як не зблудзіцца, як дайсці да вас, мае дарагія людцы? Дапамажыце, сілы нябесныя, укажыце правільную сцежку на зямліцы, не заблытайце мяне».

Ганна ўжо не памятавала, колькі часу ішла расхрыстаная праз няўшчукную мяцеліцу, праз пагусцелы лес. Пот з расталым ад упаранага цела снегам раз'ядаў жанчыне твар, скочваўся па барадзе і шыі на грудзі. Прайшло гадзіны тры-чатыры, і Ганна ўбачыла праз густую снежную прасціну лёгкі прасвет між дрэў. Яна з апошніх сіл кінулася да яго.

— Будзь ты пракляты, нелюдзь! — выдыхнула Ганна. Яна зноўку стаяла перад Яўхімавым селішчам.— Толькі ж не стане па-твойму. Мая душа — мне, дзіцячая — дзецям! Можаш цела апаскудзіць, а душу — ніколі! Чуеш ты, звярына, ніколі!

Крыкнуўшы гэта, Ганна юлой крутнулася на месцы і зноў знікла ў гушчары... Дзе яна падзелася? Ніхто не ведаў і не ведае, акрамя Яўхіма-ведзьмака.

* * *

Стомленыя Марк і Варка, з поўнымі кошыкамі касцей, падыходзілі да Яўхімавых варотаў, калі яны з неймавернай сілай расчыніліся і адтуль, як куля з дубальтоўкі, выскачыла нейкая жанчына. У цемры цяжка было разгледзець яе твар, але Варка няведама чаму імгненна выцягнула да яе рукі. Ногі дзяўчыны стаялі на месцы, а тулава, ледзь не пераламваючыся, цягнулася ўперад, да невядомай жанчыны. Толькі ж, здаецца, яна не бачыла ні Варку, ні Марка.

— Мамка, матуля мая! — крыкнула Варка на ўсе грудзі. Толькі ж яе голас скруціла ў вязьмо незразумела адкуль наляцелая мацеліца. Жанчыну схавала густая сцяна са снегу. Вецер бязладна грукаў варотамі і,

нібы жартаўліва забаўляючыся з хлопцам і дзяўчынай, падпіхваў іх да ганка хаты. Варка ўпіралася, на колькі хапала яе сілы, і ўсё цішэй і цішэй шаптала: «То мая маці, мая матуля. Я адчуваю гэта сэрцам. Навошта пакідаеш мяне? Вярніся, забяры! Я тута, мамка».

— Перастань вярзці лухту,— перапыніў дзяўчыну Марк.— Ты сама гаварыла, што не памятаеш, адкуль з'явілася і хто твае бацькі. А тут раптам ні з таго ні з сяго — маці. Ты нават твару жанчыны не бачыла, дурніца,— неяк ужо больш лагодна буркнуў Марк.— Пайшлі хутчэй у хату, а то мяцеліца зраўняе нас з зямлёю. Сцюдзёна дужа, Варка, пайшлі.

Яўхім сустрэў хлопца з дзяўчынай у сенцах. Стоячы над вялізным гліняным жбанам, ён бязладна ўзмахваў рукамі і выганяў праз дзірку ў столі густыя белыя пасмы, якія нагадвалі тлусты сцюдзень.

— Ляціце, з дарогі збіце. Куды б ні ішла, куды б ні бегла, назад вярніце. І крык яе змучаны, голас прытомлены на вякі вялікія ў грудзях забіце! — Яўхім ракатаў такім голасам і з такім падвываннем, што аж прабірала да касцей, валасы станавіліся на дыбкі.

— Чаго спыніліся?! Дапамагайце мне. Машыце рукамі і паўтарайце пачутыя словы. Не схацела шалёная баба аддаць душу нам, то аддасць яе іншым разам з целам! Не праціўцеся! Гэта ж цяпер і ваш лёс збіраць душы людскія для Уладара цемры. Мо прымусім яе шчэ і вярнуцца. Памагайце, мае наступнікі!

Марк паўтараў кожнае слова і рух за Яўхімам-гарбуном. А Варка з апушчанымі рукамі стаяла быццам укопаная.

— А мая мамка была такая добрая кабеціна, што свет цяперашні не бачыў. І нас гадавала, і ў хаце прыбірала, і татку дапамагала, шчыра гора гаравала. Да ўсяго здатная і ўвішная. Нацярпелася яна мукі ад бацькі нашага. Біў ён яе чым папала: і паленам, і капылом, дзягай і чыгуном — што ў рукі трапляла. Ані слова яна

не казала: усё моўчкі ўздыхала ды нас гадавала! — Варка галасіла. Ліла слёзы, як над нябожчыцкай труной.

Ад голасу дзяўчыны супыніўся вядзьмарыць Яўхім, застыў на месцы Марк. Сцішыўся д'яблаў глёк. З яго ўжо цягнуліся танюткія, як валасінкі, пасмачкі. Чулася, як захлынаецца на вуліцы і мяцеліца. Пакуль тое ды сёе, зусім змоўк вецер.

— Ты што, нягеглая! — зароў Гарбун і кінуўся на Варку з кулакамі. Але не ўдарыў, толькі затрос імі.— Успомні: ты ж бязродная! Што ўварвалася ў курыную галаву?! Адна-адзінюсенькая ты, як крапівіна пры дарозе. І ён такі ж.— Кіўнуў Яўхім на Марка.— Ніхто не мае на вас правоў. Мае вы, як і я ваш. Зразумелі?!

Яўхім шпарка кінуўся да адной з палічак на сцяне. Не доўга шукаючы, выхапіў адтуль маленькую пляшку і булькнуў нечага ■ яе ў конаўку з вадою.

— Хлёбайце па чарзе.— Першай саўгануў пітво Варцы. Сербануў некалькі глыткоў і Марк.— Цяпер усё добранька будзе. А то нейкія маткі, бацькі. Цьфу ты. Яны яшчэ не нарадзіліся ў вас, пачакайце крыху.

— Дзядзька Яўхім, ■ мы аднойчы з мамкай ляцелі на самалёце. Я тады хадзіла ў трэці клас, школа была побач з нашым домам. На моры было так прыгожа, што я нават не хацела дахаты. А яшчэ калі ездзілі ў горад, то любіла катацца на метро. Аднойчы пераблытала...

— Хопіць! — зароў, як ашпараны кіпнем, вядзьмак.— Ніколі не было з табою гэтага. Супакойся, дзяўчынка. Вам з Маркам трэба ўжо спаць. Відаць, дужа стаміліся, поўзаючы па могільніку. Вы ж мая будучыня, мае дзеці! Хто ж вас пашкадуе, калі не я. Спаць, трэба спаць. Заўтра ўсё будзе па-другому, па-новаму.

Пасцяліў Яўхім Варцы на печы, а Марку на прыпеку. Імгненна заснулі яны, разамлелыя ад цяпла.

Вядзьмак жа хадзіў з кута ў кут — уздыхаў, думаў думку, патыліцу шкроб. Не мог ён уцяміць, як дзяўчына

ўспомніла тое, што да пэўнага часу і дня ён выгнаў з ейнай галавы, схаваў у недасягальным месцы. А мо і выбар быў зроблены няправільны. Абмыліўся ў чымсьці? Дык, здаецца ж, не. Ні ў царкву ніколі не хадзілі ні той жа Марк, ні Варка, не перакрыжавалі ніколі грудзі. Калі толькі прывідныя пасланцы не тых схапілі, перablыталі. Ці можа такое здарыцца? Наўрад... А, памятаю, быў аднойчы ўжо такі выпадак. Як пра яго забыўся я? Гэта ж у адным паселішчы жыў Максім. Доўга і даўно прыглядаўся ж да яго. На той час адышлі ўсе мае пасланцы да Уладара цемры. Паўміралі. Трэба было ў людскі гурт выпусціць некага іншага. Моцнага і ёмкага, каб людзі паважалі яго і пабойваліся. Во і спыніўся я на Максіме. Ен не ўмеў зусім Богу маліцца, у царкву ніколі не хадзіў, жыў у адзіноце. Здаецца: лепшага і не трэба... Але не ўбачыў я асноўнага. Максім ніколі нікому злога не рабіў, не спажываў чужога дабра, не ўмываўся чужым потам і сіроцкімі слязьмі. Цяпер гэта ўжо я ведаю. Ніколі б не пасквапіўся на яго.

Дзіўна, што падмануўся тады я, як гавораць, на льняной кастрыцы. Быў у Максіма на дворышчы вялікі дубовы пень-вывараценъ. І гэты чалавек кожнае ранне з паўгадзіны скакаў праз яго, памінаючы Бога. Думаў я, што так здзекаваецца ён з людскога Найсвятлейшага... Прывялі Максіма да мяне, стаў на другі дзень абходжваць яго, набліжаць да прыстолу Уладара цемры, ляпіць служку. Толькі ўсе мае чары скочваліся з Максіма, як дажджынкі з саламяных стрэх. З усходам сонца ён падымаўся, хапаўся за любую работу, абы толькі далей знаходзіцца ад мяне. І адну сядміцу так працягвалася, і другую агаралі, а на трэцюю і я падняўся следам за ім, калі сонца з-за краёчку лесу толькі макушку вытыркнула. Прыадчыніў ціхенька дзверы сянец і,назіраючы, цікую за ім, што ж зробіць Максім? Глянуў і ўмлеў. Падышоў ён да маёй рэчкі, абмыў твар, рукі і пайшоў па вадзе, як па цвёрдым доле. Нікому гэтага не дадзена,

акрамя чысцейшых бязгрэшных людзей. А было Максіму ўжо за сорак. Ляснуліся спадзяванні мае, лопнулі, што той бычыны пузыр. Балюча было, але зразумеў я, што не авалодаць Максімавай душой, не зрабіць з яго служку вечнаму Уладару цемры. Быў ён святлейшы за сонечны дзень. Не хапала ў мяне ніякай сілы цягацца з такім чалавекам. Так і адпусціў яго, вытруціўшы, на колькі мог, памяць пра тыя дні, калі знаходзіўся ён поплеч са мною. От, не ведаю, ці жывы яшчэ светлы Максім. Не! Якое жывы. Было гэта больш стагоддзя таму... Цяпер то я і ўзяўся за маладзёнаў. З імі працей і лягчэй. А то што ў Варкі пробліск усплыў — дробязь. Час цяпер такі. З кожным дзесяцігоддзем непамерна цяжэй рыхтаваць, вывучваць і ў свет пускаць наступнікаў нашай сілы. А ўсё таму, што мала каго трэба і спакушаць. У тым прасторавым часе, у якім цяпер яны жывуць — людзі бездухоўныя звяры. Няма за каго бацьбу весці. Не належаць яны ні Богу, ні д'яблу. Замест душы ў іх жабацінне. Брыдкае і слізгае, як смаркачы. Мадзеем мы з-за людскіх адзінак, за якія яшчэ трэба змагацца.

І ўсё ж з Марка і Варкі нешта атрымаецца. Не будзь Яўхімам.

Падумаўшы так сам сабе, вядзьмак пасунуўся ў камору. Пагрукацеўшы там нечым, выйшаў з двума чыгунамі-вядзернікамі, паставіў іх і няспешна распаліў у печы. Пасля з сянец унёс рэшаты з касцьмі і пачаў накладаць у чыгуны. Драбнейшыя на дно, а доўгія ламаў на калена і прыладкоўваў зверху. Накрыўшы іх, без адзінай кроплі вады ўставіў у зеўра палаючай печы.

— Пачын зроблены дзеткамі. Перапарацца, перагараць костачкі, дык і будзе чым абсыпаць Варку і Марка. За дзесяцярых набудуць моц і сілу. От, звычка гаварыць сам з сабою. Старэю, мабыць. Трэба берагчыся гэтага. Язык, як дзяркач, можа непатрэбнае смецце і залатое слова ў чужыя вушы ўкінуць.

Раптам Яўхім заўважыў пакінуты жанчынай вузельчык. Хуценька развязаў яго і выклаў падарункі на столчык. Задаволена гмыкаючы, гарбун разглядаў залаты пярсцёнак, затым адкалупнуў пальцам кавалачак масла, паспытаў.

— Нядрэнна. Дужа нядрэнна. Будзе чым памянуць яе душачку. След жа суперніцы няхай у вогнішчы гарыць, і цела яе з жыламі і паджылкамі без ушчуку бaліць.— Вядзьмак кінуў Таццянін след у печ на жаркае полымя.— Во, здаецца, усё зрабіў. Абсыплю яшчэ хлопца з дзяўчынай сушанай піжмай, каб сілу ніхто іхнюю адабраць не мог, каб не баяліся добрага вока, ды і ў гарадах пазнавалі і адчувалі братоў сваіх. Марка абсыплю не шкадуючы, яму будзе сярод смуродных камяніц і заводаў цяжэй. Раней лепш было: усе служкі Уладара цемры па вёсках ды хутарах жылі, а вось прыйшоў час, і стаў наш брат па гарадах швэндацца, абжывацца там. І ўвесь бязглузды люд рынуўся туды, жыццёвай палёгкі і смакаты шукаючы. Цяпер асноўны здабытак наш там.

* * * Марк прачнуўся ад сонечнага святла. У горле пяршыла, як быццам звечара сербануў ён кварту палыновага настою ці зжаваў пук прыдарожнага трыпутніку. Нейкую хвіліну хлопец няўцямна лыпаў вачыма, круціў галавою, пакуль не ўспомніў, дзе ён. Падымацца не хацелася, думаць пра нешта не хапала моцы. Ды яшчэ, як сухая асіна ад удару сякеры, гудзела правая рука, якую адляжаў. У хаце было цёпла, але не пахла ні хлебам, ні паранай бульбай. Наадварот: незразумелы смурод казытаў нос. Як быццам палілі нядаўна цабылкі ад гусіных пер’яў.

У памяшканні — акрамя Марка і соннай Варкі на печы — нікога не было. Шукаючы, за што б зачапіцца

зрокам, хлопец засяродзіўся на куце. У ім, на трох негабляваных дошках, размешчаных адна над адной, ляжала некалькі пар жоўтых, як квітнеючыя адуванчыкі, чарапоў.

Успомніўшы ўчарашні паход на могілкі, Марк нікολечкі не здзівіўся. Дзед Гардзей вёў да Яўхіма яго яшчэ зусім хлапчуком, а цяпер, адчуваў Марк, што ён пасталалеў і падцягваецца да юнака. А як жа інакш? Так яно і павінна быць.

«Але, нешта хачу ўспомніць. У галаве круціцца адна-адзінюсенькая думка... Пра што яна? Чаму не можа прабіцца да мяне. Як быццам жалезны заступ падзяліў дзень сённяшні і мінулае. Маё мінулае. Нічога не магу ўспомніць. Пуста ў галаве, як вясною ў свірне ці пограбе... Я ўжо не баюся Яўхіма. Учора ж троссяперад ім, як канаплянік перад савою. Дзіўныя рэчы з чалавекам робіць ноч. Праспаў некалькі гадзін, а здаецца, мінула некалькі гадоў».

Марк падняўся, прайшоў паўз катлы да акна і зірнуў у мутную шыбіну. Ён наважваўся гукнуць Варку, але голас каменем застраў у горле.

На вуліцы ўсё было заліта яркім сонечным святлом. Зеляніва травы, лістоты на бярозках і клёнах апякала зрок, прымушала прыплюснуць вейкі.

«Во дык дзіва. У казцы і то не стрэнеш такога. Нядрэнна жыць: захацеў — зіма, назаўтра надакучыла — цешся летам...»

— Нарэшце падняўся, па-панску спіцца вам,— адагнаў Маркава здзіўленне голас Яўхіма.— Не захацеў турбаваць. Думаю, няхай адпачнуць, дзень будзе цяжкім. Спатрэбіцца і душэўная моц, і цялесная сіла.— Гарбун выйшаў з-за перагародкі, якую Марк адразу і не заўважыў.— Пакліч дзеўку. Хопіць і ёй брузаць. Я ўжо паспеў і крумкачоў у наваколле паслаць, каб разгледзелі і дазналіся, дзе якія хаўтуры будуць. Да палудня першыя з іх вернуцца. Тады і пачнем навучанне. А па-

куль набярэшся граматы ад Варкі, як папярэдне я і казаў.

Пакуль размаўляў Марк з ведзьмаком, прачнулася і падышла да іх Варка. Яна ўжо таксама не была ўчарашняй дзяўчынкай-стракатухай, пабольшала, даўжэйшай стала каса, на пунцовых шчочках з'явіліся некалькі радзімак. Як быццам ноч рассыпала па іх шчапотку выспелага маку.

— Ну, бярыцеся за вучэнне,— крэкнуў Яўхім, расправуляючы гарбатыя плечы,— я ж пакуль займуся сваім. Памятаеш, Варка, тую кніжку? То і добра.

Яўхім патэпаў у сенцы. А дзяўчына прынесла з яшчэ адной каморы-бакавушкі шэрую старую кніжку. Марк і Варка селі поплеч за сталом.

— Ты зусім не ўмеш чытаць? — сарамліва запыталася яна ў хлопца.

— Хы,— усміхнуўся Марк.— Я чытаю не толькі гарызантальна, але і вертыкальна. Для гэтага не трэба вялікага розуму, і тым больш...

— Учора ж гаварыў, што не ўмееш,— здзіўлена перапыніла хлопца Варка.

— Табе прыснілася.

— Няхай будзе так. Адгорнем першую старонку.

— І адкрыўшы гэту кніжку,— напаўголаса пачалі чытаць Марк з Варкаю,— навучышся ты ліхой справе ад нячысцікаў і ўсё жыццё будзеш ад іх у залежнасці. Ты заключаеш з Чорным духам умову на жыццё і душу. Займееш у свае рукі людскія лёсы, станеш іх уладаром і гаспадаром. Зможаш звіць вяроўку з пяску і вады, пераганяць хмары з адной зямлі ў другую, разбураць горы, засыпаць моры і нават кпіць са сланоў, якія трымаюць на сабе зямлю. Ты зможаш ганьбіць і псаваць усё і ўся. І сам мусіш вызначаць сілу слова свайго: захочаш — яно будзе вечным, а не — часовым. Не будзе для цябе ніякага дзіва, ніякай цяжкасці. Ты зможаш сапсаваць, скруціць у клубок, пабіць на горкі яблык нават

таго, хто знаходзіцца за тысячы вёрстаў ад цябе. Але ты не злы. Няма ў цябе злобы ні на кога. Ты абавязаны выкарыстоўваць людскую злобу. Злобу тых, у каго яна смалою кіпіць на сваіх паплечнікаў, суродзічаў, суседзяў. Злобу сына на бацьку, нянавісць дачкі да маці. Ты ніколі сам па сабе нікога не псуеш. Усё робіш толькі па просьбе людзей варажуючых. У гэтым моц твая! І так, ты згоду даў у служэнні цемры, не загарнуў на першым слове, а цяпер — позна. Азірніся і не пужайся. Яны ўжо служкі для цябе, а ты іх гаспадар.

Хлопец і дзяўчына, як па загадзе павярнулі галовы. За іх спінамі стаяла некалькі зданяў. Іх абрысы ледзь вымалёўваліся ў дзённым святле.

Дзіўна, але ні Марк, ні Варка не адчулі ніякага жаху. Наадварот: іх апаноўвала цікавасць да кнігі, да таго, што гаворыцца там яшчэ. Ім як найхутчэй карцела спасцігнуць таямніцы ўладнага ўсясілля. Схіліўшыся зноў над старымі спісанымі старонкамі, яны пачалі чытаць кожны сам сабе.

Вялізныя крывыя літары сведчылі, што далей пачыналіся замовы. Але яны пазначаліся незразумелымі для Марка лічбамі. Крыху падумаўшы, хлопец запытаўся ў Варкі:

— Што за такія знакі перад кожным радком слоў? Ну вось гэтыя,— і ён тыцнуў пальцам у лічбы.

— Калі ўмееш чытаць, то павінен ведаць, што акрамя літар існуюць і лічбы. Вось гэта адзінка, а гэты знак, як гусыня на возеры,— двойка.— Цяпер ужо Варка вадзіла пальцам па старонцы кнігі.— Ты спачатку ўсё зрокава, вачыма запамінай. А пазней, дзе б і з кім ні хадзіў, лічы сам сабе кожны крок, слуп ці дрэвы. І не будзе табе роўных не толькі ў чытанні, але і ў лічэнні. Зразумеў? Давай паспрабуем разам. Запамінай і паўтарай за мною. Вось гэта тройка, далей чацвёрка, затым пяцёрка, шасцёрка, сямёрка... — праз некалькі хвілін Марк разам з Варкай дайшлі да сотні.

— Бачыш: нічога складанага. Ці запомніў?

— Ага.

— Цяпер пачытаем далей.

«Замова на каханне. На моры, на акіяне ёсць бела-гаручы камень Алатыр, нікім невядомы; пад тым каменем схавана сіла магутная, якой няма і не будзе канца. Выпускаю я сілу магутную на такую-та красну дзявіцу; саджаю я сілу магутную ва ўсе суставы, паўсуставы, ва ўсе косці і паўкосткі, ва ўсе жылы і паўжылы, у яе вочы ясныя, у яе шчокі ружовыя, у яе белыя грудзі, у яе рацівае сэрца, у вантробы, у яе рукі і ногі. Будзь ты, сіла магутная, у такой-та краснай дзявіцы невыходнай; апалі ты, сіла магутная, яе кроў гарачую, яе сэрца кіпучае на каханне да такога-та палюбоўнага малойцы. А была б красна дзявіца, такая-та, ва ўсім паслухмяна палюбоўнаму малойцу, такому-та, на ўсё яго жыццё. Нічым красная дзявіца не зможа адгаварыцца, ні замовай, ні адгаворам, і не зможа ні стары чалавек, ні малады адгаварыць яе сваім словам. Маё ж слова моцнае, як бела-гаручы камень Алатыр. Хто з мора ўсю ваду вып'е, хто з поля ўсю траву вырве, і таму маю замову не перамагчы, сілу магутную не здолець!»

— Ого! Як каму, а мне варта гэта запомніць,— Марк пацёр ад задавальнення далонь аб далонь. Варка ж сарамліва апусціла вочы, шчокі яе заружавеліся, як выспелыя гронкі арабіны. Нешта буркнула сабе пад нос і лёгенька піхнула хлопца пад сталом каленкам.

— Пачытаем яшчэ, а то Яўхім хутка прыйдзе.— Дзяўчына адсунулася ад Марка і паклала бліжэй да сябе кнігу.

«Замова на разлад паміж малойцам і дзяўчынай. Як бацька хуткі Нёман цячэ, як пяскі з пяскамі спалоскваюцца, як кусты з кустамі звіваюцца, так бы раб, такі-та, не вадзіўся і не знаўся [redacted] рабою, такой-та, ні ў плоці, ні ў каханні, ні ў юнацтве, ні ў старасці; як у цёмнай цямніцы і ў хляўніцы ёй не жыць проставалосай і доўгава-

лосай, вочы выкаціўшы, так няхай раба, такая-та, падаецца рабу, такому-та, праставалосай і доўгавалосай і вочы выкаціўшы; як у кошкі з сабакам, у сабакі з расамахай. Так бы ў раба, такога-та, з рабою, такой-та, не было згоды ні днём ні ўначы, ні раннем, ні ўпоўдзень, ні ўпаўабедак. Слова маё моцнае, гнёткае і непадступнае».

Хлопец ■ дзяўчынаю не заўважылі, як у хату зайшоў Яўхім-вядзьмак, як, усміхнуўшыся, ён прытуліўся гарбатай спінаю да вушака дзвярэй і шырока раскрытымі вачыма пачаў свідраваць целы Марка і Варкі. Твар у ведзьмака раптам зрабіўся чырвоны, як засланка ад жаркай печы. Ніжняя сківіца адвісла, і з куткоў рота пацяклі па смаліста-чорнай барадзе тонкія ручаіны жоўтай сліны. Усё ягонае цела пачало рытмічна ўздрыгваць, выгінацца, як у вужакі, хадзіць хадуном. Здавалася, што Яўхім хоча разарвацца на тысячу шматкоў і рассыпацца па бруднай падлозе. І адразу ж, у гэта імгненне, увесь пакой напоўніўся смярдзюча-здушальным пахам серы, які завісаў не толькі ў паветры, але і чапляўся за сцены, печ, за кожную драбязу з хатняга начыння. Але найбольшым смярдзючым воблакам туманава-здушальны пах кандэнсаваўся над хлопцам з дзяўчынаю. Дзіўным было тое, што яны гэтага не адчувалі. Перагортваючы старонку за старонкаю, Марк і Варка ўбіралі ў сябе пачаткі д'ябальскай навукі. Кожнае вычытанае слова застравала ў іхніх галовах, як цвікі ў смалістых бярвеннях. Падсвядома яны ўжо адчувалі сілу і ўладу, якая пераходзіла да іх з «чорнай» кнігі. «І пойдзеце вы ў той свет, з якога прыйшлі,зусім новымі людзьмі. І будзе падуладна вашым рухам зямное і незямное, цялеснае і духоўнае, бачнае воку і схаванае ад яго. Дабрыня ж і спагада няхай выгарае, як трава ад полымя. Яна ўжо гарыць. То ад яе такі смярдзючы пах. Ад вашай волі будзе залежаць: нарадзіцца чалавеку або памерці. Адзіноты не бойцеся, вам яна не пагражае. Вы ж дзве рукі аднаго цела. Вы, мае дзеці, набліжаеце той

дзень, калі неба, як арэх расколецца, калі помарак калючым клубком па зямлі пакоціцца. І ніхто нідзе не знойдзе паратунку — яго проста не будзе. Бо як уратавацца курыцы, калі ў яе горла ўчапіліся зубы тхара, калі яны сціснуліся так, што косткі хрумстнулі зламанай піжмінай... Дабро і зло — палавінкі аднаго яблыка. Мала хто ведае, з якога боку яго адкусіць. Вы ж паспыталі з таго, якога вызначана. Цяпер вы найвышэй сталі за ўсе людскія прымхі, вызначаныя нормы. Яны не для вас! Пакуль што я, а надалей наш Уладар цемры будзе падказваць межы дзялення дабра і зла. А ўрэшце, для цябе Марк і цябе Варка не будзе вядомым паняцце — зло. Гэта слова не зляціць з вашых вуснаў і не ўсплыве ў галаве. Вы магутныя, вы ўсясільныя. І скажуць людзі пра вас: «Яны шчодра надзелены прыродай. Гэта кажу вам Я!»

Вусны Яўхімавы не расшчапіліся ні на хвілінку, але ён быў упэўнены, што ягоныя маўклівыя словы — думкі дасягнулі, як галоў, так і сэрцаў Марка і Варкі.

...— Сапраўды, апошняй памірае надзея,— ні з чаго ні з якога напаўголаса прашаптала Варка.— Паміраючы, мы, ва ўсялякім разе, перастаем надакучваць хоць бы самі сабе... І праблема не ў людской злобе, а ў глупстве... А ўвогуле што такое зло? — Варка пустым позіркам глядзела на шэрыя старонкі кніжкі. Марк жа скоса зіркаў на дзяўчыну, не разумеючы сказаных ёю слоў.

Пачуў Варчын голас і вядзьмак. Яго нібы дубцом апяразалі па гарбатых плячах. Ён падскочыў да стала і растапырыў над галавою дзяўчыны каросліва-крывыя рукі.

— Ну што! Што з табою рабіць?! Ці сапраўды ў тваёй галаве вецер гуляе, ці панарошніцы здзекуешся з мяне! Не мянці абы-чаго языком, забудзь розную лухту. Усё, што для вас трэба, дам я, і ніхто іншы! А ты, даўгакосая, усё лезеш са сваімі словамі, як шалудзівая. Запомні: твая справа пакуль што такая — з носа кап, а ротам хап. Во і маўчы!

Варка няспешна ўзнялася з-за стала і стала насупраць Яўхіма. У яе вачах не было ні крупіцы страху. Толькі аднекуль з глыбіні сініх вачэй дзяўчыны выплываў непрыхаваны, дакорлівы сум.

— Ведаеце, аднойчы восенню, калі я ішла ў краму, каб купіць крыху газы, зусім ненарокам сустрэла сваю маці. Яна была схуднелая і ў лахманах, але я адразу пазнала яе. Дзіўна, але тады я падумала: чаму так здарылася, каб менавіта ў гэту хвіліну спатрэбілася мне ісці ў краму. Ну навошта? У душы маёй нешта тады зварухнулася. Маці падышла да мяне, узрадавана ўзяла за руку і напела даўно забытую песню, тую, што напявала вечарамі ў дзяцінстве. Мне было і прыемна, і няёмка. Бо вакол праходзілі людзі і азіраліся на нас. А маці ўсё гладзіла маю руку і напявала дужа недарэчную для гэтага месца песню. Да таго дня я не бачылася з ёю некалькі гадоў. І цяпер ▪ выгляду мы маглі падацца не дачкой з матуляй, а сёстрамі. І ад гэтага было мне невыносна цяжка. Не памятаю, як вырвалася і пабегла прэч. З крамы я пайшла другой дарогаю, каб толькі не сустракацца яшчэ раз. Пазней мне сказалі, што маці прастаяла на той вуліцы і тым месцы чатыры дні. Затым яна зноўку некуды знікла...— Варка страсянула галавой, быццам адганяла думкі, што тых назойлівых мух. Ні Яўхім, ні Марк не прамовілі ні слова. Яны адчувалі — дзяўчына яшчэ не выказалася.— Але калі мы з Маркам прыйшлі з могілак самагубцаў, з гэтага дворышча выбегла жанчына. Я не ведаю чаму, але мне падалося, што гэта мая маці. Праўда, яна была зусім іншая: маладая і прыгожая. Я дужа яе не разгледзела, мне проста падалося. Так хацелася пабегчы за ёю, але нешта не пускала, як быццам на ногі накінуты путы. Цяпер, здаецца, я здагадваюся: да зямлі мяне цісну той даўні сорам, тая далёкая нялюдскасць да маці. А можа, нешта і іншае,— Варка няспешна села на лаву каля стала.— Дужа ж даймалі раней тым, што маці вар'ятка. З-за гэтага ніхто

не хацеў са мною сябраваць. Грэбавалі і страшыліся, што і на іх праз маці і мяне можа найсці дурнота. Цяпер у гэта я не веру. Праўда. Шчырую праўду вам кажу...

— Супакойся, дзяўчо,— Яўхім нязграбна правёў даланёй па Варчыных валасах.— Нічога падобнага з табою не было. Гэта ўсё сон. Пусты, дрэнны сон, які адпраўлю я на багністыя балоты і сухастойны лес. І зноў будзе твая галава светлаю і яснай, як ліпеньскія вечары над нашай палянай.— Ты ж сама ведаеш, што вы [redacted] Маркам сіроты. Нікога няма ў вас, акрамя мяне.

Я яшчэ не паспеў сказаць Марку, што днямі пахаваў дзеда Гардзея. Адышоў ён ад нас. Цяпер яму вольна і спакойна. Нядрэнны быў ён чалавек, Марк. Калі цячэ ў табе ягоная крывіна — толк будзе.

Вестка пра дзедаву смерць хлопца ані кропелькі не кранула. Папраўдзе, дык Марк ужо і не помніў нейкага там дзеда Гардзея. Толькі недзе ў далёкай падсвядомасці на імгненне мільгануў воблік схуднелага старога і патух, як бліскавіца. Да таго ж Марк не пераносіў, калі яго шкадавалі. Ад саладжава заспакойлівых слоў і галасоў на душы станавілася брыдка, а сэрца, здавалася, гідліва сціскалася, як грэблівыя вусны чалавека, які пабачыў россып тлустых чарвякоў на смярдзючай падле. «Шкадаваннем сваім можаце падавіцца»,— гаварыў Марк заўсёды ў думках тым, хто пнуўся аблашчыць яго і прыгрэць, пагладзіць па галаве, як усё роўна хатняга катка, падатнага да кожнай рукі. Не, Марк не такі. Яму самому прыходзілася пераступаць праз памёрлых на тратуары жабракоў і не заўважаць гэтага. Глядзець на іх, як на пустое месца. І разам з гэтым ён не мог прайсці міма згаладалага шчанюка каля сметніц, каб не адламаць кавалак булкі і не кінуць жывёліне.

«Так, ва ўсім ёсць унутраны сэнс, але як цяжка іншы раз яго разгледзець. А ўрэшце — навошта?..»

Усе ў хаце схамянуліся ў тую хвіліну, калі ў акно

нехта моцна і настойліва пастукаў. У праёме шыбін мільгануў цень. Вядзьмак кінуўся да дзвярэй. Марк зірнуў на дзяўчыну з-пад ілба. Варка глядзела на растапыраныя пальцы сваіх рук, быццам чакала, што яны зараз ператворацца ў цяжкія крылы невядомай свету птушкі. Але нічога такога не адбылося.

— Хачу дахаты,— скрушна прагаварыла Варка.— Каб ты ведаў, як хачу дахаты.

— А тут табе што, не хата? — раздражнёна буркнуў Марк.

— Якая ж гэта хата... Не, тут гадзючае кубло. А родная хата там, дзе пыляцца твае рэчы, дзе ў шуфлядках ляжаць істужкі для кос, дзе кожную хвіліну цябе чакаюць. А тут...

— Збіраемся, дзеткі, збіраемся,— Яўхім ускочыў у хату ўспараны. На лбе, ад сонца, паблісквалі кроплі поту.— Прыляцелі мае пасланнікі з ваколіцы. Многа хаўтураў паўсюль, але далёка не пойдзем. На Узрэччы будуць хаваць кабеціну, во там і пастаім, паглядзім і прычасцімся. Не марудзьце. Варка, збірай клунак, я ў каморы ўсё расклаў на скрыні. Завяжы тыя рэчы ў хустку, яна на падаконніку. А ты ж, Марк, падыходзь вось сюды, да місак. Скінь да нагавіц верхнюю апратку і абмыйся ў кожнай місе па разочку. Цяпер можаш у іх не залазіць. Усё, што трэбака, і так цябе дойме, да цела і душы прыстане. Давай, хлопча, хутчэй мыйся ў місах пазнання.

О, Уладар, прымі гэта стварэнне чалавечае, як раба свайго, як сына, як праваднікa дум і жаданняў тваіх.

Марк па чарзе абмываўся ў вялізных місах, а вядзьмак то напаўголаса, а то і на ўсю глотку гаварыў з нябачным Уладаром і ягонай сілаю.

Як толькі хлопец плёснуў на свой твар прыгаршчы вады з апошняй місы, адразу ж адтуль вырваўся слуп чырвеннага агню.

— О, дзякуй, Уладар! — знямогла выдыхнуў гарбун.

Пакуль Марк апранаўся, выйшла [redacted] бакавушкі-каморы і Варка.

— Цяпер станавіцеся поплеч адно да аднаго,— загадаў Яўхім-вядзьмак.

Варка і Марк моўчкі падпарадкаваліся. Гарбун засіліў з вялізнага чыгуна жменю попелу і сыпануў яго на галовы, твар і адзенне хлопца [redacted] дзяўчынай. На нейкае імгненне ім аж заняло дых ад цяжкай пылавой завеі.

— Чаканне смерці — страшней за самую смерць,— адрывіста вымавіў вядзьмак. Марк і Варка паўтарылі ягоныя словы.— Дзе б вы ні хадзілі, каму б ні гадзілі, памятайце: у вашых руках людскія лёсы, над якімі вы ўладныя. А цяперака я кожнаму [redacted] вас даю па кніжцы, якія павінны пайсці з пакалення ў пакаленне: ад вас да вашых дзяцей, ад іх да наступных нашчадкаў. І гэтая нітачка ніколі не павінна абарвацца,— гарбун зняў, з недалёкай паліцы на сцяне, дзве гнёткіх чорных кнігі і саўгануў па адной у рукі Марку і Варцы.— Усё асноўнае тут, а чаго няма шка — тое месціцца ў вашых душах. Я дык дужа хацеў бы, каб ты, хлопец, пабраўся з гэтай дзяўчынай. Так лягчэй вам жылося б у тым часе, адкуль прыйшлі вы і куды пойдзеце. Але... тады атрымаецца адно гняздо з двума магутнымі птахамі і на адным дрэве... Мо б вы разляцеліся ў розныя бакі? — Яўхім запытальна глядзеў на Марка з Варкай. Яны ж маўчалі.— А, у рэшце рэшт, усё вызначыць час,— вядзьмак вяла махнуў рукою,— схавайце кнігі надзейна. Можаце згубіць усё, нават галовы, але толькі не гэтыя кнігі. Цяпер — у дарогу... І яшчэ памятайце: у недагаворанасці свой сэнс і асалода. Пайшлі...

* * * Ад невялікай вёсачкі, праз драўляны мост на рэчцы, цягнуўся людскі ланцуг. Паперадзе ўсіх, у галаве няроўнай калоны ехала павозка. Хударлявы конік, уну-

рыўшы галаву, вёз белую труну, якая ў шэрасці дня падавалася ненатуральнай і лішняй сярод чорнай апраткі людзей. Вакольную цішыню парушала толькі рыпенне калёс ды, зрэдку, кароткае галашэнне старой жанчыны, якая ледзь перастаўляла ногі і трымалася рукой за драбіны павозкі.

— А мая ж ты Ганначка, а мая ж ты галубка, а на каго ж ты пакінула сваіх дзетак. А хто ж іх прыгледзе, хто сняданак згатуе, хто косы доньцы расчэша. Навошла ж так рана забрала цябе зямелька. Набегаліся тваё ножанькі, напрацаваліся тваё ручачкі. Ой рана, рана ты стамілася, рана, раненька ад нас пайшла...

І зноў цішыня, нудна рыпяць калёсы. Фыркае конік, узбіраецца на пукаты пагорак за рэчкай. Зусім недалёка да могілак. Вызначаюцца яны сярод астатняй лясной паласы высачэзнымі вершалінамі сасонак і бяроз. І чым бліжэй да кладоў, тым роспачней голас старой, усё больш і больш цямнее неба, збіраюцца хмары, мацнее вуркатанне грому.

У адно імгненне ўсе неяк заспяшаліся: загаманілі людзі, часцей пазіраюць на неба, конік хутчэй перабірае нагамі, мацнее рып калёс. І толькі адна нябожчыца Ганна засталася абыякавай да надыходзячай навальніцы...

Яўхім з Маркам і Варкай стаялі воддаль ад яміны, за велікаватай горкай жоўтага пяску. Труну з Ганніным целам паспелі накрыць вечкам, калі першыя кроплі дажджу ўпалі на зямлю і самотных вяскоўцаў.

Вядзьмак коса зірнуў па баках, затрымаў позірк на гарэўшым пуку саломы, па попелу якой вызначалі бабулі наступнага нябожчыка ў вёсцы: калі маленькі след — памрэ дзіця, калі вялікі — сашчэпіць рукі дарослы. Гарбун упэўніўся, што за ім ніхто не цікуе. Ён сагнуўся, быццам паправіць калашыну нагавіц, і, сха-

піўшы шчэпцік жаўцяку, сыпануў на спіну Марку і Варцы.

— Нясіце без спачыну тое, што вам я даў і палажыў на плечы.— Бязгучна, аднымі вуснамі прашаптаў вядзьмак. І толькі сказаў ён гэтыя словы, як неба над могілкамі праламала даўжэзная маланка і секанула ў тое месца, дзе стаяў гарбун...

* * *

— Шкада, Максім, што адсталі мы ад хлопцаў і дзяўчат. Яны, відаць, выспаліся, а мы з табою пешкі ногі б'ём. І чаму яны не дачакаліся нас? Такога ніколі не было, каб пасля пагулянак пакідаць сваіх у другой вёсцы. Я ім сёння ўсыплю,— Валька лёганька трымала хлопца пад руку.

— Нічога страшнага ў гэтым, Валюх, няма. Прайшліся, падыхалі свежым паветрам. Мне дык, пасля горада, гэта проста цуд. Можа, у галаве хоць крыху прасвятлее. Я заўтра, мабыць, паеду ўжо да клетак шматпавярховых камяніц, у сваю хату-клетку.

Валька чамусьці хмыкнула. Максім не звярнуў на гэта ўвагі.

— Ведаеш, сорамна прызнавацца, але на мяне як нешта найшло: увесь час, дзе б я ні быў, лічу ўсё, што трапляецца на вока. Проста нейкае вар'яцтва. Не ведаю, як і пазбавіцца ад такога наслання,— Максім уздыхнуў, а Валька весела засмяялася. Праз некалькі крокаў яна супакоілася і, спыніўшыся, павярнулася тварам да хлопца: — Значыць, нядрэнна я цябе навучыла лічыць. Быць мне настаўніцай.

Калі хлопец з дзяўчынай падыходзілі да вёскі, поўнасцю развіднела, з комінаў хат у неба цягнуўся лёгкі дым, брахалі сабакі, наперабой крычалі пеўні — і раптам нечакана, пераадольваючы ўсе гукі, нехта ў вёсцы адчайна, з надрывам загаласіў.

— Хтосьці памёр,— абыякава сказала Валька.

# Матрац

*Той, хто чакае,*
*з нечаканасцю*
*сустракаецца*

Восень. Месяц кастрычнік. Паўсонная сталіца. Гарбаты мост, шырокія вуліцы з зябкім святлом ліхтароў. Цупкія цені чэзлых дрэў на сцюдзёным асфальце тратуараў. Рэдкія таксоўкі. Насцярожаныя постаці. Жалезабетонныя падземныя пераходы. Гадзіна ночы. Чыгуначны вакзал.

* * *

Цяжкая кайстра. Знямелая рука без пальчаткі. Кудлатая галава, прыгорблены стан. Вытанчаны твар, сумныя вочы. Пакрыўджана скрыўлены рот. Паспешлівы крок. Дрыготкія плечы. Янус. Ці, як запісана ў пашпарце, Янка. Квіток на цягнік.

* * *

Прыступкі, тамбур, тузаніна. Гугнявая гамана. Сонны ўсхліп дзіцяці. Насуплены праваднік. Другая лаўка, 54-е месца. Вагон.

* * *

Выцертыя палоскі, зашмальцаваныя рагі. Вата пазбівалася камякамі. Бязважкі. Матрац.

* * *

Згаслае святло. Плечы адчуваюць слізкую паверхню лаўкі. Штуршок, яшчэ штуршок. Шэпт, ціша, дрымота. Цягнік паласуе ноч, бяссонне Януса, або, як запісана ў пашпарце, Янкі...

* * * Чаго не спіць? Навошта тлуміць галаву думкамі. Дзіцё нягеглае. Не круціла яшчэ жыццё яго, не вывачрочвала знаніцай. Усё — тлум, бруд і адкіды. Жыццё нікчэмнае, як куча смецця. А ён пра вечнае марыць! Спі, дзіцё перарослае, і не пніся: пукнеш, а больш, чым дадзена, не падымеш. Ну і што, калі спаў ты з акторкай, а твая паэтка лашчыць апошняга п'янчука? Заглытвае шурпаты язык. А ты пра вечнае... Раніцой яна напіша верш пра Радзіму і гісторыю краю і, пакуль спіць прапойца, дашле пакамечаны «шэдэўр» табе. Спі, дзіцё, спі, не пакутуй сам і не муч нагамі мае зашмальцаваныя бакі. Ты хутка сыдзеш, пакінеш мяне, як ужо тысячу разоў пакідалі. Ляжа новы. Добра, калі зменіцца прасціна, а я нязменны.

Сварацца з рэйкамі колы цягніка, уздрыгвае вагон. Слуп святла разбівае цемру, выхоплівае здані дрэў. Скачуць коннікі, захлынаючыся напорам пругкага ветру. А пад зламанай асінай спраўляюць хаўтуры сарокі. Ты ніколі не бачыў, як спраўляюць хаўтуры сарокі? Не бачыў. А хочаш зразумець Савіча і Каліноўскага. Ты марыш перакуліць свет. На справе ж марыш валодаць шыкоўнай кватэрай, дарагім канём і цыбатым сабакам. А хаваешся за прыгожыя ідэі і словы.

Гаманю з табою, ты чуеш? Я матрац, звычайны цягніковы матрац на тваім 54-м месцы, матрац, на якім ты ляжыш. Не лыпай няўцямна вейкамі, не стрыжы санлівы спакой вачыма. Я набыў голас ад вераду ў тваёй галаве і ў тваёй душы. Гэта не так ірэальна, як табе здаецца. Памятаеш, як пасля бою на Нямізе душа забітага воя ўсялілася ў меч? Пекла было не для яе. Родная зямля крывёю сыходзіла, а край маленства патанаў у слязах. Ты скрыгатаў зубамі, еў часнок і перац з соллю. Ты хацеў стаць такім жа воем... У душу ты не верыў. Яе няма, ты завучыў гэта.

Памыляешся, Янус. Пражытага табою не так і мала.

Але воем ты не стаў. І не станеш. Не спяшай спрачацца. Вунь, бачыш, збоку спіць прыбалт. Ён — вой. Сапраўдны. Ён ведае з дзіцячых пялюшак: як, за што, дзе, з кім і без каго?

Не, не трымаў ён плуг у руках ніколі. Ды ці ў гэтым справа? Глыбей глядзі, Янус. Але пачакай... Адкуль ты ўзяў імя такое? Ці не ад... дык, кажаш, упісаны ты Янкам? Хы! Вось і адказ табе на многае, дзіцё.

Цябе ўсё мучыць сумленне за паэтку? Ты зайздросціш яе таленту і лёгкасці паводзін? Ах, ты кахаеш?! Чаму ж тады ў бары ты аддаў яе знаёмаму мастаку? Кажаш, еднасць духу ў іх і ідэі аднолькавыя... Ты, дзіцё, памятаеш вочы паэткі? Як яны прасілі цябе: «Хадзем адсюль, забяры мяне». І гарэлі агнём, ад якога смалой паплылі б ледавікі Цярскола. Ты ж няўцямна слухаў «Магістрат» і ўяўляў скляпенні ў мурах князя Пракапоцкага. Там сапраўды ёсць крыж.

Я цябе не разумею? Кажаш, цябе сапраўды хвалюе крыж майстра Богшы? Пра гэта думае кожны сын Ефрасінні Полацкай? Навошта гэтак высока, дзіцё? А пры чым тут Эль Грэка? Ён любімы мастак тваёй паэткі? І Поль Элюар таксама?.. А Воюша я не ведаю. Бачыш, які цёмны я. Столькі колераў змяніў за гады бадзяння. Так-так, і гэтых паэтаў не ведаю. Што зробіш, я ж матрац. Але, здаецца, дзіця, мы мяняемся ролямі?

Абражаць не трэба. Ну, выцерлі мяне розныя азадкі, але ж і твой гэтым заняты. Не спяшайся. Сыходзіць яшчэ не так хутка. Адно, дзіцё, я зразумеў: жыць розумам і сэрцам адначасова цяжка. Але толькі гэтак нешта будзе, нешта народзіцца — са спалучэння.

Ляжаў некалі на мне бацюшка. Не поп, а бацюшка. Я слушна сказаў. Ён дужа не любіў, калі клікалі яго папом. Вёз бацюшка шэсць старых абразоў. Такіх абразоў, што яны коштам і значнасцю ці не роўныя крыжу Богшы. Ён, як і ты, ноч не спаў. Прыкідваў, за колькі прадаць. Ты толькі ўяві: настаўнік веры веру прадае.

І не біблейская гэта прыпавесць, а жыццё. Перабіраў у памяці мастакоў: каторы танней возьме за падробкі, якія ён павесіць на месцы абразоў? Бабкі-прыхаджанкі яшчэ і хваліць будуць, думаў бацюшка. Іконкі ён набудзе новыя, кідкія, а пра абразы ніхто і не ўспомніць. І вёз бацюшка абразы са свайго краю на поўдзень. Аціраў мяне, мучыў прасціну, смаркаўся ад прастуды ў ручнік, нічога не бачыў і не чуў, думаў і думаў, колькі ўзяць. Добра, відаць, узяў... Цяпер вісяць на сценах царквы капеечныя карцінкі, прыхаджане моляцца на іх і хваляць бацюшку: руплівы, святы чалавек. Дзеля людзей, дзеля веры і жыве, і дбае.

Дзеля людзей, дзеля веры... Аж не, дзіцятка, дзеля сябе, дзеля сябе жыве і дбае «святы» чалавек. І не будзе ён лячыць сваю вадзянку, як некалі лячылі прыхаджане,— адварам зёлак і параным гноем. На поўдні ён. Там, дзе збываў абразы. І не ў закінутай халупе, а ў шыкоўным гатэлі. Як і чым жыве бацюшка?..

Я не гугняўлю, а справу кажу. Хрумстай яблычак, перарослае дзіцятка. Мо лягчэй разбярэшся, зразумееш сваю мэту ды прызначэнне. І Каліноўскі стане не чымсьці адцягнута незразумелым, а рэальным, жывым. Ты бачыў ягоны здымак,— ён глядзеў у глыбіню тваіх вачэй, а застаялай гніла-тухлай ціны зварухнуць не змог. Ты, Янка, дазволь, буду клікаць цябе, як ты запісаны. Дык вось, ты баішся самога сябе, шукаеш выгады. Забі страх мячом, у якім жыве душа воя з Нямігі. Ідзі смела... Бачу, марна кажу. Не, вучыць цябе не збіраюся. Ты вучаны. Але ж не навучаны. Шкада.

Хрумстай, дзіцятка, яблычак, хрумстай. Не так даўно чвямкала тут прастытутка, ёрзаючы па мне гладкім задам. Што ты, Янка, гэта не параўнанне. І не хіхікаю я. З чаго мне смяяцца? Я ўсё вяду да тае гаворкі — пра жыццё, пра значэнне, мэту. І пра тваю паэтку таксама. Акторку не чапаю: яна выпадковы чалавек, мятлушка. Ты ж сябе да вялікай справы прызначаеш. Ці не так? Ну

вось, бачыш. Тая лярва, як і бацюшка, ехала на поўдзень. Яна не мучыла сябе думкамі-развагамі. Страляла вачыма навокал, хлопчыкаў выглядвала. Некалькі разоў намагалася прыгадаць імя ўчарашняга. Уздыхала, што напоўніцу «не раскруціла» яго. Можаш не згадзіцца, але яна мне падалася больш вартым чалавекам, чым бацюшка, чым твая паэтка і ты.

Ах, ушчыкнуў цябе да крыві! Ну-ну, чаго ўсхапіўся? Падумай. Яна не гандлюе ні верай, ні ідэяй. Прадае сваё цела. Проста... Ты шэпчаш, што нізка і ганебна гэта, а як жа наконт веры за рублі? Як жа наконт ідэі і прынцыпаў — за ўсхваленне і выгады? Га? Дурань? Няхай дурань. Што возьмеш з мяне, матраца, пацёртага, запэцканага матраца. Мяне тысячу разоў прадавалі за рубель, і ты, Янка, купіў мяне за рубель на некалькі гадзін. Зараз купіць нехта іншы. Ты ж сыходзіш. Толькі я не магу штосьці прадаць. Я шчаслівы, хоць і зацёрты. Не хочаш мяне згарнуць? Ну што ж. На развітанне: глядзі, Янка, не звіхні нагу дзе-небудзь у выпадковай выбоіне. Яшчэ ж прыцемкі. Хоць і віднее, а прыцемкі.

Начамі спі спакойна, шануй матрац, і — прывітанне паэтцы!

# Зацвітанне дзівасілу

Вышчарблены нож у потнай Сяргеевай руцэ паблісквае ў цемрадзі сенцаў. Пры кожным кроку тужліва рыпяць масніцы. Сцішана дрэмле пад пахай чорная курыца. Саладкаваты пах цвілі з клеці казыча нос. Уваччу блытаюцца зялёныя і ружовыя плямы. За глухой сцяной гоцнуў, шаргануўшы ў бульбоўніку, яблык. Ноч. Дзесь на вуліцы, з боку Цёмнага Лесу, самотна завыў сабака. Сяргей праходзіць па сенцах. Бясконца доўгія яны, як тольссучаная пяньковая вяроўка на гарышчы гумна. «Толькі б утрымацца на нагах, не зваліцца ніцма. А калі хіснуся і падломяцца калені... Такога не будзе... Вось і клямка». Дзверы расчынены. Поўнач.

Сяргей на хвіліну прыхінуўся плячом да вушака. «Марына, любая. Я не хацеў, не душыў цябе. Ты ж ведаеш. Навошта ўсё? О, дзева Марыя, маці Прачыстая, злітуйся, дай сілы. Пакрый мяне з зямлі да неба, з неба да зямлі сваёй белай святой пакровай...» Ад шапацення Сяргеевых вуснаў страпянулася курыца, сакатнула, дзерануўшы кіпцюрамі світку.

Ісці і не стаяць! Ісці — час бяжыць. Адчыніць усе дзверы, якія ёсць. У прыбіральні таксама. Вароты на вуліцу — напята. Цяпер абысці тры разы вакол хлеўчукоў і дрывотні, вакол хаты. Даць напіцца курыцы са студні. Абы толькі трымацца на нагах. Трысцен абысці, на шуле паставіць крыж. Тупое лязо... Цяпер прыбіральня. Крапіва замінае, ранней выкасіць.

«Глядзі, хлопец,— шаптаў Міходзька, тыцкаючы пальцам у напалову поўную пляшку.— Во ён, твой мучы-

цель. Бачыш камлюкаватую здань? Ён на цябе насланы. Ён тваімі рукамі жонку тваю душыць. Сабе не падуладны ты. Навошта Каську Петракову зняважыў? Не думаў браць — нашто чапаў? Яна твой след занесла да ведзьмака. Я бачу і ведаю, да якога. Кроў, Сяргейка, атручана зеллем. І не кроў у цябе, а шчолак. Пайшлі са мною. Святы лес нам скажа, што рабіць. Спадар дуб раду дасць».

І ішлі яны сцежкамі,балацявінамі і бальшаком. Начавалі пад арэшнікам. З кожнага вялікага дрэва Міходзька адразаў галіну. І дзень ішлі, і два. Сяргей жа нёс тое голле. «Лес, толькі лес уратуе. Волат-дуб падкажа збавенне. Чакай, глядзі...» Міходзька з усяе сілы штурхануў Сяргея ў плечы. Хлопец распрастаўся, рассыпаўшы галіны, шчаку ўспарола зламаная папарацina. Кроў пырснула, апякаючы губы. Сяргей хацеў быў усхапіцца, ды Міходзька прыціснуў яго сабою. Кранаючы губамі вуха, шыпеў: «Ляжы і слухай зямлю. Палі карэнне крывёю, тады лес братам стане. Не шкадуй крыві, паі зямлю. Чуеш, голас?»

«А ўчарней жа ты, як учарнела я. Загубіў мяне, атруціў красу. І каму ж цяпер я патрэбная... А ты, татачка, мая мацічка, хто заступіцца за маю красу? Ды ні братачка, ні сястрыначка слёз не выцера мне, не ўлагодзіць. Крумкачы адны, верны дружачкі, а жаўты пяскі мне пасцелечка. Толькі ж як накласць на сябе руку? Як сысці з зямлі, не адпомсціўшы? Пайду ў вялькі свет я бяду шукаць на тваю душу, цела ядрана. Ой, не бачыць вам шчасця краснага і не цешыцца, як галубчыкам. Панясу твой след я ды ў чорны свет. Каб, дзе ступіш ты, не было вады, а куды зірнеш, каб не бачыў меж. Заступіся ты, сіла згубная...»

— Слухай, Сяргейка,— шыпеў Міходзька,— то галосіць Каська ў дзень твайго вяселля. Лес адкрывае таямніцу.

— Дыхаць, мне няма чым дыхаць. Я паміраю, Мі-

ходзька, дзядзька, уратуй! — раскінутымі рукамі Сяргей гарнуў пад сябе зямлю, аслізлае лісце, колкую гліцу. Варажбіт усхапіўся, штосілы пацягнуў Сяргея з уляжалага месца, выхапіў з кішэні паўпустую пляшку, булькнуў на далонь вады, пырснуў у хлопцаў твар.

— Не дурэй, Сяргейка. Трымайся яшчэ крупінку, і мы разаб'ём насланнё. Гэта душыць цябе Ен, але збавенне побач.

— Лес, родны, нязводны, згарніся сцяной, а сіла няўцямна разбіся пры ёй,— Міходзька паўколцамі разліў ваду з бакоў ля Сяргея.

— Ці лягчэй табе, хлопча? — прыпаў да Сяргея варажбіт.— Уставай, пайшлі.

Сяргей ішоў хістаючыся. Міходзька нёс абярэмак галін. Так перайшлі яны ручай, Бярозавую грыву і апынуліся на паляне сярод ельніку. Магутны дуб заспакоена драмаў. Ніводзін ліст не турбаваўся ветрам.

— Прыйшлі, Сяргейка.— Міходзька кінуў каля дуба абярэмак, зняў з пляча кайстру.

Шарэла. Неба выплёсквала першыя зоркі. Гняла тужлівая цішыня. Густа пахла верасам і хвояй.

Міходзька, гойдаючы галавой, як бусел, наблізіўся да дуба. Правёў далонямі па ім і прыпаў шчакою. Губы ягоныя зліліся з сівым імхом.

— Пазнаў, пазнаў, мой волат, мой брат і бацька. Я тут. Я да цябе з бядой і просьбай. Ці чуеш?

Дуб зашапацеў лісцём, і некалькі недаспелых жалудоў важкімі кроплямі тукнулі вобзем.

— Распранайся,— тузануў Міходзька Сяргея за плячо.— Крыху ачомаўся? Во і добра. Кажу, скідай адзежыны.

Сяргей выпусціў скрозь пальцы буйнога светляка і распрануўся.

— На, апрані,— Міходзька выцяг з кайстры зрэбную кашулю,— і вунь, з краю, ад алешніку каціся па расе да дуба.

Сяргей перакочваўся па пажарніку і верасе, купках святаянніку і багуну, абмываўся расою. Вільгаць халадзіла ягонае цела.

З апалага лісця дуба, з прынесеных галін і моху Міходзька збіраў вогнішча. Падыспад падторкнуў начасаныя з Сяргеевай галавы валасы, заблытаўшы іх у хлебны мякіш.

— Волат-дуб, карміцель і суддзя, не грэбуй падняседнем.— Варажбіт паклаў пад дрэва тры маленькія, з прыгаршчы, боханы.— Ачысці кроў сына, згані насланнё. Дай шчасце бачыць, жыць і смяяцца. Нябёсы і зямля мыюць яго расою. А ты, бацька наш, здымі закляцце чорнае. Прашу за сына зямлі сваёй, за жняца і касца, за маладую сілу, за прадаўжальніка роду дзяцей тваіх.

Дуб сцішана слухаў. Міходзька падвёў да дрэва змоклага Сяргея. Вочы ў хлопца запалі, на твары застылі кроплiны, чорны пісяг на шчацэ расплыўся.

Стаў Сяргей тварам да дуба. За спіною ягонай успыхнула бяроста. Агонь кінуўся ў скокі па галінах, зачапіў лісце. Белы дым агарнуў хлопца, накрыў з ног да галавы. Млявасць паланіла. Скалелае цела торгалі, працiналі голкі. І ўчуў Сяргей голас, старэчы і надтрэснуты:

— Пройдзе тыдніца гэтая і яшчэ адзін дзень. Да нараджэння маладзіка, у ноч зацвітання дзівасілу ты з нажом і чорнаю курыцай стрэнешся з ім. Расчыні ўсе дзверы, усе закуткі, усе зашчэпы. Будынак кожны абыдзеш тры разы, пасля трэцяга — лязом крыж адзначай на ўваходзе. Ён скочыць аднекуль пад ногі. Глядзі, не зваліся, утрымайся на нагах. Калі ж толькі кранешся зямлі рукамі ці ўкленчыш,— значыць, ты слабы на гэтым свеце. І будзе твой век карацейшы за хвост курыцы.

Дым гусцей і гусцей ахутваў Сяргея. Невядомы голас паланіў:

— Мне шкада не народжаных Марынай дзяцей. Да

прызначанага дня не кладзіся з ёю. Калі ж за сваім норавам пойдзеш, дык тая ноч будзе апошняя для Марыны. Насланнё пакуль жыве ў табе. І жонка не ўцячэ ўжо. Твае пальцы сашчэпяцца на ейным горле. Памятай гэта. Тыдніца і адзін дзень. І ноч зацвітання дзівасілу. Чорная курыца, нож, расчыненыя дзверы і вароты. Ён і ты. Усё, ідзі.

Міходзька сцягнуў з хлопца кашулю, кінуў яе ў вогнішча. Агонь захліпнуўся.

Дамоў Сяргея варажбіт вёў іншай дарогай: рачною плынню, па ручаях і крыніцах, ірвах, кустах, па малінніку і журавінах.

І настаў той дзень. Прыйшла тая ноч.

«Я або ён». Чым болей Сяргей паўтараў гэтыя словы, тым мацнейшая сіла прарастала ў ім. «Вольна жыць і кахаць! Каб Марына не баялася маіх рук. Адчуць смак хлеба і квасу...»

Сяргей абышоў хляўчук. На прыступцы пакінуў нажом след. Страпянулася курыца. Сяргей пайшоў на трэці круг вакол хаты. Ногі пачыналі дранцвець. Але ішоў, ішоў наперад.

Усе спяць. Спяць сном праведнікаў. А ён блукае, шукае ачышчэння. Толькі б утрымацца. Чаму ногі не суцэльныя калоды?

Абыдзена хата. Цяпер паставіць меціну на ўваходзе. Мацней націснуць лязом. Рука дрыжыць. Эх ты! Ці ж гожа так?

Сяргей не паспеў накрэсліць рыску, як зарыпелі адразу ўсе масніцы ў сенцах. Быццам па іх з маху катанулі вялізную бочку. У тое ж імгненне нешта суцэльна кудлатае бухнула Сяргею ў ногі. З такім напорам і моцай, што здалося, ногі рассыпаліся бітым шклом. З-пад пашкаў у Сяргея выпырхнула чорная курыца, з шалёным сакатаннем паляцела пад плот. Дзяцюк схапіўся за вушак. На вуліцы адзін за адным узвылі сабакі. Сяргей нібы прымёрз да ганка.

— А дзе ж?.. Выстаяў. Я выстаяў! Міходзька, дубволат, Марына, людцы! Я выстаяў!

Сяргей нема крычаў. Унутраны голас раздзіраў грудзі. Глыбокі выдых. Хлопец прысеў на парог. Кінуў у цемру нож. Лязо аб нешта цвінькнула. Ні думак, ні слоў.

Рыпнулі дзверы ў хату. Сяргей прыслухаўся. Няўжо не ўсё?

— Сяргей,— гукала яго жонка.

— Хадзі сюды,— супакоена прамовіў Сяргей.— Будзеш жыць, чуеш, Марына? Нічога страшнага. Зараз зацвіце дзівасіл. Пайду глядзець. Дзіўная сіла. Ты бачыла хоць раз тыя кветкі? Два кусты пад Петраковай хатай... Не бойся маіх рук. Усё мінула.

— Здаецца, адчуваю на горле твае пальцы.

— То быў не я, павер. Міходзька калі-небудзь табе скажа.

— Навошта? Я й так ведаю.

— Мо чула ты і пра Каську?

— Казалі.

Сяргей апусціў руку, угнуў галаў.

— Ідзі, Марына. Я пабуду, адпачну.

— Дык мо разам?

— Не, я адзін. Не крыўдуй. Яшчэ не ўсё завершана. Ты ж адчуваеш. Трэба давесці да рысы. Так трэба. Ідзі кладзіся. Гэта мая ноч. Астатнія будуць нашы.

Бязмежжа і глыбіня ночы...

І вось хата Каські Петраковай успыхнула свечкай. Палкім слупам пратыкнулася цемрадзь. Усё ажыло, загаманіла, закрычала. Ноч гіне, ноч забітая. У водблісках агню каля хаты Каські курчацца лісты дзівасілу. Чарнее, не пабачыўшы сонца, кволая квецень.

# Доўгі вечар

Я ішоў, прабіраючыся ў натоўпе, не зводзіў вачэй з яркай кропкі ліхтара, які раз-пораз выбіваўся праз вузлавата-голыя галіны старых таполяў. Змрок боязна кранаў шурпаты сыры асфальт, заплаканыя вокны шматпавярховікаў. Па дарозе натужліва паўзлі тралейбусы, борздзенька праскоквалі, падміргваючы зялёным вокам, таксі.

Людскі натоўп не меншаў, выцягваўся ў крывы рухомы ланцуг. Перасільваючы яго прыцягненне, я збочыў на забруджаную сцежку ў кустах з абгрызенымі вершалінамі.

Праходзячы паўз плот каля старой пяцісценкі, спатыкнуўся, шапка звалілася на зямлю. Не паспеў яе падняць, нехта тузануў за крысо паліто. Азірнуўшыся, сустрэўся позіркам з кабецінай. Азызлы твар, здавалася, цягнуў яе долу.

— Нарэшце,— выдыхнула яна.— А то цябе зачакаліся. Ходзіш недзе, а пад ногі не навучыўся глядзець. Кінь сваю аблавушку, яна ў брудзе.

«Нічога сабе, кінь шапку. Бруд можна адмыць, адцерці. А як я мушу хадзіць зімой? Ды і хто яна? Што ёй ад мяне трэба?»

— Пайшлі, юнача, не прымушай чакаць жанчыну.

Яна адчыніла ў плоце весніцы, уціснулася сама, крэкнуўшы, хіснула рукой:

— Чаго стаіш? Хадзем!

Прамая сцежка вывела да збуцвелых прыступак ганка. На лаве, паўз сцяну, стаялі вёдры, тазы-мыйнікі,

поўныя вады. Разбэрсаны дзяркач, аздоблены каляровымі стужкамі, тырчэў у дзвярной ручцы.

— А мы думалі, зблудзіў ты,— праз прыціснутае дыханне вырваліся словы.— Разоў дванаццаць бегала глядзець на дарогу. Апошні раз паслалі. Кажуць, калі няма, паедзеш за ім. Лёгка сказаць «паедзеш», а мне і раз ступіць, што дзень пражыць. Добра, што пачуў, як гукаю, сам прыйшоў.

Кабеціна асцярожна, не кранаючыся прыбранага дзеркача, адчыніла дзверы. У вушы ўдарыў няўмольны гоман, хвалямі наплываў саладжавы голас спевака і незнаёмая музыка.

Ад нечаканасці я адхіснуўся, хацеў крутнуцца, але рука кабеціны моцна ўхапілася за мой локаць.

— Ну чаго ты? Тут усе свае. Не хвалюйся, праходзь.

У шырачэзным пакоі паўнютка люду, сядзяць за сталамі, пастаўленымі разлапістай літарай Ш. На голых сценах вісіць некалькі плакатаў «Беражыце электраэнергію», «Да святла — з ашчаднасцю!». І быццам слухаючыся заклікаў, не гарэла ніводная лямпачка пад столлю. На сталах жа стаялі кандэлябры з рудымі свечкамі. Воск плавіўся, сцякаў на чорныя негабляваныя дошкі. Крывымі радамі на іх мясціліся міскі і глечыкі.

Пакуль я аглядаўся, старая паспела ляснуць у далоні і выгукнуць: «Ён прыйшоў! Вітайце!»

Сціхла музыка, ярчэй успыхнулі свечкі, усе ўсхапіліся з месцаў і застылі, як ледзяшы на стрэхах.

— Слава! Слава! Слава! — у адно імгненне аглушылі мяне раскацістыя галасы. З-пад сталоў выпырхнула чарада вераб'ёў, закружыла па пакоі і пругкім клубком выкацілася праз акно.

— Просім шаноўнага госця на кут,— падскочыла да мяне маладзіца з ярка намаляванымі вуснамі. Шэрая суконка туга сядзела на ёй, пышныя грудзі і складкі жывата, здавалася, вось-вось вылузнуцца з-пад тканіны.

Яна абхапіла мяне за плечы, прыціснула да сцяны: — А мы думалі, цябе не дачакаемся,— крывы зуб выслізнуў з-пад вуснаў.— Пайшлі.

Яна цягнула на кут, на кожным кроку я сутыкаўся з чужымі каленямі, рукамі і нагамі. Толькі цяпер заўважыў — усе, хто быў за сталом, сядзелі ў шыракаполых капелюхах, насунутых на вочы. На куце вісела цялячая скура. Добра не высахлая, яна сыходзіла цяжкаватым смуродам. Пад ёй цесненька сядзелі бабуля з правалёным ротам і юнак з заплюшчанымі вачыма. Маладзіца ўціснула мяне побач са старой.

— Віна госцю! — гучна крыкнула маладзіца, і загула застоліца, надрыўна заспяваў Джойс.

Праз імгненне я трымаў у руках цяжкі гранёны куфель з чырвоным пітвом.

Нехта крыкнуў: «Здароўе маладых!», і адразу ж, з краю стала да кута, па місах і куфлях пабегла рудая козачка. Яна тыкала мызкай у кубкі і глечыкі, барада ў яе чырванела. І калі дабегла да старой з юнаком, рогі свяціліся, як жар. Каза спынілася насупраць мяне, мэкнула і гугнявым голасам вымавіла: «Чокніся з маладым. Чуеш? Чокніся з маладым».

— Чокніся з маладым! — гудзелі сцены. Халодныя позіркі вачэй з-пад капелюхоў праціналі.

Старая з юнаком падняліся пад цялячай скурай, ледзь не кранаючыся яе галовамі. Гасла лёгкая ўсмешка на твары юнака. Старая падтрымлівала яго руку з куфлем, падпіхвала да мяне.

Я наважыўся крануць куфлем юнакова пітво, але ўгледзеў, як збялеў у хлопца твар.

— Счакайце! — на ўсе грудзі закрычаў я.— Павук на стале!

Усе ўзнялі галовы.

— Хто ты? — шэптам спытаў у юнака.

— Твой брат. Мы народжаны ў адзін год, дзень, у адну хвіліну. Ты мяне загубіш. Кінь куфель.

Пальцы расчапіліся, і мой куфель грымнуўся на стол, выплеснуўшы пітво ў міску з мясам.

Госці зайшліся смехам. З місы, дзе толькі ляжала мяса, выпаўз перапуджаны пацук, ашчэрыўшыся, фыркнуў і знік пад сталом.

— Лаві мяса,— загудзелі кабеты і мужыкі ў капелюхах, рынуліся пад сталы.

«Хрэн з імі. Брат ці сват. Трэба ўцякаць. А то прыйдзецца замест пацука легчы ў місу». Ужо наважыўся скочыць да акна, але адчуў на нагах вязкае пута, нельга ступіць.

—Куды ты? — бэкнула каза.— Не спяшайся,— клятая жывёліна не зводзіла з мяне вачэй.— Не для таго чакалі цябе. На гітары граеш?

— Ну.

— І ён граў,— каза боўтнула жаркімі рагамі на юнака. Хлопец так і стаяў са старой, трымаючы ў руках пітво.

— Яшчэ паспееш пайграць.— Каза ўлеглася насупраць.

— Збег!

— Уцёк!

Госці выпаўзалі з-пад сталоў. Папраўлялі капелюхі.

— Не журыся, заедзі хопіць, абы елася,— паўнагрудая маладзіца падміргнула.

— А як наконт танцаў? — міргнуў і я.

— Ты не піў і маладых не віншаваў.

— Ды не, з казою сербануў.

— Хай пачакаюць,— махнула маладзіца на юнака са старой.

— Будзем танчыць. Так госць жадае,— аб'явіла яна.

Узвыў «Шарп». У праходах між сталоў загойсалі капелюхі.

«Нейкае змяшчэнне розных пластоў часу. Люстра б сюды, паглядзець на свой твар. Здаецца, ён выцягнуўся трохкутнікам. Толькі перавернутым. Барада адцягвае

ніжнюю сківіцу. А чаму я і юнак без капелюхоў? Грыміць музыка. Во ўжо не думаў, што гэта зборня — любіцелі металу. Хачу смажанай рыбы і халоднага піва. І не пераломяцца яны, так кістаючыся».

— Во дзе ты,— маладзіца паклала гладкія рукі мне на плечы.— Нос звесіў да грудзей. Ты ж хацеў скокаў...

— Хачу смажанай рыбы з халодным півам.

— Толькі ўсяго. Выручу. Хай танчаць. А мы пасядзім у рэстарацыі «Падарлі», ведаеш канал Сем-Сартэн. Ну Парыж, каля парка Бют-Шаман. Хы, лыпаеш вейкамі. Ат, што дапытвацца, пайшлі.

Так-сяк дабраўшыся да парога, маладзіца завярнула направа, адчыніла дзверы, і лёгкае зеленаватае святло ахутала нас. Тры невялікія столікі на выступе, акно на паўсцяны, за ім бясконцасць ліхтароў і бягуча-вогненная рэклама. На адным са сталоў стаіць пузатая шклянка і блакітная талерка з рыбай.

Мы селі на паліраваныя зэдлікі. Нязручныя, доўга не вытрымаеш, хутка замуляе тое, чым сядзіш. Але я тут не збіраюся тырчэць. Піўца сербану, паспытаю рыбкі, і ўсё.

— А мы з табою так і не пазнаёміліся,— маладзіца тырканула локцем мне пад бок.— Марта я.

— Ну, а я Кунц.

— Майстра дурыць. Думаеш, што ў Парыжы, дык і адметнае імя вышукаў. Пятрок ці Паўлік ты, а то — Кунц. Нямеччынай патыхае ад Кунца.

— Міколам клічуць мяне.

— Мікола, Марта. Ледзь не аднолькавыя імёны ў нас. Пі сваё піва. Я пляшачку «сільванера» замовіла і вустрыцу «сенжан». А ты не жадаеш?.. Як хочаш.

— Марта, а на якое свята я патрапіў? Усё гэта ў мяне не ўкладваецца ў галаве.

— Навошта, каб яно ўкладвалася? Можаш ты сабе дазволіць адпачынак ад сваёй газеты, таўстамордага рэдактара? Ты ў Парыжы! Ці сніў хоць такое? Захочаш, і Парыж будзе перад тваімі нагамі. Як, хочаш?

— Наколькі я знаю, звычайна мужчыны прыносілі да ног каханых жанчын гарады і краіны.

— Адкуль ты такі выкапень узяўся? — Марта, сёрбаючы пітво, хіхікала.— Рыцар Мікола, каб доўга не філасофстваваць, знай — я не жанчына і на мужчыну не падобна. Скажы, не падобна?

— Які ж ты мужчына? І імя ў цябе жаноцкае.

— Я магло б звацца Ванькам. Ці ў гэтым справа? Чуў, што сказана: «Я магло б звацца» — бясполая я. Не верыш? Хочаш паглядзець?

«Людцы добрыя, тут не да жартаў. Паглядзець? Удумала. Усё жыццё марыў пра гэта! Шчасце якое! Каб ты правалілася з ім скрозь падлогу. А піва неблагое».

— Усяго ты баішся. З бояззю зачаты, з ёю і жывеш. А я вольная, як чайка над морам. Нічога мяне не звязвае, быццам таго юнака ў трупярні. Яшчэ газетчыкам завешся, сапраўдны газетчык толькі дзеля цікавасці на коленцах умольваў бы, каб паглядзець.

— Хопіць, нудна.

— Вой, характар прабіваецца ў Міколы.

— Марта, мне надакучыў твой Парыж.

— Пасядзі і вазьмі каля зэдліка яшчэ піва. Табе не хочацца пагуляць па вуліцах жамчужыны свету?

«Тое-сёе, магчыма, выцягну з яе. Што ж, пачакаем. Няхай дап'е хмельнае зелле. Усё ж цікава: што за свята? Вяселле — не вяселле. Маладыя (анекдот), жаніх са змружанымі вейкамі нейкі мой брат. Малайчына бацька. Толькі пры чым тут мой бацька? Не, штосьці не тое. Адно задавальненне — старая (нявеста) у сёстры не набіваецца. Навошта ўсё мне і дзеля чаго ва ўсім гэтым я?»

Сіроцкі дождж. Пустыя праломы пад'ездаў. Вецер выстуджвае косці. Марта прыціскаецца да мяне. Брыдка ад бясполай істоты. Толькі ж я госць... Іду. Калюжыны-панеўкі зліваюцца з асфальтам. Навакол чужыя дамы з чужымі пасцелямі, у іх нехта грэецца, нацягвае на ногі коўдру, глыбей хавае пад прапахлыя потам прасціны

галаву. Марта мяне не сагрэе. Зайздрошчу вароне ў яе кублe. Лацініца на кідкіх шыльдах.

— Калі хочаш жанчыну, я знайду. Есць знаёмыя хаты, на выбар, абы ахвота. Як ты? — Марта паглядзела ў твар з-пад капелюха.

— Позна ўжо.

— Дзівак, яны не ведаюць, што такое позна ці раненька. Ну?

— Пайшлі.

Завулак. Крутая лесвіца. Заседжаная мухамі лямпачка высвечвае брудныя, скрэмзаныя сцены колеру выцертых джынсаў. На пляцоўцы другога паверха ваніты. У куце горка пустых пазелянелых слоікаў.

«Людцы, ці я гэта іду да нейкай агульнай грэлкі?»

— Пачакай тут,— Марта спынілася каля хісткіх дзвярэй. Націснула бясколерны гузік званка. Цішыня. Яна не адымае пальца.

— Пачакай,— адрываю руку Марты ад маўклівай кнопкі.

— Як я буду гаварыць? Яна ж не разумее мовы.

— Навошта гаварыць? — ціскaнула плячыма Марта.— Зробіш сваё і пойдзеш. А ўрэшце, чаму яна не павінна разумець мовы? Гэта табе не Парыж і не Буэнас-Айрэс.

— Але як жа?

— Што «але», не сляпы, сам бачыў, як вярталіся ад французаў.

— Жартаўніца ты, бясполая. Здакучылі мне загадкі і недагаворкі.

Бязгучна расчыніліся дзверы. На парозе дзяўчо гадкоў чатырнаццаці. Светлыя кучаравыя валасы паўзакрываюць на грудзях выраз сукенкі. Стомленыя вочы.

— Кліент патрэбен? — голас Марты.

— Заходзьце.— Дзяўчо саступіла ў глыбіню пакоя.

Не разумею, як у поўнай цемры я разгледзеў сапраўдныя памеры кватэры. На сцяне ў раме карціна, на якой

б'юцца пеўні. Мяккія крэслы, часопісны столік колеру кавы, стаптаны дыван на падлозе. Рассцелены ложак яшчэ захоўвае цяпло дзяўчыны. Я гэта адчуваю рукамі, тварам. Страшна хочацца легчы ў яго і забыцца, забыцца на ўсё: сённяшні вечар, капялюшнае вяселле з казою, брата-юнака са змружанымі вейкамі, бясполую Марту, якая стаіць і наважваецца нешта сказаць.

— Пачакаю на лесвіцы,— Марта выйшла.

— Табе вельмі хочацца...— дзяўчына нарэшце запаліла начнік.— Можа, лепш даць адрас паветранай гімнасткі з нашага цырка? Мне сёння цяжка,— яна села на край ложка, усцягнула на ногі коўдру.— За поўдзень на аперацыйным стале памёр сябар. Яго вязлі на каталцы, прыкрытым да барады прасцінай. Ён усміхаўся. А кажуць, мёртвыя не смяюцца. У яго ніколі не было зморшчын на лбе, адкуль узяліся зморшчыны? — дзяўчына заплакала, глытаючы слёзы, бачком легла ў ложак.

— Не было ў яго зморшчын. Усмешка і смерць — абсурд. Табе не трэба карціна, вось гэта яго карціна з бойкай пеўняў? І мне яна без яго не трэба. Ён ніколі не асуджаў мяне, хоць і спала з яго сябрамі. Распранайся, чаго там? Ён у трупярні, а жыццё бяжыць...

У мяне сціснулася нешта ўсярэдзіне, танюткімі раўчукамі пабег з-пад пахаў пот. Дзяўчына падалася агрызкам яблыка на гарадской плошчы каля драматычнага тэатра. Пабач — сметніца. Я стаю голы, і на мяне ўсе паказваюць пальцамі.

— Давай адрас гімнасткі, хоць яна і паветраная,— спрабую ўсміхнуцца. Адчуваю сябе кашчавым сабакам, які вылізвае бакі з касмылямі поўсці. Не, не магу. Гэта будзе не дзяўчына, а лялька з халодным целам. Бойка пеўняў...

— Дзякую,— паперка з нататніка ў руцэ.— Добрай ночы. Спі і прабач.— Дзяўчына нічога не адказала.

Адчыніў дзверы. Марта стаяла да мяне спіной і вугалем пісала на пабеленай сцяне:

*«Прызнаюся вам, што я шмат грашыла, у тым мая віна, мая вялікая віна. Я адчуваю сябе старой разбэшчвальніцай. Каюся ў тым, што спакусіла тысячы юнцоў. Я ва ўладзе бога цемры і пазбаўлена за гэта жаноцкага лона. Мне наканавана хадзіць бясполай. Мой вобраз вечнай разбуральніцы з'яўляецца там, дзе кроў і ахвяры...»*

— Псаваць сцены нядобра.

Марта павярнулася. Крывая ўсмешка выпусціла з-пад вуснаў адзіны зуб.

— Практыкуюся ў прозе. Як яно?

— Смешна і страшна.

— Але чаму так хутка?

— На большае не стае сілы.

— З выгляду не скажаш пра цябе. Але парушаны законы часу. Ты адчуваеш яго межы?

— Адчуваю.

— Хлусіш. Не гуляй са мною ў хованкі.

— Згодны. Вечар як вечнасць. Я не адчуваю часу. Марта, на шчырасць — шчырасць. Навошта я табе і жахліваму вяселлю ў закінутай хаце? Якая мая роля ў гэтым?

— Кроў на скроні не ціснe? Дзяўчына вартая.

— І ўсё ж, Марта?

— Пайшлі. Дарогай апавяду.

Дождж не сціхаў. Слупы святла ад ліхтароў праймалі цемру. А нідзе ні людзей, ні машын. Пусты горад. Вуліцы вузкія, нізкія дахі.

— Прачытанае табою на сцяне — праўда. Не пужайся, Мікола, зла не ўчыню. Ты хочаш знаць, куды ты трапіў і ролю сваю ва ўсім гэтым. Глядзі ж,— Марта спрытным рухам зняла капялюх. Разам з ім зняліся валасы. Голая, з халодным бляскам, як медны макацёр, галава страшна змяніла твар бясполай.

— Прыгожа? Хутка вырастуць рожкі. І з прыслужніц я перайду ў эліту,— Марта надзела капя-

люх.— Мне шэнціць, не тое што старой на куце. І я буду вяселле спраўляць. Зноў вернецца ўсё жаноцкае да мяне. Выберу ўлюбёнца сярод вас, людзей. Раз у 25 гадоў дазваляецца нам выхад у свет. Ноччу, апошнім днём кастрычніка выкрадаем цнатліва чыстых хлопцаў, але толькі тых, хто мае братоў па часу нараджэння.

У сённяшняга жаніха ты брат. І ты павінен збудзіць яго, кранууўшыся кубкамі з пітвом. Толькі ты, і ніхто іншы. І ты гэта зробіш. Як толькі ён расплюшчыць вочы — ён наш. Наш!

Тэлефонны званок, як аплявуха, устрапянуў Марту, яна падскочыла да таксафона.

— Мы былі ў кіно, зараз ідзём. Хлусіць не ўмею.— Праз яе суцяшальны голас імкнуся асэнсаваць толькі што пачутае. Думкі разбягаюцца, лопаюцца, як мыльныя бурбалкі ў пральнай машыне «Рыга».

— У свеце няма нічога немагчымага, ты згодны?

— Паслаць бы мне ўсіх вас на... далёка-далёка. Я іду дамоў, Марта. Кіно даглядай сама.

— І гэтым табе не выратаваць брата. Лёс вырашаны ў яго.

— Калі мне ён брат, то ты мая цешча.

— Тым больш — няма пра што спрачацца. І чыста па-сяброўску — не пі з кубка. Усё, хопіць, надакучыў. Сам чуў тэлефонную гамонку.

Павінны быць на месцы.

Не паспелі зрабіць і трох крокаў па цёмнай галерэі дамоў, як апынуліся ў хаце з вяселлем. Капелюхі танчылі. Кабета, якая прывяла мяне ■ вуліцы, падкурчыўшы ногі, драмала каля парога.

На куце так і стаялі старая з юнаком, кубкі ў працягнутых руках крыху схіліліся набок.

Мяне апанавала злосць, яна вырывалася з грудзей, захрасала ў горле. Чакаў, што вось-вось выльецца ў загаджаны пакой з капелюховай нечысцю і гора-братам. Слімак. Не можа адплюшчыць вочы, а мне — губі яго!

Брат, цьфу на цябе! Цнатлівец! Выкапалі аднекуль. Раз брат-парнік, вучыўся б у мяне. І не быць бы нам у гэтай стайні. Хопіць. Усяму ёсць мера.

— Марта, усаджвай іх за сталы. Я хачу спаць, і ў сем гадзін на працу.

Капелюхі расселіся. Бясполая ўціснулася поплеч.

— Здароўе маладых. Здароўе жаніха! — зараўла застоліца.

Не чакаючы нічых слоў да мяне, узняўся, схапіў сулепшы кубак і з сілаю, не гледзячы ў твар хлопцу, сутыкнуўся кубкамі.

Усе зараўлі. Патухла святло ад свечак. Нейкае імгненне нічога не бачыў.

Ачуняў на прыпынку. Бязлюдна. Спераду пад'ехаў тралейбус. Заскочыў — пусты салон. Апускаюся на апошняе сядзенне. Імгненне і — прарываюцца слёзы. Плачу адчайна, наўзрыд, не саромеючыся. Тралейбус набірае хуткасць, мінаюць дрэвы, слупы, сонныя дамы з рэдкім святлом у вокнах. А я ніяк не магу супакоіцца, б'е дрыготка і трасуцца рукі.

# Судны дзень

— I распасцёр Ён рукі. I вочы ягоныя палалі агнём. Кожны ўздых распіраў грудзі, а сонца засціла пылавая імгла. I глядзеў Ён у сусвет. I бачыў бязмежжа. На кожным метры разварочвалася зямля, расколваліся курганы і наплываў з расколін збуджаны свет нябожчыкаў. Лязгат і скрогат касцей, гамана-гудзенне зліваліся ў адно, і не вырвацца з гэтага нікому. I запоўнілася зямля людам незлічоным. I не шукалі бацькі дзяцей сваіх, брат не пазнаваў брата. I хмары крумкачоў насілі дзяцей у дзюбах. I цемрадзь гэтая паўзла, кацілася да берага вогненнай ракі. Вада кіпела, полымя паглынала неба, і не было яго. Суцэльнае месіва, без пачатку і без канца. Людзі — гліна. I толькі Ён адзін стаяў над усімі, толькі Ён бачыў усіх і кожнага.

Праз вогненную раку ляжала каса. I не памыкаўся ніхто першы прайсці па ёй. А крумкачы кідалі ў полымя дзяцей. I ніхто не галасіў, ніхто клёнам не кляў забойцаў: два разы не заб'еш.

I першы ступіў на касу па знаку Ягонай рукі. I зрабіў крок. Нагу занёс на другі, ды хіснулася каса, і з'ела яго полымя. Так прыйшоў на зямлю судны дзень. Людзі ішлі і гінулі, гінулі, аж распаўнела рака. I не было ніводнага чалавека, які апынуўся б на другім беразе. I цямнелі вочы ў Яго, і апускаліся рукі. I мовіў Ён: «Параджэнне рук маіх, мой боль і надзея, ці ж не мной пушчаныя вы ў свет? Ці ж не пад маімі далонямі ганьбілі вы мяне? I ніводнага чыстага няма сярод вас. Ператварайцеся ж у полымя, будзьце вечна чыстымі. Ніхто

з вас не меў душы. Яна мёртвай нараджалася ў вас. Праклінаю я род ваш, і плачу я над вамі. О людзі, о род ваш нікчэмны! Хай згіне ён разам з зямлёю, нябёсамі і сонцам...

І прыйшла вечная ноч...

Гарына села на зэдлік, спінаю да мяне. Яе рукі лёгенька ўздрыгвалі над спісанымі лістамі.

— Ведаеш,— павярнулася яна тварам,— ведаеш, я баюся жыць. Я гэта напісала ноччу. Хоць не, я гэта сніла. Сядзела каля Рамуся і гаварыла яму казку. Ён заснуў, а я гаварыла.

Ты бачыў мой альбом з Марачкіным? Не паказвала? Гэта мой улюбёны мастак. І вось сярод ночы я перабірала ягоныя рэпрадукцыі, павыдзіраныя з часопісаў. Якія там сюжэты і фарбы! Нешта ў іх не ад нашага свету. І я пачала пісаць. Я спала і пісала. Ты не бойся. Рамусь будзе зваць цябе бацькам. Ці хочаш ты гэтага?

Слухай, Антось, а праўда, калі пачынаюць хутка расці пазногці, то смерць падыходзіць да парога? У мяне жахліва хутка растуць пазногці.

Гарына змоўкла. Адклала паперы на чырвоны настольнік, выцягла цыгарэты, запаліла. Праз воблачка дыму ўтрапёна глядзела на мяне. Я ўсміхнуўся, Гарына не мірганула.

«Ну і гульня! Яна не падобная да сябе. Хоць чаму? Нічога дзіўнага. Яна ж можа гадзінамі сядзець на лаўцы ў скверы і глядзець на трэснуты камель клёна. Можа паехаць за горад, на балота, і сцерагчы там ластавак, якія набіраюць у дзюбкі клейкі глей для гнёздаў і знікаюць невядома куды. Гарына можа прыкмеціць тую нябачную мяжу, калі ў кастрычніцкі дзень на змену вечару спаўзае ноч. Яна шкадуе юнака на аўтобусным супынку. Угаворвае, выцірае слёзы і вядзе да сябе ў кватэру. Ёй шкада гэтага хлопца. Яго пакінула дзяўчына. Хто ж пашкадуе яго, калі не Гарына. А назаўтра яна распавядае пра гэта мне. Гарына можа... Можа тое, чаго і не можа.

Учора ўначы яна бачыла канец свету. А мне снілася разбітая кварта. Пры чым тут мая кварта і канец свету? А пры чым я і Гарына, ейны маленькі Рамусь?»

— Колькі часу? — Гарына гасіць цыгарэту ў вышчарбленым гліняным чарапку, абтрасае попел з чырвоных нагавіц.

— Палова чацвёртай.— Хаваю ў кішэню гадзіннік на ланцужку.

— Ужо? Ты мяне правядзеш?

— Навошта пытацца? Ты збіраешся сёння ехаць?

— Так.

— А навошта прыязджала?

— Нінавошта. Хацела распавесці табе свой сон.

Гарына націснула на клыпажок магнітафона.

— Што гэта, Антось? «Мроя» ці «Пошук»?

Я маўчу.

— А ці верыш ты ў будучыню? У нашую літаратуру? Я, здаецца, пачала губляць веру. Днямі чытала аповяд твайго знаёмца. Мне было сорамна. Чытала яго, а думала пра цябе. Навошта так пісаць, Антось? Ты скажы яму. Дзеля грошай не трэба. Хай лепш займаецца сутэнёрствам. У яго атрымаецца. Але,— Гарына змоўкла. Гэта, мусіць, новы стыль гульні. Для пачатку няблага. Літаратура і сутэнёрства, нешта ў гэтым ёсць. Малайчына. Гульня дык гульня. Працягнем.

— Кожны дзень я выходжу з дому, пад вечар, калі дзень студзіцца змрокам. Хвіліну пачакаю,— Гарына слухае, удумваецца.— Іду па сваім зачараваным коле. І хачу і не магу з яго збочыць. Тратуар, каштаны, вылузнутыя святлом у цемру вокны. Ведаю кожны свой крок. Я прайшоў бы гэты шлях сляпым. Здаецца, адчуваю рукамі, усім целам той дрот, які цягне мяне да моста. Там, унізе, рэчка. Толькі не тая, вогненная, а звычайная, з цягучай чорнай вадой. І кожны раз я стаю, трымаюся за парэнчы. Мне карціць скочыць уніз. І кожны раз я адкладаю на наступны прыход. Але ж так не

можа цягнуцца заўсёды. І таму трэба адарваць рукі ад стылага жалеза, адштурхнуцца і ляцець, заграбаючы пад сябе паветра. Толькі не трэба думаць. Калі думаеш, становіцца шкода вопраткі, якая вымакне. Адзін раз усё ж пералез цераз парэнчы, адняў руку, хацеў расчапіць пальцы другой, ды ўспомніў пра нявыключаны прас... Я ж кажу, галоўнае, не думаць.

— Не смешна,— Гарына расшпіліла льняную ў кветках кайстру.— Вось табе лекі, яны надаюць рашучасці. Выпі некалькі кропель перад шпацырам.

— Пайшлі. Ужо час. Набуду квіток, а там — хвіля, другая, і цягнік.

— А мо застанешся?

... Гарына ішла моўчкі. Яе бязважкая далонь трымала мяне пад руку. Вецер круціў на асфальце параграфы пылу.

Імкліва падышоў цягнік.

— Ну, што ж, бывай,— Гарына падала руку.— Ты нічога не зразумеў, Антось. А я спадзявалася. Толькі... Ды што гаварыць. Але ўсё ж, відаць, скажу. Не магу не сказаць. Ты хоць і маленькая, але часцінка мяне. Вось...

Цягнік нервова тузануўся.

— Павер, Антось, кожнаму ў жыцці мусіць сасніцца судны дзень, апошні дзень чалавецтва.

Гэта не гульня, пра якую ты думаў. І Рамусь ніколі не назаве і не назваў бы цябе бацькам.

Твой сон пра судны дзень яшчэ наперадзе.

# Ружовая варона

Снежань. Кляты снежань. Прастуджаныя драціны правадоў на слупах. Амаль замерзлая рэчка з вольнай стромаю, па ёй напорліва і пругка перакатваецца вада. Гнёткі мост і бясконцыя цягнікі. Парк. Правінцыяльны недагледжаны парк. Лодкі прыціснуліся да зябкага пляжнага берага.

Сёння апошні дзень жыцця. Майго жыцця. Мне не шкада бяздоннага неба, не хочацца сагрэць рукі вунь той дзяўчынцы ў чырвонай накідцы-хустачцы. Яна наважваецца адламіць некалькі пруткоў лазы. Навошта?

На сценах летняй танцавальнай пляцоўкі фарбай напісана: «Обшчы туалет».

А я ўсё іду. Куды? Навошта? Прыкідваюся. Добра ведаю, куды і навошта. У кайстры булькае пляшка гарэлкі. Узяў са стала на памінках. Там я піць не стаў. Не тое што няёмка. Не хацеў бачыць твары, якіх не ведаю. Але якія ведалі яе. Так, я нябожчык. Мо каму і жахліва, а мне — не, не. Яе рукі скрыжаваны на застылых грудзях. А мае напраўляюць кайстру, якая спаўзае з пляча.

У Карыны былі пяшчотныя і лёгкія рукі. Адчувальныя рукі. Былі...

«Успамінай мяне. Успамінай часта»,— так яна прасіла ў тамбуры цягніка. На супынках выходзілі і заходзілі людзі. А Карына дрыготкімі пальцамі трымала цыгарэту. Я стаміўся даставаць з кішэні запалкі.

Снежань без снегу, я — без душы.

Бераг. Вышчарбленыя, няроўныя платы. Падраныя

газеты на высахлых былінах бессмяротніку. Бессмяротніку. Не, усё не тое.

А вось і неперакуленая лодка. Зялёная лаўка ў ёй. Мой супынак. Навошта плакаць? Кажуць, тады лягчэй. Мо каму і лягчэй.

Я плачу па табе, Карына. Мне не сорамна. А памятаеш, яшчэ ў студэнцтве, калі прапанаваў табе замужжа, ты ўсміхнулася і сур'ёзна сказала: «Тады мы згубім каханне».

«Чаму?» — дапытваўся я. Ты ж прасіла дадумацца самому. І да сённяшняга дня я не дадумаўся.

Расшпіленая кайстра. Усё, што ў ёй, кладу насупраць, каля сваіх ног. Пяць цукерак, засохлы кавалак хлеба і празрыстую, як вада ў крыніцы, гарэлку ў пляшцы.

Чым багаты. Я клічу цябе, Карына, да майго стала. Чаму б і не прыйсці — нябожчыцы да нябожчыка. Не хвалюйся, нашай гамонкі не парушаць міліцыянты. Яны ў такія месцы не ходзяць. Хоць чаму я ўгаворваю. Ты ж ніколі не баялася чужых асуджальных позіркаў, і на калючае слова ў цябе заўсёды быў адказ...

Ты памятаеш нашу практыку на трэцім курсе? Вёска. Недаспелае жыта. Рэдкі бярэзнік з густой травойверасам. Купленая ў мясцовай краме марожаная рыба і плаўленыя сыркі. Мы ўцяклі ад усіх і пяклі рыбу і сырам у фользе. Смешна? Так. Але ж мы рваліся з путаў, якія накідвалі на нас маралісты...

Пячэ гарэлка, і не адчуваецца смак цукерак. Ты маўчыш, Карына, як зазвычай маўчаў і я. Ведаеш, сёння некалькі разоў бачыў у натоўпе на вуліцы нямоглых старых з клункамі. І кожны раз здавалася, што сярод іх — мая маці. Толькі чаму клункі? Нейкі нафталінавы стэрэатып, калі вёска — значыць, клункі. Не, зноў не тое. Прабач. Я баюся згубіць танюткую нітку, якая звязвае нас, утрымлівае адно каля аднаго. Я без цябе жывы нябожчык. Ты зразумей гэта, як зразумеў я.

Хлеб дрэнна жуецца, хоць і размочаны гарэлкай. Мне хочацца кавы, прыгатаванае табою, Карына. Я б зараз расклаў тут цяпельца. А цыгарэты сырыя і даўкі дым. І яшчэ — прачытаў нарэшце Картасара, якога ты мне раіла. Ёсць чым захапляцца, цяпер разумею цябе. Не хмялею, а так гэтага хочацца.

— Прысесці можна? Вельмі рамантычна глядзішся.

— Пытай дазволу ў Карыны.

— Якой Карыны?

— Не бачыш — насупраць сядзіць?

Глядзі, Карына, як яна няўцямна лыпае вачыма. І адкуль толькі з'явілася? Ну як? Дазволім ёй? Усё ж госця, хоць нечаканая і няпрошаная. Відаць, няшчасная, калі не пасаромелася і прыйшла да нас, нябожчыкаў. Мо сказаць ёй, што мы нябожчыкі, і няхай ідзе сваім шляхам. А?

— Не бачу. Дык можна сесці?

— Сядай. Толькі ведай, што мы з Карынай нябожчыкі.

— Добры нябожчык, калі гарэлку з рыльца п'еш.

Нічога яна не зразумее. Ды і навошта ёй гэта? Вось яна ладкуецца побач з табою, Карына. Ставіць сваю поліэтыленавую торбу на наш стол. Нечаму ўсміхаецца.

— Чаго маўчыш і не частуеш, кавалер? Ці табе аднаму весялей?

— Ужо ж папярэджваў, што я не адзін. А, урэшце, што бачыш — тым і частуйся. Праўда, Карына?

Госця маленькімі глыткамі каўтае гарэлку. У яе прыгожа атрымліваецца.

Вось яна ставіць пляшку, дастае са сваёй торбы нейкі напой без этыкеткі, здзірае корак, запівае. Не кранае цукерак.

Я выціраю памаду на рыльцы бутэлькі і таксама п'ю. Гэта недарэчна, але я імкнуся піць такімі самымі глыткамі, як і гэтая дзяўчына.

— Ты не бачыў, як ляцела тут чорная варона з ру-

жовымі крыламі? У лапах яна несла блакітную стужку. Ляцела якраз у твой бок, мо да цябе.

Карына, гэтая дзяўчына смяецца з мяне. Думае, што я шыз ці вельмі п'яны. Што адказаць ёй?

— Не, не бачыў.

— І я не бачыла. А гаварылі, што ляцела такая. Ну што, дап'ём, каб не выпаралася на марозе. Ты не хвалюйся, у мяне ёсць яшчэ. Чаго маўчыш, нябожчык?

Мы п'ём. П'ём доўга і моўчкі.

— У цябе прыгожыя вочы, нябожчык.

Гэта яна мне, Карына. Пра мае вочы.

— Не ад цябе першай чую.

— А чаму табе не пахваліць мае валасы, постаць?

— Дрэнна іх бачу. Калі хочаш ухвалення, здымі паліто і шапку.

Яна здымае і хвіліну стаіць.

— У Карыны лепш.

— Мо яно і так, не бачыла. Але ж і ў мяне...

Яна зашпільвае гузікі.

— Ты куды зараз ідзеш, нябожчык? Цямнее...

— Дурнаватае пытанне. Куды ж ісці нябожчыкам? Ідзём з Карынай на спачын. Ці як вы, жывыя, кажаце,— на той свет.

— А мо лепш пойдзем да мяне? Тут недалёка. Пасядзім, пагамонім. Ты цікавае стварэнне.

— А як Карына?

— Карына пачакае тут. Ты забярэш яе пазней. Думаю, яна не пакрыўдзіцца. Спытай.

Падымаю вочы ад нашага спусцелага стала...
Але Карыны ўжо няма. Няма. Пустое месца.
Шарэе. Узмацняецца вецер.

— Глядзі, вунь паляцела варона з ружовымі крыламі. Вунь яна, пасярэдзіне рэчкі, над незамёрзлай вадой. Бачыш?

— Бачу. То Карына.

— Хай будзе так. Пайшлі.

# Мацвеева лазня

— Любка, а Люб? Ну, ці чуеш ты мяне? Не маўчы, выйдзі ж, толькі слоўца скажы, слова, і ўсё.

Мішка пазногцем шкрабануў па чорнай шыбіне акна.

— Ведаю, што чуеш мяне. Выйдзі, не крыўдзіся. Я тады п'яны быў, прабач. А п'янаму, знаеш сама, у галаву што хочаш узбрыдзе. Не трэба мне тая Пярвусцінчыха. Люб, я табе кажу, што ўсё — піць кінуў.

У хаце цішыня, як і навокал. Ціха і пуста. Ноч. Мішка тырчыць у гародчыку пад Любіным акном, топчацца, стараецца не зламаць кветкі, якіх процьма панасаджана вакол. Мішка адважыўся, пастукаў мацней. Гук, здалося, адарваўся ад шкла і патануў у яме хаціны. Хлопец счакаў крышку, і зноў костачкі пальцаў заскакалі па шыбіне.

— А каго ж там хвароба носіць? — выгукнула хата.

Мішка прысеў пад акном, прыхінуўся да сцяны.

— Хто там шкрабаецца? Спакою ад вас няма, паўночнікі!

«Цётка Каця»,— адзначыў хлопец.

— Хто стукае? Зноў жаніхі? Угалоння на вас няма, спаць ідзіце. Любка ў Вераніцы пайшла, да дзядзькі. І не грукайце, цягніцеся дамоў.

Хата заціхла. Мішка пайшоў не па вуліцы, а праз лужок, да Мацвеевай лазні, ссунутай часам і з'едзенай зямлёй. Чорнай, гнілой, закінутай лазні, у якой снуюць кросны павукі, барадамі вісіць пыл і дзесяцігадовая рыпучая сажа на мшыстых высахлых пракладках між бярвенняў. Ноч. Пустая летняя ноч, з усім багаццем

і беднасцю, з сонным жыццём. Мішка піхнуў нагой напаўгнілы цельпушок, сеў на яго, слонячыся спіной да сцяны лазні.

— Во так яно, во так,— мармытаў сам сабе. Нечакана ўспомнілася тое, што расказала яму Люба.

Ішла Кацярына Другая, не ішла, а плыла. Не жанчына, а лебедзь. Сонца. І прыгожае, і цёплае, блізкае, жаданае, а паспрабуй дацягніся, дакраніся. Не тут-то было. Пшык, ага.

Стаяў жа такі салдат-вар'ят, як я, Мішка. «Ух, жанчына, мне б яе на...» — вырвалася, не забэрсаеш рот, выпырхнула. А яе вушы, здаецца, і няма, не бачна іх, ды ловяць усё, забрыталі і гэта яны. Прайшла, праплыла, як быццам не счуўшы. Толькі клічуць праз хвіліну-другую да Кацярыны мяне, Мішку, салдата-вар'ята з языком-памялом. І стаіць ён, я, прад яе светлымі вачыма, дыхнуць няма чым. Ставіць яе вялікасць тры келіхі перад салдатам — залаты, сярэбраны і просты. Налівае кожны сваімі рукамі поўна-поўненька з адной бутэлькі.

— Пі,— загадвае яна мне, салдату. Выпіў я, ці ён (а ці не ўсё роўна цяпер), з залатога.— Пі,— загадвае яна далей.

Выпіў з сярэбранага, затым — з простага кубачка.

— Ну як? — пытаецца Кацярына Другая.— З якога смачнейшая гарэлка, гавары, толькі праўду.— Пастаяў, падумаў і гаворыць: «З усіх аднолькавая».

— То-та яно, салдацік,— усміхнулася Кацярына,— во так і жанчыны, усе яны аднолькавыя...

«Усе яны аднолькавыя...»

Мішка закурыў, прагна зацягнуўся.

«Любка, Любка, Любачка мая, калі любіш, пацалуй тры разы міня».

Так, на, выкусі, пацалавала ўжо, і не тры, а трыста тры дулі пад нос. Дон-жуан — Мішка, хы, як прыкра і непрыемна. Захацеў лягчэйшую, каб сюды-туды і — у пасцель. Пярвусцінчыха. Смешная недарэчнасць, яко-

га чорта яна Пярвусцінчыха, хутчэй — нягодная кабылка.

Злосць адыходзіла пакрысе, незаўважна, паколвала, ціхенька суцішвалася, млява аддавалася цяплом.

«Згледзеў сабе кабылку, прыручай, другой з-за спіны скарынку не працягвай. Першая ўбрыкне, другая пальцы адкусіць». Так вось гаварыў Мацвей. Гаварыць гаварыў, сам дзвюх жонак пераджыў, але лазня перастаяла яго. Згніла, струпехла, але во стаіць, гарбее. Казалі, што раней, пасля таго як памыюцца людзі, пачынаюць парыцца чэрці. От паглядзець бы на хвастатых.

Мішка сеў вальней, выпрастаў ногі, галавой лацвей прымасціўся да выемкі між бярвенняў. Зноў успомнілася, але ўжо не Любіна, а бабуліна. Быў час, казала яна, хочаш — прадавай душу, узамен любая дзяўчына сама прыбяжыць, а не захоча — прыгоняць хвастатыя. «Бя-я-я!» — морда з-пад печы, свіны пятак-нос, шалёныя вочы, і красуня, якая гадамі сушыла,— перад табой. Эх-ха-ха, быў час, была бабуля, вечары здарэнняў і Любка, такая ж дураслівая, як і сам, на печы, каля боку. Пад коўдру галовы хавалі, а бабулі расказвалі, расказвалі — вечары напралёт.

«Ох і была ў Петрака парка коней, не коней, а птушак, лётма ляціць вазок. У плуг паставіш — і там баразну як струну вядуць. Толькі адным раннем бачыць Пятрок — заплецены грывы і хвасты ў яго конікаў. Так ладна і гожа, што другой дзеўцы-векавусе павучыцца трэба. І коні такія вясёлыя, што, глядзі, як на вяселлі скакаць пойдуць. Расплёў іх Пятрок, дзень працавалі. Назаўтра зноў тое. І тыдзень і другі так. Хацеў ён ужо плюнуць, не чапаць, заплеценыя дык заплеценыя, але лета, сляпні, авадні, мухі — уся гэта ненажэрная заедзь да касцей конікаў згрызе. Хто пляце хвасты ды грывы, Пятрок здагадваўся — дамавы гаспадар. І да яго ў некаторых такое было. Толькі прыпёрла яму паглядзець, калі гэта дамавы робіць, ды ці дамавы гэта.

Тая ноч была хоць садзіся і вышывай: зоры пляценкамі на небе, месяц, што гусіны жаўток, і такая лёгкая, неабдымная ноч, што душа спявае. Дарогі, сцежкі — быццам выбеленым палатном высланы, раса на траве буйненная, і пах, аж галава кружыцца, як у нявесты перад першай шлюбнай ноччу.

Схаваўся Пятрок з дзягаю ў конскім стойле. Ці доўга ён чакаў, ці не — хто яго ведае. Толькі бачыць: прыходзіць белы дзядок, увесь быццам з чаромхавай квецені і туману. Коні да яго і хінуць, лашчацца, і ён іх расчэсвае, гладзіць. Што тут тахнула Петраку ў галаву, вазьмі ён і сцебані дзягай па дамавому. Заржалі коні, не стала дзядка. На другі дзень паехаў Пятрок у лес і ўспароўся вокам на галіну, выцекла яно. Відаць, выбіў ён дзядку вока, той і аддзячыў Петрака той жа капейчынай. Так вось яно, так...»

Мацвеева лазня старая. Раней як? На вёску адна, добра, калі дзве лазні. Выпаляць — і тады гуртам мыюцца. Каля гэтай лазні Мішка з Любай сустракаліся другі год. Вакол нікога, усе недзе каля дамоў, на лаўках, а тут ціха і лясок шапоча, купкі палыну і піжмы.

Усяго гэтага хлопцу стала шкода. Шкода далёкіх вечароў, дзядка, Любу, гэтую аселую лазню. Шкода кацяняці, пакінутага некалі ў старой, забытай хаце. Мішка тады прачнуўся і плакаў. І цяпер хацелася плакаць, плакаць у пашарпаныя свае далоні. Шкода, шкода кацяняці.

А хутка Іван Купала...

Іван Купала. Як яго чакаюць, дзень да дня, ноч за ноччу, па клецях ды мшэнях*, кладоўках ды хлявах. Масляць тлушчам, смятанай вядзьмаркі доўгія чорныя кудлы, вычэсваюць луску, пасыпаюць парогі ў хату, вароты, каб не пераступіла другая. Самі цешацца, адгульваюць ґод. Баяцца вядзьмаркі адна адной: слабей-

---

* Пограб.

шая — мацнейшую, дабрэйшая — зласнейшую, бяззубая — ікластую. Але ўсё роўна разам налятаюць, хеўрай душаць выбранніка — ахвяру. Наперабой абмазваюцца крывёю, жлукцяць яе, пякуча-гарачую, з дурманнай парай. Блізка круцяцца, вучацца маладзейшыя, чакаюць, мо ім кропелька перападзе. Налятаюць, душаць, п'юць кроўку разам, а не бачаць адна адну, не хочуць бачыць. Здаволіўшыся, разбягаюцца хто кім, а найбольш — чорнымі катамі. І палююць ужо на іх, ох як палююць людзі. З сякерамі ды дубцамі на двары, з пукамі крапівы-пякучкі каля брам і сеняў. Тут ужо сядзі, кіса, на печы, вусы за парог не сунь. Там не глядзяць, сапраўды ты кот ці вядзьмак.

На Купалле часта бывае: месяц во толькі-толькі халодным бяльмом блішчэў, а тут шусь, і пад хмару. Цемень. Рып падваротні.

А то казалі... Мікіціха сядзела з касой, вышчарбленая жалезная пятка загнута ўбок, мыс адточаны, наклёпаны, нібы раннем з гэтай касой на луг, у росныя травы, у пахучае зелле. Праз цемру два гарачыя вугалі голкамі ў Мікіціху ўеліся. Баба не разгубілася, як тут і што, не першы год пад хлеўчуком цялушку сцерагла. Ката не відна, адны вочы. Мя-ў-ў і — скок пад ногі, паўз спадніцы. Мікіціха, не бачачы нічога, тахнула жалезам па зямлі.

— А-а-а-а!!! — страшным болем голас сцебануў ноч.

— У-га-ы-ы-ы,— неслася над вёскай. Мікіціха непрытомнай спаўзла пад сцяну.

Ку-ка-рэ-ку, кукарэку! Хмары няма. Шарэе пад ранне. Паднялася Мікіціха. Глядзіць, ляжыць адрэзаная рука, не то жаночая, не то мужчынская, а мо і кацiная. Ручаёчкам кроў да варот на вуліцу. Працёрла вочы Мікіціха — нічога няма. Пазней прыбегла Чорная Соня са слязамі, з галашэннем: «А Ануфрыеўна, а даражэнькая, руку адсекла,— і кульцёй махае,— дровы калола і па руцэ. Прынясі чым заліць». Мікіціха з хаты ў клець,

Чорная Сонька — да хлява, пакруцілася і ходу. Во табе і кот.

...Колькі ва ўсім гэтым роднага, далёкага мо ў часе ды блізкага сэрцу. Люба і зараз мае ахвоту слухаць страшныя гісторыі, якія ўчыняліся раней з некім. І верыць, верыць падсвядома. Слухае сціпіана, не дыхне, учэпіцца за руку і ўся трымціць як ліст асінавы.

Рып. Хіснуліся дзверы Мацвеевай лазні. Месяц асвятліў напаўразрытую падлогу, далей паўз сцяну віднеліся стаякі ад палка.

«Ча-ча-чах, хах, угаа! Яшчэ, яшчэ давай. Давай ніжэй, ніжэй, о так. Кінь душку, не шкадуй, лі паўз сцяны. О, пайшло, пайшло, ямчэй прайдзі, яшчэ разок па ім, а то ломіць, нядобрая яго крый. Ух, венічак ходкі, дубовы».

— Сплю я ці не сплю? — Мішка прычыніў расчэпленыя дзверы, уткнуў трэску ў чэп.— Пляцецца нешта...

Вось ужо гэта жыццё, каму гора і слёзы, а другому, што тут граха таіць, надзея і радасць. Ці даўно толькі здалёку глядзеў на Любу? Крышку больш года. Глядзеў на Любу і Валодзю. Страшэнна ненавідзеў яго, як самага клятага ворага. Не трэба віляць, відаць,— не пабойваўся, а баяўся. Кінуўся б укусіў, ды зубы кволенькія, малочныя, разцы не адточаны. А Валодзька ў-га-га хлопец. Дзесь па морах-акіянах хадзіў, і грошай як семак у кішэнях. Куды ж такому, як я, да Валодзі? Любка да Валодзі, а я... Хадзіў ты кругамі, грыз локці свае. Ды знайшлі, нагналі. Гадзін дванаццаць ужо было, стук у даверы напорлівы, часты.

— Хто там? — пытае Валодзева маці.

— Сябра Валодзеў,— з-за дзвярэй голас.

Дзверы адчынены. Стаіць хлопец.

— Валодзя дома?

— А дзе ж яму быць, во толькі прыйшоў. Праходзьце.

— Не, не трэба, клікніце яго сюды. На хвілінку.

Пазвала. Праз хвілін пяць нейкі грукат у сенцах. Як нехта паваліўся. Выскачыла цётка Таня, Валодзева маці, а сын — сын на падлозе ляжыць.

Ссівела цётка Таня, Валодзю пахаваўшы.

А Люба...

Мішка неяк няёмка сябе адчуў, быццам крыкнуў гэта ўголас пры людзях.

Без Любы яму ні-ні. Што тыя Пярвусцінчыхі, дурненькая ты, мая Любуня.

Вось і запелі пеўні. Клікаюць ранне, праганяюць ноч, чорныя здані нечысці...

...Цяжка лажацца снапы. Трашчаць жытнёвыя цабылкі пад сярпом, сыплецца зернейка, сыплецца. Пот кроплямі полечка мочыць. А ні разагнуцца, ні агледзецца, жывой сцяной збожжа стаіць. Паліць сонца, высушвае спіну. Кругом жа, на другіх палосачках, дажынкі праўляюць, сяляне снапы ў гумны возяць, песня, што жаўранак вясной у небе, звініць. Толькі трыма доўгімі паясамі трох гаспадароў жыта не дажата, снапы не звезены. Толькі на трох палосках пот разбаўляецца слязамі. Ужо раз'ехаліся, разышліся суседзі з поля, і сонца за пыльную дарогу садзіцца, а тры жанчыны жнуць, вязьмом снапы вяжуць. Разагнулася першая, разагнулася другая, трэцяя ўпоравень з імі стала.

— О, Божа, калі ты ёсць, вярні мужоў нашых, кармільцаў, дзяцей нашых, дай жыць нам разам?!

У адзін голас узмалілі жанкі, рукі цягнуць увысь да маладзіка.

А вакол цішыня. Глыбокая цішыня, санлівая — ні гуку. Не вытрымала, упала на калені першая з іх.

— Праклінаю цябе, бяздушны, праклінаю цябе, Усявышні, вярнуў другіх з вайны, за што ж забраў ты майго, за што? Я не грашней за іншых. Бяздушны, глухі і бяздушны. То лепш д'яблу, чорту нячыстаму душу прадаць.

І другая і трэцяя жанчыны паўтарылі яе словы.

Загудзеў вецер у жыце, закруціў нагрэты за дзень пыл на дарозе і пагнаў яго далей, туды, за ўзгорак. Рассеялася, разляцелася пылавая віхура, і бачаць жанкі: ідуць тры вайскоўцы плячом к пляч, нага ў нагу. Прыгледзеліся ўдовы і вачам не верацць.

— Мой, Сяргейка мой ідзе,— шапнула першая.

— А то мой Мікола,— другая выгукнула.

— І Гардзейка з імі,— трэцяя кінулася следам.

Шчасце, шчасце якое! А тут цямнее хвіліна ад хвіліны. І зноў слёзы, толькі слёзы радасці. Сабраліся ўсе — і былыя ўдовы, і іх мужы — у хаце першай жанчыны. Што толькі было, што берaглі да свята — усё на сталы паставілі. Бутэльку з гарэлкай сярод місак уціснулі — глядзіш, як у лепшыя даўнія часы. І выгаворваюць набалелае ўдовы, кінуцца да мужоў, слязой на вачах смугу прамываюць. Добрая бяседа віруе. Дзяцей спаць паўкладалі. Самі ніяк не нагамоняцца, на мужоў не наглядзяцца. Налілі яшчэ па кілішку, выпілі. У першай жанчыны выслізнула з рук лыжка і — пад стол. Яна — за ёй.

О людцы, жах ахапіў яе. Глядзіць, а ва ўсіх трох вайскоўцаў хвасты, што ў валоў. Ногі ж не ў ботах, капытцы блішчаць. Пахаладзела ўсярэдзіне ў жанчыны. Пераадолела сябе, выпаўзла з-пад стала, у рот нічога не лезе.

«Наклікалі слязамі ды праклёнамі сілу нячыстую, падагналі смертачку сваю».

Сядзіць яна ні жывая ні мёртвая, думы страшныя ў галаве. Паднялася.

— Куды ты? — муж за руку яе.

— Свежай вадзічкі, Сяргейка, прынясу папіць.

Сказала, а вусны сінія, што буякі на ягадніку. Выслізнула за дзверы. Куды кінуцца, дзе схавацца? А ўжо, чуе, падымаецца яе самазваны муж з-за стала. Шуснула жанчына ў курыны хляўчук, успаўзла па драбінах на вышкі, пад куросаднк. Затаілася, не дыхае.

— Жоначка, а жоначка, дзе ты? — голас халодны, як ранішні мароз, і тупат блізкі, каля самага хлеўчыка.

— Думала схаваешся? Ты звала мяне? Звала. Я прыйшоў з таго свету, а чаго ж хаваешся? Пайшлі са мной туды, туды...

Рыпяць драбіны, нечысць паўзе да жанчыны, яна адчувае, як патыхае сырой зямлёй. Закудахталі куры. Яшчэ хвіліна і...

— Ку-ка-рэ-ку,— прарэзаў ноч певень.

— Уга-а,— стогн, скаціўся нячысцік па драбінах.— Тваё-ё-ё шчасце — жыві, уга-а...

Раса ўслала прылесны край поля. Мацвеева гарбатая лазня пад рэдкім светам далёкай поўні, якую зацягвае павуціна блізкага рання, патанае ў тумане, які сцелецца нізка па рыцвінах і лагчынах, паўз агароджаў і садоў...

...Мішка падняўся, пацягнуўся, працёр санлівыя вочы. Лазня аддалялася, заплывала белізной густога туману.

— Спаць, спаць. Добрай ночы, мілая мая дзяўчынка, любая мая Люба...

## Баляванне ваўка

На рудаватым кусціку палыну завіс акрываўлены вымпялок. Падраны вугал каля дрэўка падзяліў вымпялок напалову. Ад конскіх капытоў палын уздрыгваў, сполахі ветру хілілі яго долу. Але стрэчныя віхуры пругкім напорам выпрамлялі кусцік, і тады вершнік на вымпялку на нейкую хвілю зліваўся ў адно цэлае.

Нізіна паміж двума пагоркамі, парослымі такімі ж скупымі палыновымі купкамі, зацягвалася імжыстым туманам. Ад яго выраўноўваліся калдобіны, прыкрываліся абяскроўленыя целы вояў і раздутыя ад дзённай спёкі конскія тушы.

Туман паступова займаў усё ваколле, падпаўзаў да няблізкага лесу і, быццам спалохаўшыся, зварочваўся клубком, спыняўся.

Зрэдку тумановую шэрасць праразалі запозненыя коннікі. Скурчаныя і параненыя воі ў сёдлах спяшаліся на стомленых конях да рэчкі, перабіраліся цераз яе і знікалі за ладным пагоркам, адкуль даносілася хрыпатая позва сігнальнага рога.

Вечаровая шэрасць гусцела, скрадваючы дзённую бойку, што вялася тут лічаныя гадзіны таму. Ціха і спакойна. Няспешна перакочваецца рачная плынь праз паўзгнілыя цельпушкі, вада сілілася прыхапіць з сабою нябожчыка з рассечанай спіною. Так і не выратаваў яго апошні глыток вады, схоплены дранцвеючымі вуснамі.

З лазовага завалу нясмела гукнуў нейкі сарамлівы птах, лапануў крыламі і праваліўся ў тумановым марыве.

Спакойна і ціха. Так будзе да самай раніцы, пакуль ад замчышча і бліжэйшых паселішчаў не прыйдуць спахмурнелыя людзі. Жанкі прынясуць выбеленае палатно. То будзе раніцай, калі сонца халодным бляскам асвеціць нізіну, прадзярэ вочы стылай вадой з рэчкі. І тады запоўніць зямлю песня самотная, і пазносяць целы вояў на ўзгорак, і пакладуць іх на чыстае палатно, і сонца схаваецца за хмары ад гора людскога. То будзе раніцай... а пакуль ціха і вольна.

Згубіўся з ваўчынага відавоку падраны вымпялок з вершнікам. Шэры, навучаны доўгім жыццём, не спяшаўся да шчодрай вячэры. Сціскаючы іклы, ён прынюхваўся і ўглядаўся за рэчку, у той бок, куды зніклі людзі пасля бойкі, дзе стаіць магутная каменная будыніна замка. Цяпер там жывыя залізваюць раны. А прышэльцы адхлынулі назад, так і не здолеўшы перайсці рэчку. Вунь колькі іх астылых целаў пад крыжастымі накідкамі. Ды і вочы не трэба, каб адрозніць тутэйшых ад навалок. Дужа ж пах у іх нязвыклы. А ўрэшце, мо Шэраму толькі так здавалася. Бо да горла камяком падкочвалася сліна. Воўк не паспяваў яе каўтаць, і цягучы тонкі струмень сцякаў на нішчымную і хваравіта бляклую траву пад лазняком. Але дакуль чакаць? Воўк узняўся ■ крываватых задніх лапаў і, мякка перабіраючы імі, зрабіў некалькі крокаў, спыніўся і сквапна ўцягнуў носам паветра. Вечаровая стыласць агаліла пахі, і над усёй іх бязмежнай незлічонасцю Шэры адчуваў пах крыві. Ад гэтага ружавелі ваўчыныя вочы, ірвалася апошняя нітка насцярогі і недаверу. Шэры сарваўся ■ месца, пераскочыў напятую, як бубен, конскую тушу і ўнурыўся каля ніцма ляжачага чалавека. Іклы шкуматнулі апратку з закарэлай крывёю. Чэпкія зубы ўпіліся ў стылае цела. Нябожчык тузаўся ад раз'юшанай нястрыманасці ваўка. Бязвольныя рукі расхрыстана споўдаліся па ўрасянелай траве. Шэры аддзіраў і заглытваў шматкі цела. Праз хвілю-другую ён

знямогся. Доўгія гады жыцця знянчылі Шэрага. Толькі куды спяшацца? Воўк прылёг на пярэднія лапы, паклаў галаву на абглыданае цела, пяшчотна аблізаў шурпатым языком уцалелыя лапікі скуры. Сытна.

Спагнаўшы голад, воўк задрамаў. Касаватая поўня, якая выслізнула з-за вяршалін лесу, пакрыху разганяла туман. Яе бляклае святло выхапіла постаць дзяўчыны [redacted] распушчанымі косамі. Яна раз-пораз спынялася каля нябожчыкаў, углядалася ў травы, звернутыя да неба, пераварочвала ніцма мерцвякоў і ішла далей. Дзяўчына нагадвала трапяткую рыбіну, выкінутую на бераг, на пякучы пясок.

...Памілуй, Хрысця, памілуй
Нябожчыкаў і жывых...
І дай нам усім сцяжыны
У бясконцых Шляхах тваіх*.

Малітва паўтаралася дзяўчынай над кожным тутэйшым нябожчыкам. Толькі змаўкалі збялелыя вусны над целамі навалок-губіцеляў.

А Шэры спаў і мроіў худую маці-ваўчыху і буркатлівых братоў у далёкім-далёкім логаве, схаваным доўгімі гадамі.

Дзяўчыну і Шэрага цяпер аддзяляла некалькі дзесяткаў крокаў, палоска зямлі, шчодра засеяная целамі нябожчыкаў.

Каго шукаеш ты, дачка зямлі маёй? Чаго б'ешся чаіцай над тымі, хто заспакоіўся, абняўшы абароненую зямлю? Мо брату ці бацьку хочаш закрыць вочы? Але ж тут кожны [redacted] тутэйшых — твой бацька і брат.

— Адзіны і любы мой. Свет зямны мой, уцеха і радасць, дзе ты? Адгукніся. Сваім сэрцам і рукамі загаю твае раны. Загаю і загаманю, якімі б жахлівымі яны ні былі. Амыю кожны твой сустаў, кожную жылку і пажылку жывою вадой з матухны рэчкі, прыкладу лісцём

* З верша Зьніча.

і квеценню і — зарубцуюцца балючыя раны. Любы мой, адзіны мой, адгукніся!

Шэры ленавата прадраў вочы, лацвей паклаў галаву, абыякава сачыў за дзяўчынай. А яна, даўгакосая, біла паклоны ўсё новым і новым скалелым воям, якія зжатым калоссем рассыпаны каля яе ног. Родныя, блізкія, дарагія твары ў абдымках смяротнай смугі шклянымі зрэнкамі глядзелі на дачку і сястру зямлі сваёй. І хацелі б мовіць ёй многае, і хацелі б на руках яе несці, ды прыціснула іх усіх да зямлі варожая страла ды калёны меч.

А ноч, самотная сяброўка дзяўчыны, усё шчыльнейшым радном засцілае пагоркі, рэчку, нізіны, заняволь-вае шэрасць туману, нацягвае на поўню хмарны вэлюм.

— Сястрыца, ночка чорная, ды расступіся ты, разыдзіся. Малю я цябе, як сястру сваю, як адзіную дапаможніцу. Адшукаць дазволь мне каханага, мо яшчэ душа ў ім жыве яго...

І святлее ноч, і хаваецца цемрадзь па рвах і прадоннях, і зазіхацела раса ад поўні.

У гэтую хвілю выдаў сябе Шэры, нязручна зварухнуўшыся. Дзяўчына ўлавіла сполах цень і, пераступаючы варожыя целы, кінулася да сытага ваўчыдлы, спадзеючыся, што гэта паранены вой падае аб сабе знак.

Але вось дзяўчына ўжо над абглыданым целам нябожчыка. Шэры ленавата ўздымае з яго паўсонную галаву з верштакамі вушэй. Абыякава шчэрыцца крывавымі ікламі на дзяўчыну, не знаходзіць сілы, каб падняцца і хоць па-сабачы адцахліць да кустоўя.

— Завошта, Божа, ты такую долю даў чалавеку? Завошта пасля слаўнай смерці ён стаў кавалкам мяса для ваўка? Няўжо ён баязлівей быў за іншых? Няўжо страла яго замест грудзей варожых ляцела ў неба? Завошта здзек такі над гэтым воем?

Маўчыць зямля, маўчаць нябёсы. І толькі Шэры не хавае іклы, не збягае ад сытнага ўстолля. Тужыцца позіркам адагнаць дзяўчыну, бо яшчэ да раніцы далёка.

А зараз яго, Шэрага, час. Чаго турбуеш ты, дзяўчо, старога ваўка?

Дзяўчына саступае некалькі крокаў, схіляецца да зламанага мяча, далонь сціскае дзяржальна калёнца. Занесены кавалак мяча адбівае поўню. Шэры бачыць, як халодны бляск ляза няўмольна набліжаецца. Уцячы б, падціснуўшы хвост, ці, прыняўшы стойку, скокнуць на грудзі даўгакосай, схапіць за горла і сківіцамі душыць, пакуль не трэснуць косткі. Ды нешта здарылася з лапамі і целам Шэрага. Няслушныя яны ваўку ў гэты час. Яшчэ раз бліснула лязо і падзяліла галаву Шэрага напалову. Нізіна смерці прыняла яшчэ адну душу, душу Шэрага.

Дзяўчына адцягнула ваўка ад расшкуматанага цела воя, паклала побач з мёртвым ворагам. Крывавы след, пакінуты на траве, грэў дзяўчыне пяткі, і яна, не грэбуючы, стаяла на ім. Затым схілілася над недаедзенымі Шэрым рэшткамі воя, перавярнула яго тварам да неба:

— О, любы мой!..

# Росніца

Весяліліся аж за поўнач. Ядраны месячык паспеў паўколам абысці неба, высвеціць на прытаптанай зямлі шматкі паперы, саламяную труху і рознае смецце. На парадзелым частаколе, каля хаты, расхрыстана матляюцца забытыя накідкі і хусткі. А са стрэшкі над брамкаю бязважка звісае нявесцін вэлюм.

Вяселле, нацешыўшыся, задрамала.

Хмельны Ясек стаіць каля брамы і слухае нязвыклую пасля дня прыцішанасць. Хочацца спаць. Можна легчы і тут, на лаўцы, каля плота. Толькі ж няёмка. А турбаваць гаспадароў і назаляць цётцы Марыне ў такі дзень не варта. Будзе яна галаву тлуміць, куды яго пакласці. Добра, хоць жаніху і нявестаю знайшлі месца. Хай цешацца Мішук з Ліпай. Хаця якія там уцехі? Ліпе праз два-тры месяцы раджаць, а тут вяселле. Каб усё як у людзей. Цётку Марыну не пераробіш.

А мо пайсці да сястры? Перабягу лужок, і ўвесь клопат. А што? Нікога навокал. Пуста, як вясною ў пограбе. Крычы на ўсе грудзі — ніхто не адгукнецца, голасу не падасць. А які луг? Абняць бы яго. Шкада, не хопіць рук. Ды і кусты-вартаўнікі хоць рэдкія, а стаяць не варухнуцца. Хоць бы якая птушка азвалася. Дзе драчы, кнігаўкі? Ат, гультайкі — спяць. І я хачу спаць. Спаць. Але адкуль гукі саксафона? Ці не Мячын Славік выводзіць?

Далёкі гарнізон. Сцэна. Вайскоўцы спачываюць, дзяўбуць насамі стомленыя навабранцы з «вучэбкі».

А Славік зліўся з саксафонам. Да зубнога болю знаёмая мелодыя. Адкуль? Навошта?

Луг. Толькі перайсці луг. Расяна. Басанож? А чаму б і не? Што гэта там? Пачакай...

Ясек спыніўся. Хвілю стаіць, углядаецца. Ха! Нейкае дзіва. Хтосьці сядзіць на траве сярод лугу і цягне з месячка нітку, светлую, як прамень сонца. Ясек ірвануўся з месца. Незаўважна, крок за крокам пачаў прыцішаць хаду.

«Дзяўчына, гром мяне ляснi! Сядзіць і размотвае месячык на ніткі. Мо абысці? Які ж ты мужчына? Яшчэ надумайся легчы на жывот і вужакам паўзці да мяжы».

— Ыгы,— кашлянуў хлопец.

Дзяўчына зірнула на яго.

— Прыйшоў, Ясек? Я чакала цябе. Ладкуйся побач.

Цікава. Яна мяне ведае. Валасы ў яе празрыстыя, як раса.

— Так, Ясек, яны ў мяне як раса. Праўда, прыгожыя? Здранцвеў? А мне здавалася — ты не з баязлівых. Ведаеш, сёння лепшая ноч стагоддзя, і на прадзіва ніткі з месячка мацней за пяньку. Ой, ты ж не ведаеш, што такое пянька. А твой прадзед хадзіў у палатнянай апратцы. Я ўсё зблытала. Ты чуў пра свайго прадзеда Янука? Маўчыш. Знацца, не чуў. Шкада. Тварам ты, Ясек, падобны да яго. Дужа па сэрцу ён мне быў. Але сядай, я гаманю, гаманю, а ты стаіш.

Няўжо Росніца? Што гэта я? Адкуль?

— Хлапчанё ты, Ясек. Здзіўляешся? Так, я Росніца. І цябе прыкмеціла, калі выгульваў ты рудога каня. Ці помніш той надвячорак? Конь пераскокваў канаву, я забегла наперад, хацела пажартаваць, а ты зваліўся і перапэцкаўся так, што не пазнаць. Выбраўся, стрыножыў каня, як зараз усё бачу, распрануўся, апаласнуў апратку. І застаўся голы. Я глядзела і нудзілася. Карцела падбегчы, абняць і застыць. Толькі сонца не зайшло, вось і баялася.

Ясека ахапіў сорам. Гарэлі вушы, рукі, узмакрэла спіна.

— Дзівак, мяне не саромейся. Ты абраннік мой. Глядзі, во гэту світку я раблю для цябе. Ці даспадобы? Прымерашь хочаш? Хоць не, апранеш перад заранінцай... Прысесці не хочаш — дапамажы падняцца. Пагуляем. Час ёсць. Адзежыну я сама панясу.

Ясек адчуў халодны пісяг на руцэ.

— Дарэмна мучышся. Ты мой улюбёнец, і я скажу, хто звёў нас. Не было цябе, Ясек, яшчэ на свеце, і тваё маці з бацькам не нарадзіліся, і прадзед Янук не бегаў яшчэ па зямлі. А старац Лёсік, дажываючы свой век, спяшаўся закончыць працу. Дні і ночы сядзеў ён на скрыжаванні дарог і няспынна звязваў ніткі ў вузельчыкі. Па дзве, па дзве ў адзін вузельчык, а то недагледзіць — і тры, і чатыры звяжа. Вялізная гара вузялкоў засцілала сонца. А Лёсік спяшаўся і звязваў, звязваў бяздумна. Толькі б закончыць. Зямля яго не прымала, а ён хацеў спачыць. Кожныя звязаныя ніткі — злучаныя лёсы людскія. І на заканчэнне нарабіў вялікага гора старац. Звязваў не разбіраючы, не гледзячы, якая нітка [redacted] якога груду. Злучаліся ў адно народжаныя і ненароджаныя, маладыя і старыя. Ды ці табе расказваць, сам бачыш, што цяпер у вас робіцца. А я патрапіла [redacted] табою. Во так.

— Росніца, скажы, за што так рана загінуў бацька? Чаму і цяпер я жыву горкім дзяцінствам? Чаму пасля доўгіх гадоў бадзяння па людзях я дзень да дня больш і больш люблю і шаную маці? Хоць, памятаю, праклінаў яе. Чаму так, Росніца?

— Ты, Ясек, хварэеш на нездаволеную дабрыню. Глядзі, во прытаптаная кветка. Трэба час, каб яна ўзнялася. І будзе здавацца, што яна такая, як астатнія. Толькі ж кветка ўжо да скону мусіць адчуваць на сабе абцас. Паглядзі пад ногі, колькі ты іх уціснуў у зямлю? Ты зразумеў, Ясек?

— Але ж кветка кветку не губіць?

— Твой прадзед Янук быў прасцей, хоць тварамі вы і падобныя. Праз старца Лёсіка ўсё зблытана, прыняла Янука за цябе, Ясек. Як доўга мне прыйшлося чакаць...

Той ноччу ішоў Янук з хрысцін. Яму я не паказвалася, наглядкам сачыла. Дайшла за ім да прылеску, толькі забыла, што там сястрыцы мае сабраліся. Янук напіўся вады прыгаршчамі з азярыны, разагнуўся, а суперніцы-Росніцы і давай клікаць яго: «Янук, Янучок, хадзі гушкацца на сучок?» Лагодна ўпрошваюць. Янук і палез на сасонку. Росніцы-сястрыцы давай яго гушкаць. А я не ведаю, як вызваліць Янука. Яшчэ кропельку, і пачнуць яны шлыкатаць хлопца, да смерці залашчаць. Расплылася я туманам над дрэвам і шапчу ўлюбёнцу на вуха: «Уцякай, уцякай, родны. Бяжы ўпоперак узаранага поля. А не — пакладзеш жыццё». Сышоў дурман з Янука, і кінуўся ён бегчы, а сяброўкі-Росніцы — напярэймы. Толькі ж упоперак узаранага поля не разагнацца нам. Уцёк Янук, а мяне сёстры абняславілі і выгналі з агульнага кубла. Пайшла я следам за тваім прадзедам. Адшукала яго за надмагільнай плітой скляпення. Ляжыць Янук і дрэмле. Наважылася я падысці, адкрыцца. Але бачу, яшчэ нехта ідзе. Схавалася я ў галінах. Прыгледзелася, пазнала суседа Янука. Ці не з тых жа хрысцін плёўся. Сеў ён на надмагілле, за якім твой прадзед ляжаў, гоцка ляснуў па пліце далонню і кажа: «Ляжыш, нябога, трупехнеш, а мо курыць будзем?» А Янук высунуў руку з-за надмагілля і адказаў: «Ляжу. Калі дасі, то і закурым». Сусед споўз на зямлю не войкнуўшы. Усхапіўся Янук, а позна. Знябожыўся сусед. Агледзеўся твой родзіч ды ходу, як і не было яго. К полудню знайшлі нябожчыка. Пагаманілі, павойкалі ды сышліся на адным — абпіўся. Янук жа словам нікому не абмовіўся. Во я і кажу, простым быў твой прадзед. Галаву не забіваў рознымі думкамі. Жыў весела, хоць і хадзіў у апратцы з пянькі ды лёну.

Ведаеш, Ясек, ты дарэмна чысціш зубы мятным парашком. Мята — ганебная трава, яна паядае расу і ад яе ломіць галаву. Ты смяешся. А я заўсёды абыходжу мясціны з мятай. І ніяк не магу пралескамі нацешыцца, і яшчэ я выбрала лапік зямлі, дзе буду садзіць для цябе тытунь. Ен лепей за цыгарэты, якія ты смаліш. Янук ніколі не выпускаў з вуснаў люльку з самасадам. Хочаш, я і табе знайду добрую люльку? Хоць навошта яна? Ты ж будзеш, як і я, баяцца агню. А тытунь прыйдзецца нюхаць. Зрэдку і я нашу з сабою некалькі лісткоў. Я гавару, гавару, а ты думаеш пра бабу Рыну. Не зводзь сябе, яна атруцілася, а вінаваты ў гэтым айчым.

— Навошта, дзеля чаго расказваеш, пра што я не абавязаны ведаць? Мне і так жывецца нялёгка. Не муч.

— Мне ўсё можна табе гаварыць, Ясек. Ты застанешся са мною. Агоркла адной бадзяцца. Сённяшняя ноч — нашая ноч. І адзежына, што нясу, прызначана табе. Навошта ґуляць у хованкі? Тут, сярод людзей, ты не здатны нікога пакахаць і зрабіць шчаслівым. Я гэта ведаю, павер. Мне суджана зрабіць цябе і шчаслівым, і вечным. Я ж апошняя з Росніц, ты, Ясек, мая ахова і абарона, мой уладар. Некалі забрала б я і Янука, толькі ён паспеў ажаніцца. Ах, кляты старац Лёсік навязаў вузялкоў, якія і праз стагоддзі не кожны развяжа.

Ясек і Росніца ішлі па бязмежным лузе. За хлопцам заставаўся прамы, як страла, след, а там, дзе ішла Росніца, не краналася ніводная кропля расы. Вартаўнікі-кусты разбягаліся ў бакі, вецер няспешна перабіраў празрыстыя валасы дзяўчыны.

— На апранай, ужо час. Хутка падымецца сонца. Апранай, любы!

Бязважкія рукі пацягнуліся да Ясека.

— Апранай, і пайшлі. Я пашкадавала Янука. А ты — мой. Нікому не патрэбны, лішні. Што, не так?

Абрамляйся ў адзежыну вечнасці.

Ясек акінуў позіркам бясконцы луг. Чаму ён такі неаглядны? Во і канец усяму. Шкада... Але...

— Не, Ясек, гэта пачатак.

Хлопец бяздумна выцяг з кішэні карабок запалак, чыркнуў і кінуў у Росніцу. Агонь успыхнуў kaцiным вокам і знік. На месцы Росніцы ўзвілося воблачка пары, імгненна распаўзлося па траве. Ясек хвіліну ўтрапёна стаяў. Затым павярнуўся і пайшоў па прытаптанай сцежцы.

# Дзень нараджэння

Другі дзень стогне муха ў павуцінавым гняздзе. Вугал з маім лежывам наскрозь прапах дымам танных цыгарэт і махоркі. Засохлы кавалак хлеба на сподачку. Іголка на вадзе ў бруднаватай ад гарбаты шклянцы. Вада прагнулася, але трымае іголку. Чакаю ночы. Тады лягчэй, сціхае тлум за вокнамі. Я жывы. А ў піўбары жанчына. Рэдзенькая каса перахоплена гумкай. Чарга не меншае. Ляскат куфляў. Піва сцякае з габляваных прапаленых сталоў на квадратныя кафліны падлогі. Я не адчуваю смаку піва. Толькі жанчына ў вачах. Бачу і лаўлю кожны яе рух. А яна пераходзіць ад стала да стала [redacted] вышчарбленым, а мо і адгрызеным куфлем. Злівае недапіткі. Вось і яе куфель поўны... Я знарок пакідаю куфель ледзь пачатым. Адыходжу. Зацiраюся ў натоўпе. Жанчына заўважае стол, куфель. Шукае мяне. Я ўгінаюся ад яе позірку, як лазіна ад ветру. Мой куфель пусты.

Божа мой, ці сціхне гэтая муха-мушына? Ці ачахне яна калі-небудзь? Ці сорамна мне? Ці балюча?.. Не ведаю. Не ведаю я.

Наша хата тады стаяла сярод жыта. Быў такі хутар — Гееўскі. Зводдаль рос бярэзнік. Я з маці лавіў рыбу, хадзіў на сена. Аднойчы, калі звечарэла і ішлі дамоў, маці чамусьці схапіла мяне на рукі, прыцiснула да грудзей і адчайна, з такім болем заплакала, што ў мяне зайшлося сэрца.

— Пусці, мамка, ты стамілася? — праз сілу выдыхнуў з засмяглага горла.

— Баюся я, дзіцятка, ой, баюся за цябе. Нядобра ўсё будзе. Згінеш ты, згінеш, крошына мая. А яшчэ горш — людзі праклянуць.

— Навошта гінуць? За што клясці?

— Такі я ўжо лёс дала табе. Вораг я твой, сынок.

Як мне было зразумець яе? Толькі ж і ў той час ведаў: маці не можа быць варагіняю. Не можа. І я пачаў вырывацца з яе рук.

— Пусці, пусці мяне...

Зямля застагнала, вецер узвыў. Цемра ахутвала нас. Ударыў пярун, і маланкі паласнулі неба.

Да сённяшняга дня я не памятаю такой жахлівай навальніцы. Усё перакулілася, зблыталася. Кожную хвіліну я чакаў, што перакуленая зямля раздушыць нас — і не будзе, не будзе больш ніколі ні мяне, ні маці, ні сонца. Не памятаю, як мы апынуліся пад елкай. Тут было спакайней. Пярун біў, біў раскаціста і цэльна. Але гэта ўжо было недзе там — далёка.

— Такой ноччу я цябе спарадзіла на свет,— трасучыся, шаптала маці.— У такую ноч моўлю аб гэтым. І яшчэ не ўсё — на свет выпусціла я цябе ў гадзіну ночы. Яшчэ дзяды нашы гаварылі: «То не чалавек, прыйшоўшы ў такую часіну да людзей. Не жыць яму з імі ў згодзе. О, Божа мой...»

Сёння мой дзень нараджэння. Мне трыццаць пяць. Пазаўчора я бачыў жанчыну. Парэпаныя вусны. Азызлы твар. Куфель з недапіткамі.

За акном грае аркестр. Як у маім цяпер далёкім дзяцінстве. Тады першы раз маці адпусціла мяне ў горад. На плошчы каля старога сквера граў аркестр.

Усё пераплятаецца. Жыццё загублена. Мне трыццаць пяць. Пуста. Гэта я зразумеў у піўбары. Колькі гадоў я шукаў яе? Колькі? Хлушу, хлушу сабе. Не шукаў я яе.

Пасля той навальніцы і матчыных слоў ува мне нешта надламілася, я пачаў баяцца яе і нечага чакаць. Чакаць страшнага, ці не смерці чакаў. Я хадзіў, жыў,

глядзеў навокал сквапна, убіраючы ў сябе кожную драбніцу. Мне здавалася — усё бачу ў апошні раз. Як было жахліва жыць. Той восенню я і захварэў. Бег за зайчанём па заараным полі і, спатыкнуўшыся, больш не падняўся. «Вось і ўсё»,— гаварыў я сабе праз сціснутыя ад болю зубы. Ляжаў доўга, баючыся дыхнуць і зварухнуцца. Чакаў, калі прыйдзе смерць. Хацеў бачыць яе, папрасіць. А яна не ішла. І я папоўз у бок хаты. Уцякаў. І калі не стала сілы, закрычаў: «Мамка, мамка-а».

Іголка хіснулася, прарвала вадзяную плеўку і вастрыём кранулася дна.

Значыць, нехта ідзе. Уваччу шэрыя мятлікі ад смярдзючага «беламора». Гэта Гэлька. Маё мілае дзяўчо. Мне трыццаць пяць. Ці будзе яна шчаслівая са мною? Так, гэта яна.

— Ты ўсё ляжыш? Што з табою?

— Я так. Адпачываю.

Трэба ўсміхнуцца. Не, весялей, весялей. Гэлька прыкрывае мой твар далоняй, цалуе ў скроню.

— З днём нараджэння цябе. Шчасця нам,— яна так і гаворыць — «нам».

— Толькі што заплаціла за кватэру. Падымайся, гатаваць будзем на стол. Сябры ж прыйдуць.

— Гэлька, вызвалі муху з павуціны ў куце. Другі дзень яна стогне, а павук не душыць.

— Няма тут ніякай мухі і павуціння няма. Табе здалося, здалося, любы.

— Няма, кажаш? Што ж, няхай так.

— У краму са мною пойдзеш?

— Не.

— Тады прыбяры крыху ў пакоі.

— Добра.

Гэлька пайшла, ціхенька прычыніўшы дзверы. Як ёй сказаць пра маці? Як?

Аж да зімы адпойвала мяне маці зёлкамі. Настойва-

ла зверабой, сухацвет, дзівасіл. Націрала гусіным і смярдзючым барсучым тлушчам — лячыла. А я не падымаўся. Учарнеў. Шчыра — мне і не хацелася бегаць. Доўгія вечары маці сядзела каля майго ложка. Апавядала навіны, чутыя ў вёсцы. Адным разам я спытаў: а дзе мой бацька? У маці здрыгануліся бровы. І колькі я пачуў аб ім...

Тады якраз, у апошнія дні лістапада, прыехаў з Мінска дзядзька, матчын брат. Паглядзеўшы на мяне, ён жахнуўся і на другі ж дзень забраў да сябе лячыцца. А перад гэтым страшна пасварыўся з маці. Яна плакала, кідалася на машыну, не хацела мяне аддаваць. Ці не хацела яна, каб я памёр, га? Бо верыла, моцна верыла, што я асуджаны. Не хацела расцягваць няшчасце на гады. Што я кажу, што думаю?..

А вось ужо мне і трыццаць пяць. Усё забыў. Усё спіць. Што ж помніцца?

Той зімою, калі я ляжаў у бальніцы, нехта спаліў нашу хату. Пра гэта я даведаўся пазней. Кожны дзень я чакаў маці, але прыходзілі дзядзька, цётка, а яе не было. Я днямі не адыходзіў ад акна. Глядзеў у далеч, праз голыя вяршаліны парку, між вялізных цаглянікаў. Глядзеў у той бок, дзе павінна была стаяць наша хата. Мне так здавалася. Летам мяне забраў з бальніцы дзядзька. Гэта жахліва, але я забыў пра свой куток, пра маці, бярэзнік, які стаяў сцяной, забываў і пра жытнёвае поле.

— Ты ў мяне спраўдны гарадчук,— смяяўся дзядзька.

У той самы час, прыкаціўшы неяк навюткі веласіпед, дзядзька сказаў, што наша хата зімою згарэла, а маці з'ехала з якімсьці бульдазерыстам ці то ў Мазыр, ці то ў Магілёў.

Хто мне скажа, няўжо ніводнага разу маці не ўспомніла пра мяне?! Не веру я ў гэта! Не веру!

— Як я скавытала той ноччу, сынок. Як я кляла свой

лёс. Нялюбым дзіцем зарадзіўся ты ў мяне ў вантробе. Гвалт шчасця не прыносіць... Гнілая ячменная пацяруха. Смурод, брудны, у шчацінні твар. Абламала я ўсе пазногці аб зямлю, аб скуру і вопратку твайго бацькі. А ў яго на адной руцэ накручана, як вяроўка, мая каса. Я бачу пустое, глыбокае неба. Яно давіць мяне, забівае горла. Воддаль звязана ў посцілцы салома — мая цяжкая і непасільная ноша. Не памятаю, калі прыйшла на хутар. Не памятала я ягонага твару. Да самай раніцы адмывалася ў возеры. Усё навокал пахла ім. Захлыналася вадой. Адціраля цела аерам. Колкая будзяга не магла забіць смуроду... Не, я хацела жыць. Загубіць сябе было страшна, і страшна заставацца жыць. Тае ж раніцы абрэзала касу авечымі нажніцамі. Спаліла яе, як ворага. Попел вынесла за плот, на сметнік. Я пачынала жыць, жыць другім жыццём. Тады ж к поўдню прыехала на хутар міліцыя. Дапытваліся, ці не бачыла я мужчыну, што збег з турмы. Паказалі мне ягоны фотаздымак. Ад яго патыхнула смуродам, адмытым смуродам.

— Я яго не бачыла, не бачыла,— так і сказала. Не паверылі мне, шукалі на гарышчы, у клеці, у павецях. Пашукалі і паехалі, а я засталася. Ноччу прыйшоў ён. Пастукаў. Я ведала, што гэта ён. Узяла сякеру з-пад загнецця. Маўчала, стаіўшыся каля акна. Ён маліў адчыніць. Не грaзіўся ні словам, толькі прасіў. І я адчыніла. Ён моўчкі сеў каля стала. Сякера ж была ў мяне ў руках.

— Цябе шукаюць,— сказала яму я.— Чаго ты прыйшоў?

— Пабачыць цябе. Прабачэння прасіць,— вінна мовіў ён, апусціўшы галаву на стол.— Калі не даруеш мне — сячы галаву гэту згубную, не трымай зла і зразумей.

Разжаліў ён. Шкода стала. Села я побач. Як ні дзіва, смуроду ніякага няма шака.

— Завошта цябе ў турму пасадзілі? — пытаюся так.— Забойца ты ці гвалтоўнік?

— Ні тое, ні другое, галубка мая.

Так і сказаў: «Галубка мая». А ў мяне і слёзы далоў.

— Каласы начамі зжынаў. Да свайго новага хлеба далёка. А на калгасным полі сям-там жыта паспела. Нажаў два мяхі, пасыпаў на печы сушыцца. Нехта ўгледзеў і данёс. Прыехалі, а я і аббіць не паспеў. Забралі мяне і павезлі. Дарогаю збег. Другі месяц хаваюся. Так што турмы яшчэ і не бачыў.

Ён усміхнуўся. Я не ўгледзела гэтай усмешкі, але сэрцам чула — ён смяецца [redacted] сябе і са свайго лёсу. Што мне было рабіць? Не скажу, што не баялася я яго. Але шкадоба сэрца захапіла. І не так пякуча стала за ўчарашняе. Мне ж пасля бацькі сёе-тое засталося. Я заможней была. На агародзе добра радзіла. А што, калі б не гэта ўсё? Я б з сярпочкам у цямнейшую ноч пайшла на поле. Многія тады так рабілі.

Запаліла я ў печы, нагрэла вядзерны чыгун вады. Дастала бацькава прычындалле пагаліцца, цяпер ужо госцю. Памыўся, пагаліўся ён, пераапрануўся ў бацькава. Глянула я і войкнула — ён жа зусім малады і з твару глядкі.

— Як жа хоць клічуць цябе? — спыталася.

— Міколам. А цябе?

— Запісана я Марынай, людзі ж завуць Марусяй.

Вось так і пазнаёміліся. Гора ды слёзы забыліся. Праўда, стрэмачка ў душы сядзела, пякла, злёгку пякла. Да драбніцы хочацца забыць, ды не ва ўладзе сваёй. Як ён перажываў, клёнам кляў сябе, як даведаўся, што я касу абрэзала.

— Убачыў цябе каля стажарышча і зрабіўся зверам, не помню, што было. Думалася — усё роўна згубны я.

Я супакойвала, маўляў, хвіліна такая бывае. Сцерагчыся яе трэба — вораг страшны яна людскі. Во я і з'явілася ў такую хвіліну...

Помню. Усё я помню. Не адбіў град мазгі, як маці некалі гаварыла. Помню! А навошта забываў? Што ж цяпер? Як жыць? І надалей забыць усё? Не было гэтага. Не чуў я нічога і не бачыў, як не бачыў і не чуў сусветнага патопу, Ноевага каўчэга. Усё трызненне гарачае галавы. А жанчына ў піўбары — чужая і незнаёмая. Я проста не магу помніць матчынага твару. Сколькі гадоў мінула... Трэба прагуляцца. Хопіць ляжаць. Сціхла муха. А некалі ж хварэлі на халеру, чуму. Недзе і сёння забіваюць кітоў, а хвалі выкідваюць на бераг дэльфінаў. За акном ластаўкі нізка снуюць над зямлёй. Пад аблокі б ім. Не, будзе дождж. У шуфлядзе мой парасон. Дождж на дзень нараджэння — гэта добра. Усё змываецца — буду чысты душой, як немаўля. А што, калі б паехаць на радзіму — на наш хутар. Там вялізны валун, ▪ адбіткам волатавага следу. Ён жа не згарэў, ён будзе на месцы. Вось гэты ліфт яго б не падняў — «заходзіць не больш чатырох чалавек».

«Гэты камень шчасце прыносіць,— гаварыла маці,— шануй яго».

І сама штодня прыбірала каля валуна, садзіла кветкі, падмятала смецце.

Зябка. Па вуліцы прамком два завулкі — і горад скончыцца. Там цішыня. Там жаўцее някошаная трава. «І было ў яе чатыры сыны, тры ненароджаныя, а чацвёрты ў людзях». Адкуль гэта? Так, недзе чутае.

— Добры дзень.

— Добры.

Хто павітаўся? Я яго не памятаю, ніколі не бачыў.

Вось і строма насыпу ўверсе, я вырваўся, не прыдушыць ён мяне. Воля. Поўная воля. У мяне ж была першая сяброўка таксама Воля.

Хітра. Не схавацца. Заўтра ад раніцы іду ў піўбар. У мяне адпачынку яшчэ тры дні, а там «заспакаенне ў працы».

«З той ночы і застаўся ў мяне Мікола. У свірне злад-

кавалі яму хованку. Паціху, памаленьку жылі. Падсабляў мне дужа. Так і каляд дачакаліся. Другім разам бягу на працу ў брыгаду, а ад хутара, сам ведаеш, ледзь не тры вярсты да калгаса, чаго толькі не перадумаю і не перажыву. Усё баялася: наляцяць улады, забяруць майго Міколу. Як жа я без яго? Ды пакуль усё ішло ладам.

— А ці ведаеш ты, Марына,— ён мяне заўсёды зваў Марына,— чаму няроўная праца ў мужыкоў і жанчын? — так запытаў Мікола ў апошнюю нашу ноч. Каб жа я ведала, што яна апошняя. Дарогу б бярвеннем заваліла, каб не прайсці і не праехаць. Ды...

— Адкуль мне ведаць? Адвеку так.

— Не адвеку, Марына. Чуў я такую пагалоску. Даўно было тое. Калі — не ведаю добра. Толькі чутка дайшла да Бога — скардзяцца людзі: няроўна праца падзелена між мужчынамі ды жанчынамі, і праз гэта сваркі і бойкі на зямлі. Што ж, хоцькі-няхоцькі, а мусіў ён нешта рабіць. Адным сонечным днём, у жніво якраз, пайшлі ў поле мужык з жонкай, ну вось як мы з табой. Падзялілі яны палоску сваю на дзве часткі і жнуць. Жанчына толькі і ведае, што крычыць, быццам бы мужык падмануў яе, адвёўшы сабе меншую палавіну. Да ляманту даходзіць: і палоска ў яе даўжэйшая, і жыта гусцейшае, а серп тупы, як цэп. Мужык моўчкі жне. Абагнаў, кіем не дакінеш. За крыкам і сваркай не згледзелі яны, як падышоў да іхняй палоскі жабрак. Спыніўся ён каля жанчыны, павітаўся. Яна маўчыць, а жабрак і пытае: «Маладзічка, ці не пакажаш дарогу да бліжэйшага калодзежа вады напіцца?»

Жанчына, не разгінаючыся, тыркнула рукой ў няведамы бок і далей робіць сваё. Пастаяў, пастаяў жабрак ды і пайшоў да мужчыны.

— Добры дзень, хлопча?

— Добры, бацька,— парукаўся ён з жабраком.— Куды ідзеш?

— Ды вось шукаю калодзежа вады напіцца.

— Прысядзь, адпачні,— у мяне ў збанку яшчэ вада ёсць. Пап'еш, пакурыш, пагамонім, а потым вось па той сцяжыне, што ля алешніку, дойдзеш і да студні.

— От дзякуй, добры чалавек,— мовіў Бог, прыняўшы сваё вялікаснае аблічча.— Цяпер на мяне людзі крыўдаваць не будуць, усё зрабіў сумленна.— Клікнуў нядаўні жабрак жанчыну. Убачыла тая, лётма прыляцела, на калені гопнула. А Усявышні і кажа ім:

— З сённяшняга дня будзе так — вам, жанчыны, да скону не разгінацца і рукам вашым не ведаць спакою. Ад світання да цемрадзі ў тулмусне і клопатах быць. Мужчынам жа працу і адпачынак пароўну дзяліць. Папрацаваў і няхай адпачыць сядзе і ў добрай размове час бавіць. Так будзе на ўсе поры года. Маё слова.— І абвясціў Усявышні сваю пастанову кожнаму. Так і пайшло з тых часоў.

Пераказаў так Мікола і ўсміхаецца. А я не стрымалася і кажу:

— Каб той жанчыне рукі павыпетрыла, не магла яна разагнуцца ды па-добраму прыняць чалавека. Праз яе вось і гніся ўсю жытку...

Ранкам жа прыскочыла міліцыя. Мікола як адчуваў: па снежнаму сыранку ў лес пайшоў сухую сасонку з барсуком-смаляком адрэзаць. Раней шчэ нагледзеў. Схапілі яго на ўзлеску. Колькі я перажыла! Колькі нерваў ляснула. Цяпер вось здагадваюся — данеслі нашы. Цяжарная я была, папрыгажэла за Міколава паўгоддзе. Жанок жа не падманеш, прыкмецілі. Забралі твайго бацьку, мяне ж ад турмы выратавала цяжарнасць. Ты выратаваў...»

І гэтага не адабраў час. Пры мне яно. Крок, два, яшчэ крок. Шоргат жвіру пад падэшвамі. Дубы яшчэ не скінулі лістоту — трымаецца. Берагі рэчкі распаўнелі. Хвалі гуляюць — хто каго дагоніць. Сёння прыйдуць сябры, Гэльчыны сябры на мой дзень нараджэння. Чаму? Гэлька сцвярджае, што гэта мае сябры, а не яе. Якія

да д'ябла сябры? Хто з іх ведае мяне? Хто? Я проста вясёлы, бесклапотны хлопец. Не больш і не менш. Апошняя цыгарэта. Дробны дождж. Парасон?.. Не трэба. Усё больш нараджаецца дзяцей-калек. Дзядзька, цётка, а чаму не маці? Як даўно не гаварыў гэтага. Кожны нясе свой крыж. Свой крыж на Галгофу. Чаму ж у некаторых ён нябачны? Гэлька ўпэўнена: лепшы спачын для душы — закінутыя могілкі. Сумна. А страху няма.

Няўжо праўда — аднойчы вяртаецца дзяцінства і забірае ў госці. На лічаныя хвіліны, а пераварочваецца жыццё да рэшткі. Толькі б не схавацца ад дзяцінства ў такую хвіліну. Яно можа заблудзіцца і позна — вельмі позна адшукаць. Тады ўжо з яго не вернешся...

Заўтра я пайду ў піўбар. Пакіну на стале трыццаць пяць куфляў. Паўнюткіх пяністых куфляў. Чаму нельга адарвацца ад свайго ценю? Хаваюся пад хмарамі, і хмары засцяць неба. І яшчэ — я б ніколі не перавязаў адарванай рукі.

Трыццаць пяць куфляў піва ёй...

# Вар'ятка

Ганна прачнулася ад гулкага і глухога водгаласку падаючага дрэва. Магутная, з тоўстым шалупіннем кары алешына легла праз вузкаватую рэчачку. Бабёр, які спілаваў дрэва, стаяў слупком каля вострага пня. Рудаватая поўсць ільснілася ад нявысахлай вады.

Лежачы на прымятай траве, сярод крапіўнага зарасніку, Ганна бачыла, як звярок нервова паторгваў пярэднімі лапамі — здавалася, што ён сучыць вяроўку. Толькі цяпер, пры ранішнім святле, старая ўгледзела бабровую плаціну і хатку. Метраў за дваццаць ад начлегу старой шарэлі другая і трэцяя хаткі баброў.

Рэчка, перакрытая ў тым месцы плацінай, разлілася і нагадвала невялікае азярцо.

Агледзеўшыся навокал, старая спакваля паднялася, перавязала хустку, паправіла лапленую спадніцу, а затым згарнула танклявую льняную посцілку і выйшла з гушчару. Бабёр хуценька плёхнуўся ў ваду, утварыўшы снапок пырскаў.

— Чаго спалохаўся? Я не пакрыўджу,— Ганна засіліла прыгаршчы вады, абмыла твар, рукі, выцерлася ражком хусткі.— Яшчэ адна ноч мінула. Лацвей цяпер, улетку, паўсюль мажліва галаву прыхіліць. А зімою прыйдзецца ж студзіць цела. Улашчыўся б, Божа, ды прыбраў мяне. Колькі ўжо дарог і сцежак абышла? Колькім людцам да зямлі схілялася? Колькім, колькім? Ды не ведаю, ці даруюць яны мне, ці здымуцца грахі з душы?

Во і ўчора з паўдня і да вечара прасядзела каля

магілак мамы і таты. Зараслі травою яны, ледзь знайшла. Прыбраць няма каму.

Ганна гаманіла і гаманіла сама сабе. Адбітак постаці старой гойдаўся на вадзе. Толькі яна гэтага не бачыла. Паўз босых ног скакалі вывадкі маладых, з пазногаць велічынёю, жабянятаў. І іх не бачыла Ганна. Яе позірк не спыняўся ўжо ні на бабровай плаціне, ні на іх хатках. Вабіла старую парослая густым мурагом конная сцежка, якая вяла да могілак з учарнелымі крыжамі і выцвілымі кавалкамі палатна на іх.

Ганна гаманіла:

— Колісь жа стаяла тутацька каплічка, ці не, здаецца, часовенькай звалі. Была з жалезных пруткоў агароджа. Дужа прыгожа глядзеліся могілкі. Так прыгожа і добра, што і паміраць не страшна было. Стараста Марцін, пастаўлены князем Крапоткіным наглядаць за могілкамі, вёў парадак. А колькі ж таму гадоў мінула ўжо?

Ганна, падабраўшы спадніцу, села на спадзісты бераг рэчачкі. Вада цурчэла пад падэшвамі ног. Ад таго боку плаціны вынырнуў бабёр, сцішана цікаваў за старой праз шчыліны драўлянага ламачча. Бяздзейнасць чалавека заспакоіла звярка, і ён выпаўз на бераг, валочачы па медуніцы пляскаты хвост. Зрабіўшы з дзесятак няўклюдных крокаў, бабёр гайсануў у запоўненую вадой траншэю-ход.

Ганна не бачыла і не чула гэтага. Ды і не дзіва, бо зараз была яна далёка-далёка адсюль. Там, дзе ў чырвонай хустачцы і зграбным, пашытым на польскі манер сурдуціку сядзела яна за гладкім княжацкім сталом мясцовага камбеда.

Пятрок, па-вулічнаму Галапуз, выступаў перад камітэтчыкамі:

— Дакуль, дрыттваю за нагу, будзе гэты Яўсей цягнуць з нас жылы, га? Усе капейчыны, яйцо з-пад курыцы і тое бабы нясуць у царкву. Самі мякінай душымся,

вантробу ад яе раздзірае, а поп сала з ячней жарэ. Ты во, Ганна, ці прыпомніш, калі скварку апошні раз з'ела, га? Не, не помніш? А я табе падкажу: на вялікдзень разгавелася, і яны во таксама,— тыцнуў Галапуз барадою з густым шчэццем на камітэтчыкаў.— Смак сала забыліся. Дрыттваю за нагу, абярнуць асінае гняздо трэбака нам. Усім гуртам падперці плячом і зваліць Яўсееву царкву. Тады сваім мазалём нікога карміць не будзем. Такое маё слова. Пара вопівум народны знішчыць, га? У Ельні яшчэ мінулым месяцам царкву растопчылі, а Аўдолія з выводкам выслалі. Чым мы горшыя за ельненскіх камітэтчыкаў, га? Чаго, Ганна, маўчыш, дрыттваю за нагу? Гаманілі, што і паперчына ў цябе на руках з воласці ёсцека.

Камітэтчыкі Аўдоля, Мар'яна, Пракопчык, Зміцер і Яўхім згодна заківалі галовамі.

— Яно то так,— выдыхнуў найстарэйшы з прысутных Мікола-Прасцячок,— але людзі гвалт уздымуць. Ці так даўно ўсе мы бегалі на прычасце да бацюшкі Яўсея. За мінулых калядаў і ты, Пятрок, дачку пад хрэст насіў,— Мікола прыцмокнуў бяззубым ротам, наважыўся яшчэ нешта сказаць, але Ганна перапыніла яго, падняўшыся з ганаровага месца.

— Хопіць, дзядзька Мікола, ваду ў ступе таўчы. Што было, чаго не было, у хаце на печы прыпомніш. Цяперака стаўлю на галасаванне: хто за высяленне з нашага паселішча Яўсея і разлом царквы — узніміце рукі.

Камітэтчыкі ўзнялі парэпаныя, з задубелай скурай рукі.

Вось толькі нягнуткія пальцы Міколы-Прасцячка ніяк не маглі адарвацца ад калена ў суконных портках. Перакошаныя плечы яго ўздрыгвалі, быццам падкідвалі на спіне нябачны груз.

— А ты, дзядзька Мікола,— выгукнула Ганна, не апускаючы рукі,— ты што, супраць?

— Трудна яно во так, раз, два — і вырашылі. Пагаманіць бы з людзьмі, а то неяк...

— Цябе навошта выбіралі ў камбед? — едка запытаўся Пятрок Галапуз.

На нейкую хвілю запанавала цішыня. За шырокім акном гасцёўні княжацкага памесця гойсалі дзеці. Большыя даганялі меншых і ўскоквалі ім на плечы. Тыя не вытрымлівалі цяжару і валіліся на ўзбіты нагамі жоўты пясок сцежкі.

Камбедаўцы ж з узнятымі рукамі не зводзілі вачэй з Міколы-Прасцячка.

— Не свідруйце так зрэнкамі,— урэшце загаварыў Мікола,— не супраціў я. Во толькі б клікнуць законнага валаснога начальніка. А то, ета, быццам бы свае свайго на нет зводзім. Усе гады разам, адным кодлам жылі...

Ганна першая апусціла руку. Але прысаджвацца не спяшалася. Нейкае імгненне глядзела ў акно на дзяцей, твар у яе хмурнеў.

— Я, дзядзька Мікола, не ўцямлю аднаго: ці ты сапраўды прасцячок, як цябе клічуць, ці заадно з папамі і ўсімі крывапійцамі нашымі?

— Дрыттваю за нагу, гнаць Міколу з камбеда, а то ад яго адзін сум ды верад,— Пятрок смачна плюнуў пад ногі і расцёр падэшвай безабцасавага бота.

Камітэтчыкі пераглянуліся.

— Я што? Я нічога,— пачаў апраўдвацца Мікола-Прасцячок, ловячы позірк Ганніных вачэй...

...Чутка, што камбед сабраўся высяляць Яўсея з сям'ёю і пляжыць царкву, хутка абляцела ўсю немалую вёску. Па вуліцах, каля асобных хатаў, пазбіраліся людзі. Бабулі і жанчыны ў выцвілых будзённых андараках сакаталі, як перапуджаная гусіная чарада. Мужчыны нечаканую вестку абмяркоўвалі стрымана. Раз-пораз згортвалі самакруткі з газет і лістовак, якія распаўсюджвалі па вёсцы камбедаўцы. На вачах худзелі капшукі з тытунём-самасадам.

Ганна назірала за ўсім гэтым праз адчыненую брамку свайго дворышча. Пасля сходу камітэта яна паспела звязацца з воласцю і далажыць аб прынятым рашэнні. Іх ухвалілі, дадаўшы: «Выдзірайце крывапійцаў з коранем», і паабяцалі прысладь у дапамогу двух-трох чалавек. Менавіта іх і чакала цяпер Ганна, углядаючыся праз вуліцу на дарогу ў канцы вёскі.

Яна здалёк заўважыла двух коннікаў у воблаках пылу.

«Ну і добра, неяк смялей з імі будзе. Праўду казаў Мікола-Прасцячок: валасная ўлада не мясцовая. Бабы прыстрашацца ды цішэйшымі стануць, а то вунь як напаліліся — плюнь, дык зашыпяць».

Ганна адхілілася ад шула брамкі. На сэрцы паспакайнела. Не тое каб яна хвалявалася, але ж сядзела нейкая стрэмка ўсярэдзіне, не давала спакою. Згледзела коннікаў, і турбота быццам растала.

Калі сонца павярнула за поўдзень, на пагорку, каля даволі яшчэ новай царквы, сабраліся ці не ўсе жыхары вёскі. Былі тут і дзеці са старымі, якія звычайна далей сваіх прызбаў і дворышчаў не выходзілі. Але павінна было такое здарыцца, чаго ніхто ў вёсцы раней не бачыў. Праўда, чуткі даходзілі, што ў Ельні спляжылі царкву, выслалі бацюшку. Толькі ж гэта недзе там, далёка, а каб вось такое ў іхняй вёсцы... не, не верыцца.

Людзі, нагаманіўшыся паміж сабою ўволю, цяпер моўчкі стаялі ці перакідваліся глухім шэптам.

З хаты бацюшкі Яўсея на царкоўным двары чуўся плач дзяцей, галасіла, нечым грукочучы, матушка.

Але раптам усе гукі патанулі ў разлівістым іграннi, у вясёлай песні. Людзі павярнуліся ў той бок.

Ад княжацкага памесця да царквы ішоў гурт людзей — чалавек з дзесяць. Вецер туга напяў над галовамі рыжаваты кавалак палатна з няроўнымі літарамі. Наперадзе ўсіх крочыла Ганна, а коннікі з воласці трымалі на дрэўках палатно. Пракопчык расцягваў мяхі

старога гармоніка. Мар'яна з Аўдоляй весела падхоплівалі прыпеўкі, якія пачынала Ганна:

Мы раней малілі Бога,
Білі лбамі аб зямлю,
А цяпер свайго мы Бога
Павязем на Калыму...

Вяскоўцы расступіліся, прапускаючы камбедаўцаў да царквы. Некаторыя з вяскоўцаў крадком перахрышчвалі грудзі, хіталі галовамі, гледзячы на такі нечаканы спектакль.

Гармонік змоўк, сціхлі спявачкі. Рыпуча адчыніліся дзверы Яўсеевай хаты. Да люду выйшаў бацюшка.

— Божыя людзі, што прывяло вас да мяне? — Яўсееў голас дрыжэў.

Цёплы, але напорысты вецер трапятаў доўгай апраткай бацюшкі. Ганна падышла да яго і гучна, каб кожны вясковец пачуў, загаманіла: «Па пастанове валаскома,— яна тыцнула рукой у бок коннікаў,— а таксама адзінствам галасоў мясцовага камбеда прынята рашэнне аб высяленні з нашага паселішча папа Яўсея з сям'ёю і спляжанні царквы, аплота насілля і беззако...»

Ганніны словы патанулі ў людскім вохканні і крыках. Ніводнага слова нельга было разабраць. Велькі натоўп нагадваў восеньскіх мух на цёплай шыбіне акна. Гул нарастаў. Але што гэта? Палахліва дзынкнуў адзін звон, глуха адазваўся другі, гукі зліліся ў трывожную мелодыю і разляцеліся над ваколіцай. Людзі прыціхлі, утрапёна гледзячы на званіцу. Позіркі прыраслі да мажнай постаці Юркі-званара, які адчайна торгаў за тоўстыя вяроўкі званоў.

— Прекратить! — на ўсё горла раўнуў адзін з валасных коннікаў.— Прекратить! — Паўтарыў ён і выхапіў з кабуры наган. Грымнуў стрэл. Людзі адхлынулі назад. Толькі ж Юрка працягваў біць у званы. Камбедаўцы разгубіліся, не ведаючы, што рабіць. І тут, штурхануўшы пярэдніх, да царкоўных дзвярэй падскочыў

Пятрок Галапуз. Праз некалькі хвілін яго ўбачылі на званіцы. Камітэтчык выдзіраў з Юркавых рук званарныя вяроўкі. Мелодыя гукаў збілася, толькі ж не сціхла. Юрку ніяк не мог адолець Галапуз, і яму на дапамогу кінуўся Мікола-Прасцячок.

— Дрыттваю за нагу, прыстаў ён да вяровак, ці што? Садані, Мікола, папоўскаму халую пад дыхавіцу, не шкадуй! — Галапуз так крычаў, што яго словы дасягалі вушэй натоўпу. Званы яшчэ бомкнулі раз, другі і сціхлі. Юрка, схапіўшыся за жывот, прыхіліўся плечуком да парэнчаў званіцы. Камітэтчыкі падхапілі яго пад рукі і пацягнулі ўніз па стромкай лесвіцы.

— Дзе ж гэта чута, дзе ж такое бачана? — загаласіла некалькі жанчын з натоўпу.— А божухны, прыйшоў канец свету, нячысцік усяліўся ў людзей. І за што ж гэта дажылі мы да такога дня? Што ж та дзеецца, што ж гэта робіцца?

Бацюшка стаяў збялелы, быццам абсыпаны мукой. Выйшла да яго з хаты і матушка з дзецьмі. Дзяўчынка і хлопчык ціснуліся да яе, як спужаныя качаняты. Матушка акамянела глядзела на людзей.

— Пракопчык, грай нашанскую, вясёлую,— гукнула Ганна, адолеўшы разгубленасць.

Зарыпаў гармонік.

— Людзі, чаго пазвесілі насы? Мы ж знішчаем контру. Досыць поп паеў і папіў нашага дабра! Туманіў галовы нашыя! Сёння мы ўсе кажам: Х-О-П-І-Ц-Ь! Раздушым крывапіўца, як гніду! Хай не замінаюць свяціць сонцу крыжы на гэтай будыніне. Для коней яна, а не для таго, каб ілбы мы тут білі. Д-О-С-Ы-Ц-Ь! — Ганна размахвала рукамі накшталт аратаркі, якую бачыла вясной у Магілёве.— Сёння ж вывозім папоўскае кодла з нашага селішча. Дыхнём вольна, таварышы!

— Чорт табе таварыш,— крыкнуў нехта з натоўпу. Ганна зрабіла выгляд, што нічога не чула.

— Пойдзем рыхтаваць стадолу для коней. За

мною! — Ганна хацела сказаць «таварышы», але спахапілася і кашлянула.

Камбедаўцы шырока расчынілі дзверы і рушылі ў царкву...

...Даруйце, людцы! Даруйце, калі можаце,— Ганна паднялася з пакатага берага рэчачкі. Ногі замлелі, і яна нейкі час стаяла згорбіўшыся. Затым падабрала пасцілку і ціхенька, нібы баючыся, што зваліцца, рушыла па сцежцы, засыпанай сухой ігліцаю, у бок вёскі. Адтуль чуліся крыкі пеўняў і гуркатанне трактара.

То была першая царква, зганьбаваная Ганнай.

Вечарам камітэтчыкі і людзі з воласці напіліся віна ў бацюшкавай хаце. На вуліцы, побач [redacted] царквой, дагаралі гуры кніжак і ікон. Па скінутых [redacted] вежы званах дзеці шпурлялі каменнямі і палкамі. Як крыху сцямнела, коннікі з воласці спаборнічалі ў стральбе па падвешанай лампадцы.

Вельмі спадабаўся Ганне Сяргей. Ён цэльна клаў кулі, і ён жа перабіў ланцужок на лампадцы. Затым зноў сядзелі ў бацюшкавай хаце, зноў пілі віно, якое Галапуз падліваў і падліваў у кубкі.

Вядома ж: маладое да маладога і цягне. Камітэтчыкі, здавалася, не бачылі, як Ганна з Сяргеем выслізнулі з хаты, як подбежкам шуснулі ў канаплянік. Здаецца, і цёмна было, і нікога навокал, але раніцай пра Ганніну распусту ведалі ўсе вяскоўцы. Некаторыя кабецiны бегалі глянуць на выцертыя каноплі.

— Во ўжо сука, дык сука, не будзе ёй прашчэння ні на гэтым свеце, ні на тым,— перашэптваліся людзі.— Пад нож пусціла бацюшку з сям'ёю і на святым месцы сабачае вяселле ўчыніла. Што б яе нячысцік колам пратыркнуў, каб яе галаву каўтун скруціў, як яна пакруціла бацюшкавы каноплі.

Пасля гэтага дня, як эпідэмія, успыхвалі сваркі ў хатах вяскоўцаў. Дзяўчаты пачыналі з бацькамі гамонку пра ўступленне ў камсамол, і тут ужо маткі, а ў таго-

сяго і бацькі, хапалі што пад рукой і апускалі на плечы сваёй дзяціне.

— Вось табе камсамол, распусніца клятая! Хочаш стаць такой поганню, як Ганна! Лепш задушу сваімі рукамі, чым будзеш бяльмом на ўсёй сям'і. На парозе засяку, толькі прымі камсамол!

Дайшла Ганніна слава і да Ганны. Галапуз на падпітку прынёс гэтую вестку. Шырока расчыніўшы ніцыя дзверы Ганнінай хаты, ён стаяў і хмыліўся.

— Чаго стаіш за парогам, заходзь, Пятрок. А то расхлябесціў хату, а сам і ні туды і ні сюды.

Ганна сэрцам адчула, што ўлічылі за ёй нешта нядобрае. Але што?

— Дрыттваю за нагу, Ганна. Няўжо табе так смылела, што на вачах усёй вёскі любошчы спраўляла, га? Папоўскія каноплі выцерла ўшчэнт. Мая баба кажа, што і я тваім кабялём стаў. Ты не крыўдуй, дрыттваю за нагу, але ж грэшнае можна было і ўціхамірку зрабіць. Ды так, каб ніводнаму згадкі ў галаву не прыйшло.

«Дык вунь яно што? Ай-яй-яй. Гэткую славу, як дзядоўнік, не хутка выбераш. Во і палюбілася. Лепш бы трасун мяне ўдарыў, як пацягнулася ў тыя каноплі. Не хапала, каб бабы завязалі спадніцу на галаве. Што сказаць? Як абяліцца?»

— Ты сядай, Пятрок, сядай. Я ў хаце метану, а то чаботы староннi чалавек з-за смецця згубіць. Не стой у парозе, праходзь. Каб яны свету божага не збачылі, як такі бруд на мяне ліць! — Ганна ганяла па падлозе смецце, прытрымліваючы адною рукой падол.

— Што толькі не прыдумаюць людзі, абы ўкалоць бязвіннага. Што толькі іх языкі не выплюнуць, абы паслізнуўся сумленны і чысты. Бог усё бачыць і чуе, ён рассудзіць!

— Дрыттваю за нагу, Ганна, які Бог? Царкву толькі што спляжылі, а ты пра Бога. Ды і помніцца мне, што вы некуды зніклі з вусатым Сяргеем раней за іншых,

га? Нешта строчыш ты суконнай ніткай, Ганна. Было дык было, чаго ўжо там.

— Навошта ж табе плявузгаць па-пустому, а, Пятрок?

Галапуз адкрыта хіхікнуў. І тут ужо Ганна не вытрымала.

— Ага! Любілася я, ну, любілася, што гэта забаронена? Сама сабе гаспадыня!

— Узгарэлася — не патушыш. Навошта крычаць? Я табе не вораг. Проста пераказаў, чым вёска жыве. Дрыттваю за нагу, да бабы [redacted] душой, а яна ягліць, быццам стрэляная. Не я, дык іншыя б сказалі. Ты лепш падумай, чым крыць мусіш.

— А тым і крыць буду. Перадай: калі ім шкода маёй, хай падстаўяць сваё. Так і скажы ім. Усё, выкотвайся з хаты!..

...Цяжка прыпамінаць тыя дні, ой як цяжка. Столькі ж год мінула, а [redacted] галавы не знікае ўсё, трымаецца. Хаджу, хаджу па вакольных вёсачках, людзям у ногі кланяюся, вымольваючы даравання. Толькі ж ці будзе яно за ўсё здзеянае? А ў колькіх цэрквах і каму толькі не спавядалася? Ды цяжар [redacted] душы не знікае. Усё невыносней з ім хадзіць. Людцы мае, людцы, чаго ні наробіш у маладосці, а ў старасці расквітвацца за грахі трэба. І чаму не схапіў мяне «варанок», як хапалі іншых, навошта прамінула куля ў вайну?

Міколу-Прасцячку пашчасціла, схапілі яго скуранкі ў канец лета трыццаць восьмага. Звезлі некуды Міколу, і не стала яго. Мо на тую Калыму ўпяклі, куды высылалі мы бацюшку Яўсея. А мо дарогай скалеў. Міколіха, бач ты, яшчэ жыве. Пазаўчора дык і не прызнала, а як даведалася, хто я, паўночы прасядзелі, паўночачкі прагаманілі.

Сённяшнюю маю мудрасць ды ў тыя б гады, у тую галаву. Колькі б абышла я ямін, колькі б прорваў мінула. А цяперака клічуць мяне камітэтчыцай-вар'яткай.

Толькі ж якая я вар'ятка, людцы? Цяперака я мудрая. Гэта ў тыя гады была вар'ятка.

Ух, стамілася, стамілася ад усяго. Чарніц жа колькі навокал — як насыпана. Во і паснедаю, дзякуй табе, Божа.

Нядоўга затрымалася Ганна ў сваёй вёсцы, калі знявечылі царкву і выслалі бацюшку Яўсея. Як лепшую актывістку перавялі яе ў валасны камітэт. Бо ў сваёй вёсцы проста невыносна станавілася жыць. І пайшла яна бурыць цэрквы, ствараць камсамольскія ячэйкі ды ставіць спектаклі. Толькі ж і слава аб вяртлявай спадніцы не адставала. А здаралася, што і паперад бегла.

Балюча прызнавацца, але мусіш: помсціла Ганна дужа языкатым. Знаходзіла момант і так калола, што крывёю харкаўся той-сёй. Папрыціхлі людзі, паўгаманіліся. Каму хочацца ліха на сябе наклікаць? Лепш змоўчаць, пракаўтнуўшы пагарду і нелюбоў.

А на Здзьвігі таго ж года сам Сазановіч прыехаў па Ганну, павёз у воласць. Паставіў у аддзел культурнай работы, знайшоў кватэру. Ганна адчувала: ускінуў начальнік на яе вока. Ды так моцна, трывала, што і адступіць няма куды. Паддалася яна Сазановічу. Як жа тут па-іншаму? Гэта табе не Сяргей з вусікамі, а САЗАНОВІЧ! Ад аднаго позірку людзі галовы перад ім хіляць, а якое шчасце паднесці тугі жоўты партфель Сазановіча да ўваходных дзвярэй. Апаратчыкі-актывісты па днях распісалі, хто і калі гэта робіць. Во! Такое шчасце ў рукі валіцца, чаго працівіцца?

Аж да лета хадзіла Ганна з задраным носам. Толькі нечакана перавялі Сазановіча вышэй. У самы Магілёў ён скочыў. Праз месяц паабяцаў забраць і Ганну. Абяцанка-цацанка, а дурню радасць. Праўду кажуць людзі. Мінуў і адзін, і другі месяц, а Сазановіч хоць бы вочы паказаў ці нейкую вестачку падаў. Пуста. Паехала Ганна сама ў Магілёў. Але дзе шукаць? У якія дзверы ламацца? Так і вярнулася. Горкае гора: куды падзецца

з пузам? Во-во, глядзі, пачне вылузвацца з-пад апраткі гарбузікам. Хто пашкадуе? Хто дапаможа? Ні табе маткі, ні табе бацькі.

Наняла Ганна калёсы і вечарочкам прыехала дамоў у вёску. Сама засталася, а чалавека папрасіла раннем прыскочыць. У пустую хату так і не заходзіла. Зачынілася ў склепе, лямпу ў кут прыткнула і давай варочаць валуны, што падзялялі засекі. Ірвала Ганна жылле, ірвала вантробу, потам, як вадой, ablівалася, а што ўздумала — не атрымлівалася. Пачала тады саскокваць з гарышча на дол. Пяткі набіла, змучылася, ды ўрэшце вызвалілася ад цяжарнасці.

Божа мой, Божа, і чаго я тады не апруцянела? Чаго першым перуном не забіла мяне? Мыкайся цяперака, як памыйная кошка, па людзях. А як хочацца ласкі і спагады ад блізкіх, родных. Толькі дзе яны? Дзе? Сама ўсё і ўсіх пад корань звяла. О-хо-хо...

Але вунь нейкая кабеціна з дзіцём збірае чарніцы. Трэба так мне заюшыцца, што і не заўважыла спачатку. Блізка ад вёскі, так блізка. І перад імі грэх у мяне. Перад кожным стрэчным.

— Добры дзень, добрыя людзі.

Жанчына разагнулася, уткнула позірк у старую.

— Хай будзе добрым,— пявуча адказала яна на прывітанне.

— Грашыла я, дарагія людцы, грашыла шмат у жыцці: руйнавала цэрквы, распутнічала, загубіла свайго дзіцяці, на многіх навяла смерць. Даруйце мне, добрыя людцы. Даруй, жанчыначка, і ты даруй, дзіцятка! — Ганна стаяла на каленях, крыжавала грудзі і схіляла галаву да самага чарнічніку.

— У кожнага свая віна, у кожнага свая болька,— жанчына адвяла позірк ад старой.— Свет вялікі, мо хто і даруе, а ў мяне гора і клопату хапае. Свайго хапае...

Зябка. Так грэе сонца, а зябка ўсяму целу. Сэрца не хоча гнаць па жылах кроў. Пустое маё сэрца. Во і вёс-

ка... Здаецца, Зяленавічы. Паменшала тутацька хат. Не, не тыя цяпер ужо Зяленавічы. А як выцягнуліся ліпы на Царкоўнай гары. Мо і цяпер завуць гару Царкоўная, а мо і забыліся ўжо людзі.

Царква была драўляная. Каб доўга не валэдзіцца, яе падпалілі. Бацюшка кінуўся нешта ратаваць, кінуўся ў полымя...

Мігціць усё ўваччу, нейкія іскаркі... быццам паленая салома. Зябка, ой як зябка. Датупаць бы да крайняй хаты.

# Графіня з ружай

Усё пачалося са свечкі. Яна патрэсквала, і нервова-мяккае святло ад яе падала на Вацэкаву схіленую галаву, на знясіленыя рукі, на стол з горкай недакуркаў. Божа мой, як смуродна і беспрытульна, як цяжка і нудна на сэрцы. Горшых дзён не пасылала Вацэку сонца, ды, мажліва, і не пашле. Патугі да жыцця мізэрныя і нікчэмныя, накшталт казюркі, пахаванай няўмольным лёсам у папяровым мяшэчку з маннымі крупамі.

Але з чаго пачаць? Дзе і ў чым шукаць прычыну? Здаецца, гэта было раніцай... Не! Раніцай у той час авалодаў дзень. Так, тое было днём. А мо вечарам? Ага, усё ж вечарам.

Жанчына ішла апусціўшы галаву. Скураныя нагавіцы адбівалі водбліскі ліхтароў, а ў заблытаных ветрам валасах з трагічнай скупасцю тырчэла чорная ружа. Чорная, як небыццё. Пад пахай яна несла вялізную ляльку. Васковая голая галава плаўна хісталася і быццам драмала. Многія гараджане з шчыкатлівай цікавасцю азіраліся на жанчыну і пужліва абыходзілі яе. Для жанчыны ж людскі ручай — што струмень стылых машын. Усе і ўсё нежывое — зашклянёна-цэментаванае.

Вацэк не звярнуў. Яны зачапіліся плячыма — і лялька ляснулася аб тратуар.

— Навошта дабіваеш мяне, мой хлопчык? Дарога шырокая, як нябесны прасцяг, а ты...

— Вось ваша лялька. Не наўмысна гэта.

— Ай, ненарокам... Лёс. Ты ведаеш, што такое лёс?

І яны пайшлі поплеч.

— Мінулае — мая будучыня, учарашняе — маё сёння, а заўтрашняе — зжаўцелая гісторыя, успамін пра мяне. Ты студэнт?

— Ага.

— А я графіня. І цэлую вечнасць не ела. У целе, венах — нікацін і кава.

— Мо дзе перакусім?

— Не магу. Нутро вываротвае ад кожнай з'едзенай крошкі. Не магу, не магу есці трэці дзень. Мне жахліва здрадзілі. Выцерлі ногі і пакінулі, як падраную спадніцу. Зябнуць рукі, ледзянее цела, мой ты студэнцік. Божа мой, як выжыць? Я хачу святла, а паўсюль цемра і халадэча. Ты ведаеш Новы запавет?

— Адкуль?

— А я табе скажу: паводле Іаана, там пішацца: кожны, хто робіць благое, ненавідзіць святло і не ідзе да святла, каб не выявіліся ўчынкі яго, бо яны благія. Я не пераношу цемры. Жахліва, калі яна ўсярэдзіне замест сэрца. Бойся здрады, як гільяціны, як смерці. Хоць чаму баяцца смерці? Яна — спачын, пачатак новага і нязведанага, дужа жаданага для мяне. Шкода цябе, хлопчык. Бяжы, адыдзі хутчэй, схавайся. Ну навошта ты ўзяў мяне пад руку? Зараз мае флюіды пяройдуць да цябе, і будзеш ты кідацца, пакутаваць, як кляновы ліст пад абцасам вар'ята.

— Здрада — крок. Вам здрадзілі, значца, яны пайшлі наперад, няважна, ці далёка. Здрада...

— Памаўчы, мой хлопчык. Гэта філасофія не варта ўсплёску хвалі. У цябе баліць і кружыцца галава?

— Так.

— Зараз міне. І ніколі-ніколі ты не спазнаеш боль. Ні болю расчаравання, ні болю кахання, ні фізічнага, ні душэўнага. Павер мне. Скажы: «Я гэтага хачу!»

— Не!

— Няшчасны! Паглядзі, як згараюць людскія душы.

Аж смуродна, немагчыма дыхаць. А колькі ўспыхне пякельным агнём іх заўтра?!

— Вы ангел ці чорт?

— Ха! Ангел ці чорт? Я — графіня, жанчына з мінулага стагоддзя. Гэта ведаю я. І не будзь, студэнт, максімалістам. Максімалізм — мая стыхія. Ты некуды спяшаўся?

— Зусім не.

— Праводзь у царкву. Не бойся. Там адзінае месца для ачышчэння. Там можна пакінуць усё, забраўшы душу. Усё пачынаецца са свечкі. Запомні, мой хлопчык. Славы ад людзей не бяры. Помніш? Але што ты помніш... І ўсё ж Хрыстос некалі сказаў, што хто есць цела маё і п'е кроў маю, мае жыццё вечнае, і я ўваскрашу яго ў апошні дзень. Бо цела маё сапраўды ёсць ежа і кроў мая сапраўды ёсць пітво... А маё цела з'елі і выпілі кроў. Чалавек жа мае права есці толькі Хрыстова цела і піць яго кроў. Навошта, скажы, навошта з'елі маё цела і выпілі кроў?

— Хто яны?

— Яны... Ах, хлапчанё! Я спіхну цябе ў бруд і нізасць. Скажы, ці маю права рабіць такое?!

— Маеце.

— Маю? А што? Я не святая! Я ці не самая ■ самых... О, Божа, як я заблыталася, якія пакуты перанесла! Хочацца быць лепшай, чым ёсць, а не атрымліваецца... Тры гады дзяліла ложак з чалавекам, якога кахала больш, чым заўтрашні дзень. Ён быў маім Богам. Выбачай, Хрысця, за словы. Толькі ж было, было такое. Не думай, быццам я жыла непадступна. Некалі мела мужа, дзяцей. Але па-сапраўднаму магла жыць толькі з ім адным. Я дыхала яго дыханнем. Я... не, не магу! Не магу, мой хлопчык. Вось і царква. Заходзь і не бойся. Я графіня, і побач з табою. Заходзь. Усё пачынаецца са свечкі.

Ішла служба. Вацэк з графіняй праціснуліся праз

5—2298

натоўп прыхаджан, падышлі да вобраза Маці Божай. Перажагнаўшыся і нізка схіліўшы галаву, графіня першая прыпаліла свечку. Паўтараючы яе дзеянні, Вацэк зрабіў тое ж. Некалькі хвілін яны стаялі моўчкі. Для Вацэка час ад часу голас бацюшкі правальваўся ў нейкую багну. У вушах стаяў невытлумачальны гул.

— Пайшлі, студэнцік, пайшлі.

Цягуча дробны дождж сыпаў з цёмнага прадоння неба. Порысты асфальт здзіраў падэшвы чаравікаў і запаўняў закуткі між абадраных будынкаў шчымлівым неспакойным шоргатам. Скупаватыя кроплі дажджу абсыпалі раскіданыя валасы графіні і стварылі ўражанне пышнаватага аўсянага снапа. Графіня і студэнт маўчалі. У такт іх хадзе гойсала нагамі лялька. Цяпер яна здавалася бязлітасна заціснутым пад пахай дзіцём.

— Табе куды?

— Я сёння вольны.

— Скрась тады вечар.

— Не супраць. Нам на метро ці на тралік?

— Ніколі не езджу на грамадскім. Люблю таксоўкі. Мая кватэра недалёка, нашчоўкае на рубель.

— Мо зойдзем у кавярню і дадзіце адпачыць сваёй ляльцы?

— Гэта не лялька. Гэта — Ен. Яго ўвасабленне, вобраз. Няхай бачыць мае пакуты і сам пакутуе. Але дома я маю файную пляшку малінавай гарэлкі і арэхавы лікёр. Прывезла са Швецыі. Табе як, піць можна?

— Мне можна ўсё.

— Неяк стала лягчэй пасля царквы. Быццам вярнулася ў далёкія і забытыя гады. Тады басяком бегала па шырачэзным прырэчным лузе і растоптвала краціныя рыцвіны. Не, няпраўда! Здаецца, я выкупалася ў моры і ляжу на гладкай нагрэтай скале. Дужа люблю мора і кіпарысы, неахайныя валасатыя пальмы. Ен іх таксама любіў. Зараз усё гэта любіць ▪ іншай. Вунь, здаецца, вольнае таксі. Пытай. Ага, паехалі.

Восень. Вечар. Мяккае гойданне машыны. Каналізацыйныя калодзежы чужароднымі прадоннямі выплывалі на халодным целе асфальту. І нейкая беспрытульная, з натапыраным пер'ем варона засяроджана стаіць на белай рассякаючай дарогу паласе. Яна, адрачоная ад велькага свету, не звяртае ніякай увагі на машыны. Што там машыны? Горш чым ёсць — не будзе. Ей надакучыла гуляць у хованкі з птушыным жыццём.

Пераміргванне святлафораў. Толькі чырвоны колер не для таксіста. Пералістваюцца вуліцы. Яны старонкі таўшчэзнай кніжкі, назва якой — горад.

Графіня зварухнулася, вяртаючыся з бязмежнага сусвету ўспамінаў. Лялька пустымі вачыма прыліпла да мяккай абшыўкі.

— Павярніце за краму, тут і спыніцеся. Добра. Пайшлі.

Першы паверх. Шчоўкнуў замок, і яны, адарваныя ад чужых вачэй, зайшлі ў кватэру.

— Распранайся. Пантофлі пад зэдлікам. Праходзь. І сядай дзе прыдатней. Што хочаш паслухаць?

— Пастаўце плыту «Чыкага».

— Не выкай.

— Як хочаш.

Графіня выйшла, прымасціўшы ляльку на пуфіку. Музыка, быццам цыгарэтны дым, запоўніла пакой.

— Пакуль збяру на стол, можаш паглядзець,— графіня кінула на канапу стос часопісаў.— Са Швецыі. Там гэта можна, дазволена каханне на спажыўца. Пачырванеў?

— З мяне каленкамі не выціснеш чырвані. Парнуха — не навіна, крыху брыдка.

— Нічога, нічога.

Графіня ўзяла з шуфлядкі свечку, ці не з царквы. Пстрыкнула запальнічкай і паставіла на столік.

І ўсё пачалося са свечкі.

Малінавы прысмак гарэлкі. Хмельна. Паўсюль: на

падлозе, століку, на канапе, на якой паўляжыць Вацэк з графіняй,— раскіданы разгорнутыя часопісы. Хліпкае святло свечкі выхоплівае позы кахання на спажыўца.

— Мне даспадобы гэта. Проста і арыгінальна. Адкладваем асобна. Мой хлопчык, толькі ці не зашмат? Але, глядзі-глядзі, ну як прамінуць? Такую расцяжку наўрад ці зраблю і ўсё ж паспрабую, а?

— Адкідвай у кучу.

— Божа мой, не думай, я заклінаю цябе, не думай пра мяне дрэнна. Студэнцік ты мой, мой ты светлы промень. Я паганая, дрэнная. Толькі не пакідай мяне сёння. Не губі. Адзінота горш за сіло. Ты малады, і сэрца твае яшчэ без пісягоў здрады. Пацалуй мяне. Моцна-моцна, як не цалаваў нікога. Мой хлопчык, мой выратавальнік, мой анёл.

— Супакойся. Вып'ем яшчэ па адной.

— Ах, распранайся. Давай скінем адзенне, тут горача і млосна. Я дапамагу. Пайшлі ў ванную. Хачу памыць цябе сваімі рукамі так, як і маці ў дзяцінстве не мыла. Не саромейся, дурненькі, не бойся мяне. Во так. Пакінем усё тут. Пайшлі.

— У цябе прыгожыя грудзі.

— Дзякуй, мой мілы, дзякуй, мой хлопчык.

Танюткімі струменямі вады графіня і Вацэк абліваліся па чарзе. Вада ручаінкамі збягала па іх скуры, утвараючы трывалыя баразёнкі. Графіня плакала. Плакала адчайна і надрыўна, паклаўшы галаву з мокрымі валасамі Вацэку на плячо. Цэлафанавая занавеска скрадвала рысы іх целаў, рабіла расплывістымі. Хлопец цалаваў яе шчокі, вочы, лавіў вуснамі саланаватыя слязінкі, што не паспявалі зліцца з вадой.

Пасля яны леглі на канапу.

— Ты не стаміўся, мой любы? Не будзь такім гарачым. У нас яшчэ цэлая ноч. Лепш паслухай прыпавесць, вечную і мудрую. Неяк прывялі фарысеі і кніжнікі да Хрыста жанчыну, злоўленую на здрадзе свайму мужу,

і спыталі ў Хрыста, што з ёю рабіць. Па закону ад Маісея такіх пабівалі каменнем. А што скажаш ты, пыталі яны ў Хрыста. І што ты думаеш, мой хлопчык? Хрыстос ім адказаў так: хто з вас бязгрэшны, першы кінь камень у яе. Пачуўшы такое, фарысеі і кніжнікі, дакораныя сумленнем, павыходзілі адзін за адным.

Зразумей мяне правільна, я не апраўдваю сябе, ды і не хачу. Гэта проста крык душы.

...Усё пачалося са свечкі...

Разрываецца Вацэкава сэрца. Смокча яго нудота і роспач. Маўчыць графінін тэлефон, моцна зачынены дзверы. Ці было ўсё гэта? Раніцай, за кавай, яна хавала вочы, адводзіла іх ад Вацэкавага позірку. Глядзела на ляльку, якая сядзела тут жа, на зэдліку за сталом. Перад ёй таксама стаяў кубачак з кавай.

І вось цяпер Вацэк паліць адну за адной свечкі, набытыя ў царкве, і шукае ў водбліску нервовага агеньчыку графініна аблічча...

# Апошні дзень лета

Тэлефон з нейкай радаснай аднастайнасцю цягнуў перарывістую мелодыю. Там, куды я званіў, не жадалі адказваць. Мёртвая трубка камарыным піскам даймала слых. А я настойліва і безнадзейна круціў спружыністы дыск. Але ў адказ — толькі доўгія гудкі. Пі-і-ік... Лаўлю кожны шоргат, трэск ці не ад дратоў і маланак, ад грому, які коціцца па сырых і цёмных шматпавярховых камяніцах горада. У перапынку між гудкамі я слухаю сваё сэрца. Яно аддаецца глухім нутраным грукатам. Нібы жыве адным жыццём з тэлефонным гудком. Здаецца, адно імгненне — і тэлефон ажыве. Вось зараз, зараз яна падыдзе. Ужо бачу, як нерашуча яна схіляецца над тэлефонам. Але рука бязвольна павісла, і зграбная чырвоная скрынка дзынкае і дзынкае. Пачынае нервавацца, трэсціся паліраваны столік са скупым трохрогім кавалкам палатна, абсыпаным вышыванымі крыжыкамі.

Я чакаю, стукаю ў твае сцены, ламлюся разам з даждждом у сляпыя і бяздонныя вочы вокнаў. Няўжо ты не чуеш мяне? Я не бачу лічбы. Пальцы паслухмяна набіраюць іх самі. Ноч захінае горад у сыры сутон. Дзесяць гадзін. Апусцелыя вуліцы. Паспешлівыя машыны. Усіх разагнаў дождж. Прыкра. Ён цягне за сабой ранняю ноч. Маланка, гром, часты пярун. Ён б'е хлёстка. У такую хвіліну я не чую гудок выкліку. Здаецца, лязо перуна, прабіўшы ноч, затрымліваецца на ржавым даху будкі тэлефона-аўтамата. Маланкі разбілі вечар, які зараз павінен быць, распасцёрлі над запаленымі ліхтарамі ноч.

— Алена, малю цябе, не здзекуйся над тэлефонам. Адкажы мне!

Мае вусны шэпчуць. Голас прабягае па стомленай трубцы і заціхае, крануўшы слых. Яшчэ некалькі хвілін — і я пайду. Заціхне шчымлівы гудок. Я пайду, чуеш, Аленка, пайду. Зараз, праз сотую долю хвіліны. І тэлефонная трубка заспакоіцца на зябкім жалезным рычагу. Толькі ж чаму гэтыя долі хвіліны спыніліся для мяне?

За тонкім шклом тэлефоннай будкі распярэзана гуляе навальніца. Я адчуваю, як яна смяецца, заходзіцца грамавым рогатам. Пад водбліскам маланкі навальніца бачыць маю руку, пальцы, якія зачаравана прысталі да лічбаў. Яны не проста лічбы. Яны — голас Аленкі, праз іх я бачу яе сумныя вочы, у якіх зіхотка блішчаць іскрыны ад вясенняга вогніка над рэчкай. Ад таго вогніка, які прадзірае волкі туман, грэе настуджаныя расой ногі. Пахла чаромха, густа і цягуча. Шчымлівы пах квецені гарнуў нас адно да аднаго. Помніш, ты спужалася ад нечаканага крыку зязюлі. Адзінокае «ку-ку» вылецела нечакана, б'ючыся аб парэпаную кару дубоў, яно расколвалася на драбкі і гублялася. Ты вінавата ўсміхалася, хаваючы сполах пад смоллю валасоў, што рассыпаліся па лбе.

— Зязюля, першая зязюля,— ты па-асабліваму выгаворвала словы. Яны былі нейкія лёгкія і празрыстыя, як пух дзьмухаўцоў. «Зязюля, першая зя-зю-ля». Аленка, паўтары гэтыя словы зараз. Яны мне так патрэбны. Тэлефон крычыць. Гэта я клічу цябе, Аленка!

Сполахі маланкі жагнаюць неба, вырываюць з цемры кавалкамі, ірванымі лапікамі дамы, дрэвы, слязістачыстыя вітрыны магазінаў. Мне так самотна, адзінока і зябка. З апошніх сіл гляджу на тэлефонную трубку. Часам здаецца, адчуваю цеплыню дыхання Аленкі. Падман. Усё падман. Быццам ніколі не было цябе ў маім жыцці. Не было вогніка, кволенькага вогніка, які ледзь

дыхаў золатам вугольчыкаў. Няўжо не было сарамлівых зорак, што прадзіраліся праз касмылле хмар і знячэўку глядзелі ў застылую ваду рэчкі?

Але ж... раптам, зусім нечакана, ты папрасіла расказаць казку. Так проста і шчыра гэта атрымалася, што я не ведаў, сур'ёзна ты ці насміхаешся з мяне. Алена, падымі ахрыплую тэлефонную трубку! Я раскажу табе казку. Самую лепшую казку ў свеце, якую каля зрэзанай старой яблыні апавядала мне сястра. Я не прамаўчу, як тады каля вогніка. Адкрыю табе адной таямніцу пра дзьмухаўца і рамонку. Вялікую тайну, праўдзівую таямніцу, якая нарадзілася на нашай зямлі. Няхай тухнуць вугольчыкі. Няхай вар'яцее навальніца над горадам, а маланка смяртэльнымі зубамі ўпіваецца ў дрэвы на багністых балотах. Няхай магутныя машыны бяссільна фыркаюць, як змучаныя коні, на асфальтаванай вуліцы і прабіваюцца праз сцяну дажджу. Машыны балюча раняць ноч слупамі фар і паўзуць наперад. А я застаюся з табой, Аленка. Застаюся адзін, адарваны ад усяго ржавай тэлефоннай будкай і адзінотай. Мяне выратуе твой голас, Аленка. Пі-і-і-к.

— Алё! Добры дзень, Аленка. Не, прабач, добры вечар. Так, гэта я. Ці даўно званю? Не, толькі прыйшоў. Была ў сяброўкі? Прывітанне ёй.

Я маўчу і слухаю дыханне Аленкі. Я адчуваю яго цеплыню вухам, скроняй.

— Чаму я сумны? Не, табе здаецца. Проста хачу расказаць дзіўную казку, якую абяцаў, памятаеш, каля вогніка. Ты кажаш, зараз прыедзеш? А як жа дождж? Не, не трэба. Слухай па тэлефоне. Дзе я знікаў цэлы тыдзень? У полі, Аленка. Мы з сябрам раскопвалі замчышча. Гэта не лухта. Шчырая праўда. У мяне і зараз як абпаленыя ад мазалёў далоні. Якую казку? Пра дзьмухаўца і рамонку. Ты слухаеш мяне, Аленка? Я пачынаю.

Раней на Лысай гары, там, дзе расла адзінокая яблы-

ня, панаваў дзьмухавец. Ён быў страшэнна адзінокі. Яму хацелася гаманіць, ды не было з кім. Яблынька ад старасці аглухла і толькі рыпела надтрэснутымі галінамі, шпурляючыся шалудзівым лісцем ды карослівымі, з пазногаць, яблыкамі. Сярдзіты вецер зрываў усё з сыпучых жоўтых пяскоў на Лысай гары. Дзьмухавец хаваўся ад яго за моцныя карані, якія, як жылы на стомленай руцэ, перапаясвалі ніпчымны жаўцяк. Часам ноччу, прахапіўшыся ад сну, яблынька шаптала: «Ды-дуван-чык, дзе ты? Дзьмухавец?» І тут жа забывалася ў саладкаватай дрымоце, нешта пашэптваючы лісцем. Усё надакучыла дзьмухаўцу. Надакучыла само жыццё, сонца, якое раніцай грэла, надакучылі назолы-мятлушкі, ад якіх не адбіцца. Ён перастаў хавацца ад ветру. І нечакана адным днём вецер сеў адпачыць пад яблыньку на Лысай гары. Грозна і цяжка дыхаючы, ён пачухваў лысую, як калена, макушку і, жмурачыся, глядзеў перад сабой.

— Будуць памятаць, як здзекавацца з мяне. Паненкі мне! Ну і што, калі паненкі? А я ўладар усяго. Ім не гонар галаву схіліць? Пасхіляліся яны цяпер надоўга,— адным духам выгаворваў вецер.

— Рамонкі,— крывячыся, шыпеў волат.

Вецер раптам, як нешта прыпомніўшы, падхапіўся і слізгануў на хмару, пакаціўся да лесу.

— Рамонкі. Што гэта такое?! — крыкам спытаў дзьмухавец у яблынькі.

— Рамонкі? Гэта самыя прыгожыя паненкі,— адказала яблынька.— Іх землі знаходзяцца каля нашай гары. Моцна яны берагуць сваё княства. Ні днём ні ноччу вачэй не спускаюць з меж, што аддзяляюць іх ад астатняга свету. Гэта мужныя і прыгожыя паненкі — во! Не думай пра іх, гасцей яны не прымаюць. Не думай...

І яблынька зноў задрамала. А дзьмухавец не знаходзіў месца, чакаў ночы, хацеў прабрацца на землі рамонак, каб хоць адну пабачыць.

Ноч удалася, як сёння: такі ж гром і маланкі, вецер і слота. Дзьмухавец пайшоў. Прабіраўся ледзь чутна сярод кустоў, спатыкаўся аб камяні і голле, абдзіраў лісцікі аб колкі дзядоўнік. Ён пераплыў рэчку і ступіў на землі рамонак. Раптам нехта лёгенька ўскрыкнуў. Дзьмухавец шуснуў за лазовы кусцік, угледзеўся ў цемру. Пры водбліску маланкі ён убачыў прыгожую кветку, якая насцярожана глядзела ў яго бок.

— Ты хто? — пачуў пытанне дзьмухавец.

— Я — дзьмухавец,— адказаў ён хвалюючыся.

Яна падышла да яго.

— Люблю навальніцу, гоман ручая. Не спіцца. Стаю і слухаю. А ты любіш?

— Люблю,— адказаў дзьмухавец.

— Ты адкуль прыйшоў?

— З Лысай гары.

— У цябе там прыгожа?

— Пайшлі, паглядзіш.

— Пайшлі. Толькі асцярожна, а то сёстры ўсчыняць пагоню і, злавіўшы, пакараюць і цябе, і мяне.

Яны, Аленка, пайшлі, мінаючы пасты паненак-вояў. Беглі, колькі хапала моцы, уцякаючы ад стражак, што заўважылі іх. Калі рамонка валілася ад бяссілля, дзьмухавец падхопліваў яе на рукі-лісцейкі і нёс, засланяючы сабой ад халоднага дажджу і ветру. Да раніцы яны шчасліва дабраліся пад старую яблыньку. І ведаеш, Аленка, у хуткім часе Лысую гару нельга было пазнаць. Яна квітнела ад рамонкаў і дзьмухаўцоў. І яблынька, здаецца, памаладзела. Цешылася, слухаючы вясёлы гоман і смех. Рамонкі з дзьмухаўцамі сяліліся паўсюдна, радуючы людское вока.

— Чаму ты маўчыш, Аленка?

Пі-і-і-к, пі-і-і-к,— няспынна паўтарае тэлефонная трубка. Шкода, Аленка, што ты не чула прыдуманую казку.

Табе яе раскажа твой тэлефон, ён мяне слухаў. Калі-

небудзь ён раскажа табе ўсё: пра сённяшні вечар, навальніцу, пра старую яблыньку і Лысую гару, пра шчасце дзьмухаўца і рамонкі. Ён раскажа, як я хацеў пачуць твой голас. Уяўна чуў яго і бачыў цябе. Ён абавязкова раскажа.

Я іду пад дажджом па мокрай вуліцы. Супакоіўся змучаны тэлефон. Толькі навальніца ніяк не хоча сціхнуць, плешча дажджом, мые горад. І зусім нечакана, неяк недарэчна я чую песню, знаёмую песню, якую пяюць на дажынках у вёсцы. Няўжо здалося? Не. Я бачу дзвюх дзяўчат, якія, сеўшы на падаконнік трэцяга паверха, пяюць у ноч, насуперак навальніцы:

Чаму ж ты, дзяўчыначка,
Ды жыта не жала?
Чаму ж ты, дзяўчыначка,
У баразне ляжала?

Аб кім яны зараз думаюць? Каго клічуць песняй? І я далучаюся да іхніх галасоў. Насуперак навальніцы, настрою я падпяваю знаёмую і забытую песню. А лета мінае. Мінае апошні дзень лета...

# Банальнасць

— Адзінота страшнейшая за смерць. Штодзённая і штоночная адзінота... Быльнёг у полі шэпчацца з ветрам, дрэва лашчыцца сонцам, пясчынка трэцца аб пясчынку, а я... Адзінота. Няма пахавальнага вогнішча, я [redacted] абняўся [redacted] ім. Дзе той парэпана-драўляны ідал, да якога падносяць сваю кроў? Крыжы пужаюць.

Але ж, дзень добры табе, Гарына. Пачатак ліста не лепшы. Прымі гэта за пазёрства. Такім, відаць, я і застаўся, якім ведала мяне ты два, пяць гадоў таму. Не рві толькі ліст. Прашу. А сыну можаш сказаць, што гэту пісаніну даслаў сваяк Руслан.

Пачакай, ты чула пра той выбух на чыгунцы? У суседзяў уключаны тэлевізар, і дыктар нешта тлумачыць. Маўляў, так вызначыла камісія. А людзі загінулі... І як палягчэнне — вінаватыя панеслі кару. Ты мо думаеш, навошта пішу я ўсё гэта, ды і дзеля чаго? Мінула ж столькі часу, перакуліўся свет. І жыць быццам стала лягчэй. А што робіцца ў душы? За ліст узяўся выпадкова, павер — тут без позы. Сёння адна з маіх пасцельных знаёмых (ад цябе не хачу хаваць нічога), дык вось яна, перад тым як ісці ўранку на працу, быццам бы смехам, паднесла разам з кавай рэпрадукцыю Анры Кадзью «Страчаныя ілюзіі» і запатрабавала прысягнуць на сталовым нажы, што ў нас з ёю ніколі так не адбудзецца. І я не павярнуся да яе голым задам. Жахлівы смех, Гарына!

Страчаныя ілюзіі... А як даўно мы страцілі іх з табою? Табе баліць ад успамінаў? Думаю, што не. Мне —

таксама. Вось толькі сын... мой сын. Ты ж у той вечар крычала, што ён не мой, а каб быў маім, ты задушыла б яго сваімі рукамі, каб толькі ён не стаў такім фанатам, як я. За дзень перад гэтым ты, Гарына, сыходзіла слязамі, дакарала мяне, маўляў, як я мог «перад тысячамі гледачоў экрана» з'явіцца ў нейкай вышыванцы. Калі ўжо так карціць — гавары хоць па-тарабарску, але ж не глуміся над сям'ёю, ты галасіла і крычала, крычала і галасіла — выкінула ўсе шыкоўныя апраткі з гардэроба на сярэдзіну пакоя. Тыцкала імі. Усхліпвала і галасіла: «А што ж скажуць людзі пра твайго бацьку-прафесара, а як жа выйсці на вуліцу маці, калі іх зяць — абарванец і кляты краязнавец?!»

Бачыш, усё неяк помніцца. Хоць здавалася, даўно забыў. Ці было гэта пачаткам разладу? Так. Ты разанула па самым балючым, па адданасці продкам маім. Не смейся, моўны штыль і сапраўды высокі.

І чую словы твае: «А дзе ж былі вочы, калі мы браліся, калі сям'ю стваралі?» Я аслеплены быў табою. Пачаў двайную гульню. Здрадзіў ідэі і сябрам. Хаваўся ад іх з табою, і каб табе, Гарынка, не сорамна было за мяне перад вашымі знаёмцамі, лапатаў так, як патрабавалі вы. Думаў, з часам вернемся да нашых агульных вытокаў, але... Знайшоўшы цябе — згубіў усё, усё найдаражэйшае.

Ішоў снег, я развітваўся [redacted] вашай сям'ёю (цешча схавала сына, так яго і не ўбачыў), а ты маліла Бога, чаму ж мяне не забілі там, чаму жывы прыйшоў адтуль, адкуль тысячамі прывозілі ў трунах? Пытала ў Бога, чаму мяне не застрэлілі, чаму? Іншы раз і я здзіўляюся гэтаму. Але ж, калі прызнацца, мая смерць была б і імгненнай смерцю маці. А гэтага я не мог дазволіць сабе. Не, я не быў баязліўцам. І мае рукі ў крыві, а на чыхсьці руках — мая кроў. Такая простая формула жыцця. Хмыкаеш — банальна... Мо яно і так.

Нядаўна бачыўся з Алесем. Ты памятаеш яго. Пер-

шы шафер на нашым вяселлі і разам служылі ў адной часці. Не ведаю, ці паверыш: стаў ён пісьменнікам. Але шкада, не пачытаеш ты, пакуль што не перакладаюць Алесевы творы на іншыя мовы. Ён піша пра нашу службу там... Неяк зябка сёння ў пакоі. Хрыпіць транзістар. Слота на душы, а праз гадзіну прыйдзе Верка. Спадзяюся — ты не раўнуеш? Дурное пытанне. Якая ўжо рэўнасць...

Але ж, прабач, не закончыў думку пра Алеся. Прачытаў ён некалькі сваіх апошніх апавяданняў — і прачнулася перажытае. Дужа праўдзіва напісана ў яго, як палілі мы, прыйшоўшы дадому, вайсковыя боты ў закінутай цаглянай прыбіральні. Каўталі кіслае віно і палілі, палілі горкую памяць, яе атрыбуты. Табе брыдка? Не крыві скептычна раток. Пра гэта я ніколі не расказваў... Смела напісаў Алесь, не пабаяўся. Хоць чаго баяцца — праўды, нашай праўды...

Гарына, з краязнаўца і я станаўлюся пісьменнікам. Ты смяешся да ікоты. Пасмейся. Далёка мне да Алеся, толькі ж пачытай і мае спробы. Вельмі б не хацелася, каб ліст нехта перакладаў на зразумелую табе мову. Набярыся хоць аднойчы мужнасці і цярпення, прачытай сама, можаш са слоўнікам.

За сцяной суседка ўключыла магнітафон, паставіла мой любімы запіс Рахманінава «Літургію Іаана Златавуста». Неяк добра падыходзіць яна па духу да складзенага табе паслання. І так, Гарынка, чытай жа мой твор...

Коннік праскочыў між карослівых бярозак, як навальнічны сполах ветру. Паблізу дарогі адрывіста засакатала задрамалая сарока. І адразу ж на часты перастук конскіх капытоў адазваўся Міхееў сабака. На хутары толькі садзіліся вячэраць. Міхей, пачуўшы ягленне дваровага Радзімца, прыплюснуўся да запацелай шыбіны. Лыжка з прасянай кашай застыла ў руцэ.

Угледзеўшы, як з пагорка коннік спусціўся ў лагчыну, Міхей саўгануў лыжку з кашай у міску і, беручы цёрты кажух, буркнуў Васіліне:

— Нехта напярэрвы гоніць каня. Толькі б не [illegible] ліхам спяшаўся.

— Вой, стары, хай абнясе Гасподзь. Супроць ночы любая звестка — не мёд. Ідзі на двор, хто там ні ёсць, а стрэць трэба. Аблавушку ўсцягні на галаву. Студзіць ветрам дужа.

Міхей прычыніў за сабою дзверы ў сенцы. Прытуліўся да іх спінаю. Коннік за гэтыя хвіліны паспеў аб'ехаць расчэпістую грушу-дзічку і ўнурыцца да плота.

— Дзед Міхей! — заўважыўшы старога, клікнуў прыезджы коннік.— Дзед Міхей, ты не пужайся. Я толькі прывяжу каня і падыду. Счакай, я зараз.

«Вулін Мікола, знацца, прыскочыў. Няўжо што з маткай здарылася? На сэрца ўсё жалілася. Во табе і «не пужайся».

Міхей адпіхнуўся ад дзвярэй і патупаў насустрач Міколу.

— З чым ты, хлопец, прыляцеў да нас?

— Ой, дзедка, дзед! Няма больш нашага Валодзькі. Няма!

Мікола ўтыкнуўся тварам у грудзі старога. Плечы хлопца затрэсліся, і ён паволі споўз на зямлю.

«Няма Валодзькі? Як няма? Яму яшчэ ці не год вайскоўцам быць. Далёкая зямля. Чужыя людзі. Няма?»

Міхей не зачапіў Міколу, які, абхапіўшы рукамі галаву, моўчкі плакаў. Уздрыгвалі ногі, раскінутыя цыркулем. Стары паволі дайшоў да лаўкі на ганку. Сеў. Сюды ж выйшла і Васіліна, Міхеева жонка. Штосьці запыталася ў яго. Міхей не чуў, і Васіліна кінулася да ўнука.

«Кажа, няма Валодзькі?..» Густа пахне квеценню грэчкі. Чаўнаком снуюць пчолы. Валодзька хаваецца за

кустом смуродзіны. Ды ён жа не адзін, яшчэ нейкае хлапчо стрыжэ вачыма мяне. Во бэйбусы, зялёныя ягады трушчаць. Жываты ўздзьме. І калі толькі прыбеглі? Выгнаць трэба. А чаго ж так пчолы таўкуцца над калодай? Гэх ты, і бакавушка адкінутая. Дымавуха курыцца каля калоды. Гэць на цябе, ці не выдралі яны калоду? Выдралі, бандзюкі! Хамут на вашыя шыі. Ну і дам!

Валодзька вырываецца. Пазногцямі дзярэцца. Не, малёнец, з рукі маёй не вырвешся. Верашчы драздом. Во так, папругай, во так.

Рука нямее. Тыдзень не сядзеш. Хай палавінкі пасінеюць, як буякі. Ці з цябе мёду мала?! Во які смак мёду, во які! Сказаць мушу Вулі, яна цябе яшчэ пахрысціць. Вечарамі дзевак шчупаеш, а не пасаромеўся роднаму дзеду погань чыніць. Эх ты, Валодзька!.. Густа і цягуча пахне грэчка. Аж дых пераймае.

Рукі вы мае, рукі! Адняліся б вы ў мяне ў тую хвіліну, і струпехнуць бы калодзе з пчоламі. Не крычы і не бойся, Валодзька, не зачаплю я цябе. З навету, ад раструшчанай грушы-дзічкі секануў «цыганскі» дождж. Валодзька бяжыць у вёску, падшморгвае рукамі штаніны. Белагаловы Валодзькаў сябрук недзе схаваўся, шуснуў кудысь, як верабей у каноплі. Ой, не. Не. Больш так не магу. Распірае грудзі пах грэчневай квецені. Гудуць пчолы...

Васіліна з Міколам стаяць перад Міхеем. Нехта з іх тузануў за рукаво кажуха. Стары ўтрапёна ўткнуўся позіркам у жонку.

— Пайдзём, бацька, у хату. Што тут сядзець? Прызімкам студзіць.

— Міколка ў хаце ўсё раскажа. Падымайся, Міхейка.

На камінку патрэскваюць бярозавыя паленцы. Патрэсквае, б'е трупехлыя сцены шашаль.

— Як жа Вуля там? — пытае Васіліна.— Хто з ёю застаўся?

— А мамкі больш няма. Яна забіта Валодзькавай смерцю. Забіў яе Валодзька...

Павер, Гарына, на вялікае не асмельваюся. І не ведаю, ці дойдзе хоць адзіны напісаны радок да чытача. Я паспрабаваў даверыць паперы тыя адчуванні і страх, з якімі жыў бясконца клятыя месяцы на чужыне. За сябе ніколі не баяўся. Ты ж не такі дурны чалавек, каб тлумачыць: чалавек, які памёр аднойчы,— другі раз не народзіцца.

Ты дабіла мяне, дабіла, калі жыццё яшчэ трапятала ў грудзёх... Але пачакай, апошнія словы сказаны няшчыра. Выкрэсліваць іх няма жадання, хай будуць. Я жыў і жыву не дзеля сябе... Пакрыху знаходжу згубленае, вяртаюся да страчанага. У мяне ёсць мэта. Ёсць!

Нехта звоніць у дзверы. Прыйшла, відаць, Верка. Пачакай, адчыню і закончу ліст... Так, гэта яна. Узялася за вячэру.

А вось і апошнія радкі запозненага і, магчыма, непатрэбнага паслання.

«А я быў таленавіты. Апыніся тады побач са мною адданая мне жонка, якіх бы толькі вышыняў не дасягнуў! Але адзінокаму чалавеку цяжка, немагчыма ўвесь час верыць у сябе. Нам патрэбна, каб побач з намі быў сведка нашай сілы, каб ён адзначаў нашы ўдачы, няўдачы, падлічваў ачкі, а ў дні нашых перамог увенчваў нас лаўрамі, як некалі ў школе, атрымліваючы пахвальны ліст, я шукаў у натоўпе маму, і пад гукі ваеннага аркестра яна ўскладвала на маю галаву залатых лаўравы вянок...»

Гэтыя словы я пазычыў у Франсуа Марыяка з рамана «Клубок гадзюк», спадзяюся, чытала.

Гадуй сына, калі мне не суджана, і прабач за турботу з лістом...

# Рыбкі для акварыума

Вадзім апошнім часам пачаў баяцца новага дня. Нейкая нудота пасялілася ў грудзях. Ці не ад гэтага знаёмыя заўважалі глыбокі сум у яго вачах. Каб пазбавіцца ад здушлівага наслання і гнятлівага жаху, ён набыў сёння чатыры мініяцюрныя рыбінкі. Ці не з гадзіну хадзіў паўз ладных акварыумаў, выглядаў, выбіраў па сабе. І нарэшце спыніўся каля някідкіх шэрых. Яны нечым згадвалі рачных печкуроў. Жанчына плёхнула пару рыбак у падстаўлены Вадзімам слоік, затым з суседняга акварыума выхапіла маленькім рэшаткам яшчэ дзвюх і зняла тэлефонную трубку.

Прыйшоўшы дамоў, Вадзім адчуў: зрабіў чарговае глупства. Пазіраючы, як рыбінкі сноўдаюць у слоіку, тыцкаюцца рыльцамі ў шкло, узнікалі пытанні: дзе набыць ім водарасляў? Трэба нейкую спецыяльную ваду. З-пад крана яны доўга не працягнуць. У ёй столькі хлоркі, што і чалавечае нутро выварочвае. Мо пракіпяціць і ў астуджаную выпусціць? А галоўнае: чым карміць? Чырвоны, з чалавечы волас, трубачнік выклікае агіду. Можа, што-небудзь ёсць па догляду рыб у гуры кніжак? Глупства — нічога няма. Паспрабую затэлефанаваць Алегу. Ен меў некалі акварыум.

— Прывітанне, брат! Ну ты і заеўся, па голасе не пазнаеш. Так, я. Дзе знік? Справы, брат, справы. Слухай, хачу пракансультавацца, як даглядаць рыбак. Самота заела, дык сёння набыў чатыры акулы. Плёхаюцца ў трохлітровым слоіку. Што? Хопіць, стары, жартаў, я сур'ёзна... Ды пайшоў ты!

Вадзім ляснуў трубку на рычажкі.

— Ідыёт! Тут жывыя душы марнуюцца, а ён раіць пляшку гарэлкі ўліць. Ці не лепш было купіць папугая. Ды ўжо ж, хопіць і рыбак. Што з імі рабіць, [redacted] печкурамі? Звычайнага хлеба кідану. Хлеб для ўсіх хлеб.

Пасядзеўшы яшчэ [redacted] паўгадзіны, Вадзім памыўся пад халодным душам, пераапрануўся і вырашыў схадзіць у кавярню «Квадра». Там можна неяк скарацíць вечар. Толькі шалёныя цэны. Кааператыў. Ісці пешшу ленавата. У метро задыхаешся ад цеснаты. Ды да таго кожны імкнецца абцасам стаць на нагу. Лепш кідануць рубель на таксоўку. Бароны драныя, пустыя едуць і не спыняюцца. Хоць пад колы кідайся. Мая б воля, прымусіў бы іх хоць адзін дзень без спачыну паштурхацца ў грамадскім транспарце, дзе могуць і ў кішэню залезці, і яшчэ туды, куды маеш права толькі сам, па пільнай патрэбе. Дэбілы! Ды каціцеся вы на сваіх катафалках у шмоньку да старой бабы. Мы не ганарлівыя, пройдземся пешшу. Дварамі бліжэй. Толькі далей ад скрынь з адкідамі і смеццем. Там зграі блашывых сабак і абадраных кошак. Нешта сёння паўсюль адно дрэннае. Нельга так, Вадзім. Во глянь на спартовую будыніну з лозунгам «Здароўе — багацце краіны!». Так то яно. Не больш і не менш. Аж зараўці бугаём цягне і карціць выкінуць з кішэні пачак з цыгарэтамі. Клапоціцца пра нас дзяржава, як быццам я пра рыбак.

Нарэшце Вадзім выйшаў да «Квадры». Пустэча каля дзвярэй. Нязвычна. І толькі, калі прачытаў акуратную шыльду на сцяне, да яго дайшло — сёння тут выхадны. Ай-ля-ля, дарэмна ногі біў. Які Ванька прыдумаў выхадны ў чацвер?

Сонца схавалася за бязладнымі дамамі. Лягчэй і вальней стала дыхаць. Праз дарогу, каля дыетычнай сталоўкі, гарыць смецце ў скрыні. Полымя выкідвае ў ціхі вечар смярдзючы дым. З расчыненых дзвярэй сталоўкі выйшла кульгавая жанчына ў брудным бясколерным халаце і, адвярнуўшы твар ад полымя, выліла

ў сметніцу вядро вады. Сметніца засквірчэла і выплюнула даўкі клубок пад балконы дома. Падалося: кульгавая ўзарвала маленькую бомбу.

Вадзім саўгануў рукі ў кішэні і скіраваў да недалёкай адсюль рэстарацыі «Поўня». Калі пашчасціць патрапіць, можна кульнуць грамаў дзвесце гарэліцы, у горшым выпадку — лікёру. Што ні кажы, а без стограмоўкі ў сённяшнія часы «ператварэнняў і змен» не пражыць. Так здаецца мне.

Каля дзвярэй рэстарацыі тоўпілася з дзесятак чалавек. Мадняцкія дзяўчаты [redacted] тварамі пад Інтэрфэйс у чаканні палілі цыгарэты. Маладыя пеўнікі весялілі іх суперсучаснымі анекдотамі тыпу: «Ляцела ноччу сава кугакаючы, доўбнулася аб дрэва галавой, завойкала і далей паляцела». Смешна да ікоты. Плоска. І тут, Вадзім, не пашэнціць? Варта паспрабаваць, інакш дома [redacted] глузду з'едзеш побач [redacted] нямымі і галоднымі рыбінамі. Вадзім намацаў у кішэні пропуск, праціснуўся праз бурклівы натоўп да шкляных дзвярэй і ляпнуў даланёй па шкле, паказваючы чырвоную кніжачку швейцару. Той прачыніў дзверы. Вадзім уціснуўся ўсярэдзіну.

— Спецслужба, бацька,— загаманіў Вадзім, хаваючы заводскі пропуск у кішэню.— Паназіраць трэба за адным тыпам. Падшукайце месца ў някідкім кутку, дабрыні не забуду. Ух, заманала служба.

Стары шматзначна паглядзеў і знік у зале.

Просты, як сем капеек разам, дзядок. Нядаўна працуе. Праглынуў лепятню і не папярхнуўся. З часам навучыцца. Толькі б цяпер не нарвацца на адміністратара. Іх, неданоскаў, не возьмеш голай рукой. Фу ты, сямімесячныя апоўзікі.

— Праходзьце, таварыш, быццам для вас і бераглі нятлумнае месца. Я вам яго пакажу. Браць бандзюгу адны будзеце ці пад'едзе брыгада? Толькі б без страляніны. Калі што — дайце знак, я падскочу.

— Добра, бацька, спадзяюся на вас.

Няёмка і смешна. Навучыць бы, а то звольняць. Дзе толькі жыў і адкуль выпаўз трытон. Буду ісці дамоў, скажу.

Швейцар з парога паказаў месца. Вадзім мінуў некалькі столікаў і сеў на вольнае крэсла. Суседзі — два хлопцы і дзяўчына — былі на падпітку. Яны без цікавасці акінулі Вадзіма позіркам і гаманілі далей.

— Кажу, пакуль не паўбіраем бюракратаў — ніякай змены не будзе...

Вастраносы з рэдзенькай бародкай гаварыў, нібы захлёбваючыся слінаю.

Афіцыянту, які неўзабаве падышоў, Вадзім замовіў трыста гарэлкі, мінеральную ваду і фірменную салату.

Цяпер у застоллі верх узяў шыракаплечы з глыбока пасаджанымі вачыма.

— Не згодны з табою, шэф. Без бюракратаў мы не можам. Яны ўсім патрэбны, як адзенне. Уяві: звялі іх да аднаго, нідзе не засталося. І што далей? Ага, далей жыццё будзе раем. Паміраць ніхто не захоча. Паўсюль — дабрабыт, задаволенасць і ўзаемапавага. Ды будзе такое нядоўга: дзень, тыдзень, месяц. А там — новыя, свежанькія дзядзечкі выгадаваліся. Сталі на ножкі, схапіліся зубамі за сваё крэсла, як за шчодрую цыцку, і гадуюць пузенцы. Тут, шэф, думаць трэба, а пасля нешта рабіць. Ты хочаш нефармалам аддаць пасады і месцы. Даць ім уладу. А дзе гарантыя, што яны не стануць таўстазадымі? Сістэму — вось што мяняць трэба, і баста! А ўвогуле хопіць гаварыць дзеля таго, каб гаварыць,— кіўнуў на суседку.— Рута пазяхае. Налівай, шэф. Кульнём па грамульцы, і свет папрыгажэе.

Слухаючы маналог шыракаплечага, Вадзіма пацягнула паспрачацца, але афіцыянт прынёс замоўленае. Славуты ў горадзе яўрэйскі струнны квартэт зайграў. «Паланез Агінскага». Загаласіла віяланчэль, ёй танютка падплаквалі скрыпкі. Два падслепаватыя пражэктары высвечвалі пятачок з музыкантамі.

Добра жыць, жыць «без праблем». Толькі ці магчыма такое, а, Вадзім? Ён наліў поўны келіх і заўважыў: дзяўчына, якую назваў шыракаплечы Рутай, не зводзіць з яго вачэй. Яна цягнула праз саломінку рудаваты кактэйль, а раскосыя вочы прагна елі Вадзіма. Ад намёклівага позірку Руты па целе прабеглі дрыготкі.

— Сябра, цыгарэт не будзе?

Вадзім перадаў барадатаму пачак «Гродна».

— Раз за адным сталом, давай знаёміцца. Мяне клічуць Адамам,— ён падаў руку Вадзіму,— а гэта — Яшак і Рута. Знацца, будзем знаёмцамі. Давай па адной і прапусцім,— Адам наліў стограмоўкі.

Гарэлка давала знак. Станавілася лёгка і проста. Цягнула ўзмахнуць рукамі і палётаць пад самай столлю, як шэры верабей. А найбольш засвярбела Вадзіму сцягнуць бронзавы парык у размаляванай старой каля электрычнага каміна. На кожнае слова чарнабровага, які абдымаў яе за тлустую спіну, тая моцна рагатала, закідваючы галаву. Пустое жаданне. Вадзіму добра. Знік трагізм. Ён ледзь не шчаслівы. Хацелася прыласкацца да Руты і сказаць нешта нахабнае ёй на вушка.

— Вадзім, за кім будучыня: за дзядзькам-бюракратам ці студэнтам-нефармалам? З Яшакам гадзіну б'ёмся і не даходзім да згоды. Ён былы «афганец», інтэрнацыяналіст. Так у газетах пішуць. Мае ордэн і два медалі. Кватэру месяц таму абмыў. А яшчэ ён меў кавалак жалеза ў грудзях. Яго патрашылі вайсковыя медыкі. Сёй-той з іх не прызнае анестэзіі і адной таблеткай лечыць ад прастуды і гемарою. Яны яго патрашылі, за гэта ён мае ордэн. А Рута цяпер з Яшакам жыве. З героем. Не хоча больш са мною. Дык ты за бюракрата ці нефармала?

— Заткніся, філосаф,— млява азвалася Рута.

— А што з вас возьмеш, чмыры вы! Пайду папалю. Нешта няма сёння прастытутак... Хачу анархію! А яшчэ выпаліць цыгарэту.

— Кацiся,— Рута лёгка пiхнула барадатага ў спiну.— Не дзiвiцеся, ён як кульне — гаваркi. Мы з Яшакам ведаем, ведай i ты.

Вадзiм адчуў, як Рута выкарыстала класiчны прыём флiрту. Яе нага выпеставанай кошкай церлася аб яго, насок пантофля залазiў у калашыну. Вадзiм коса глянуў на Яшака, мiргнуў Руце.

— Давай вып'ем за хлопцаў, за браткоў, якiя засталiся там,— Яшак узлёг грудзьмi на стол.— Вып'ем за спiны, выпаленыя сонцам, за кроў на каменнях. За мёртвых герояў. Хоць... хто больш шчаслiвы: мёртвыя цi жывыя? Я вось, здаецца, пражыў не дваццаць пяць, а ўсе семдзесят...

— Гэта я адчула...— з'хiднiчала Рута.

— За цябе, Яшок, за ўсiх хлопцаў,— Вадзiм выпiў.

— А вось i я, Адам, бацька чалавецтва. На Адамах свет трымаецца. Мы — рабочы клас, пуп зямлi. Дык каго любiш ты: бюракратаў цi нефармалаў?

Рута пад столiкам усё мацней нацiскала Вадзiму на нагу. Пасля прамовiла:

— У мяне язва ад мiтынгаў, пiкетаў i лозунгаў. Скажу вам, хлопцы, так: займайцеся каханнем, а палiтыка пачакае.

— Шлюха ты, Рутка! У цябе ў галаве адно...— Адам перагнуўся праз стол i цмокнуў дзяўчыну ў лоб.— Балдзею ад цябе. Кiдай героя Яшака. Якая карысць з яго́нага геройства? Паслужы ўсiм.

— Дубiна ты, Адам!

— Пайшлiце ў танцавальную залу! Цi прымае застолле клiч? — Яшак па чарзе паглядзеў на кожнага.— Знацца, iдзём. Разлiчваюся я. Вадзiм, не пярэч. Мы ж — цывiлiзаваныя людзi, еўрапейцы!

— За мною не згiне.

— Во так яно лепш.

У фае Вадзiм успомнiў пра прастачка швейцара. Ён сядзеў у кутку каля рукамыйнiка i пацягваў «беламорыну».

— Дзякуй, бацька, за вечар. Калі хочаш працаваць — будзь хітрэйшы. Не вер на слова. Угу?

— Гуляй разак! На гэтым крэсле дзесяты гадок сяджу. І задужа люблю нахабных мальцаў.

— Тады на развітанне пачастуйце «беламорынай».

— Не, малец. Не люблю я такога балаўства. Калі хапае на гарэлку — май у кішэні і на цыгарэты. А бандзюгу нядрэннага ты сабе выгледзеў. Гуляй, малец.

На цагельным ганку чакалі знаёмыя. Рута, прысеўшы на прыступках, паўтарала на розныя лады завучаны радок: «Курыва і порыва — гэта вельмі здорава!»

— О, ты ўжо тут. Дапамажы ўзняцца. Мае палітыканты дыскутуюць. Адам выпінаецца, а Яшак завадовым быкам лоб выгнуў. Пральецца сёння чыясьці кроў. Давай дадзім дзёру адсюль, а, Вадзім?

Вадзім з Рутай шуснулі за стракаты кіёск і праз адчыненую жалезную фортку ўскочылі ў невялікі дворык, адтуль праз цёмны скразны пад'езд выйшлі на Непытаеўскую вуліцу.

— Цяпер мы вольныя. І ніякіх танцаў. Запрашаю, мой мужчына, у сваю манаскую келлю.

— Думаеш, Адам [illegible] Яшакам не знойдуць там?

— Слушна. А што ты параіш?

— Заскочым у «Каханую», смаканём шампанскага. Халоднага, каб зубы ламіла.

У паўпадвальным памяшканні густа вісеў дым, пахла кісляцінай. Разамлелая моладзь драмала за чорнымі сталамі з келіхамі і сподачкамі. Каля бармэнаўскай стойкі тулілася некалькі пар. У куце, пад пажаўцелай пальмай, віхрасты юнак брынкаў на гітары.

— Сяду да музыканта, эге? А ты вазьмі пітва.

Рута пайшла пад пальму.

Вадзім падаўся да бара.

Рута пакручвалася каля гітарыста, усміхалася і штосьці вуркатала. Вадзім быў упэўнены: пад сталом яе

точаная ножка дакранаецца да хлопцавай нагі. Усё паўтараецца.

— Нарэшце і ты. Я засумавала. Хлопчык не хоча весяліць цёцю. Не грае ёй на гітары. Праспявай для мяне што-небудзь з душою. Самотнае і балючае,— Рута аж выгнула танклявую спінку.— За песню бусьну ў лобік.

Вадзіму пачынала надакучаць гэтае саладжавае сюсюканне.

— Маўчыць. Маўчыць, як помнік на плошчы. Добра, цмокну ў вусны, толькі праспявай мне.

— Не люблю, калі цалуюць бабы,— азваўся гітарыст.

— Ты мо і дзяўчат не любіш?

— Не люблю.

— Ха. Цікава. Дык ты, значца, гэты самы... гомік?

— А што табе? Мо і гэты.

— Мне нічога, толькі на Вадзіма не закідвай, ён мой. І, у адрозненне ад некаторых, млее па жанчынах. Не пакутуй, на выпі,— Рута саўганула гітарысту кілішак.— Сёння я добрая, праўда, Вадзім? Хочаш, дам тэлефончык, хто табе падыдзе? Калі хочаш, я чыркану на сурвэтцы.

— Пайшла ты...— гітарыст узняўся і скіраваў да выхаду.

— Во і паддобрылася... «На ложку сваім я прачнулася сярод цёмнай ночы. А дзе мой каханы, чаму яго поруч няма?» — надакучыла правільнасць, хоць зарэжся... Не магу купацца ўвесь час у шайцы з адной вадой.

— Усе мы — дзеці свайго часу.

Пасля моўчкі выпілі шампанскае. У зале была цішыня. Толькі воддаль ахмялелая дзяўчына даймала бармэна. Патрабавала, каб наліў.

— Шкурат ты драны! — чулася адтуль.— Ноч мною карыстаўся, усе косці патрушчыў, а цяпер пойла шкадуеш! Поскудзь, кажу, налі! Душа баліць. Да цябе даходзіць, ішак?!

Таўстаморды быццам і не чуў.

— Вадзім, на трульнік, вазьмі ёй двухсотку. Шкода. Са мною тое ж бывае...

— Пайшоў вон! За зялёнку не купіш,— дзяўчына скінула Вадзімаву трохрублёўку на падлогу.— Пашкадаваў! Бачыла я ўсіх вас... Ён налье, я сказала, налье!

— Дурніца! — перапыніў Вадзім.— Не ад мяне грошы. Частуе сяброўка з-пад пальмы.

— А-а-а. Значыць, сястра. Скажы дзякуй, не забуду выручкі.

— Зачыняемся. Усім добрай ночы. Дапівайце, зачыняемся,— кругленькая афіцыянтачка збірала са сталоў шклянкі і сподачкі. Бармэн выключыў музыку.

Вадзім з Рутай ішлі па заціхлай вуліцы. Мігценне скупой рэкламы наводзіла сум. Па дарозе часта праязджалі міліцэйскія машыны.

— Куды цяпер?

Рута паціснула плячыма.

— Да сябе павесці не магу, дасюль прыйшла дамоў маці. І сама не хачу. Калі Яшак з Адамам нікога не падлавілі, будуць тырчаць пад дзвярыма. А як у цябе?

Вадзім думаў. Не хацелася ісці на сваю кватэру. Баяўся галодных рыбін у зеленаватым слоіку. Ён маўчаў.

— А пайшлі на могілкі за кінатэатр «Зграя». Месца клёвае, га? Цішыня, ніхто не патурбуе, і напаўразбураны склепчык ёсць...

— На могілкі, дык на могілкі.

Знянацку сыпануў дождж. Важкія кроплі заслалі тратуар і дарогу. З вадасцёкавых труб зацурчэлі ручаі. На тралейбусе Вадзім з Рутай даехалі да апошняга прыпынку. Дождж ушчук. У небе надрыўным далёкім гулам заходзіўся нябачны самалёт. Буграстая сцежка спускалася за чыгуначнае палатно.

— Чапляйся за мяне. Без звычкі расквасіш нос.

Рута першая пералезла мокрую цагляную сцяну.

— Во мы і дома. Мясціна — зашыбіся. Ногі вышэй падымай, шмат разбітых яўрэйскіх надмагілляў.

Крыжы і помнікі абступалі Вадзіма з Рутай. Кустоўе і быльнёг патрэсквалі пад нагамі. Зваленыя дрэвы ўтваралі перашкоды. Могілкі даўно забылі людзі.

— Пачакай. Пагляджу, ці не заняў хто месца.

З лістоты скочваліся і шапацелі аб траву важкія кроплі ўшчуклага дажджу.

— Хадзі сюды. Я лямпу запаліла. Думала, ёсць хто з нашай гарадской тусоўкі. Шаснаццаткі аблюбавалі склепчык. Жывём мірна. Сёння нікога. Ногі не падвярні: хісткае каменне.

У прадонні невялікага пагорка цьмяна біўся агеньчык. Па самаробных драбінах яны спусціліся ў склеп. На разламанай скрыні стаяла даваенных гадоў лямпа. Святло вырывала з цемры закапцелыя сцены, груды смецця, некалькі дошак, старыя ржавыя вёдры.

— Ну як рэзідэнцыя?

— Апартаменты — лепш замежных.

— То-та, ведай нашых. Не стой тэлеграфным слупам. Пашукаю чаго-небудзь глытнуць. Не можа быць, каб лахудры з пісюнамі пойла не прыхавалі. Хоць пляшку піва, а знайду.

Рута снавала з кута ў кут, заглядвала пад вёдры і дошкі, пераварочвала скрыні. Цень ад яе постаці міфічнай птушкай танчыў у паўзмроку, нагадваючы перадсмяротную агонію. У Вадзіма пазяблі кончыкі пальцаў на нагах.

— Эге, ёсць,— дзяўчына выцягнула бутэльку.— На адкаркуй. Тут нешта самаробнае, магчыма, гара. Балюем!

— Нічога не будзе, што забрала?

— Launched Launched Launched

Жалезна — не званітуе. Але давай спачатку лежышча зробім. Складвай дошкі на скрыні. Во так. Цяпер пасцелем коўдру. Каля цябе пад кардонам ляжыць. Давай сюды. Трэба вышэй падгарнуць пад галаву. Няблага. Шлюбны ложак гатовы. Каўтай, не бойся. Ну, цягні першы элексірчык. Давай я смакану. Ну, паліць, зараза.

— Слухай, Рута, сёння купіў чатыры рыбінкі для акварыума, ад адзіноты. Галодныя, як ваўкі, у слоіку плаваюць. Падумаю — жах працінае. Ты слухаеш, Рута?

— Слухаю. Акасела я. Давай спаць.

— Зараз ляжам. Ведаеш, што я зраблю з імі? Прыйду дамоў і адразу выллю ва унітаз! Плёх іх туды — і змыў вадой, а?

— Ты малаток. Давай кладзіся.

# Ікаўка, мяцеліца і Сяргейка

Ой, загула-загула мяцеліца,
Закруціла, [redacted] дарожанькі збіла.
Ой, загула-загула беспрасветная,
У лясок у глухі залучыла.

[redacted] народнага

Мяцеліца гуляла трэці дзень. Выла, дзьмула снег, накруціла харомы, ні табе кроку ступіць, ні табе нагу смела паставіць. Вышэй не толькі платоў, але і невысокіх стрэх белыя падушкі харомаў, да калодзежа не дабярэшся. Ды што да калодзежа — дзвярэй у сенцах не адчыніць, а адчыніш — нікуды не ткнешся. Пакапалі людзі тунелі ды ходзяць імі да хлява, да суседа ці да таго ж калодзежа.

Затое сабакам воля. Паспускалі іх з ланцугоў, от яны і гойсаюць: то па тунелях, то па гурбах і стрэхах. Узбяруцца на якую адну хату ды ўсчыняць валтузню, енк, гарэзныя гулі, што аж жах бярэ. А то яшчэ, от нячыстая сіла, дабяруцца да коміна і, падсунуўшы пад цагліны пысы, давай падвываць. Выберацца тады хто-небудзь з хаты, шпульне ў гайню кіем і, прагнаўшы, зноў шусне туды, пад снежнае царства.

Каб вы ведалі, як карцела Сяргейку выскачыць на двор, як карцела прабегчы па снежных палацах, заскочыць да Петрака. Ды дзе там, баба Рыпіна і слухаць не хоча, каб выпусціць яго з хаты. Прыстрашыла: выскачыш сам — возьме дзверы на кручок, на дварэ пакіне начаваць. От і сядзі дзень і ноч у хаце.

— Баб, а баба, ік, ік, баба, чуеш, ік, ік?

— Чаго ты, вярза, хочаш?

— Ікаўка прыстала.

— Лезь на печ, не лындай па халоднай падлозе. Застудзішся, што я тады матцы скажу?

Сяргейка залез на печ, выпрастаўся на чарэні. Гладкія цагліны, адпаліраваныя спінамі, лагодна прылашчылі цела лёгкім цяплом.

Баба Рыпіна размотвала маток нітак і скручвала іх у клубок.

— Ік, ік...

— Што, і ў цяпле не праходзіць?

— Не.

— Слухай тады,— прамовіла баба.— Паўтары за мной тры разы: «Ікаўка, ікаўка, сядзь ля варот, хто будзе ісці — ускоч таму ў рот». Запомніў? Дык вот і скажы тры разы — усё як рукою здыме.

— Баба, а вароты ж пад снегам, як яна сядзе ля варот? — запытаў Сяргейка.

— От радзімец, не думай шмат. Лепш паўтары тое, што я сказала.

Сяргейка забубнеў — раз, другі, трэці. На хвіліну заціх, упэўніваючыся, ці адскочыла ад яго ікаўка, ці не.

Нейкі час у хаце панавала сцішанасць. І от зноў пачулася з печы ік ды ік.

— Баба, яна не праходзе.

— Ды чую, што не адчэпліваецца. Калі б ты раней залез на печ, не ныў, каб пусціла на двор, дык не было б ніякай ікаўкі. Гора мне з табою. Маці цалюткі дзень на рабоце, а ты во тут са мною. І сам нудзішся, і мне галаву дурыш.

— А ты завядзі мяне дадому,— папрасіў Сяргейка.— Я адзін буду.

— Куды я цябе павяду? На двор вунь няможна нос вытыркнуць. Ды і мароз толькі што сем баб павёз.

— Якіх сем баб?

— А во такіх, як я. Строгіх, сярдзітых.

— А чыіх баб ён павёз? Петракову ўзяў?

— Петракову не ўзяў,— баба Рыпіна хітравата ўсміхнулася.

— Ік, ік,— зноў заікаў Сяргейка.

— Давай яшчэ па-другому паспрабуем прагнаць ад цябе гэтую ікаўку,— сказала баба.— Гавары: калі памінае свой род, дык галавой у мёд, калі чужы — то галавой аб лёд.

— І гэта тры разы казаць?

— А як жа. Усё тры разы трэба гаварыць, Бог тройцу любіць.

— Баба, а калі мамка мяне ўспамінае, дык яна трапіць галавой у мёд?

— У мёд, куды ж яшчэ. Ты ж — сын, радасць, апірышча.

— А вот і няпраўда,— усклікнуў Сяргейка.— А вот і няпраўда. У нас няма мёду. Дзядзька Іван увосень даў слоік мёду, дык мы яго ўжо з'елі. Ага, бабачка, не трапіць мамка галавой у мёд. І добра, што не трапіць, бо мёд ліпучы, галаву [redacted] яго не выцягнеш. Дык я і не буду гаварыць такія словы.

— Бач ты,— са здзіўленнем паківала галавою баба.— Разумны, як і стары. У каго ты ўдаўся, ужо і не ведаю.

— А калі нехта дасца галавой аб лёд, дык гэта ж надта балець будзе. Летась я, ік, ік, каленам ударыўся, дык балела...

— Бо вельмі ж дападны, усюды, дзе трэба і не трэба, улезеш, дападзеш,— паўшчувала баба Рыпіна.— Ды яшчэ сплёўся з Петраком гэтым. Ён, бальшун, да дабра цябе не давядзе. Ён і цябе навучыць, як і яго дзядзька, у кашы́ з даху лятаць.

— Як — у кашы́ з даху? — здзівіўся Сяргейка, што нават ад гэтага здзіўлення ікаўка пра яго забылася.

— Як? Проста. Залез Міцька...

— Які Міцька?

— Ну, дзядзька Петрака, шылахвост, штукар адмысловы. Цяпер недзе па свеце круціць. Дык вось гэты Міцька, калі быў малады, зацягнуў на страху хаты

вялікі кош, якім рыбу ловяць, прывязаў да яго венікі, сеў і падскочыў — ляці, кош... Аж кош не паляцеў, а пакаціўся кубарам уніз. Думалі, што Міцька гэты і касцей не збярэ. Аж грымнуўся, паляжаў трохі белы — і нічога, выжыў. Нічога не адбіў. А смеху было на ўсю вёску. Жаніх, у сваты пара ісці, а ён дурнее — на кашы́ палётаць хоча. Дурнотаю не трэба займацца. Бо ці сам галаву скруціш, ці пасмешышчам будзеш.

— Міцька, мусіць, цяжкі быў, от і не паляцеў. Каб хто лягчэйшы сядзеў у кашы́, дык...

— Людцы вы мае,— разгублена пляснула ў ладкі баба.— Ты ж хоць не ўздумай гэтыя палёты рабіць. Я так, да слова, пра дурноту людскую сказала.

— Ік, ік,— зноў пачулася з печы. І тут жа ўслед — ныццё: — Баба пусці мяне на двор.

— Ану цябе к свінням з тваёю ікаўкай,— узлавалася баба Рыпіна.— Усё, астатні раз паспрабую прагнаць яе. Ты ў мяне пытай: «Баба, нашто ты шпільку ў мяне ўзяла?» Я табе скажу: Калі?» А ты мне адказвай: «Ікаўку скалі». Запомніў?

— Ыгы.

— Ну то давай, пытай.

— Баба, нашто ты шпільку ў мяне ўзяла?

— Калі?

— Ікаўку скалі.

— Баба, а колькі разоў так пытаць? Тры разы?

— Пакуль ікаўка не пройдзе, датуль і пытай.

Сяргейка пачаў зноў пытацца, а баба — адказваць. У Рыпініных руках мільгаў ладны ўжо, з качанчык, клубок суравых ільняных нітак. Маток жа на вачах танчэў. У хату праз верхнія шыбіны ў вокнах скупа свяціў кароткі зімовы дзень. У пакоі згушчаўся змрок.

— Баба, мне ўжо не хочацца пытацца адно і тое ж,— не выцерпеў, папрасіўся Сяргейка.

— Надакучыла, дык маўчы. Я ж не змушаю цябе гаварыць.

— А калі я пайду дадому?

— Вернецца маці з работы, дык і завяду. Сам жа знаеш, яна не можа забегчы і цябе забраць. Ей жа яшчэ нямала работы і дома. Ухадзіцца, вячэру згатаваць.

Сяргейка замоўк. Задумаўся.

— Было б лягчэй, каб твой бацька быў... Аж...— уздыхнула баба Рыпіна.— Што каму скажаш... Завязаў ён свет тваёй матцы, цябе сіратою пакінуў... Ты ж, мужчынка, хоць матку не крыўдзі. Слухайся, памагай ёй.

— Добра,— ціха прамовіў Сяргейка.

— А мы з маткаю выкачалі цябе, скора ў школу пашлём. Вывучышся, на ногі станеш, дык некалі мо яшчэ твой бацька на каленях перад табой стаяць будзе: даруй, сыночак, што пусціў цябе на свет, але кінуў, нават не пабачыўшы... Многа ёсцека такіх бацькоў. Нямала і тых, што потым просяцца...

Сяргейка, адчуваючы ранні, не для сваіх гадоў, боль, маўчаў.

— Уцякла ікаўка? — спагадліва запытала баба.

— Уцякла.

— Во і добра, во і малайчына. Грэйся. А калі заснеш, дык не бядуй. І сёння ў мяне пераначуеш.

— Па мяне мамка прыйдзе.

— Можа, і не ўтрывае, прыбяжыць,— згадзілася баба Рыпіна.— Цяжка ёй і на ферме, і дома ўсё адной робячы, але яна за табою аж млее... З-за цябе нават асцерагаецца замуж выйсці, хоць і надарыўся добры чалавек...

Сяргейка нічога не адказаў. Размякчэўшы ад цяпла ды думаючы пра ласкавую маці, драмаў і слухаў, як вые мяцеліца за вокнамі. Яна гудзела, вішчала, кідала ў шыбіны снег, што ападаў і насыпаў новую гурбу.

Ды сціхні ты, сціхні, мяцеліца,
Выпусці сонейка краснае,
Промнікі чыстыя, ясныя
Дзеткам маленькім на радасць...

6—2298

# Згубнае бярвенне

Прастуджана хрыпеў вецер. Звінеў, пераходзіў на працяты тонкі стогн, прабіваючыся ў трэшчыны пабітага шкла на ёмістым акне хаты Велікодскіх. Адзінае акно гэтай хаты, выходзячы на вуліцу, цьмяным маладзічком глядзела ў бяздонную цемру восеньскай ночы. Слотнае надвор'е студзіла прыбітую дажджамі зямлю.

Аслізлае ад часу, дажджоў і снегу бярвенне загароджвала ўваход у сенцы. Спатыкаючыся які ўжо год на іх, Катрына бяссільна, вялай рукой, шукала зашчэп на дзвярах. Пальцы зрываліся з настылай жалезнай дужкі, грабалі па шурпатых дошках дзвярэй. Знямогшы, Катрына апусцілася сваім танклявым целам на бярвенне.

— А што ж та за нячыстая сіла, га? Дамоў, у сваю хату, дзвярэй не адчыніць. Ці мо замуравалі іх? Ох, цяжка як.

Катрына памуляла сасмяглымі вуснамі, імкнучыся хоць прытушыць нябачнае полымя ў глыбіні цела. Языкі папялюшчага агню, здаецца, падбіраліся да сэрца. Волкі вецер не даваў Катрынінаму целу лёгкасці — не студзіў.

— Яшчэ крышку, адно каліўка пасяджу, адпачну і падымуся. Дайшла ж да хаты? Дайшла. Цяперака папіць толькі квасу, брусянічнага. Ці не паўмакатра яшчэ ёсцека. Толькі б Алега не было. Крывіначкі маёй. Няважна глядзець яму на такую матку. А... ці першы раз.— Катрына, упёршыся вострымі локцямі ў калені, абхапіла галаву, збіўшы хустку.

— Трэба ж так хапіць дурніцы, хапіць цераз край.

І ўсё праз сястрыцу маю любую Маньку, дзядоўніку б ёй у косы. Цяперка хоць людзей гукай адчыніць дзверы ў сваю хату.

З бліжэйшага хлеўчука данёсся да Катрынінага слыху санлівы курыны вэрхал, спуджанае кудахтанне. Здавалася, раптоўны пярэпалах вось-вось узарве дранкавы дах.

Жанчына павольна адняла ад галавы рукі, застыла, услухоўваючыся.

— Ці не тхор забраўся? — Яна хацела ўзняцца, нешта крыкнуць. Ды толькі ёрзнула на прыгрэтым бервяне.— Чорт з імі, хай хоць да адной перарэжа. Марціну, скаголіку гэтаму, гаспадару званаму, нічога не трэба. А што мне? Колькі гаварыла-гаманіла: «Забі дошкамі шчыліны пад зумёцінай, залап бляшынай праломы ў падлозе». Не, усё яму хвіліны вольнай нямашка. Пералапошыць тхор да адзінай птушыны, знойдзе і хвіліну і гадзіну. Знойдзеш, даражэнькі.

Нейкае імгненне Катрына яшчэ думала пра курэй, хляўчук, Марціна. Мільганула думка і пра Алега. Гэтае імгненне змянілася смаліста-цягучай дрымотай.

Спіць Катрына цяжкім хмельным сном. А пад покрывам ночы ў імжыстых абдымках стаіць маладзенькае дзяўчо, ці не равесніца Алегу, яе сыну. Квяцістая ношаная-пераношаная спаднічка, доўгая чорная каса цераз плячо ўровень колеру і даўжыні гэтай ночы. Гаротна стаіць, прытуліўшыся плечуком да не адчыненых Катрынай дзвярэй.

— І не зябка табе, дзяўчо? — гэта ўжо пытае Катрына ў яе.— Хто цябе выпхнуў на вуліцу ў такі час? Сэрца ў іх нямашка, ці што?

— Я звычная, няўжо ты забыла, звычная да ўсяго.

— Адкуль мне цябе ведаць, саколка? — здзіўлена ўсміхаецца Катрына.— Ці не Алежкава ты каханка?

— Блага табе, сястрыца мая. Не каханка я Алежкава, я яго маці.

— Смяешся, дзяўчо, нядобра, са старэйшых скаліцца. Маці ў майго сына адна я. Ты яму ў каханкі па гадках сыходзіш, у сяброўкачкі. Ці не так? І гожая ж ты, дзяўчына. Я такую нявестку аберуч схапіла б.

— Грэшна так гаварыць. І нельга, ніяк нельга адразу быць матуляй для сына, яго каханкай і нявесткай самой сабе. Ніяк нельга: прырода не дазваляе, людзі гарэлымі махнаткамі закідаюць.

— Дык хто ж ты?

— Я княгіня, княжна з Гарпінінай хаты, якая стаяла на Чырвоным селішчы, каля крынічага зруба з гнілой лаўкай.

— Як жа так? — Катрына грабае распасцёртымі рукамі, хочучы крануць падол дзяўчыны.

— Там стаяла наша хата. Гарпіна, нябожчыца, Гарпіна мая маці. Ты ўсё зблытала ў адзін каўтун, ніякі грабянец яго не разбярэ, рады не дасць. Ідзі ад мяне! Пакінь мяне! Ідзі, адкуль прыйшла! Твой бацька на могілках, пад мармуровай плітой. У нас адзін князь быў — Ба-ра-ноў-скі! І таго ніхто не помніць, старыя паўміралі, даўно паўміралі.

— Яны паўміралі,— дзяўчына прысела поплеч з Катрынай,— а мянушкі князевых каханак ад мацярок перайшлі на дзяцей, дзяцiных дзяцей. І ты княжна-княгіня. Мо забыла, колькі слёз выліла праз гэта? Хто цябе зваў Катрынай? Для ўсіх ты была княгіня. Памятаеш, пасля вайны, ці не ў пяцьдзесят першым годзе, калі ты працавала даглядчыцай на ферме...

— Ну, Сіпайла старшынёй тады быў,— падтрымала ўспамін Катрына.

— І адзін раз, накарміўшы жывёлу, забылася памыць карыты. Позна гуляла з Марцінам, хацелася хутчэй прылегчы. Кінула-рынула ўсё і праз масток на азярцы шыбанула дамоў.

— Нямашка, даўно нямашка мастка таго, і азярцо перасохла, чаротам забіта,— уздыхнула Катрына.

— І толькі прылегла на печы, а быў якраз ліпень месяц,— працягвала гамонку дзяўчына,— драмаць пачала. Раптам у дзверы ўрываецца Сіпайла.

— Божухна, як я тады зляклулася, думала, заб'е на месцы. Дужа ж строгі быў старшыня,— гаварыла далей Катрына Велікодніца,— як ён лаяўся, за ногі звалок на падлогу. Гразіўся пад суд аддаць, папярэднія працадні не залічыць. Печ якраз датоплівалася, перавярнуў Сіпайла ўсе да аднаго чыгуны ў печы. Сполаху набралася, ніколі ў жыцці страшней не было. Людцы мае.

— Што ж змоўкла? — дзяўчына лёгенька абняла Катрыну за плечы.

— Далей, сястрыца, было вось што: праз нейкіх дзесяць хвілін з калгаснага радыёвузла Сіпайла ў кожную хату данёс навіну: «Княгіня, кабыліца чарнагрывая, ноч швэндалася з хахалем па кустах, а ўранні свіней калгасных голадам замарыла. А сама ў такую спякоту на печы вылежваецца. Ці варта гэта маладой дзяўчыны, камсамолкі? Як такі ўчынак назваць? Княгіня-блудніца — увесь сказ! І кроў у яе, відаць, не пралетарская ў жылах!»

— Чаго ён тады пра мяне ні гаварыў, чаго ні наплёў. Пры сённяшніх законах у турму б яго за гэта ўпёрла. А на той час, пры той галаве, месяц людзям у вочы глядзець не магла. Мусіла на працу загараддзем бегаць, па алешніку.

— Нацярпеліся мы з табою, сястрыца,— дзяўчына горка ўздыхнула.— Табе лягчэй, для цябе гэта ўсё ў мінулым. А мне...

— Пры чым тут ты? — Катрына здзіўлена адхілілася ад паплечніцы.— І адкуль табе вядома? Хто ўвёў у вушы?

— Нездагадлівая, княгіня, ты з гадамі стала, гарэлка з'ела твае мазгі. Прапіла ты сваю памяць.

— Ну, ты, чужаніца, цішэй! А то я баба вёрткая. Парадзее твая каса.

— Не сярдуй, шаноўная. Я ж не здзекавацца з цябе прыйшла. А што нездагадлівая ты — то так яно і ёсць. Хочаш ведаць, хто я? — дзяўчына паднялася з сырога бервяна, абышла вакол Катрыны, спынілася насупраць дзвярэй у хату. Падумай. Ты ж кемлівая.

— Няпраўда, няпраўда! Такое немагчыма. Я жывая, пры поўнай памяці!!!

— Цяжка паверыць. Памяці ў цябе няма. Ты сама гэта адчуваеш. І памерла ты даўно. Даўно — з часоў брыгадзірства. Пагубіла цябе брыгадзірства, твая ўлада. Дзе ўлада — там пляшка з чаркай. Не асіліла ты ўладу, улада табе хамут на шыю надзела. Не пярэч, не пярэч... Ноч. Цяпер ноч. Цемра. Слота. Для іншых ноч зменіцца днём, для цябе ж даўно не было дня. Ты жывеш ноччу. Цяжка было, а я прыйшла. Бачу, як ты гінеш, гінеш з кожным днём, кожнай гадзінай, кожнай хвілінаю... Падымайся, пайшлі! — Дзяўчына працягнула насустрач рукі.

— Не трэба мне тваёй літасці! Прэч! Воліс, на-на-а, кусі, кусі яе! Гані з дворышча чужаніцу! Вон яе адсюль! Кусі, кусі яе, Воліс, кусі!

Катрына так гучна крычала, што стары падслепаваты сабака Воліс, не вылазячы з будана за сенцамі, ленавата гаўкнуў раз-другі і сціх.

— Ратаваць яна мяне прыйшла. Месца тваё ў мінулым, на могілках, побач з князем. Во дзе тваё месца, файная князёўна. Яшчэ лячыцца мяне пашлі, як збіраўся зрабіць доўбня Марцін, мужык любы. Я вас абаіх вылечу. Нінка вунь мая чалавекам стала. Яшчэ трыццаці няма, а яна вучоная і сама вучыць. Алежку жаніць трэба, крывіначку маю. А яны мне — п'яніца, лячыць. Ну і што, калі бяру чарку часам? А хто цяперка яе міма рота нясець? Хто? Зганьбіць. Катрыну перад людзьмі, перад усім светам удумалі. Кукіш вам пад нос, разумнікі! Княгіня Катрына да скону будзе князёўнай. І не сцерці вам з брудам яе імя. Чуеце, ніколі!

— Позна, позна, позна,— голас у цемры цішэў, аддаляўся...

Раніцай Марцін уцягнуў у хату ледзь жывую Катрыну. Яе вочы жахліва бегалі па пакоі.

— Дзе яна? Дзе? — раз-пораз пытала Катрына ў мужа.

— Каго шукаеш-пытаеш? Лезь лепш на печ. К полудню мо адагрэешся.

— Печ... печ? Не трэба печ, Марцінка, не трэба. Сіпайла прыйдзе, сцягне. А крыку будзе...

— Хлебанула ты, бабачка. Ноч недзе правалэдзілася. Збіраўся шукаць, ды [redacted] гора прыклаўся да бражкі ў бітоне. Каб крыўду і сорам прыбіць. Раз жонка недзе прагульваецца, чаго б і мне не піць? Што маўчыш?

Марцін доўга бурчэў, ходзячы па хаце з венікам. Кляў і сябе і Катрыну. Збіраўся выліць на вуліцу рэшткі брагі [redacted] бітона. Такія гаворкі ўвайшлі ў звычку ў хаце Велікодскіх. То Катрына, то Марцін вылівалі брагу ў памыйніцу. А праз дзень-другі ўчынялі новую — на справу: выціснуць кроплю гарэлкі ды парэзаць аслізлае бярвенне каля парога... Толькі ніколі не было так, каб дачакалася брага свайго прызначэння. Суседзі адвярнуліся. «Дабрыдзень» вяскоўцы Велікодскім кідалі як міласціну, упіраючы вочы долу.

Катрына толькі пачала драмаць, выпрастаўшыся на цёплай чарэні, як, грукнуўшы разбітымі дзвярыма, у хату ўскочыла Манька.

— Здароўечка, Марцінка! Што гэта ты венікам пыл віхурыш? — Жанчына хуценька расшпіліла верхнія гузікі адзежыны.— Запарылася, пакуль дабегла. А дзе ж твая гаспадынька?

— Пытаешся,— буркнуў Марцін,— ці не разам учора балявалі? Яна ў цябе начавала? Раннем у хату ўвалок, каля парога сядзела.

— Божачкі мае, што ты кажаш? Вечарам мы разышліся. Пасядзелі, пагаманілі і па дамоўках пацягнуліся.

Глянуўшы на Марціна, Манька не радая была за сказанае. Велікодскага вочы застылі на печы. Вузламі загулялі жаўлакі на скіўіцах пад сіваватым шчэццем.

— Ой, ды не затым я, Марцінка, прыбегла,— спахапіўшыся, засакатала госця.— Во толькі што Пячкур сасвяжыўся. І падняўся, як заўсёды, а шостай гадзіне. Усё ладна, усё добра было. Пайшоў з вёдрамі па ваду і каля студні асунуўся. Нямашака дзядзькі Кірылкі,— плаксіва зморшчыла востранькі нос Манька,— памёр бацька наш, душа чалавек. Горачка ж якое.

— Паменшала ў вашым кодле,— крыва ўсміхнуўся Велікодскі.

— У «вашым»? Грэх табе, Марцін, так казаць! А колькі за сталом разам праседжана: і ў горы, і ў радасці? Не скупіўся дзядзька Кірылка. І ты ж ні аднаго застолля не мінуў, поравень з усімі чарку, і скварку браў. А цяпер — «вашым». Хай сумленне суддзёй тваім будзе. Дзе ж Катрына?

— На печы адлежваецца.

— Сястрыца ты мая родная,— ускапілася і шуснула Манька за квяцістую засцілку.— Падымайся, сястрыца мая!

Нейкае імгненне, і... Велікодская хата патанула ў адчайным галашэнні. Грубаваты голас Катрыны і танюткі, як мышыны хвост, Маньчын перапляліся цыбульнай пляцёнкай.

Марцін скептычна ўсміхнуўся. Пераадольваючы жанчын, крыкнуў: «Хто больш любіць Печкура, ану мацней галасі!»

Катрына з Манькай быццам толькі і чакалі гэтага. Галасы іх узвіліся, як полымя ад ільняной кастрыцы. Не вытрымаўшы, Марцін выскачыў на вуліцу.

Бралася на дзень, калі Катрына з Манькай, завязаўшы галовы чорнымі хусткамі, пайшлі пакланіцца памяці дзядзькі Кірылкі. Прыпухлыя твары жанчын пад жалобнымі хусткамі здаваліся каменна адрачонымі

ад белага свету. У Печкуровай хаце паўтарылася карціна, адрэпеціраваная ў сценах Велікодскіх, Катрыну з Манькай ледзь не сілай адцягвалі ад труны з нябожчыкам.

Вяскоўцы глядзелі на гэта па-рознаму: перашэптваліся, шматзначна перакідваліся позіркамі. А то і ўголас гаварылі: «Глянь ты, як гарэлка галосіць». Ці: «Смутку ў іх больш, чым па родным бацьку».

— Як вам не сорамна гундосіць такое,— перабівала гаману старая Вольгачка ■ кійком,— людзі чалавека аплакваюць ад сэрца, шчыра. Не тое што нявестка — зарой яснай свяціцца. Хоць бы цыбуліну ці нашатыру пад нос крадком саўганула — глядзі, і прабіла б слязой.

Незаўважна неяк прабег дзень. На гразкай вуліцы, сярод лужын і выбоістых каляін, свежай зеленавата-цёмнай дарожкай ляжалі яловыя лапкі.

Людзі ішлі з могілак купкамі. Паперадзе, на ладных калёсах са жвавым жарэбчыкам, ехалі баба Насця, Кірылкава жонка, дачка і Катрына з Манькай.

Пацішу збіраліся ў Печкуровай хаце вяскоўцы чаркай успомніць гаспадара. Той-сёй прыглушыць пякучым зеллем гора, другія ж падагрэюць сябе, каб выказаць асаблівую любоў да Кірылкі.

Катрына толькі паспела распрануцца. У хату задыхана ўбегла Маньчына дачушка, шмыгаючы сярод людзей, яна падскочыла да Катрыны.

— Цётачка, хадзіце дамоў. Там вашага Алега прывезлі. Ён як зямля, на нагах не стаіць — п'яненькі. Хлопцы пакінулі яго ля парога. А на дзвярах замок.

— І што ты кажаш, дзетка? — Азіраючыся вакол, мовіла Катрына.— Як жа так можна? Мо захварэў ён? Пачакай мяне, ускіну апратку на плечы, і пабяжым. Я зараз, зараз...

Алег ляжаў на бярвенні, на тым аслізлым бярвенні, дзе ноч прасядзела Катрына. Яго сасмяглыя губы нешта бязгучна шапталі. Катрына села побач, узяла кудлатую

галаву сына на рукі. Лапістыя пісягі чырвані праступалі праз чыста-белую скуру з рудаватым пушком на барадзе і шчоках. Крылцы курносага, як у Марціна, носа нервова ўздрыгвалі.

— Мамка, цяжка мне,— бязгучна шаптаў хлопец.

— Бяжы дамоў, бяжы дзетка,— як бы між іншым звярнулася Катрына да дзяўчынкі.— І дзе ён так набраўся гэтай згубы?

— Ваш Алег два дні ўжо дома не начаваў. На Выселках вяселле гулялі, можа, і ён там быў.

— Два дні, кажаш, а я і не помню.

— Ну, я, цётачка, пайду дамоў. Не,— падумаўшы, спынілася дзяўчо,— пайду к дзеду Кірылу, пачакаю мамку, адна ж не дойдзе.

Катрына засталася з сынам.

— Во ты і зноў вярнулася да мяне, мая князёўна, маладосць мая светлая. Ноччу ратаваць збіралася мяне? Ратуй во лепш яго, слязінку маю родную. Ды што ж гэта я? Усё будзе добра. Хай перад войскам пагуляе хлапчо. А там з яго чалавека зробяць, зробяць. Згінь, здань, згінь, князёўна. Не трэба тваёй помачы нам. І Алежка з людзьмі не прападзе. Не дадуць людзі прапасці.

Сцямнела хутка. Катрына сядзела ў поўнай цемры, святла не запальвала. На ложку цяжкім сном спаў Алег. Каля ног жанчыны ленавата цёрся кот — лашчыўся. За вокнамі зашархацеў дождж, кроплі дзяўблі шкло.

— А Марціна ўсё нямашка. Мо пашукаць? — Хвіліну падумаўшы, рашыла: нідзе не дзенецца — прывалачэцца.

— Бярвенне неяк парэзаць трэба, зусім струпехла, і дрывотня пустая. Толькі б Алежка чалавекам стаў. Нінку б яму дагнаць, з галавой дзеўка. Па мне пайшла, наш род увесь галавасты. І я брыгадзірства чатыры гады цягнула, чатыры.

— Спі, сынок, спі,— Катрына вобмацкам забралася на печ,— а бярвенне парэзаць трэба. Трэба...

# І тады я памёр...

Марнуй сябе, не думай аб сабе.

— А? Вы нешта спыталі? Недачуў. У мяне нешта са слыхам. Што вас цікавіць?

Ён моўчкі глядзеў. Прадаўгаваты, смуглявы твар быў нерухомы, нагадваў замерзлую каву ў кубку. Вось толькі пустыя вочы з ледзь бачнай, глыбока схаванай іскаркай выдалі ў ім жывую істоту.

— Але, выбачаюся.— Мне няёмка, і я вінавата хаваю ўсмешку, паспешлівым рухам ніжэй насоўваю шапку.— Задумаўся і падалося, што вы аб нечым запыталіся. Яшчэ раз прабачце.

Паварочваюся спінаю да маўклівага сустрэчнага і наважваюся ісці да аўтобуснага супынку. Праз паўтара тыдня Новы год, збіраюся ў Мурманск. А квітка на самалёт яшчэ няма.

— У вас яго і не будзе. Спазніліся.

— Што?

— Нічога,— ціскануў плячыма незнаёмец.— Проста спазніліся. Новы год яна сустрэне без вас.

— Які Новы год? Вы аб чым?

— Проста так. Дарэмна патраціце час. А яго ж у кожнага з прыгаршчы, а не бярэмя. І яшчэ: абавязкова перарабіце фінал фільма. Не трэба стылізацыі пад народнасць, якую ўтыркнулі. Прымітыўна: «Касцы на гарызонце, а жанчына на бялюткім кужалі ці то на абрусе нараджае новага чалавека, спаленая вёска. І яшчэ бусел на вяршаліне зламанага вяза». Працаваць трэба, таварыш рэжысёр.

— Не прыгадаю, дзе мы сустракаліся. Пачакайце,

яшчэ ж не было пакуль прагляду стужкі. Адкуль...

— Ці так важна? Сёння слотнае надвор'е, а вераб'і, глядзіце, шчыплюць траву. Ніколі не думаў, што яны, як куры, жыруюцца травою. У вас, здаецца, ёсць семкі, сыпаніце каліва. Няхай пырсне на іх цяплом летняга сонца.

— Вось семкі, пакарміце самі, бо вунь мой аўтобус.

Каму-каму, а мне шэнціць на сустрэчы з хворымі. У гэтага чалавека запаленае ўяўленне. «Бусел на зламаным вязе...» Што ты разумееш!

— Мо і ваша праўда. Я не прафесіянал — просты глядач. Але на савеце вы будзеце ламаць пальцы з-за касцоў і парадзіхі, ну, а пра буслоў і казаць няма чаго.

— Пачакайце... Я прыпомніў. Вы з Вільні, кінакрытык Ганецкі. Думаў, маю неблагую зрокавую памяць, а яна, няўклюдніца, падвяла. Не крыўдуйце, з кожным можа такое стацца. Давайце па-добраму павітаемся і забудзем непаразуменне. Вам, крытыкам, толькі патрапся на язык, не ўбачыш божага дня.

Непрыемна самому, але мяне быццам прарвала. Словы сыплюцца гарохам.

— Навошта так? Самі хлусіце сабе, а не змаўкаеце. Ніякі я не Ганецкі, тым больш не кінакрытык. А калі вам вельмі хочацца, няхай буду Ганецкім. Аўтобус адышоў, квіткоў на Мурманск няма. Ды, забыў сказаць, надвор'е будзе нялётнае. Не суджана вам сустрэча.

Хто ён такі і што яму трэба! Навошта стаю калом і не магу пайсці? Спраў па гарляк, а я мянчу, як бесклапотны нядоліда.

— Хто я? Чалавек. Але, грошы маеце? Я не супраць выпіць. Тады ўяўленне працуе лепш.

— Хадземце ў «Тэатральнае». Там будзе.

Раптам ён схапіўся абедзвюма рукамі за галаву і так сціснуў скроні, што пабялелі костачкі пальцаў. Зморшчыўшы твар, заплюшчыў вочы. Нейкае імгненне ён стаяў абмёрлы.

— Мне трэба да доктара. Не змаглі б правесці? — ён адарваў рукі ад галавы. Твар, на здзіўленне, з карычняватага стаў чаромхава-бляклы. Паўз вачэй і вуснаў выступілі драбнюткія кроплі поту. Як быццам нехта нябачны абмахнуў яго мокрым венікам.

— Пачакайце. Паспрабую спыніць машыну, вы ж не дойдзеце.

— Не трэба,— перапыніў ён мой намер.— Машына стаіць за вуглом, на платным супынку.

— Але ж я не ўмею...

— Умееце, проста не ведаеце, што ўмееце.

Навюткі, вішнёвага колеру «жыгулёнак» адзінока стаяў на шырокай пляцоўцы. Куцыя таполі з абрэзаным вясной голлем быццам ахоўвалі машыну ад чужых рук. Уваход на стаянку шчодра пасыпаны бітым шклом, якое здавалася кубінскім цукрам, наадмашку высыпаным на асфальт. Каля буданка-старажоўкі круціўся руды аднавухі сабачка. Ен правёў нас цікаўным позіркам і, ленавата буркнуўшы, лёг пад сцяну.

— Накіньце засцерагальны рэмень. І вальней адчувайце сябе. Гэта машына, а не жарабец неаб'езджаны. Вось так. Усё правільна робіце, паехалі.

Я ніколі раней не сядзеў за рулём машыны. Але кожны рух, здавалася, адпрацаваны дзесяцігоддзямі. Я адчуваў машыну ўсім целам, як жывую істоту, зросся з ёю. Во цяпер паглядзелі б на мяне сябры-кпліўцы са студыі, якія я класовы вадзіла. Языкі папрыкусілі б, не кідаліся б пустымі жартачкамі.

— А вы любіце славу,— незнаёмец спакойна і ледзь бачна ўсміхаўся,— толькі ж яе ўвесь час трэба падкормліваць, а калі замест асобы існуе астральнае смецце, тады як?

Я маўчаў. За гэтыя некалькі хвілін паспелі выехаць за межы горада, мінуць смярдзючы мясакамбінат і параўняцца з ціхмянай і пужлівай вёсачкай, якая ўцякла ад супершашы на тры-чатыры сотні метраў за азярцо.

— Вам трэба да лекара, а ўжо мінулі горад.

— Нічога, мне лепш. І не хвалюйцеся, вы правільна выбралі шлях.

— Дык куды мы едзем?

— Як куды? Здаецца, сказаў. Але няцяжка і паўтарыць. Вельмі хацеў бачыць цябе бацька, тым больш сёння ягоныя ўгодкі.

— Так не жартуюць.

— Якія жарты? І прабач, што перайшоў на «ты». Значна прасцей у размове.

— Вы нешта пераблыталі. Васемнаццаць год, як пахавалі бацьку, ён памёр. Вы разумееце — мой бацька памёр.

— Дзіўны чалавек. Хто сказаў табе, што ён памёр?

— Я бачыў і памятаю сам.

— Бачыць можна шмат чаго, а вось убачыць усё — немагчыма, тым больш зразумець. Не нервуйся і не едзь па сустрэчнай паласе, выраўняй машыну. Жыць яшчэ ж не надакучыла?

Маўчу. Маўчу, як спілаванае дрэва, як палаючая ўчарнелая салома на вясельным вогнішчы ведзьмаў. Усярэдзіне пуста і значна горш, чым у загаджаным калодзежы сярод апусцелай вёскі. У гэтым калодзежным асклізлым зрубе заканчваюць жыццё самагубствам састарэлыя нямоглыя кажаны ды захлынаюцца вужы і гадзюкі. А мне ўсё роўна. Вось толькі не стану піць вады з тухлай копанкі. Я чалавек, а не воран, каб смакавіта заглытваць падлу.

— Не вярзі лухту. Які ж ты чалавек? Чалавек не забывае карані, продкаў. А ты забыў бацьку. Калі апошні раз быў на магілах родзічаў?

— Вас не датычыць. Не лезьце ў душу. Збеглі з вар'ятні, дык сядзіце моўчкі. Нядоўга вас туды вярнуць.

— Інтэлігент. Клапоцішся за грамадскі спакой? Ухвальна. Скінь хуткасць, за ўказальнікам павернеш налева. Не хвалюйся, бацька на цябе не крыўдуе. І гневу

я ўім не бачыў. Вось толькі часта плача маці. Жанчына, зразумела. Дужа была неспакойная, калі ў цябе не паладзілася з жонкай. І яшчэ жалілася, што ніяк не можа ўняцца ў твае сны. Чамусь не пускаеш ты яе, гоніш. А яна была ў цябе лепей, чым у іншых. Ачарсцвела твая душа, хлопча. Кажу табе як староннi назіральнік, пасрэднік.

Машына звярнула на выбоістую прасёлкавую дарогу. Маладзенькая рунь жорстка ўціскалася «жыгулём» у падмерзлую ўжо зямлю. Зяляніна пакорліва клалася пад чорную гуму колаў, і ўжо ніякая сіла не будзе здатна вясною адарваць яе і выпрастаць да сонца. Так ехалі кіламетры з тры. Машына каціла лёгка і пакорліва. Гаворка не вязалася. І толькі калі звярнулі за пукаты пагорак з чэзлай сасонкай на макаўцы, перад вачыма паўстала вялікая брама, якая выпраменьвала мяккае, але яркае святло. Гэтае святло адбірала вочы і прыцягвала да сябе неймавернай сілай, працівіцца якой не было моцы. На хвіліну я выпусціў руль і засланіў вочы рукамі. Але, як на дзіва, машына, быццам запраграмаваная, каціла па зададзенай прамой, ніякага адхілення. І вось тут упершыню [redacted] пачатку гэтай няпростай гісторыі мне стала страшна. Адчуў на сабе той самы жах, калі валасы становяцца на дыбкі, а скуру пакрываюць гусіныя пупры. Але гэтае адчуванне жаху доўжылася нейкую долю хвіліны. Адняўшы ад вачэй рукі, я не ўбачыў побач з сабой чалавека, з якім ехаў. Пусты салон. А да ірэальнай брамы заставаліся лічаныя метры. Глыбокі ўдых, і «жыгулёнак» імчыць у абсалютнай цемры. У жываце нешта скруціла, падпёрла пад грудзі, і я не магу дыхаць, цела пацее, закладае вушы, здаецца, нехта нябачны пляскатымі і халоднымі пальцамі ўціскае вочы, якія во-во выпырснуць праз патыліцу, у вушах гудзе, быццам у тапельца, які праз міг, адзін усплёск пераступіць мяжу жыцця. Няўжо гэта і ёсць смерць? Трэба сашчапіць на грудзях рукі. Вось і...

— Рана, сынок! Табе яшчэ жыць і жыць. Расплюшчы вочы, не бойся. Ну, смялей.

Што гэта? Я сяджу пасярод лугу. Ужо вечарэе. Крыху зябкавата. Няйнакш красавік. Воддаль ад мяне пасецца табунок коней, яшчэ не аб'езджаных. На схудалых крупах выпінаюць маслакі, пад бруднаватай скурай можна пералічыць рэбры. А яшчэ далей каля лазовага куста, які цярэбіцца ветрам, бачу сабаку. Шэрая поўсць звісае касмыллем, з пысы цячэ сліна, хвост падціснуты пад жывот.

Пачакайце, пачакайце! Я ўсё гэта бачыў?! Так! Я гэта бачыў і тут быў. Вось толькі калі? Але чаму я ў лапцях, а на плячы торба?

— Не, нельга дапусціць сабаку да коней. Ён шалёны! Чаму ж ты сядзіш, поскудзь нячэсаная. Бяжы адганяй, махай кіем.— Толькі ўзняцца няма сілы, зямля, быццам багна, усмактала маё цела.

Сабака наблізіўся да табунка. Ласісты жарабец заюшана шчыпле нішчымную і рэдкую траву. Ніякай насцярогі. Кабылы фыркаюць. Сабака абыходзіць збоку жарабца і знянацку слінявай пашчай хапае яго за персі, пераскоквае да кабыл і бязладна шкуматае іх. Застаўся цэлы толькі руды жарэбчык-сёлетак. І тут піхае мяне нехта ў плечы, бягу захлынаючыся, рукі, як у бусла крылы, раскінуты ў бакі, махаю імі, набліжаюся да табунка. Апярэдзіць, не даць заразе крануцца стрыгунка. Сабака перакідваецца на мяне і з усяе моцы хапае за сцягно.

Смешна! Я ведаю, што будзе далей. Усё гэта перажыта мною. Яно доўга спала і вось прачнулася ў падсвядомасці. А ўжо з-за рэчкі, ад вёскі, бягуць людзі. Наперадзе кудлаты стары і яшчэ з дзесятак мужчын. Позна. Сабака схаваўся ў густым хмызняку топкага балота. Распуджаныя коні журавінамі рассыпаны па лузе...

Плача жонка. Я яе не памятаю, толькі ведаю — яна мая жонка. За вёскаю мужчыны выкапалі вялізны роў,

а я сяджу ў клеці, дзверы забітыя, у сцяне прарэзана акенца, сюды мне падаюць харч. Чую, як іржуць коні. Іх не ўтрымаць. І дзесятак дзецюкоў на вяроўках выводзяць са стойла першага жарабца. Метраў за дзвесце ад рова пускаюць яго, ён, шалёны, з крывавымі вачыма, перарываючыся, бяжыць у падрыхтаваную пастку. Капыты завісаюць у паветры — і вось трэск касцей. Я гэта чую, седзячы ў клеці, кідаюся на сцены, мне шкада коней. А жонка плача каля акенца, я не бяру гаршчок са стравай. Трэба ж так, ужо выводзяць лысую кабылку. Ні адзін конь не мог так хадзіць трушком, як яна. Лыска, мілая Лыска, і ты распласталася на жаўцяку рова.

Увесь маладзік праседзеў у клеці. Схадком праяснілася ў галаве. Бацька — той стары, які бег наперадзе людскога натоўпу, не падыходзіў да акенца. Я ж адчуваў вялікую віну перад ім. Было горка і крыўдна.

Цяпер ужо не памятаю, у які дзень, здаецца, у суботу, я ляжаў на лаве і драмаў. Прывыкшы да цемры і адзіноты, было прыемна прыслухоўвацца да шорахаў і гукаў за сценамі. І тут пасярод клеці вымаляваўся слупок святла. Спачатку ён згадваў водбліск махнаткі, затым мроістага цяпельца, а яшчэ праз каліўка часу ўбачыў старца. Ен падышоў да мяне і сеў каля галавы, руку паклаў на грудзі, там, дзе б'ецца сэрца.

— Я хачу гаварыць з табою аб вечнасці. Пакуль не перайшоў туды, ты думаеш у межах тыдня, месяца, года, але не больш. Цяпер ты будзеш бачыць поўнае кола жыцця. Не бойся, ты вернешся ў сонечны свет другім зямным жыццём, не помнячы падрабязнасцей свайго папярэдняга вопыту, а можа, і будзеш помніць. Не бойся таго, што завецца смерцю. Яе не існуе. А вечнасць — невымяральная, без пачатку і канца. Чалавек, які ўсведамляе сваё багацце, багацейшы за таго, які вызначае колькасць сваіх грошай, няхай іх шмат ці мала. Захоўвай усведамленне вечнасці. Заўтра, пасля захаду сонца, я сустрэну цябе. А пакуль, раннем, папрасі ў

бацькі прабачэння, няхай яго сэрца будзе чыстае да цябе. Абмый сваё цела і чакай мяне. І выкінь думкі аб самагубстве. Каб толькі ведалі, што чакае самазабойцу, то любы з іх і не падумаў бы пра ўмярцвенне плоці, нягледзячы на самыя невыносныя ўмовы зямнога жыцця. Я па цябе прыйду.

І зноўку цемра.

Раніцай прашу жонку, каб пазвала бацьку. Ён доўга не з'яўляецца, не хоча мяне бачыць. Але вось перад акенцам яго твар.

— Тата, даруй.

— Пайшоў ты да гіцалевай маткі!

— Выбачай за зробленае.

— Няхай табе д'яблы выбачаюць!

— Прабач за прынесенае няшчасце.

— Гары ты ясным полымем.

Ад пачутага жонка страціла прытомнасць. З хаты выскачылі незнаёмыя людзі. Яны ратавалі жанчыну, а я быў пракляты.

Пад самы вечар усё ж пашчасціла ўгаварыць радню, і яны выпусцілі мяне, шалёнца, спачатку ў сенцы, а затым увайшоў і ў хату. Нагрэлі ў печы вады, вылілі ў начоўкі, і я абмыў бруднае цела.

Сонца схавалася. Упершыню я быў шчаслівы. Лёгшы на шырокі ўслон паўз кут, я чакаў. Прайшло не больш гадзіны... і тады я памёр...

Паўсюль гнілая морква. Праламаная падлога ў старым разбітым каўчэгу зацягнута павуціннем. Праз пралом урываецца едкі дым, казыча ў носе і робіць мокрымі вочы. Нейкая паненка ў балотнай сукенцы, пашытай з прасціны, сядзіць на хісткім століку і плюецца шалупіннем сланечніку. Вочы яе глядзяць у розныя бакі, і толькі зрэдку, калі каўчэг уздрыгвае, вочы збягаюцца і засяроджана ўтыкаюцца ў пераноссе. Вялізны чорны

штамп на грудзях сукенкі гаворыць пра дзяўчыну, што яна з «Минздрава».

— Ха-ха, а сабака ўкусіў прапаршчыка,— ад смеху ў паненкі вывалілася завушніца і, збіўшы павука, пакацілася ў прадонне.

Я і цётка Хая гуляем у карты. Нам доўга ехаць, і мы раскідваем калоду за калодай. 337 разоў я кінуў цётцы Хаі дурня.

— Вай-вай, мне сорамна,— цётка Хая ўтыркае недаедзеную булку між каленяў, дастае з-пад лахманоў яблык.

— Перадай паненцы, няхай згоніць смагу.

Нам доўга, доўга ехаць. А колькі? Не ведаю ні я, ні цётка Хая, ні паненка. Надакучыла гнілая морква, нам ле ўжо не хочацца. Паненка маўчыць. Яна ў дарозе сто сёмы год.

Каўчэг уздрыгвае, рыпіць і праз хвіліну спыняецца.

— Каб вы праваліліся! Зноў рабаваць будуць,— паненачка саскочыла са століка і выварочвае пустыя кішэні.

— Вай! — Цётка Хая хавае за шчаку ручны гадзіннік.

І тут у наша кубло ўрываецца двое тоўстых мужчын. Голыя жываты перацягнуты шырокімі папругамі. У аднаго сівая галава і адсечана правае вуха, другі трымае ў руцэ плецены лазовы кошык.

— Ату! Распранайцеся! — Аднавухі здзірае з цёткі Хаі душагрэйку.

— Вай-вай, а за што? А людзі, а як жа мне...— Цётка Хая выцягвае шчэпцем з-за шчакі гадзіннік і кідае ў кошык.— Вай-вай, забірайце ўсё, толькі не нацельнае. Вай, і як жыць?! Гэта ж заканчваецца Элул, апошні месяц 5749 года, а мы голыя? — Цётка Хая ўсцягвае на цела кучу лахманоў, я прыкрываюся рукамі, а паненка загарнулася прасаленай газетай.

Пагранічнікі пайшлі. Каўчэг зноў здрыгануўся і пацягнуўся далей.

— Е-ёй, а каб вас дзеці баяліся, каб кароста ў пасху з'ела, як нас вы голымі ў свет пусцілі. Уй, і што далей будзе!

— Сцісніце зубы і маўчыце,— паненка выцягнула з закутка звязаны вузел.— Выбірайце! Да наступнай мяжы паграемся.

— Жывём! У нас жа засталіся карты.

Я зноўку цётцы Хаі накідваю дурняў. Паненка глядзіць у акно. А праз праламаную падлогу паддзімае сняжок.

— Ох, і наеўся б я зараз калькі, з дзесятак бляшанак умяў бы, а ты, цётка?

— Ды ідзі ты... Кілька... Я б курачку ці цяляцінкі пасмакавала. І казаў жа мой Мэндаль, каб прыпаслася... Але ж, зладзюгі, усё роўна адабралі б. То лепш ужо хлебцам... Ух, няма жыцця! І як то дабрацца да месца. Вай-вай, як не хацелася мне ехаць за мяжу, паслаў жа,— цётка Хая парылася ў лахманах, выцягнула змяты пачак цыгарэт.— Не ўсё адабралі! Падымім і паграемся. Паненачка, зацягнешся? Нашанскія, тамака такіх не будзе, а?

— Угу!

І вось сядзім мы ўтраіх і прыцмокваем ад радасці. Смакацішча!

Ат, ці езуіты гэта зразумеюць? Халера на іх, абы нам добра.

— Уй, да чаго я дадумалася,— цётка Хая аж папярхнулася дымам,— а чаго б нам разам не сесці — цяплей то будзе.

Мы садзімся поплеч. Цяплей, але ж зубы ўсё роўна выстукваюць «барыню». Пад лаўкі вецер нанёс снегу, ногі туды не ўтыркнеш. Мухі і камары з вокнаў абсыпаліся, цяпер добра глядзець — не лезуць у вочы і не засцяць дня. А паненка маўчыць. Смаліць цыгарэту і маўчыць.

— Вай, як была я дзеўкай, то хадзіла ў пякарню,

там хлябцы пяклі, як там цёпла, вай-вай-вай! Цяперака б туды мяне. От адагрэлася б!

Цётка Хая пачынае драмаць.

Каторы ўжо дзень сядзім у гэтым загаджаным каўчэгу, а ўсё свеціць сонца.

І куды нас вязуць, і хто нас вязе, і навошта?

Ды гэтага не ведаю ні я, ні цётка Хая, ні паненка. Выгналі нас з дамовак. Шукаем замежжа. У паненкі на другое стагоддзе павярнула, а яна так і не знайшла супынку.

Колькі мне тут зябнуць і сыходзіць потам?

— Кінь яму морквіну, а то не адстане,— паненка вачамі паказала за акно.

Там, знадворку, побач з каўчэгам бяжыць маладжавы стары з выпеставаным тварам, у адгладжаным пінжаку, на якім вісіць сотня медалёў і ордэнаў. Здаецца, залатыя пагоны бліпчаць. Але праўда, не разгледзеў я іх. Ён усміхаецца, шамкае ротам і нешта нам крычыць. Толькі ж як тут пачуеш. Ды і цётка Хая пачала падхропваць.

Я, не шкадуючы, кінуў прыгаршчы заледзянелай морквы, і ён, цупнуўшы на месцы, пачаў збіраць яе запазуху.

Прахапілася да дрымоты і цётка Хая.

— Вай, і нашто карміць трутняў! Нас ён голадам марыў, уй, страшна ўспомніць. А вы яму морквы. Яго ніхто і ніколі не запіша ў шчаслівы год. Бач, і за мяжой няўежна. Дамоў бы яго, вуй, што б было. Толькі ж гарэлачнае мора не пераплыве — захлынецца. Няхай бегае, няхай слюнці пускае, а вы морквай не кідайцеся. А то, вуй, футбол развялі.

— Не варушыцеся! — паненка задрыжала ўсім целам і выпрастаныя перад сабой рукі скіравала на нас.— Я бачу воблакі, яны свецяцца. Гэта аура. Яна рознакаляровая і ўвесь час мяняецца. Вы думайце, думайце хоць аб чым. Яна змяняе над вашымі галовамі колер і бляск.

Над хлопцам яна заліта ружовым колерам. Ён да некага вельмі шчыра прывязаны. І думкі яго аб кімсьці неадступныя. Гэта ж бязмежная адданасць чалавека чалавеку. Але вось воблака крыху мяняецца. Я бачу, пакуль што ледзь-ледзь цьмяна-карычневую афарбоўку. Так, гэта ўжо самалюбства. Толькі яго самалюбства знешняе. Глыбіня ж у яго ауры — добрая. Ён шчаслівы — некага любіў і любіць. Над галавой у цёткі Хаі воблака з сінявата-шэрым адценнем. Гэта колер страху. Чаго баяцца, цётка? Нянавісць і злоба маюць чорны колер. Цяпер ніхто не зможа схаваць ад мяне сапраўдны стан сваіх адчуванняў і адносін. Я прасвятлела!

Цётка Хая спуджана схапілася рукамі за галаву, прабегла пальцамі па сівеючых валасах і закрыла далонямі твар.

— Навошта было гэта рабіць? Да майго слыху даходзіў спеў птушак, я бачыла вясну. Цяпер я сляпая. Азарэнне было імгненнае. І не знайсці мне цяпер свайго фізічнага цела, яно застанецца і надалей спаць. Мне не вярнуцца, ніколі не вярнуцца.

Усё разбурана, разбітая цэгла замінае ісці, разламаны і абвалены насцілы паміж паверхаў. А мне так хацелася забрацца на апошні, дзе галубы ладкуюць гнёзды і адкуль бачны бераг дзяцінства. Там узрастае на дрэвах каханне, яно квітнее круглы год, і цэлыя клумбы там шчасця. Сто сем гадоў дарэмнага бадзяння...

Паненка бязгучна ссунулася з лаўкі і нырнула ў пралом падлогі.

— Вай! Яна была вар'ятка! Як мы ўцалелі?

— Яна была шчаслівая.

— Ты ад яе заразіўся. Схадзі і памый твар.

— Там зачынена. З маю галаву вісіць замок.

— А яна была, была вар'яткаю!

— Ад яе сыходзіла святло, яе прысутнасць побач рабіла мяне шчаслівым. У ёй бачылася радасць і прыгажосць жыцця. І я грэўся ў промнях яе любячага сэрца.

— Вай, ты не даедзеш да мяжы. Нешта ўсялілася ў цябе. А як мне адной, вуй?

Цётка Хая заплакала, размазваючы па друзлаватым твары слёзы. З верхняй паліцы на паненчын столік зляцеў певень [redacted] абмарожаным грэбнем, крутнуўшыся раз-другі, ён падабраў пад сябе ногі — сеў.

— Не плачце. Ніколі не плачце, калі толькі гэтага вам не трэба для аднаўлення страчанай раўнавагі. Памятаеце: «Смейцеся, і ўвесь свет будзе смяяцца з вамі!»

— Ты пакахаў паненку. Вай-вай, гора мне горкае. Я спадзявалася на падтрымку. А ты ўвесь у каханні.

— Я пакахаў яе, але незразумелым каханнем.

— Дык жа кожнае каханне незразумелае. Ты думаеш, што саламандры бачны толькі для няўстрымных паэтаў. Але ж яны таксама рэальныя для саміх сябе і для тых, хто іх бачыць, як гэты певень на століку.

Каўчэг задрыжаў. Ён тарганулся з пяток разоў і трэснуў пасярэдзіне, быццам шалупінне ад яйка, разваліўся. У вочы ўдарыла святлом. Нагрэты сонцам пясок падаваўся мёртвым і некранутым. Певень, апёкшы лапы, успырхнуў і паляцеў да лесу, які шчарбатай пілой чарнеў наперадзе.

— Прыехалі. Во і мяжа. Што рабіць будзем?

— Я паспала б, ды баюся. Вуй, ты малады, і што ў галаве, аднаму табе вядома.— Цётка Хая сарамліва адвярнулася.

— Памалюю, пакуль спёка зляжа. А там пешкі пойдзем, не сядзець жа. Паспі, цётка Хая, пераскоч у другую палавіну каўчэга і драмані.

— Ыгы, так я і легла. На кіёк і малюй, я глядзець буду. Толькі паненку не трэба, а то злавацца пачну. Навошта яна табе, паглядзець вакол, дык і лепшыя ёсць... Добра. Ай, як добра! Гэта ўжо ў стылі Вазарэлі робіш. Бачу гульню белага і чорнага, плям і рысак. Проста рамантычныя кантрасты атрымліваюцца. А форма, якая форма! Вуй, выліты Вазарэлі. Ты мастак,

хлопец. Вялікі мастак. Цяпер давай знакамітую вазарэлеўскую серыю зебраў накідай.

— Адчапіся, цётка Хая, са сваім Вазарэлі. Прыдумала!

— Так ужо і цётка. А мо я Кайафа, ха-ха. Ты ведаеш, хто ён? Не ведаеш. Я з яго роду. А быў ён абвінавачвальнікам Хрыста.

— Але ж Бог ад адной крыві стварыў увесь род чалавечы для жыцця на ўсёй зямлі.

— Вай, тады ўсё чалавецтва браты і сёстры, калі ад адной мы крыві. І не маем права чыніць адно аднаму шкоды. А тады як з прынцыпам Кайафа, паводле якога можна лёгка знішчаць інакамыслячых быццам дзеля карысці народа? Прынцып гэта: «Лепш няхай загіне адзін чалавек, чым увесь народ».

— Так, так, цётка Хая. Ахвяруючы адным чалавекам, мы ахвяруем народам. Бо адзінкі ў суме складаюць народ. Ні для кога не бачна той мяжы, калі з адзінак, дзесяткаў, соцень і тысяч складваецца народ. Вы ахвяруеце мною, я вамі і... Не, не! Вы [illegible] жахлівага, крывавага роду! Народ жа — гэта кожны!

— Звычайная я дачка Майсеева, пагарджаная многімі і зацкаваная. Зігмунд Фрэйд усё ж быў правы, калі даследаваў бесчалавечнае ў чалавеку. Мной трохі пражыта і тое-сёе пабачана. Бесчалавечнае датэрмінавана звярыным у чалавеку. Я ўпэўнена, яно па сваёй прыродзе не вольнае, накіравана супраць волі. Вуй, трагедыя, відаць, у тым, што бесчалавечнае цесна пераплецена з чалавечнасцю. Адно ад другога немагчыма адлучыць. Вот так я табе скажу.

— Сонца пахаладнела, па пяску можна ісці. Будзем пакідаць каўчэг. Вы пойдзеце са мною?

— А дзе ж мне дзецца?

І яны пайшлі, асцярожна пераастаўляючы ногі па пяску. Нанесеныя ветрам пагоркі замінalі хадзе. Далёкі лес пакрыху набліжаўся. Толькі з кожным крокам ста-

навілася цяжэй і цяжэй ісці. Пясок з'ядаў ногі. Пакуль што гэтага не заўважалі ні хлопец, ні цётка Хая. Яны пераадолелі яшчэ адзін прыгорак, спусціліся ў лагчынку-выемку і аслупянелі. Усё навокал усцілалася людскімі касцямі. Упарадкаваныя груды шкілетаў уздымаліся на добрыя дзесяткі метраў. Высушаныя і выбеленыя сонцам косці былі як рафінаваны цукар. Шмат чарапоў вакол проста панакідана, як футбольных мячыкаў.

Толькі ж лагчына гэта — не лагчына і шкілеты — не шкілеты. Узнялася прад вачыма агромністая гара, на якой палаюць вялізныя тры шасцёркі — 666. Канец свету. Д'яблава месца. Пекла. І ўчулі хлопец з цёткай Хаяй стогн, людскі енк. Зашамацелі касцямі шкілеты, папаўзлі па зямлі, шукаючы кожны сваю галаву-чэрап. А з вакольных дарог адусюль грэшнікі на вазах бітум вязуць, на плячах застылыя кавалкі смалы нясуць. Гара чарненны дым выкідае ў неба.

Цупнулі цётка Хая з хлопцам на калені і на карачках і прысядкамі дабраліся да шчыліны-пралому ў гары. Упаўзлі туды, наважваліся зацішыцца. Толькі ж дзе там.

— Вай, хлопча, паглядзі-тка туды.

І ўбачылі яны пасярод пекла ёмкі слуп, да якога ланцугамі прыкуты Люцыпар. А паўсюль катлы, катлы з душамі, а рэшта іх так, без катлоў, валяецца. Спадыспаду агонь шугае, пячэ, а зверху бітум распалены льецца. На калодзе ж сам д'ябал сядзіць, кіруе шкілетамі. Сякуць яны сякерамі бітум і кідаюць без супынку, кідаюць пад катлы.

— Вай, хлопча, бачу Рохлю, шынкарка знаёмая мая. Пры дарозе жыла ды сялянам напавер гарэлку давала. Вуй, цягнуць яе ў кацёл. А д'яблішча, шкурат, як шчоўкае капытамі. Каб ён угарэў.

— Маўчы, цётка.

— Вай, вай, Рохлечка мая ты, Рохля!

І кінулі распатланую душу жанчыны ў кацёл, туды

ж спіхнулі і крамяную маладзічку. Намагаюцца яны выскачыць, толькі ж чэрці бізунамі з валовых посікаў іх лупцуюць ды назад спіхваюць. А самі нячысцікі рагочуць на ўсе лады.

— Навошта ж я пайшла з табою з каўчэга? А сядзела ж бы я там седма, ліха-бяды не знаючы. Вуй, а як то выбрацца?

— Цётка, у каго грошай кашэль, таго не апранаюць у шынель, а ў каго ні граша, а пустая лапка, таму і надзяваецца чырвоная шапка. Прыгледзься лепш, колькі вайскоўцаў вядуць. І кожны з іх нясе на плячах забітых ім. Вось яна якая, любоў да чалавецтва ўвогуле і кожнага паасобку. А мы з вамі пра нейкага Кайафу. Ды і каўчэг бы не ўратаваў. Ну, а да мяжы мы ўсё ж дабраліся. Але вунь нашу паненку з каўчэга паклалі шкілеты каля д'ябла.

— Вуй, няма ратунку і тут ад яе.

І наляцелі з усіх бакоў на паненку чэрці. Мэнчаць яе, усе косці, жылы і пажылкі сабе грабуць, дзеляць, як скарб. Засталася толькі скура. Узняўся тады д'ябал з калоды, прытупнуў і ўлез у паненчыну скуру. Лінулі нечым вадкім, і ажыла паненка ■ д'яблам усярэдзіне.

Хлопец не ўгледзеў, як цётка Хая ўхапіла яго за руку і выцягнула са шчыліны-пралому ў гары.

— Бяжым, адсюль, вай-вай. Мо шчэ пашчасціць выжыць. Я бачыла, як паненка-д'ябал зірнула ў наш бок. Яна нюхам учула цябе. Навошта любіць было яе? Вуй! Давай шукаць шлях у вырай. Ён тут дзесь недалёка.

— Але ж дарога туды забаронена. Пакуль чалавек не саграшыў, датуль ён жыў у раі, а пасля грэху Бог аддаў рай птушкам. Навошта, каб дарэмна ён пуставаў? А мы з табою не птушкі. І як туды патрапіць?

— На небе, каб не блудзіць, ёсць птушыная дарога, ясная і шырокая. Вуй, яна нас выведзе ў выр...

Цётка Хая не паспела дагаварыць. З вяршыні гары, разам з дымам, вылецела паненка-д'ябал, стралой міль-

ганула па небе і завісла над галовамі былых каўчэгаўцаў.

— Ха-ха! А сабака ўкусіў прапаршчыка. Куды вам уцякаць? Шчаслівейшага месца не знойдзеце. Я ж абодвух вас люблю. Вы на мяжы, далей пакутаваць не варта.

Паненка-д'ябал схапіла за гарлякі хлопца і цётку Хаю. Пальцы мёртвым замком сашчыкнуліся на іхніх шыях.

Ага! Усё! Вось і ўсё! І тады я пам...

Не! Што вы, не!

Я ж Сымон. Цяпер іду дамоў. Вунь наша селішча. У свата заседзеўся. Сёння весні Юр'я. Мы і сёрбнулі патроху. Сват і аброць падараваў. А яшчэ зайду да Маскоўкі. Пекная кабетка. Прынесла яе аднекуль да нас. Кажа, з Масковіі. Цяпер і быць ёй Маскоўкай.

Месяц не жыла тут, а да мяне прыгледзелася. Паехаў я па соль раннем. Запрог кабылу, нагроб у мех кабыле аброку, палажыў на воз і памаленьку загуменнем бубню на калёсах. І толькі выехаў за вёску, а тут Маскоўка аднекуль шамялях на воз. Трэбака ж, ляр̌ве, без спадніцы зусім. З налёту і без смеху давай цалаваць мяне. Ну і ўсчалося гэтае дзела. Разлажыліся на возе... Упарыліся, хоць выкручвай. Кажуць, цяперака яна не наймаецца на работу падзённа, шэпча хваравітых ды зёлкамі лякуе. Бач ты, здатная. Ох, Сымон ты мой, Сымон, Сыманюшу, перавярнула яна табе сэрца й душу. Ну і няхай. Заганы тут ніякай няма, я ж халасцякую. Вунь ужо і яе хата. Пералезу цераз плот, каб не шукаць зашчапкі. Хісткая, халера. Добра, хоць сабаку не завяла. Ціхенька, крадком і да дзвярэй. Не забылася яна пра мяне? Не, не магла забыцца. Так. А чагосьці ў яе варотцы адчынены на лужок. Забылася прыткнуць дрынам ці паленцам. Я табе ўслужу, Масковачка, прычыню.

Ну і халера. Мая Масковачка прасцірае па расе

ручнікі, збірае расу і адкручвае ў дайніцу. Нябожчык Кузьма баіў, што так малако цягнуць да сябе ад тых кароў, якія пройдуць па месцы збору расы. Няўжо ж яна вядзьмарка? Во ўжо ўліп я, што нябачна і макаўя.

А што, калі і мне дзеля жарту пазбіраць расу аброццю?

Падумана — зроблена. Пачаў Сымон цягаць аброць па ўрасянелай траве. Вымаклі скураныя нацяжкі, аж ад месяца бліпічаць, вада ледзь не цурком скочваецца. Пастаяў ён з хвіліну, падзівіўся на Маскоўку і асцярожна, наколькі мог пасля выпітай саладухі, пайшоў дахаты. Якое там ужо каханне пасля ўбачанага.

Прытупаў я ціхенька на дворышча, павесіў аброць на сцяну ў сенях, якраз над ступаю, а сам у хату. Узяў з покуці грамнічную свечку, ладны гаршчок ды ў хлеў. Запаліў там свечку, прыкрыў яе гаршком і сяджу, патроху і дрымота бярэ. А калі спытаць: навошта гэта раблю, то і адказаць не ведаў што б.

Толькі ж сяджу. А тут раптам бачу: прачыніліся дзверы ў хлеў і Маскоўка стаіць у месячным праломе. Я хуценька шморг гаршчочак са свечкі — і ўсё вакол бачным стала. А на Маскоўцы ніякага і спуду. Падыходзіць да мяне, усміхаецца. Прысела поплеч на салому і лашчыць маю галаву.

Мне ж брыдка неяк ад яе, але не паказваю выгляду.

— Аддай аброць, Сымонка,— просіць яна і так ласкава і мякка, хоць у вуха кладзі.

— Навошта яна табе, ды і якую аброць,— так кажу, быццам нічога не ведаю.

— Не жульнічай, Сымонка. Тую аддай, што над ступаю ў сенцах.

І праз ласкі пачала Маскоўка шлыкатаць мяне, ды так мудра і ўвішна, аж дых захапляе. Крутнуўся я праз сілу, ускочыў і гаманю ёй: «Згінь, ведзьма, з нашага селішча, пакуль людзём не сказаў, хто ты ёсць».

Усхапілася і яна. Злоба, бачу, буяе ў ёй, але хуценька ўтаймавалася.

— Эх, Сымонка, я ж цябе так кахала, так любіла, а ты... Ды нічога! Пайду я ад вас, пайду, не гневайся. Толькі ж на памяць дазволь завязаць табе хустачку.

Выцягнула Маскоўка аднекуль хустачку і, пакуль я думаў ды разважаў, завязала мне на шыю. А сама зарагатала і знікла. Быццам і не было яе ніколі.

Глянуў я на сябе, аж і рукі, і ногі, і ўсё цела абрастаюць воўчай шэрсцю. Замест рук і ног утварыліся ваўчыныя лапы. Я катануўся промельгам на вуліцу, завыў ад гора і роспачы ды з такой сілаю, аж самога жах праняў. Што ж, стаў я ваўкалак ваўкалакам праз клятую Маскоўку.

Загароддзем, ціхімі месцамі кінуўся з вёскі. Бягу каля магільніку, раптам бачу, як адна магіла расчынілася, вылез з яе нябожчык і скіроўваецца да суседняй вёскі. Ну і я слядком за ім, ад кусціка да кусціка, ценявымі мясцінамі, каб месячык мяне не высвеціў і не выдаў. Дайшлі мы так да вёскі, а там, каля сярэдняй хаты, дружба вясельная гуляе. Я ж не спускаю вачэй з нябожчыка, цікую за ім. А ён цішком падышоў да парога хаты, зняў з сябе пояс ды і паклаў уздоўж ганка. І тут я ўгледзеў Маскоўку. Цягне яна ўсё вяселле на вуліцу скакаць, каб быццам не ўпарыцца. А сама, погань пошасная, нябожчыку падміргвае. Пераскочыла Маскоўка першая парог — нічагусенькі з ёю не сталася. Следам жа і жаніх з нявестаю, і дружбакі іхнія праз парог пайшлі. І як толькі пераступалі пакладзены нябожчыкам пояс, адразу ж станавіліся ваўкалакамі-ваўкамі. Во яно як, думаю сабе. Тут я промельгам круць і назад, на могілкі. Напэўна ж вернецца нябожчык да свайго месца, дай я лягу ў яго труну. Улез у магілу, лёг у труну і чакаю.

І спачыць, падумаць не паспеў, як прыходзіць нябожчык.

— Ты навошта забраўся на маё месца? — пытаецца.
— А так мне захацелася.
— Вылазь хутчэй з магілы, бо мне прыйшоў час класціся на сваё месца,— не просіць, а загадвае нябожчык.
Ну, а я пашчу ашчэрыў і гыркаю на яго.
— Навошта,— кажу,— вяселле ў ваўкалакаў ператварыў і кім табе прыходзіцца Маскоўка?
— Гэта мая справа,— так ён адказвае.
— Гуляй тады па свету беламу, а я пасплю. Куды мне, ваўкалаку, спяшацца? Буду тут ляжаць, пакуль не адкрыеш тайну, як зноў ператварыцца ў чалавека.
Круціўся-муціўся нябожчык, а тут адна хвіліна да прызначанага часу засталася. Трэба класціся ў труну, інакш не ведаць яму спакою стагоддзямі.
І тады нябожчык сказаў:
— Адгрызі ад маёй труны трэску, запалі яе досвіткам у вогнішчы, якія пакідаюць пастухі конскіх табуноў, і запаленай трэскай абкуры кожнага ваўкалака, сябе ж самога — апошняга, і стане зноў кожны з вас чалавекам.
— Пра Маскоўку ты нічога не сказаў.
— Якая яна Маскоўка? Яна Мара, русалчына дачка, згубніца людская. Ты пры выпадку паглядзі на яе, калі будзе ісці каля вады. Паглядзі на яе супраць вады. І ўбачыш усю наскрозь. Выслабані маё месца.
Адгрыз я трэску і выскачыў на волю. Нябожчык толькі лёг на месца, як магіла зачынілася.
І пайшоў я да вёскі. Яшчэ здалёк убачыў каля вясельнай хаты ваўчыную зграю. Круцяцца яны, выюць, дзяруць лапамі зямлю. Вакол жа госці з вяселля плачуць. Што мне было рабіць? Пабег я на луг, знайшоў не патухлае яшчэ вогнішча, прыпаліў трэску. А тут і ясная зара-заранiца на небе выплыла. Вярнуўся я ў вёску, падбег да ваўкалакаў і пачаў па чарзе іх абкурваць. Толькі абыду колцам ваўкалака, сціскаючы дымную

трэску ў зубах, як ён ужо не ваўкалак, а чалавек. Апошні застаўся. І яго аббягаю, ды, як на тую бяду, дагарэла трэска. Застаўся чалавек з ваўчыным хвастом, з непатрэбнай аздобай, на мяне ж зусім не хапіла нябожчыкавага ратунку. Гаруй ці не, а жыць трэба. Схаваўся ў лесе. І спазнаў бяду неперказану. Дужа ж кепска з ядою было — адно сырое мяса, а і тое, жыццём рызыкуючы, здабываць мусіў. Крадочкам падпаўзаеш у статак, задушыш адну авечку ці гавяду — а яна не смачная; задушыш другую, трэцюю — а яны ўсе роўныя. Вярэдзіць нутро ад сырака. А адзін раз дык і на свой падворак ваўкоў прывёў. Пачалі хапаць парасят, ваўкі большых і лепшых хапаюць, а я дык што меншае і горшае — што ні кажыце, а сваё, шкада.

А найбольш за ўсё шукаў я Маскоўку. Толькі ж знікла яна з селішча, у хаце гадзюкі-гадаўкі пасяліліся.

Ды і яшчэ адна бяда сцерагла штоночачкі. Спаць-то я клаўся разам з ваўкамі, але з таго боку, каб ветрам не несла ад мяне на ваўкоў. Інакш учуюць пах нетыповы, не ваўчыны, а мой, чалавечы-ваўкалачы. І...

Толькі ж неяк адным днём стаміўся, што і насцярогу згубіў, лёг супраць ветру. Прачнуўся, аж трашчыць мая скура, ірвуць ваўчыдлы яеікламі. І няма ўжо ніякай сілы, каб выратавала мяне.

Узвыў я так, што абсыпаліся з неба зоры, а месяц скаціўся ў багну. Патухла апошняя іскарка ў маіх вачах, узяла верх над усім цемра, ды такая густая і ліпучая, з якой не вырвацца і не выйсці...

І тады я памёр...

...Зноў стукаюць у дзверы. Настойліва ломяцца. І хто б падказаў, калі ўсё скончыцца. Я стаміўся. Няма сілы глядзець у гэтыя твары, слухаць сотні разоў сказаныя словы. Давячыся, піць прынесеную бурду і рабіць выгляд, што шчаслівы і ўсё падабаецца. Самотна і нудна штодня хадзіць па адной і той сцежцы. Я ўжо наву-

чыўся сярод тысяч слядоў на дарозе знаходзіць свае і, не баючыся, станавіцца на крохкі вымерзлы лёд.

— Пачакайце, зараз адчыню. Іду, іду.

Навошта прыбіраў у кватэры?

— Ну ты і спіш. Паўгадзіны шкрабемся.

— Праходзьце.

Акрамя Ірыны і Пятра, усіх астатніх бачу ўпершыню. Поўная валізка партвейну, з кішэняў дастаюць гарэлку. У мяне не кватэра, а прытон. А я? Цьфу ты, чыстаплюйчык блышыны. Лезь у лядоўню і стаў, што ёсць, на стол. Цяжка прыняць толькі першую стограмоўку, а далей усё проста і прыемна, як пасля доўгага ўстрымання памець жанчыну ці папісаць на сцяну найгалоўнейшага ў горадзе дома.

— Знаёмцеся, гэта Сікорскі, гаспадар хаты,— Пятро паляпвае мяне па плечы. Калі яму хочацца, няхай прыкідваецца лепшым сябрам.

— Я Танечка.

— Валька.

— Ігар.

— Міхась.

— А я Сікорскі.

— Пачнём чарніліць,— Пятро звычна расстаўляе піва і закуску на стале.

Танечка, угледзеўшы піяніна, бамкнула па клавішах і нізкім голасам зацягнула:

— Ох, раз, яшчэ раз, яшчэ многа-многа раз.
Лепей сорак раз па разу, чым ні разу
Сорак раз...

...Чаму? Не ведаю. Але сотню разоў у маіх вачах і памяці пракручваецца адзін і той жа эпізод. Ад яго ніяк нельга пазбавіцца. І цяпер вось, за сталом, я бачу на сцяне тое, перажытае. Так, я яго перажыў. Восеньская блакада. Балота. Шэсць узброеных мужыкоў і дзевяць жанчын. Дзесяты я — немаўля. Мне тры месяцы ад

нараджэння. Слотнае паветра, дробная імжа. З усіх бакоў абкладваюць наш ашалелы гурт ворагі. У грудзях маёй маці няма ні кроплі малака. Яны пустыя. Я галодны, кугакаю, знямоглы, патрабую ў знямоглай маці ежы. І яна ўжо не хавае грудзей. Вісяць яны паверх кашулі, крыху прыкрытыя мокрымі поламі пінжака. Сасмягла цмокаю пустыя саскі. Толькі ж як мне супакоіцца? Ірвецца пісклявы пратэст з майго горла. Я супраць голаду, на які аддала мяне маці, супраць знерваваных і стомленых людзей, супраць ворагаў, якія палююць на нас, супраць цэлага жорсткага свету. Сіла маёй нязгоды ў голасе, ледзь чутным голасе. Але мой рот увесь час прыкрывае рукой маці. Толькі ж я ўсё роўна люблю яе, хоць закрадваецца і злоба.

— Заткні ты яму глотку,— шэрыя вочы худога мужчыны халодна блішчаць.

Маці прыціскае маю галаву да пляча. У мяне перахапляе дых ад змоклай кашулі, ад багністага паху вады. Змаўкаю. Крыху маўчу. Я ненавіджу ўсіх гэтых зацкаваных, запалоханых людзей, якія ратуюцца ад ворагаў, ратуюцца самі і ратуюць мяне. Толькі ж сёння ў іх вачах не бачна спагады, не чутна добрых слоў. Яны спачатку крадком, а пасля смялей і смялей глядзяць на мяне з варожасцю. Гэта адчуваю не толькі я, але і маці. Соўгае, соўгае яна пустыя саскі ў мой рот, я змагаюся.

— Праз твайго выблядка ўсіх нас пакосяць,— так кажа худы мужчына, ён начальнік ашалелага гурту.

Бабы ў згодзе хітаюць галовамі. А ў маці вар'яцеюць вочы. Яна так прыціскае мяне да сябе, быццам хоча ўпіхнуць зноў у чэрава. Ворагі шчыльней і шчыльней абкладаюць нас у балоце. Страляюць па маім голасе, і выратавання, здаецца, не будзе ўжо ні для кога.

— Значыць, так,— худы тыцкае ў мяне пальцам,— ці засунеш яго пад корч, ці разам з ім пакінеш нас.

Усе з палёгкай уздыхаюць. Сказана тое, аб чым кожны думаў. Рашэнне прынята.

— Канстанцін, Божым імем прашу, не прымай такі грэх на душу.— Гэта словы ціхай старой жанчыны, маёй заступніцы.

— І ты можаш застацца з імі.

Старая прымоўкла.

Маці згорбілася, не пярэчыць. Яна каменная, таму не мае слоў. А ўсе глядзяць на яе, быццам любуюцца маладосцю.

— Вырашай. Няма калі думаць.

Маці бясслоўна адышлася ад гурту. Усе з надзеяй глядзяць ёй у спіну.

«Бойся мухі-веснавухі і дзеўкі-векавухі...» Не магу я сціхнуць. Не хачу маўчаць. Хваравіты алешнік і застаялая балотная вада. У навальніцу вецер вывернуў ёмкую яліну. Яна ляжыць і не першы год чэзне ў непраходнай багне. Маці стаіць каля яе. Цвінькаюць кулі па вяршалінах дрэў, бомкаюць у парыжэлай траве. Усім целам я адчуваю, як б'ецца сэрца ў грудзях маці. А худы і стомлены начальнік павёў ужо далей змучаных акружэнцаў.

І тут адным адчайным рухам маці саўганула маё цела-камяк пад выварацень. Крык абарваўся, як песня жаўранка. Лопнулі адна, другая, трэцяя бурбалкі... І мяне зноў не стала.

* * *

— Дзе яго знайшлі?

— У каналізацыйным калодзежы, недалёка ад паліклінікі.

— Колькі прыкладна часу прабыў ён там?

— Гадзін сем, дзевяць... не больш паўсутак.

Капітан міліцыі паспешліва запісваў у нататнік.

Маладзенькая медычка разглядвала пафарбаваныя пазногці на руках. Чысты белы пакойчык, наскрозь прапахлы лекамі і ванітавата-саладжавай чалавечынай, асвятляецца настольнай лямпай.

— Ці будзе жыць?

— Не ведаю! У аперацыйнай ён.

— Пры ім былі хоць нейкія пасведчанні асобы, прафсаюзная кніжка, ну, дакуменцікі?

— Нічога не знойдзена. Можаце паглядзець ягоныя рэчы і вопратку ў сястры-кастэлянкі.

* * *

— Робім адкрыты масаж сэрца,— хірург працягнуў тонкую руку да асістэнта.

Цемра. Пустата. Бясконцасць. Адзінота.

Чырвоны мячык з жоўтай паласой змяншаецца і змяншаецца. Нарэшце становіцца ледзь бачнай кропкай і знікае зусім.

# Шчэпаць попелу

Ахрэм мінуў доўгую лагчыну. Хмызняк і рэдкалессе пагусцелі. Адсюль пачынаўся ўжо Якубаў надзел. За паўдня хады стомы не адчувалася, толькі нейкі боль ражном падпіраў пад грудзі. Але гэта не такое і дзіва. Трэба толькі спыніцца і заняць у грудзях дых, а пасля лёгенька выдыхнуць і зноў прыслухацца. Во, здаецца, і прытупілася хвароба. Цяпер не хутка вернецца. Паспею дашкандыбаць да Якуба. Адзін клопат: не збіцца б з дарогі і не патрапіць на лесунову сцежку. Інакш закруцішся на адным месцы і ў галаве тлум пачнецца такі, што не пазнаеш, каго век ведаў, па якіх месцах басанож бегаў. Ай, навошта думаць пра нядобрае? Збаў мяне, уладар лясны, ад выпрабаванняў.

Прайсці праз гоню лесу за дзялянкай, а там каля Альховага балота Якубава кубло. Счужэў зусімака ён, вачэй на людзей не вытыкае. Сябрук ты мой, сябручок, завошта цябе доля загнала ў чабурэшнік, куды рэдка чалавек заходзіць, а ў госці толькі птушкі лятаюць. Жураўы, адны жураўы не здраджваюць, ды совы ўлюбілі сасоннік над тваім дахам. Праклянцце... Яно каростай на чалавеку асядае, не адкараскацца ад яго. Не толькі скуру праймае, а і ўсярэдзіне, у душы і сэрцы, гняздоўе ўець.

Праўду кажуць людзі: не давай шмат абяцанняў, не расчароўвай у сваіх магчымасцях і сілах. Усё ў чалавеку. Толькі адзін ён творца свайго шляху. Ты, Якубка, і сатварыў сваё жыццё, бо пайшоў у адзіноцтве там, дзе трэба ісці разам. Хацеў несці людзям праўду, слова

праўды, як той Хрыстос, а людзі цябе не прынялі. Трэба вучыць людзей без догмаў. А ты? Эх, не ўзараў ты зямлі і не ўкінуў у зямлю зерня. Не прызналі твае словы, не ацанілі іх. Пайшоў ты да Альховага балота прыніжаны і самотны, абсмяяны, з пячаткай здрадніка і ворага. Цяперака душа твая да нас глухая і сляпая. Але ж нельга так, Якубка. Адгукніся, знайдзі месца ў сваім сэрцы і для тых, хто ад цябе адвярнуўся. Не дай знікнуць з зямлі аднакроўнаму роду нашаму, не дай пакрыцца быльнягом дворышчам нашым. Выправілі да цябе мяне, Ахрэма. З табой жа мы паразумеемся.

Я ўсё думаю над словамі, якія ты сказаў за мінулым летам. Служэнне бліжняму — не парыў дабрыні, калі кожны гатовы ўсё раздаць, а затым думаць, дзе б самому знайсці што-небудзь з аддадзенага для асабістых патрэб. А карысць у тым, каб скрасіць нечы дзень дабрынёй.

Вымірае наша вёска, Якубка. Пайшла пошасць па людзёх, сем'ямі косіць сяструха-смертухна люд наш. Няма ўжо сілаў магілы выкопваць, і слёзы высахлі, вочы засціць туманам. Во так яно, Якубка. Толькі ты яшчэ можаш ратаваць некага, толькі твае рукі заступам стануць паміж намі і непераборлівай смерцю. А словы, словы пра любоў і дабрыню чалавечую помняць людзі. Цяпер успомнілі і прыгадалі.

Але, здаецца, заблудзіўся я. Нешта незнаёмыя мясціны. Быццам нікуды і не зварочваў, ледзь бачнай сцежкай ішоў.

Спачуваць — значыць перш за ўсё мужацца. Во я і іду па тваё спачуванне. І гэта твае словы, ад іх ты не адрачэшся. Ты вучыў, каб сэрца было шырока адчынена. Людзі перад горам паадчынялі свае сэрцы, чакаюць, заходзь да іх і залячы іхнія болькі, прыпалі язвы, якія бачны твайму воку. Больш ніколі ты не станеш гнаны намі. Перадам табе ўсе словы, і ад іх выступіць сляза, і пойдзеш ты да тых, хто цябе, быццам зноў-такі Хрыста,

закідваў каменнем. Бо любоў твая, Якубка, не ведае межаў.

Заблудзіўся, усё ж заблудзіўся. Стары конь, кажуць, не псуе баразны, толькі ж і глыбока ён ужо не арэ. Прынясі, Якубка, святло і мір у наша селішча. Толькі хто ж гэта насустрач мне крочыць? Няўжо дайшла да цябе чутка раней, чым я прыкалдыбаў? Не, гэта не ты, Якуб.

— Схіляю галаву перад табою, чалавеча.

— І я цябе вітаю.

Стары з даўжэзнай барадою склаў на ўпалых грудзях сухія рукі. Глыбокія вочы іскрынамі бліскалі з-пад густых броваў. Успацелая голая лысіна адбівала рэдкія з-за галін промні сонца. Шараватая світка на дзядку была без ніводнага гузіка. Толькі пасярэдзіне яе перахоплівала звітая вяроўчынай дзераза. Ногі былі ўсунуты ў берасцяныя лапці.

— Што шукаеш так глыбока ў лесе, чалавеча? — у дзядка быў нізкі пявучы голас.

— Іду да Якуба. Ліхое няшчасце ў нашу вёску ўпаўзло, сыплюцца людзечкі, як змарнелыя мухі, няма ратунку ні старому, ні малому. Уладарыць над намі невядомая хвароба, у кожную хату шкрабецца і ні вады, ні палкага агню не баіцца.

— Чуў і я пра гэта, чалавеча. Ты ўжо мяне выбачай, што звёў цябе са сцежкі, не дзеля забавы зрабіў такое. Павінен дапамагчы мне. Толькі ты ўратуеш дачушку-парадзіху. Знямоглая і ледзь жывая ляжыць, а ад мяне ніякай карысці. Нямашака сілы, і на ейныя пакуты глядзець не магу. Ды і з нашых лесуноў нікога паблізу няма. Зрабі ласку, пайшлі са мною.

Рэдкая блякла-зеленаватая трава пад густалессем, шчодра пасыпаная яловай і сасновай іглічай, нагадала Ахрэму пляменніцу Настку, якая трэці дзець сасмягла енчыць на выцвілай дзяружцы. Ёй ужо ніколі не быць парадзіхай.

— Ты дужа не ўбівайся, што адыму ў цябе гадзінку-

другую. Абы добра ўсё абышлося. Затым я цябе хуценька даваду да Якубавага жытла. Напрасткі тут кійком дакінуць.

Малады ельнік замінаў хадзе. Стары лясун надзіва вёртка пралазіў пад колкія лапкі, прыгінаў рукой вяршаліны, каб Ахрэму не дужа перашкаджалі і не збівалі хуткасці.

Не чуваць птушак. Прыціхлі яны, а мо і пакінулі зусім гіблае месца. Вось толькі дзятлы перастукваюцца, быццам дзяўбуць умёрзлы дол іржавымі сякерамі. Здаецца, што над усім распасцёрты нябачны цяжкі і даўкі чорны сувой, які не прадзярэш ні пазногцямі, ні вастрынёй зубоў.

Лясун нягучна нешта расказваў, рыпеў яго галасок, ад якога Ахрэма хіліла ў сон. Толькі ж не, відаць, не сон гэта. Уціхамірку падкрадваецца хвароба. Божа літасцівы, каб жа гэтая зараза мела хоць колер ці смак, каб можна было яе ўнюхаць, абысці-аббегчы. Аж не...

— Пралазь, чалавеча, пад расчэпісты вяз. Там мая дачушка,— лясун саступіў убок.

Пад ценем дрэва, на пульхным імху, Ахрэм убачыў невялічкую дзяўчынку з узмакрэлым тварам. Ад натуг у яе выпіналіся пруткі жылак на шыі, бяссільныя рукі чапляліся за бляклы чарнічнік. «Во так ляжала і мая Вуля пры першых родах. Каноплі яшчэ не саспелі, і вецер разносіў ад іх цяжкаваты пах. Няма каму дапамагчы. А да вёскі — не блізкі свет. І ён прыняў Аўдольку — няўклюдны камячок».

— Не бойся, дочачка, не бойся, ягадзінка, гэтага чалавека я прывёў табе ў помач.

«А калі на тое, дык чаго баяцца. Ёй цяперака ўсё роўна. Толькі б пазбавіцца болю. Ён засціць вочы, тлуміць галаву. Чалавек нараджаецца і памірае з боллю. Гэта неаддымна».

У небе, над галовамі, пасвіствае каршун. Яго не бачна, толькі лёгкі няспешны свіст праймае да касцей.

Хлёстка аддаецца праз цемя ў скроні і закладае вушы. Апусціўшыся на калені, Ахрэм падсабляе парадзісе.

— Давай, дзетка, паднатужся, збярыся з сіламі. Ну, яшчэ крышачку, яшчэ кропельку. Не адступай жа, не адступай, задыхнецца малое. Пачакай хвілечку, падсуну руку пад сярэдзіну, лягчэй табе будзе. Во так.

Бацька-лясун пырхаў побач, аббіваючы бакі худымі рукамі. Дзяўчо-парадзіха напялася з апошніх сілаў, і ў глухой цішы лесу пабольшала на маленькага лесуна. Ружаватае, з попельным налётам цельца застыла на Ахрэмавых далонях.

Абмяклая парадзіха-маці дыхала цяпер з палёгкаю. Ахрэм перадаў лесуну трапяткое цельца, паспешліва скінуў паддзёўку і, зняўшы кашулю, паслаў побач з парадзіхаю. Затым асцярожна забраў немаўля і спавіў яго, перавязаўшы папружкаю.

— Хай будзе, чалавеча, благаславёны твой шлях,— лясун згорблена схіліўся перад Ахрэмам.— Ніколі не бойся лесу. Ён цяпер для цябе і апірышча, і сябра, як у бядзе, так і ў радасці.

— Дзякуй вам,— ледзь чутна прамовіла парадзіха.— Калі не цяжка, знасіце сынка да ручая і абмыйце там, як заведзена ў нас. Бацька вам пакажа, тут поруч.

Ахрэм пайшоў за лесуном, трымаючы на руках немаўля. Цёплая, нагрэтая сонцам вада зварушыла малое, і яго кволы голас паплыў над вяршалінамі дрэў, над густой асакой і ніцым вербалоззем.

— Мо б цяпер паказалі дарогу да Якубавага жытла? Больш маёй помачы ні ў чым не трэба? Мяне з Якубам чакаюць у вёсцы.

— Так-так, зараз. Вось занясём дзіця, і я павяду цябе. Пакуль жа прымі ад нас карэньчык.— Лясун дастаў з-за пазухі даўгавата-кручасты корань і паклаў у Ахрэмаву пяцярню.— Добра дапамагае ад жыватовых хвароб, ад пякучкі пад грудзьмі і зацягвае цялесныя болькі.

Сонца павярнула на вечар, калі лясун вёў Ахрэма гадзючай сцежкай да Якубавага жылля. Недаспелыя касцяніцы дробнымі чырванаватымі кроплямі выбліскалі з-пад узорнага папаратніку, зліваліся з рэдкімі сонечнымі промнямі і адбіралі пільнасць зроку.

— Колькі ж жывых засталося ў вашай вёсцы? — украдліва спытаў лясун.— І што вы мусіце рабіць, каб адолець заразу, абярнуць яе?

— Толькі адзін Якуб можа нешта параіць. Вакол жа, пакуль вока хапае, усё вычышчана згубай. Нідзе анікога: ні чалавека, ні жывёлы. Пустым-пуста. Адныадзінёханькія засталіся мы на зямлі. І каму ж будзе працягнуць род чалавечы? Мёртвыя гарады, мёртвыя вёскі, мёртвыя хутары. Усім нам помсціць зямля. Яна невылечна хворая, а ад яе хворыя мы. Так казаў Якуб. І ў ягоным слове праўда. Цяпер нас засталася жменя.

— Ці спрабавалі вы хавацца ў лесе?

— Якая карысць? Хворыя мы нараджаемся.

— Тады ў чым моц Якуба? На якія дзівосы спадзяешся?

— На ягонае слова і веру.

— Нам лягчэй. Мы, лесуны, у згодзе з зямлёю і небам. Мы шануем іх, а яны шануюць нас. І зямлю, і адно аднаго любіць трэба. Любіць так, каб ноч святлела.

— Такое нам казаў Якуб, а мы спускалі на яго сабак. Усё я разумею, здаецца, усё. Толькі ніяк не магу ўсвядоміць, завошта адыходзяць у іншы свет дзеткі, якія, не паспеўшы нарадзіцца і ўдосталь пахадзіць па зямлі, кладуцца ў яе.

— Доля ваша такая. Я ж хачу вам шчасця, калі ўсе людзі — як ты. Вунь за кустамі і Якубавы ўладанні. Хай шчодрасцю павернецца да вас зямля. Далей я не пайду. Дзякуй, чалавеча! Калі не будзе ніякага выйсця, вядзі сваіх аднакрэўцаў у лес. Мы прымем.

Лясун знік, быццам яго і не было.

Ахрэм пералез часты плот, якім Якуб у былыя часы

агарадзіў дворышча ад ляснога звера, і напрасткі, мінаючы ўскапаныя лапікі зямлі пад грады, пайшоў да ніцаватай хаты. Дзверы, зробленыя ў глухой сцяне, на зашчапе [redacted] сярэдзіны. Цягануўшы іх некалькі разоў, Ахрэм пайшоў да падслепаватага акна, прарэзанага ледзь не пад самай страхой.

Госць наважыўся клікнуць Якуба, але сумеўся ад галасоў у хаце. Ясна быў чуцен Якубаў і яшчэ нечы, для Ахрэмавага вуха незнаёмы. Здавалася — яны спрачаюцца. Праўда, не злосна, але згоды паміж імі не адчувалася.

«Хто б гэта мог прыйсці да Якуба? З нашых пасяленцаў наўрад ці адважыцца нехта, ды і Якуб не стаў бы з імі гаварыць, а не то што спрачацца. Мо нехта жывы застаўся з іншых селішчаў і, ходзячы-блудзячы, натрапіў на Якуба. Тады з-за якога ліха ім спрачацца, а?»

Ахрэм, цяпер ужо крадком, вярнуўся да дзвярэй у глухой сцяне, падняў з-пад ног сухую трэску і асцярожна прасунуў паміж вушаком і расшчэпленымі плашкамі, з якіх змайстраваны дзверы. Зашчап падаўся, і Ахрэм асцярожна апусціў яго ўніз. Затым з нейкай незразумелай бояззю прачыніў уваход і прасунуўся ў вузкую шчыліну.

«Во, як злодзей упоўз да Якуба. А навошта? Ды нешта ж цягне, як таго мураша ў прадонне агню. Не ўзлаваць бы Якуба. Халера яго ламі, навошта зачыняцца ў хаце, не сляпой жа ноччу прыйшоў. Сакрэтнічае, перасуды вядзе з некім, а я падцікую».

Ахрэм ведаў: адразу за дзвярыма, па левую руку, стаіць гнёткая дубовая бочка цэбраў на дваццаць. У яе восенню ссыпаў Якуб зерне. За гэтай бочкай, у кутку, можна сцішана прысесці. Маленькія сенцы ад жыллёвага катуха аддзяляліся рэдкімі жэрдкамі, праз якія добра бачылася ўсё, што там робіцца.

— Ваша селішча апошняе, народ твой мёртвы. Тыя, што яшчэ ходзяць, не людзі, а гнілая абалонка.— Не-

знаёмы сядзеў за сталом насупраць Якуба. Лучына, якая гарэла на камянку, асвечвала ў шараватым паўзмроку прыгожы малады твар хлопца.— Я зрабіў тое, да чаго ішоў тысячагоддзямі пасля славутага патопу. Ты хацеў быць для іх Настаўнікам, а стаў пустэльнікам. Самае смешнае: я — параджэнне вашых грахоў. І твой кавалак долі ўва мне ёсць. Вы кажаце — нячыстая сіла. Аж не, я самая чыстая сіла, самая здаровая.

— Навошта прыйшоў? Дабіваешся чаго?

— Хачу сяброўства. Ты ж ведаеш: у табе гарыць іскарка, якая можа запаліць у людзях полымя ачышчэння. І зноў пойдзе ўсё па новаму кругу. А дзеля чаго? Канец то непазбежна адзін — поўнае знішчэнне. Такімі вы створаны ад самага пачатку, ад той хвіліны, калі першыя з вас расплюшчылі вочы. Перамаглі найгоршыя задаткі, якія знішчылі ўсё добрае ў душах. Ды што табе тлумачыць? Усё ведаеш сам.

Ахрэм за бочкай баяўся дыхнуць, не адчуваў самлелых ног і зацёкшай спіны. Яго перапаўнялі незразумелыя самота і роспач. Быццам вось цяпер, у гэту хвіліну, ад аднаго яго залежыць лёс вяскоўцаў, кроўных родзічаў. А ён не можа нічым ім падсабіць.

— І яшчэ,— незнаёмы падышоў да камянка, распасцёр над цяпельцам далоні,— мне трэба попел з тваёй печы. Цяпер я маю попел з шасці печаў, засталося ўзяць з сёмай — тваёй. Хоць шчэпцік усып у торбу сваімі рукамі.

— І што?

— Гэта месіва попелу рассыплю над зямлёй, скурчанай сутаргамі, і яна задыхнецца. Ты хоць раз бачыў, як гінуць вісельнікі? Спачатку трапечуць ногі і рукі цягнуцца да шыі, потым шклянеюць лупатыя вочы і вывальваецца язык.

— Сціхні,— пагрозліва загадаў Якуб.

— Нешта такое будзе і з вёскай, якая цябе выперла. Толькі дай шчэпцік попелу і ты — адпомсціў ім за

абразу. Я шчодра сыпану попелам над іх зямлёю.

Ахрэм, не слухаючы далей незнаёмца, пачаў перабіраць у памяці закляцці ад ліха. Ледзь чутна ён зашапацеў вуснамі.

— Іду я па чыстым полі, насустрач бягуць сем духаў з паўдухамі. Усе чорныя, злыя і нялюдна-няўклюдныя. Ідзіце вы, духі з паўдухамі, да такіх жа ліхіх людзей, трымайце іх на пострумках, каб я і мой народ былі цэлымі, непашкоджанымі паўсюль і заўсёды. І ў нашых дамах і лясах, на чужыне і радзіме, на зямлі і на вадзе, на вяселлі і на бядзе. Мая замова доўгая, маё слова моцнае. Калі слова маё хто й кране, яно не падступна. І не падабрацца нячыстаму ліху да сказанага, не падступіцца яму да згаданага і на сёння, і на заўтра, і на гады, і на стагоддзі. Так ёсць, так будзе.

Па ўсім Ахрэмавым целе мурашамі прабеглі дрыготкі, нервова заторгала сэрца, а на спіну, паміж лапатак, як усё роўна сыпанулі снегам.

«Даходзіць, даходзіць маё слова да Бязгрэшнага і Усявышняга. Мацуйся, Ахрэм, і глядзі! Глядзі на ўсе вочы і слухай на ўсе вушы».

— Не хачу таіцца,— выплылі словы спакушальніка,— праз мяне, Якуб, ты можаш спазнаць шчасце, якога не ведаў на яснай зорцы маладосці. Пры тваім жаданні магу адправіць цябе ў мінулае, дзе будзеш мець золата і срэбра, палацы і жанчын. Дзе будзеш першым з першых як па здароўі, так і па красе, па цялеснай сіле і духу.

— Мінулае, яно і ёсць мінулае.— Якуб хвіліну падумаў, страсянуўшы сівой грывай валасоў.— А калі паспытаць мне будучыні? Тое, што яшчэ за гарой часу і пакуль не бачна.

Спакушальнік-д'ябал адхапіў рукі ад слабага вогніку на камянку, як усё роўна абпёк іх.

— Будучага для вас няма! — раздзіраючы горла, крыкнуў ён.— Не паспее месячык на небе нарадзіцца

трынаццаць разоў, як усё стане пустым-пуста. Адзін ты з чалавечага роду на зямлі, а паўсюль — завея ветру. І не хопіць тваіх вачэй аплакаць усіх, не хопіць сілы заплюшчыць вочы нябожчыкам. І адкрыю апошнюю таямніцу — ты бессмяротны! Будзеш хацець згубы — яна не прыйдзе, атрута для цябе — мёд, а вяроўка — павуціна, агонь — твой бацька, а вада — радней сястрыцы.

Ты, Якуб, пакінуты на векі вякоў, як успамін аб людзях, што такія некалі жылі і пладзіліся на зямлі. Во як!

— Бессмяроцце? Калі так наканавана — няхай будзе. Мяне гэтым не ўстрашыш. І адзіноты не дужа баюся, бо зжыўся з ёю.

Якуб прыгледзеўся да спакушальніка. У яго маладым твары было нешта зямліста-шэрае, а ў вачах бачылася зеленаватая цвіль, якая нібы імкнулася пераліцца праз вейкі. Вытачаныя і моцна сціснутыя вусны д'ябла нечакана расплыліся ва ўсмешцы.

— Ты не ўлічыў яшчэ адной асаблівасці,— спакушальнік раскацista зарагатаў,— я надам табе такую мужчынскую моц, што будзеш на сцены кідацца, а задавальнення не знаходзіць. Усе твае думкі і мары будуць аб адным — жанчыне і толькі жанчыне. А яе то, угу,— няма.

Ахрэм за бочкай ледзь не папярхнуўся ад пачутага. Страх за Якуба схаладзіў нутро. Д'ябал, здаецца, пацэліў у самае балючае.

— Цяпер усыплеш попелу са сваёй печы. Яшчэ не позна — думай. Калі папраўдзе, не дужа я і дабіваюся гэтага. Проста свярбіць хутчэй закончыць справу. У мяне турбот па гарляк і ў сваім уладанні.

— Чым пужаеш,— Якуб гаварыў няспешна, думаючы,— змайструю жонку з дрэва, з той жа асіны, з якой некалі душа твая нячыстая саграшыла, ці з алешыны, на якой наважваўся ты засіліцца, ды і будзем паціхень-

ку жыць. Лес то вялікі — знойдзецца ў ім не адно падатлівае дрэва. Над імі ты сілы не маеш, а з лесунамі я ў згодзе.

— Тады адыму ў цябе вочы.

— Гэта прыблізіць маю смерць, супраціў якой ты сам.

— Радзімец!

— Так, я радзімец.

— Хочаш, ствару во тут найпрыгажэйшую з жанчын і ты будзеш ёй валодаць вечна?

— Стары я і нямоглы.

— У цябе будзе маладосць.

— А навошта? Ты ж надзеліш нас бясплоддзем.

— Вядома. Але ў цябе будзе задавальненне фізічнае, падумай толькі.

— Дурань ты, дурнем і застанешся, хоць пражыві яшчэ сотні стагоддзяў. Я — чалавек!

— Так,— спакушальнік-д'ябал задумаўся,— а можа, пашукаць падатлівейшага?

Вочы спакушальніка застылі на закуранай чорнай столі.

Ахрэм у сенцах канаў. Ён усім целам адчуваў хваробу, якая сківіцамі чаплялася за горла, угрызалася ў плечы і вантробы. Густы пот шчодра намачыў адзежыны. Здавалася, быццам Ахрэм толькі што выйшаў з парнай лазні, у якой мэндзілі схуднелае цела ў некалькі венікаў. Згуба злою цешчай выцалоўвала сілу з Ахрэма, выцягвала яе ■ кожнай жылы і косткі. Ледзь не губляючы прытомнасць, Ахрэм загаварыў ціха закляцце ад чорнай знямогі:

«Ой, ляціць птушка за мора, бяжыць звер за лес, а дрэва хаваецца за дрэва, маці-зямля схавалася ў маці-зямлю, а сонца ў чыстае неба. Хай так чорная немач-знямога, вораг цела майго і душы, бяжыць і хаваецца ў сваю маці прадольную прорву, у цемру няўглядную, у далеч нябачную, без звароту вяртання. Толькі быў бы

я жывы і здаровы. Ты, чорная немач-знямога, падуладна майму слову, як жонка падуладна мужыку, як нявестка — свекрыві, як дзіця — маці. Бяжы, немач-знямога, у балоты дальнія, непраходныя, на сухі лес, гнілыя калоды. Замыкаю сваё слова словам вялікім справа налева, злева направа, зверху ўніз, знізу ўверх на гады доўгія, вякі вечныя».

Ахрэму палягчэла, ды не нашмат.

— Дык вось, пытаюся апошнім разам — ці згодны на маю прапанову,— спакушальнік-д'ябал падышоў да Якуба і паклаў руку на яго старэчае плячо. Якуб быццам пад цяжарам угнуўся.— У цябе няма выбару. Няма!

— А я табе скажу так:

Вы замове маёй паверце,
бы адвечнаму шэпту лісьця:
нас чаруе ў чужое сьмерці
патаемнае Дрэва жыцьця.

У сутоньні тоіцца золак.
Покрыў хваляў хавае цьвердзь.
У агоніі — зорны сполах:
Боскі твар — адкрывае сьмерць*.

— Хочаш застацца мучэльнікам? Не быць такому. Сухое дрэва і па вясне не квітнее, а птушка без чарады дарогі ў вырай не знаходзіць. Ты выпускаеш шанц з няслушных пальцаў. Вораны разнясуць твае косці па беламу свету, не па тваіх плячах бессмяроцце.— Спакушальнік выгаварыўся і прысеў на лаўцы поруч [redacted] Якубам.— Усё проста, толькі ты нешта ўскладняеш. Ахрэм, вылазь з хованкі! Бочка цябе не хавае ад маіх вачэй,— д'ябал шчасліва зарагатаў, аж скалануліся сухія кляновыя галінкі, паўтыканыя па кутках Якубавага жытла. Ахрэм, як з распаленай патэльні, ускочыў на ногі.

---

* З верша Зьніча.

— Праходзь, не бойся. Ты слаўны чалавек, Ахрэм, я цябе люблю. Сядай каля мяне. Вуля яшчэ жывая?

— На нагах пакуль, дзякуй вашым клопатам.

— Хочаш з ёю здаровым і шчаслівым быць, як раней?

— Хто ж такога хацець не будзе. Яна мая жонка. Паўвека рука аб руку пражылі, душа ў душу. Залаты чалавек Вуля.

Якуб драмаў, заплюшчыўшы вочы. Сівыя валасы напаўзакрывалі твар. Вячэрняя шэрасць перарасла ў густы змрок. Спакушальнік падкінуў на камянок некалькі сухіх лучын. Агонь весела разгарэўся, асвятляючы прысутных у хаце.

— Ці гатовы ты, Ахрэм, купіць у мяне за шчэпцік попелу маладосць, здароўе і вечнасць для сябе і жонкі?

— Можна было б,— нясмела азваўся Ахрэм,— толькі пакіньце і нашых дзяцей. Іх усяго чацвёра, толькі чацвёра.

— Дзяцей? Нешта ў гэтым ёсць. Ха-ха! Найвыдатнейшая думка. Кровазмяшанне — тое, што трэба. Пакідаю і дзяцей тваіх. Бяры торбу, яна ў парозе, і ўсып у яе прыгаршчы попелу. Яго дужа многа ў Якубавай печы.

Ахрэм падняўся і жвавенька шмыгануў да чапяльшніка, падхапіў з падлогі торбу.

— Апамятайся, дурнеча,— узмаліўся Якуб.— Ты паслугач д'ябла. Чуеш мяне — д'ябла.

— Дзецям трэба жыць, Якубка, яны хочуць жыць.

Ахрэм адкінуў засланку, абапёрся рукой аб загнет і напалову ўлез у жарало печы.

— Узрадуйся, Якуб! Раніцай задыхнуцца і зямля, і людзі.— Ледзяны голас спакушальніка-д'ябла знік, як быццам не было і Ахрэма.

У паўзмроку пустой хаты сядзеў адзін-адзінюсенькі Якуб.

* * * Вёска курчылася і стагнала ў перадсмяротнай агоніі. Яна была адзіным жывым месцам на пустой, абдуваемай вятрамі зямлі. Якуб пераходзіў ад хаты да хаты, склікаў нямоглых жанчын і дзяўчат. Даваў ім у рукі качэргі і мётлы. І калі ўсе сабраліся, гуртам павёў іх стары ў чыстае поле за вёску, расставіў хісткім ланцугом і загадаў месці, гнаць з зямлі згубную пошасць. А пад раніцу, як толькі выплыла сонца, зацерушыў з неба попел густы і непраглядны...

# Крывавы прысмак

Завіруха. Не бачна ні дрэў, ні хат. Снежныя сумёты замест дарогі і сцежак. Абламанае голле з вербаў застылымі пачварамі чапляецца за рэдкія частаколіны плота. Стогнуць і галосяць сіратлівыя журавы калодзежаў. Яны перагукваюцца па вёсцы, адмольваюць у няшчаднага ветру выратаванне. А ён раздзімае грудзі, шчокі і гоніць абтрапаную і разбэрсаную завіруху па хлявах і дахах хат, прыбівае гаротную да сцюдзёных сляпых акон.

А нікога-нікагусенькі на вуліцы. І толькі гоман на Петраковым загуменні. Ды з далечы, з-за рэчкі, цягнецца ланцуг бялюткіх зданяў. Побач з імі снег сажай здаецца. І вецер з завірухай непасільны пашкодзіць іхняй хадзе. Нясуць нябожчыкі крыжы з асінавага дрэва. І тут з рыпам і громам ляснуліся плазам вароты ў Петраковым гумне і высыпалі ў ноч, на свежы снег нячысцікі. Гундзіла выраўняў зграю ў шыхты, выхапіў з-пад пахі прыпалены квач і ўсклікнуў: — Дзеці мае, дзеці прадонняў, граху і здрады — зараз будзе вялікі бой! Ці гатовыя вы?!

— Угу, гатовы! Давай бой!

— Ці ўнюхалі асіну? Яны ўжо побач. Запалім жа квачы і падбегам пад вокны. Я стану на дзвярах, а вас з дзесятак у комін.

Пятрок у хаце паміраў. Арына з лямпай стаяла каля яго галавы, выцірала ручніком пот з запалых вуснаў і вачніц.

— Падай вады пасоленай! Густа пасалі, не шка-

дуючы. Цяпер змачы мае ногі, палі на рукі і ўспырсні на лоб. Во, лягчэй стала. Ты б, Арынка, клікнула Гундзілу. Хачу яму мовіць нешта.

— Петрачок, баюся. Не перасільвай. Я кажу — усё наладзіцца: адпусціць твая хвароба. Ці ўпершыню нам?

— Душыць смерць. Цісне горла погань кашчавая. Клікні, Арынка, Гундзілу, упусці ў хату...

Але ўстрасянулася і загойсалася ўмёрзлая зямля за вокнамі. Пахіснуліся сцены, пакаціліся па падлозе стол, услончыкі і канапа. З боку на бок пераваліўся куфар. Глухім стрэлам пачуўся трэск зламаных дрэў.

— Ратуй, Арынка! Прыкрый сабою!

Пятрок завыў глыбока і працяжна. Лядашчы голас біўся аб столь. Усё цела скурчылася ў камяк.

На вуліцы ж, каля Петраковай хаты, сышліся сілы моцныя, сілы гнёткія ды ёмкія. Прывялі нябожчыкі Смерць-матухну па Петракову душу. Прывялі ўсім суладдзем: ад хліпкіх старцаў да хісткіх немаўлят. Жанчыны з косамі распушчанымі, мужчыны з голымі грудзьмі — усе да аднаго націскалі на шыхты нячысцікаў. Ламаліся крыжы асінавыя, успыхвалі агнём здані бялюткія. І мелі б усе яны кроў і плоць — патанула б Петракова хата, сплыла б у Нёман велькі вёска ад крывікрывушкі.

Завіруха ж мацнее, круціць спадніцай, бязглуздая, і няма на яе ўправы ніякай. І ўладарыць ноччу вецер. А воддаль, за першым колам нябожчыкаў, якія змагаюцца з нечысцю, стаіць у чаканні атрад незлічоны. То ўсе шыбенікі ды тапельцы, палкім зеллем атручаныя — усе загублены Петраковымі рукамі. Чакаюць яны чаргі сваёй, Смерці-матухне сцежку пракласці. Толькі ж сцеражэ дзверы Гундзіла, абляпілі вокны д'яблы. І на стрэхах яны, і паўз сцены. Не пракаціцца з-за шчыльнасці іхняй і макавінцы да Петраковага котлішча.

— Арына, Арыначка, дай нож! Хутчэй! Не вытрымае напору Гундзіла. Клікаць мушу дапамогу.

— Пакарыся лёсу, Пятрок. Выйдзі сам з хаты. Не выратавацца сёння.

— Падай нож, ламіна! І не сёрбай соплямі!

— Як я падам? Цябе ж б'е калатун. Лясне́шся на падлогу і яшчэ зацісне канапай ці куфрам. Усім сваім целам цябе трымаю.

— Прывяжы вяроўкай ці якой хусцінай да лежака. Ну чым-небудзь, а сама нож мне, нож!

— Сасмылела б яно ўсё прахам. Каб маё веданне, з кім рукі злучыла, каму сэрца ўверыла!

— Ну цыц, цыц ты! Не хлюпай сапаткай. Няўжо карціць удавою застацца? Наракаеш яшчэ. Тут дыхаць няма чым. Чую: падступаюць смертаносцы да сценаў. А Гундзіла бяссіліць. Нож, Арынка, нож падай!

І яна саступіла. Ракам папаўзла да стала, выграбла посуд і вобмацкам намацала каваны нож. Спатыкаючыся, кідуном кінулася да пасцелі. Але затрашчала столь. Каля парога, паўз печ, лопнула фанерная абшыўка, і ў хату пасыпаліся ашалелыя мышы. Яны, як пераспелыя грушы-гнілушкі, мякка шлёпаліся аб масніцы і вокамгненна знікалі па зацемненых кутках.

Арына саўганула нож у Петракову руку. Ён, задыхаючыся, успароў руку вышэй локця. Пырснула кроў.

— Пі, Гундзіла! Піце, дзеці яго! Набірайцеся сілы, бараніце сцены. Кроў даю з душою, з той часцінай, якую меў яшчэ.

Кроў не паспявала ў Петрака збегчы ■ рукі на пасцель, а ўжо знікала. Выпаралася і шызавата-чырвонымі паскамі плыла да шчылін у дзвярах паўз парог, да шыбін акон, у загнет печы.

— Арына, давай сваю руку. Мяне аднаго не хопіць. Не пужайся, гэта не балюча. Жыгну, як камар, і ўсё — ніякага пярэпалаху.

— Не, Пятрок! Не! Не бяры лішні грэх, не піхай на згубу. Я і так па самыя шчэлепы ў багне. Скарыцца трэба.

— Скура ты свінячая. Няма ў цябе шкадобы і жалю. Дык нясчуеш ты і нязбачыш спакою ніколі — ні цяпер, ні пасля згубы маёй. Апошнія кроплі крыві-крывіцы ахвярую вам, русаліцы-дзявіцы. Ой, бегма бяжыце ды лётма ляціце на могілкі нашы, магілы разамкнёны. Палягце вы ў труны нябожчыкаў збегшых, на скобы вазьміце ўсе ўваходы і выйсці. Каб яны стогнам стагналі, прытулку не малі, без мейсца хадзілі, вадзіцу муцілі. Русаліцы-красны, чароўны дзявіцы, заняўшы магілы, сароку пашліце, каб вестку данесла да зданяў бясплотных, што йны ўжо не маюць ні мейсца, ні ложа!

Пятрок спрытна зацiснуў рану на руцэ. Кроў спынілася.

З вуліцы ж хата акручвалася новымі і новымі радамі нябожчыкаў. Гундзіла з д'ябламі не паспяваў адбіваць цапамі бязмежнае нашэсце. Смерць-матухна, здавалася, во-во дакранецца выстуджаных завірухай і ветрам сцен Петраковай схованкі. Нябожчыкі чапляліся за поўсць д'яблаў, хмелем абвіваліся вакол іх, сціскалі ім глоткі. Нячысцікі валіліся, як падгнілыя дрэвы ад навальніцы. Гундзіла страчваў сілу. На яго без перадыху наступалі і наступалі загубленыя Петраком здані. Яны здымалі са сваіх шыяў вяроўкі, накідвалі Гундзілу на рукі, рогі — гуртам цягнулі з месца. Другія ж пляваліся атрутнай слінаю ў вочы бацьку нечысці.

— Налівайце вакол хаты смалу! Цягніце ўсю, што ёсць! — Гундзіла аддаваў распараджэнні, не адступаючы ад дзвярэй.

Некалькі тузінаў д'яблаў шуснула ў гумно. Па снезе пакаціліся бочкі, ад якіх патыхала жарам і растопліваўся снег. Пад самымі сценамі лопаліся на бочках кляпаныя абручы, і смала па прачэрчанай баразне расплывалася жывым ручаём. Гундзіла кінуў запалены квач, і ўстрапянулася полымя, разрываючы цемрадзь. Заенчылі нябожчыкі, адхінаючыся ад агню. Зарагатаў Гундзіла, у экстазе запішчалі, заскавыталі д'яблы. Толь-

кі працягвалася гэта не даўжэй за водбліск маланкі. Тапельцы з падолаў, прыгаршчаў выплёхвалі ваду на агонь. Ён захлёбваўся і ўрэшце падавіўся пругкім клубком дыму.

— Вось і ўсё. Чую пад сэрцам холад. Арына! Арынка, дай ратунку! Зашчапі дзверы, чапялішнікам загарадзі. Ну рабі ж што-небудзь.

— Ці не дзёўбнуўся ты галавою?! Які чапялішнік на зашчэп? Не ад людзей жа баронімся. Чым жа табе пасобіць, мой ты Петрачок?

— Просам ды канаплямі абсып падлогу. Няхай спатыкаецца, сука кашчавая. Пакуль дабярэцца — павывароччвае свае дылды. Усе мяшкі высыпай. Пад парог і вокны — купкамі... Як апруцянею, Арынка, столь узарвеш над покутам. І глядзі не збывай коней. Сама хоць адну ваду сёрбай, а кабылы каб пры доглядзе былі. Казу зарэжаш на дзевяты дзень, памажаш вуглы ў хаце і гумне.

— Ды што ты, Пятрок?! Яшчэ курачка ў гняздзечку, а ты з патэльняй носішся. Наладзіцца. Гундзіла хутчэй сам сасвяжыцца, чым да цябе смярцінішчу дапусціць.

— Тады дай крыві на яго сілу.

— Пад сякерай не зраблю етага.

— Ну знацца...

За акном засакатала сарока. Пятрок улавіў яе голас сярод вэрхалу, ляску і енку. У істэрыцы забіліся нябожчыкі. Яны зліліся гуртам. Напор на Петракову хату аслаб. Гундзілу з д'ябламі палягчэла.

— А магілы-то русаліцы занялі. Ніводнай труны вольнай! Ваюйце ды біцеся, хату прыступам бярыце, а назад не вернецеся. На скобы каменныя ўваходы замкнёны.

І вецер прыціх, і завіруха ўшчукла. Ноч праблёскам маладзіка пракаўтнула навіну. А сарока была ды і няма. Шуснула дзесь пад страху. Нядоўга кешкаліся ня-

божчыкі. Што ні кажы, а выганяць русаліц прыйдзецца. Толькі ж і прыступ на хату здымаць не варта. І тут Смерць-матухна слова ўзяла:

— Мне прытулку не трэба. Я застаюся, а са мною самагубцы. Іхнія магілы за ровам вялікім, туды ніхто не пакваліцца легчы. А вы ўсе назад. Гонам ганіце распусніц нехрышчоных. Арэлі спляціце з бярозавага голля і часта паразвешвайце над крыжамі.

Петраку палягчэла.

— Арына, дай-ка жыдкай бульбы. Есці захацелася. Сасмягла ўсярэдзіне. Бач ты, русаліцы паслухалі. Трэба будзе адправіць ім двух ці трох хлопцаў палашчыцца. Вясной аддзячу.

А на вуліцы, ад Петраковай хаты, у бок могілак пацягнуўся ланцуг зданяў. Жанчыны неслі на руках знясіленых дзяцей. Мужчыны, быццам косы на плячах, трымалі цэлыя і зламаныя крыжы. Смерць-матухна з ладным гуртам засталася пад сценамі. Зноў насцярожыўся Гундзіла, натапырыліся д'яблы. Нечакана боўкнуў звон на званіцы вясковай царквы. Прабудзіўся вецер і пагнаў завіруху па падворках і сумётах вуліцы.

І тут наперад выскачыла Смерць-матухна. Яна знянацку шыбанула пад ногі Гундзілу. Ён, пахіснуўшыся, скаціўся з ганка. Нябожчыкі стралой шуснулі следам. Дзверы сарваліся з петляў, і ў хату ўваліліся, ой, да чаго ж нежаданыя госці.

Пятрок не паспеў праглынуць лыжку бульбянога супу. Чыгунок споўз з яго каленяў і разваліўся на падлозе. Арына промеццю кінулася ў запечча, нацягваючы на сябе ўсялякія лахманы.

— Во мы і стрэліся,— Смерць ленавата падыходзіла да Петрака.— Давай жа абдымемся, згубіцель. Паглядзі, як з тваіх рук сцякае кроў люду праведнага. Загляні ім у твары, у прадонне вачэй. Скажы — за што? Маўчыш. Тады давай абдымацца.

Смерць-матухна прыхінулася да Петрака. Адразу

ўсё сціхла. Толькі зябкае марознае паветра клубкамі каці́лася па падлозе, выстуджваючы хату. Пад ранне з-пад лахманоў запечча выпаўзла Арына. Яна пужліва, з асцярогай падышла да ложка, дзе канаў Пятрок. З надзеяй глянула і ў жаху адскочыла. Петраковы рукі мёртвай хваткай сціскалі сваё горла.

# Сварка

«Каб у цябе на двары толькі певень застаўся ды кот нягеглы. Каб крумкач над тваёй галавой песню пеў, каб ты шалёнай Сцёпкай бегала, дзяцей адрынуўшы».

Марына плакала. Кляла яна нявестку, моўчкі кляла, скрыжаваўшы рукі на плоскіх, як масніцы, грудзях. Не было ў яе сілы больш маўчаць. Не баялася граху. Пазірала то на белую з поцягнямі дыму печ каля парога, то на разбітую шыбіну дзвярэй, што вялі ў другі пакой.

«Дажылася, ой, дажылася. І не счуць, і не збачыць. Да каго галаву прыхіліць? У роднай хаце, на сваём каранёчку месца няма. А што ж та далей будзе? Мой ты сыночак, а каб ты падняўся ды пабачыў, што яны робяць са мною».

І рада б Марына не плакаць, ды не стрываць слёз. Збоку паглядзець, здаецца, адкуль яны ў старой бяруцца. Высахлая, як трэсачка, счарнелая — вугалькам бы каціцца ў вачэй, а не слязам.

«Нічога я не хачу, каб толькі ты, мая нявестачка, дажыла да той часіначкі, калі падыме на цябе руку твой сын, крывіначка твая родная».

Думкі пчаліным роем віліся ў яе галаве. Перабіваліся, блыталіся. Ад іх не было ратунку. То раптам старой бачыўся ўчарашні вечар, тое, як Алесь-прымак znячэўку падскоквае да шыбіны ў дзвярах і б'е кулаком... Марына аж зараз хапаецца рукамі за твар, потым адымае рукі, глядзіць на далоні, баючыся ўбачыць на іх кроў. Сухія парэзаныя маршчынамі далоні чыстыя. І твар не пасечаны шклом. Але на шкляных асколках

ёсць кроў. Толькі цяпер старая разумее, што гэта не яе, а Алесева, прымакова кроў.

Яна не можа ступіць кроку, глядзіць на пабітую шыбіну, налітыя злосцю вочы Алеся. Яна пакуль не разумее, што гэта. І за што з ёй так робяць? Ну, не можа яна зразумець так адразу, што ў хаце не яе сын з Рымай, нявесткай, а прымак, чалавек з вуліцы.

Як ні гавары, а і раней было; усхопяцца, як салома ад запалкі, Пятрок з Рымай, глядзі, во зараз пасварацца. Яна падыдзе, слова мовіць, і ўсё добра, усё ціха.

«Гэта мы так, мама,— усміхнецца Пятрок, а Рыма міргане.— Не падзялілі коўдру». Смех, ды і годзе, як дзеці. За Міколкам пачнуць ганяцца, той верашчыць, як дрозд. Глядзіш — далей лепей. Усё разам неяк. Пятрок без Рымы ні кроку, і яна без яго. Міколка ў школу пайшоў. Жыць бы ды жыць, аж не.

Густа ты, густа, лес, расцеш. Цяжка і доўга. Хваробы і холад цябе мучаць, быццам чалавека. Дык навошта, скажы мне, навошта згубіў сына? — Марына глядзела ў запацелае акно.— Чаму ж ты, сястра-сасонка, не засланіла грудзьмі майго сына ад тае сухастоіны? Загубіў ты, лес, Петрака, загубіў ты, лес, і мяне...

Ніколі б не падумала і не згадала, што Рыма стане такойваўчыцай. Міколу, дзіця сваё, і тое шпурляе з кута ў кут. Патухлі вочкі ва ўнука, не звініць яго смех, як пры Петраку. Чаго добрага чакаць мне? Учора схапіліся між сабой, і я, як і раней, зайшла неяк развеяць зло, як пры Петраку. А што ўбачыла? Ледзь вочы шклом не засыпалі. Вось як, Пятрок ты мой, я жыву.

Марына жалілася сыну-нябожчыку. Яна гаварыла з ім у думках.

А Рыма хоць бы слова сказала на прымака, толькі падміргнула. І як пасля гэтага яе вочы глядзяць на дзень божы?

«Ты веры не дасі, Пятрок, такое пачуўшы. І не выйшла твая жонка да мяне. Міргануіла і схавалася са сваім

прымаком. Хоць, сынок, якая яна твая? Крумкача ў хату ўпусціла, Алеся гэтага. Я не працівілася. Думала ж, што ўсё наладзіцца. Табе спакойна і ціха. А нам жыць. Без мужчыны ж, сам ведаеш, як лёгка цягнуць усё. І прывяла яна прымака. Міколку я сама ўгаворвала, каб бацькам зваў. Ай, як не хацеў, а прыламаўся».

У сенцах затупалі. Нехта венікам абіваў снег. Марына крадком цярнула вочы, паправіла чорную, крыху зліняалую хустку на галаве.

У хату ўскочыў Мікола, унук. Расчырванелы ■ марозу, усмешлівы.

— Ух, як добра на вуліцы. А мароз аж абпальвае,— зашчабятаў ён. Скінуў падношаны палітончык, падскочыў да печы, прысланіўся спінай да загнета.— Баба, паспрабуй, якая ў мяне цяжкая сумка. Ага. А ад чаго, не ведаеш. Не ведаеш, праўда? Гэта я дзве пяцёркі атрымаў, па спевах і па...— Міколка глянуў на бабку і змоўк.

— Баба, чаго ты плачаш? — хлопчык раптам неяк зменшыўся, ссутулена здранцвеў — каменьчык каменьчыкам.

— Баба, не плач, а то і я буду. Татку ўжо не вернеш, сама ж гаварыла. У нас жа гэты самы, ну... Алесь. А чаго ў нас шыбіна ў дзвярах пабітая?

Марына ледзь стрымала адчайны плач у грудзях, толькі плечы здрыгануліся, зварухнуўшы сцішаную галаву ўнука.

— Баба, я сёння сон нейкі дзіўны сніў,— уварваўся Міколка ў горкія Марыніны думы. Ён пачаў выдумляць, успамінаць, што калі яму снілася. Толькі б хоць як развеяць сум на бабуліным твары.

— Які сон ты, дзіцятка, сніў?

— Нібы іду па нашым агародзе, снег замёў платы, ледзь прабіраюся. А кірую я да Грамкова азярца. І раптам вылятае з-за старой ліпы варона і з усяго маху на мяне. Я кінуўся ўцякаць, а яна наганяе. Тады пачаў адбівацца, шпурляць снежныя камякі.

— Ох, людцы мае, што за напасць? — спуджана прагаварыла Марына.

— Тады схапіў яе за нагу. А варона дзюбай за мой каўнер і адрывае ад зямлі. Валёнкі засталіся стаяць на снезе. Вецер студзіць ногі. Мне зябка. Я крычу і крыкнуць не магу. А варона нясе мяне над нашай хатай. І тут выскоквае татка і касой па вароне. Яна расчапіла дзюбу. І татка злавіў мяне ў рукі.

— Сон у цябе, Міколка, нейкі нялюдскі. Ах, куды ноч, туды і сон.

— Баба, а чаго ўсё ж у нас пабіты дзверы?

Марына, здавалася, забыла на ўчарашняе. І тут зноў ёй падказалі, штурханулі думкі ў балючы бок.

«Як расказаць усё гэтаму мальцу? Як так зрабіць, каб ён зразумеў, што прыйшлі іншыя часы, што ўжо не Пятрок, не яго бацька, галава ў хаце, а прымак? І што матка яго, Рыма, ужо не тая матка? Ці ўкладзецца ў яго галаве, што я лішні тут чалавек, чужым-чужы?..»

— Баба, чаго ты маўчыш?

Старая не стрывала. Абхапіла галаву ўнука, прыціснула да сябе.

— Няма мне месца з вамі, дзіцятка, хоць у палонку.

— Што ты кажаш, баба, не трэба так гаварыць.

— І маўчала б я, Міколачка, як цень, толькі як маўчаць? Ты да Анюты, да матчынай бабы, збег, а хто я вам?

Міколка не разумее старую. Яна ніколі такога не гаварыла. Што робіцца? Ей цяжка, няма яе сына, яго таткі. Дык і ім жа не лягчэй, яму не лягчэй.

— Ты наша, баба, якая ты чужая? Хто такое прыдумаў?

— Нявестка з новым мужам. І шклом вочы засыпаць хацелі. Ат, не трэба, дзетка, табе ўсяго ведаць. Падрасцеш, дойдзеш да многага сваёй галавой. А пакуль шчэ рана табе ўлазіць ва ўсё, сэрца ў цябе маленькае, не вытрымае.

Нешта змянілася. Нябачна, а змянілася. Яшчэ пазаўчора не такой была баба, не так гаварыла. Усё страшна змянілася. Толькі як можна, каб раптам — бах, і ўсё інакш. Не давалася Міколкаваму розуму гэта. Бабуля. Тата... А тут прымак... Гэта ён, ён ва ўсім вінен. Ён прынёс нешта кепскае ў сям'ю.

— А мы з табой паедзем да дзядзькі Янкі. Праўда, бабуля?

— Паедзем.

Марына з Міколкам не ўчулі, як у хату ўвайшла Рыма.

— Адыдзі, Міколка. Каму я сказала,— і маладая жанчына падскочыла да стала, шмарганула за руку хлапчука.— Марш на печ.

— Пусці мяне,— папрасіўся Мікола, трымаючыся за бабулю.

Але маці не адставала, цягнула яго за руку, упіраючыся нагамі ў падлогу.

— Мамка, не чапай бабу! — на ўсю моц закрычаў хлопчык.

Рыма адышла, села на ложак паўз печ.

— Эх, матка табе не міла.— Рыма цяжка ўздыхнула.— Прысох да яе,— Рыма кіўнула галавой на свякроў.— Жыцця яна нам не дае, калі да цябе гэта дойдзе, сынок?

— Пабойся Бога, ён жа сын твой, што ты кажаш? — азвалася Марына.— Нашто дзіцё супраць мяне падбіваеш?

Старая ўсхліпнула і змоўкла.

— Да чаго дайшла? Ледзь мы ў другі пакой, яна пад дзверы. Ці мы не маем сваіх сакрэтаў? Усё хочаш, каб трапляла ў твае вушы. У нас другая сям'я, зразумей сваім старым розумам. Не ўмешвайся. Шчэ плачаш. Дзякуй скажы Алесю, бо шкадуючы кулаком у шыбу сунуў, а то вочы на шкле засталіся б.

Мікола нічога не разумеў. Ён глядзеў на маці і не

бачыў яе. Гэта сядзела не яна, а злая жанчына з ледзяной усмешкай і пякучымі вачыма.

— Старая, старая, я жанчынай сябе адчувала, шчасце спазнала, дык дай ты мне жыць. Не блытайся пад нагамі. Што табе трэба? Кавалак хлеба перападае, пасцель ёсць,— цёпла, сытна, якой трасцы яшчэ хочаш?

Як так можа быць, чаго так мяняюцца дарослыя людзі? Зусім іншай была маці пры жывым татку, любіла бабу. Чаго ж яна цяпер такая?

— Мамка, баба! — крыкнуў Міколка.— Чаго вы такія? Паміріцеся!

На хвіліну ў хаце ўсе заціхлі.

— Во, дзіця сабе пераманіла. Добранькай стала,— парушыла маўчанне Рыма.— Наскользкі хопіць тваёй дабрыні?

Міколка стаяў пасярод пакоя, не ведаючы, да каго прыхіліцца.

* * * Мяцеліца хоць і мяла, але снегу на дарозе, можна сказаць, не было. Насып вялікі і гладкі, кусцік ад кусціка на кіламетр, снег ветрам і зносіла. Толькі рэдка дзе бачны вузенькія жылкі перамётаў. Натужна гудуць правады, слупы з белымі шкляначкамі з бакоў і капялюшкамі-кітайкамі зверху стогнуць працяжна і сумна. Здалёк чуецца іх голас, засядае ў вушах. Цяжка адарвацца ад яго.

Да аднаго з такіх слупоў падбег Міколка. Лёгенька стукнуў рукой па гладкім баку. Ен сярдзіта адазваўся. Хлапчук зняў з пляча сумку з кніжкамі, размахнуўшыся, ударыў па слупе мацней. Той загуў працяжна, аднастайна. Міколка помніў, што пастукаўшы па слупе, можна пазваніць, як па тэлефоне, куды хочаш. Так вучыла яго суседская Валька. І зараз, нахіліўшыся да

настылага дрэва, ледзь кранаючыся яго вуснамі, Міколка зашаптаў:

— Дзядзечка Янка, прыязджай хутчэй да нас, ой, хутчэй прыязджай. Дрэнна бабе Марыне. Нічога не есць і не п'е, усё плача. А мамка крычыць на яе і крычыць, і ўранні, і ўвечары. І Алесь, бацька мой новы, гыркае на бабу. Нічога мне не зрабіць аднаму з імі. Прыязджай, дзядзечка, чуеш ты мяне, прыязджай. Баба ж твая мамка. Прыязджай, дзядзечка Янка, прыязджай.

# Перад парогам

На ноч група размясцілася на правым беразе ракі, пад крывымі сасонкамі, што на выступе скалы. Левы бераг, густа парослы ельнікам, здаваўся чужым і варожым. І хоць дзе-нідзе праз разлапісты ельнік выпроствалася беластвольная бярозка, усё роўна яна не магла прылашчыць вока. Наша група турыстаў-воднікаў праходзіла маршрут у забароненай зоне, недалёка ад мяжы. На памежным пункце нас заклікалі да асцярожнасці, дысцыпліны і неабходнасці трымацца правага берага. Пасля чаго папярэдзілі, ні ў якім разе не спыняцца на начлег на левым беразе, магчыма, таму ён і прыдаваўся нам не вельмі прывабным.

Сонца па кавалачку, па частачцы хавалася за скалу, адкуль няспынна чуўся гул вады. Здавалася, што там нехта шпурляецца шматтоннымі каменнямі ці нейкіх сто вар'ятаў вытанцоўваюць у жалезных ботах рытуальныя танцы на бляшанай падлозе.

Байдаркі, перавернутыя ўверх дном, ляжалі на прыбярэжных гладкіх валунах. У дадатак, каб часам не знясло лодкі, калі раптам падымецца вада, іх чалкамі, вяроўкамі па пяць-сем метраў, прывязалі за камені. Байдаркі прасыхалі пасля дзённага плёскання ў хвалях.

А пад сасонкамі, каля дзвюх разбітых палатак, весела паблісквае агонь, чорныя закапцелыя катлы сіпелі, фыркаліся, выкідваючы на залатое вуголле кроплі наварыстага супу. Дзве дзяўчыны схіліліся над разасланай на зямлі газецінай — нешта рэжуць. Гэта нашы дзяжурныя. Ганка Пярэстая (паміж сабой клічам яе Ліпучка, бо, калі ўжо прыстане з нейкім пытаннем — то і не

адгаворышся, і не адмолішся, хоць плач ці дэманстратыўна набірай у рот вады). Другая дзяжурная Ксютка Днеўская (яе завём мы Мятлушкай, такое ўжо бязвіннае і добрае дзіцё, шчырае і непаседлівае, што не знаходзіш слоў, каб выказаць захапленне). Вось і зараз, па праўдзе кажучы, ніякая яна не дзяжурная, сама напрасілася. З Ліпучкай павінен быў дзяжурыць Жора Ганкін, капітан па экіпажы. У нас як прынята? Кожны экіпаж дзяжурыць па дню, рыхтуе снеданне, полудзень і вячэру. Ксютка, гэта Мятлушка, ушчамілася, адагнала Жору, і цяпер ён, выпрастаўшыся каля цяпла, бяздумна лыпае вачамі. Віцёк з Максімам — гэта яшчэ адзін экіпаж — разблытваюць леску.

Віцёк заўсёды сур'ёзна і спакойна робіць справу. Толькі, калі ўжо надакучвае ныццё сябра, ён гаворыць: «Максім, на гэтым добра трэніраваць сілу волі».

— А ідзі ты...— адмахваецца той. І зноў замаўкаюць, раскручваюць леску.

Мая напарніца па экіпажы — Верка Жмут. Дзяўчына-хват, не ведаеш, калі што скажа і як на гэта рэагаваць. Паднёс мне кіраўнік падаруначак, вух, хоць воўкам вый. Толькі ж вый ці не вый — лягчэй не стане.

Іншы раз нешта стукне ў яе светлую галаву — у яе і сапраўды косы русыя, выгаралыя на сонцы. Ну дык вось, узбрыдзе нешта ёй, яна і пытае: «А праўда, што луннікі і эпілепсікі выдатныя мужыкі. У цябе няма такіх сяброў? Мо пазнаёміў бы?» І як засмяецца, аж рэчка ўздрыганецца. А тут глядзіш: наперадзе парог ці шывера. Трэба вяслом працаваць, а яна ад смеху свету не бачыць. Калі ўсё добра будзе, не патопіць яна мяне, выжыву — за кіламетр аббягаць Верку буду. Во ўжо нечае шчасце трапілася мне. Верка зараз сцеле ў палатках.

Зашамацелі кусты. Усе насцярожана ўгледзеліся ў той бок. Жорж падхапіўся... Развёўшы рукой галіны апошняга куста, да агню выйшаў наш кіраўнік Алёхна Гузскі, двухметровая дылда. (Яшчэ мы ласкава назы-

ваем яго Кароценькі). Ён задаволена ўсміхаецца, хаваючы адну руку за спіну, а ў другой трымае спінінг. Усё зразумела: нядрэнную рыбку вывалак Кароценькі з рэчкі. І, нібыта ў падтрымку маёй думкі, Кароценькі выхапіў з-за спіны руку, у святле агню бліснуў паўметровы шчупак.

— Як ты злавіў? Ці доўга мучыўся? І не сарвалася яна ў цябе? — тарабэрыць Ліпучка.

А Кароценькі толькі слухае, не спяшаючыся з адказам. Манерна павярнуўшы галаву з прыціснутым ледзь не да пляча падбародкам, любуецца сваім уловам.

— О то, дзеці мае, доўгая размова,— нарэшце артыстычна рэкнуў Алёхна Гузскі.— Усе пытанні пасля. Скажыце, чым пачастуеце бацьку?

Ганка Ліпучка скрывілася, зрабіла па-дзіцячы вінаваты твар, ціхенька сказала: «Тато, то мо б папілі вады ды ляглі спаць? На ноч з поўным страўнікам у вашым узросце, ох, як нялёгка».

— Так яму, Ганка, так. Бацька знайшоўся,— адгукнуўся Жора. Кіраўнік скоса зірнуў на Жору.

— Хтой-та нешта сказаў ці мне здалося? — скурчыў міну Алёхна, водзячы па прысутных вачамі.

— Не, то верабей мяўкнуў,— уставіў сваю капейку Жора.

— Мне сёння снілася, што цяперашнія дзяжурныя будуць яшчэ тры дні вазіць катлы ў сваіх лодках. І адпаведна яшчэ тры дні дзяжурыць, а...

Жора не даў дагаварыць камандзіру, усхапіўся з бервяна, загаманіў, захлёбваючыся словамі: «За што? Не маеш права. Тры дні. Якіх тры дні? Хопіць і сённяшняга, прыдумаў што. А што Ксютка памагае, яе ніхто не прасіў, сама вызвалася. Спытай у яе...»

— Схапіліся пеўні, не разнімеш,— выпаўзла з палаткі Верка.— Ды ўсё роўна ж не паб'ецеся! Хлопцы, а ці ў вас рук няма? Мянцеліце, як бабы, языкамі. Ну, хто мацнейшы, давай!

Усе засмяяліся.

— Ну і падбухторшчыца ты,- Верка. І ўсё ж, як там наш суп? Дзяжурныя, чуеце? — запытаўся камандзір.

— Суп стыне,— Ганка схапіла ў адну руку міску, у другую — лыжку і, ляпнуўшы ёю раз-другі, крыкнула: — З печы, [illegible] полу — усе да столу.

Турысты імгненна паселі вакол агню, сцішана засёрбалі...

Пацямнела. Левы бераг зліўся з ноччу. Толькі гул парога памацнеў, стаў больш ярым і нібыта наблізіўся да лагера. Гэты парог мы праходзім заўтра...

Дзяжурныя прыбіраюць стол. Толькі Жора ніяк не наесца. Здзіўляешся, куды яно ўсё дзяецца. Мая Верка пра яго гаворыць: «Наш Жорка, што дажджавы чарвяк, з адным страўнікам на ўсё цела. Плюгавенькі, маленькі, а паспрабуй з ім пацягацца — ты міску, ён дзве, ты дзве, а ён — дзесяць».

Паціху дагарае цяпельца. Хліпаюць апошнія блакітныя языкі полымя, вырываюцца з сярэдзіны і, нібы спалохаўшыся чарнаты ночы, хаваюцца назад.

Праз некалькі хвілін усе ўлягліся. З другой палаткі, дзе начуюць Жора, Віцёк, Максімка і Верка, чуецца хіхіканне, у нашай як на дзіва,— спакой і цішыня. Ну, думаю, хоць сёння заснём па-чалавечы — адразу, але не тут-та было, і памарыць не дала Ганка Ліпучка. Такім душэўна-ліслівым галаском да камандзіра: — Алёхна, ты не спіш? А, Алёхна? Я ведаю, што не спіш, праўда, не спіш?

— Не сплю, не сплю, ну, чаго табе? — не вытрымлівае Гузскі.

— Алёхна, раскажы пра Зялёнага водніка.

— Не хапала табе яшчэ гэтага. Спі ўжо.

— Раскажы, Алёхна, хіба табе цяжка? — далучылася Ксютка.

Ад іх,бачна, не адбіцца, і Алёхна пачынае расказваць: — Ніхто ўжо добра не ведае, адкуль, [illegible] якіх мясцін

Зялёны воднік. Ды ці трэба гэта. Зараз ён уладар парогаў, рэк і вадаспадаў. Даўно гэта было. Аднойчы сабраліся сябры ў паход... Колькі прайшлі парогаў — ніхто не ведае. Толькі аднойчы міналі сябры страшэннае месца. Розныя бачылі берагі той рэчкі, толькі такога яшчэ не даводзілася. Кульнула байдарку, высыпаліся хлопцы, як боб са спелага струка. Лодку на каменнях свечкай паставіла, перакульнула яшчэ раз, заламала аб выступ. Той, што капітанам быў, ударыўся плячом ці то каленам аб валуны. Боль такі, самі ведаеце, дыхнуць нельга, пачаў ён захлёбвацца. Матроса бакавым струменем да берага падбіла... Бачыць, што нешта ■ капітанам не так, як трэба: то з'явіцца над вадой, то зноў праглыне яго рэчка. А якраз наперадзе скаламі сціскаліся берагі, ствараючы гарлавіну. Бліжэй і бліжэй падносіць вада хлопца да гарлавіны — нейкая сотня метраў... Толькі ж матросік гэты, слюнцяй нягодны, выпаўз на бераг, і не, каб памагчы, дагнаць сябра, кінуць спасанец, які на шчасце быў у яго на поясе. Здараецца ж так... Не тут-та было, уяўляеце людзі,— голас у Алёхны такі, што здаецца, вось зараз заплача,— зняў гэты хлюпік шмаццё сваё і пачаў выкручваць ад вады. «Браток!» — толькі і пачуў ён голас сябра.

Алёхна выкрыкнуў гэтае слова так моцна, такім няшчасным голасам, што Ксютка, здрыгануўшыся ўсім целам, шмыгнула з галавою ў спальнік.

— Не стала чалавека — забрала рэчка,— гаварыў далей Алёхна.— А мог жа, мог той выратаваць сябра. Ён яму здрадзіў. Здрадзіў самаму святому — сяброўству. Скалы загрукацелі, ад нячутнага злачынства пайшоў ліўневы дождж. Ён не сціхаў, а матрос стаяў і выкручваў сваё адзенне. На другі дзень загінуўшы воднік пачаў помсціць усім — бо ва ўсіх бачыў толькі здраднікаў. І ўсё шукаў, шукаў чалавека, які яму здрадзіў. Часта выходзіць на бераг там, дзе стаяць палаткі, прасоўвае руку і мацае твары. Больш усяго не любіць барадатых,

калі намацвае бараду, за яе сцягвае чалавека ў рэчку.

Алёхна замоўк. Усе прыслухоўваюцца да нечага, нацягваюць на сябе спальнікі, мацней прыціскаюцца адно да аднаго. Толькі не вытрымала Ліпучка, сказала ціха-ціха:

— Алёхна, а я не так чула пра Зялёнага водніка.

— Хто яго ведае, мо яно было і не так, сведкаў няма. Зараз давайце спаць. А ты, Ганка, раскажаш заўтра, згода?

— Згода.

Засынаем. Шуміць парог...

# Абразкі

## Суцяшальніца

— Гэй ты,дзіцятка, не шчымі ў сэрцы злосць, не акручвай яго гадзюкай чорнай. Яно і так трапеча ў грудзях тваіх, як ластаўка за акном: ірвецца, крывёю абліваецца. Заспакой яго, любка, і зладзіцца ўсё, нядзельным снегам кане, з ночкай згіне. А любоў, каханейка тваё яшчэ будзе. Прыйдзе, дзіцятка, і вочы нечыя пададуцца табе мілей і святлей зорак майскіх.

Ты паляжы, паслухай, што некалі бабка мая гаманіла. А было ж тое не так даўно, хоць і не так блізка. Загуляла Марфачка Леўкіна з печкуром маладым з-пад Сожа. Гуляла, галаву страціўшы, ночкі цешылася, днямі спала. Алёна, матка яе, глядзела на гэта як праз палатно — песціла Марфачку. Пячкур жа быў як месяц, зірнеш — прыгажосць вочы адбярэ, загаворыць — драмата галаву туліць. Больш за ўсё любілі яны, маладыя, Арцёмчыкава азярцо з дубамі. Вада была там што васількі на ўзмежках поля, дубы — волаты, зірнеш на вяршочак — шапка з галавы падае.

Часта чулі жанкі ды дзяўчаты, як звінеў смехам Марфаччын голас, а то песенька плыла з-пад дубоў ды такая, што дых перахоплівала, сэрца саладкаватай нудой зыходзіла.

Ніхто ў вёсцы не помніў, не ведаў такога кахання.

І вясна так прамінула, похапкам лета шуснула, восень загойсала па дрэвах, першае лісце паляцела на дол... Захацелася пайсці Марфачцы па журавіны ў Багуннікава балота. Гэ, раней іх было як насыпана. Аж ззяла ад іх.

І пайшла Марфачка туды адна, толькі з суседскаю кашолкаю. Як пайшла, так і не вярнулася. Шукалі дзень-два — дарма, ні слыху ні дыху. А пячкур? Не вытрываў, не вынес бяды, дзіцятка, засіліўся на дубе высокім каля таго азерца. Во як яно бывае, мая галубка, ад вялікай любові...

Дык што я табе скажу, дарагое маё дзіцятка? Калі надумаўся пайсці ад цябе, дык няхай ідзе: як ні прасі застацца, як ні прымай, калі вернецца,— парванае без рубца не сшыецца... А каханейка, дзіцятка, яшчэ прыйдзе да цябе. Быць таго не можа. Пакуль стаіць зямля наша, датуль і ўсё добрае ды мілае нязводнае...

## Крыўда

— Кажаш, папрасіла б, дык і памаглі б? А паспрабуй да іх падступіцца, з якога боку і як лашчыць. Толькі слова спаганіш ды сэрца ад крыўды зойдзецца. То ўжо лепш паціхеньку сама, па каліўку, па крошцы, што зраблю, як зраблю — і ладна.

— Унукі ж хоць прыходзяць? Не выракаюцца?

— Прыбягаюць крадком. Дзеўка падлогу памые, у хаце прыбярэ, вады, дроў прынясе... Адным словам, дзеці добрыя ў іх, няма чаго наракаць.

— А за што ж так яны цябе, матку, знелюбілі?

— Бог іх ведае. Як стала Галя дырэктаркай, а Лёнік мой пры старшыні закруціўся, дык і змяніліся, счужэлі. Бывала, зануджуся адна ў хаце, дык за кавеньку і да іх. А яны і пазіраюць няветла, і маўчаць, як вады ў рот набралі, а то ні з таго ні з сяго ўспыхне каторае і гыркне. Пасяджу карчом і пацягнуся ў сваю хату. Адзін раз Галя дык зусім ястрабіхаю накінулася: «Не валачылася б, не мазоліла вочы сваімі хустамі, кавенькаю, калі госці ў хаце... Перачакала б, як пойдуць людзі, дык тады зайшла б, калі гэтак ужо цягне сюды...» Павярнулася

я тады і пайшла прэч, заліўшыся слязамі. Выплакала слёзы, а потым і думаю сабе: «А можа, мне і не трэба лезці да іх. Хоць і родная кроў, але ў іх, маладых, сваё, а ў мяне, старой, сваё. Ці ж я ведаю тое, што яны ведаюць, ці ж я скажу тое, што яны скажуць? Выгадавала сына адна, без чалавека — дык і добра, радуйся, што жыве, сям'ю мае, хлеб ё і да хлеба ўсяго поўная хата...»

Дык вот, любка, я ўжо і не хаджу да іх. Лёнік мой, як сустрэне, дык хоць пра здароўе папытае ці памагчы захоча дроў накалоць, а нявестка на другі бок дарогі пераходзіць.

Старыя пастаялі, памаўчалі, ківаючы галовамі ды задуменна пазіраючы ў свет вялікі, а пасля пайшлі кожная сваёй дарогаю. Са сваімі клопатамі.

### Ці не твая маці!

— Ой і клялі яе людзі. Некаторыя ад сваіх двароў адганялі. Павітацца ж з ёю — і ў сне нікому не снілася. А завошта, калі спытаць? Завошта такая нелюбоў? Ды сама і адкажу. Пладзіла Манька гэтая бандзюкоў. Якое [illegible] і ад каго дзіцё ні нарадзіла, кроў з носа, а к васьмі гадкам гэтае дзіцё па чужых хатах ды клецях шастае. Ці бяспутнае ўлонне ў яе, а мо і кроў блудлівая ў жылах. Словам, ніхто рады не мог даць ні Маньцы, ні яе вывадку.

І во зацяжарала яна, у які раз — ды і пальцаў на руках не хопіць, каб злічыць. Знацца, зацяжарала яна. І ўжо ці не на сёмым месяцы была. Ды з большанькім, Віцькам, нядобрае здарылася. Абабраў ён краму нашанскую. І як толькі забраўся туды — галавы ў мяне не хопіць, каб скумекаць. Ну, прыехаў на машыне ўчастковы, ускочыў у Маньчыну хату. Ні слова не кажучы, у машыну яго і павезлі. Матка і спахапіцца не паспела, а хлопца ўжо няма. Выскачыла з хаты, ды паспела

толькі ўбачыць борт машыны. І што ж ты, чалавек добры, думаеш, як была ў спадніцы ды безрукаўцы з галёшамі на босую нагу, так і кінулася бегма следам. Бяжыць Манька па вуліцы, ледзь не перарвецца. Толькі жывот гойсаецца. Павыскачылі вяскоўцы з хат, хто цішком стаяў, а хто без сораму скаліўся. І я выйшла на вуліцу. Убачыла ўсё гэта і галасіць захацелася. Злоба, якую мела на Маньчына дворышча, бы лядзяш на вогнішчы, растала. Якая злоба? Летам мінулым Мікола Маньчын манцыклет майго сына сагнаў. Раскруціў, разламаў па частках. Цяперака пад павеццю груда жалеза.

Ну дык далей жа. Бегла так Манька, бегла, нікога перад сабою не бачачы. Спынілася на хвільку, скінула галёшы з ног, ці яны міналі ёй, ці што? І босьма пусцілася далей.

Я следам за ёю. «Манька, а Манька, апамятайся? Што робіш? Загубіш сябе і дзіцё ненароджанае. На каго пакінеш вывадак свой? Спыніся, ды пойдзем у маю хату»,— прашу яе. Задыхаюся, ці ж мае гадкі бегаць, а не адстаю, умольваю ўсё.

А яна бяжыць і хрыпіць: «Віцечка мой, дзетка любая, галубок мой. Куды цябе, слязінку маю?»

Мяне ж быццам не чуе і не бача. А мо і не чула, і не бачыла.

Адстала я за вёскай, задыхалася, і кругі перад вачыма заскакалі. Прысела на збочыну. Не зводзіла позірку з Маньчыных плячэй і босых ног. Жахліва, мой ты чалавеча, было глядзець на гэтае.

Манька ўжо з вачэй знікла, а я сяджу, скалела, што ні рукою, ні нагой. Падняцца моцы няма.

Азірнулася я, і што ты думаеш: ледзь не з кожнага дворышча людзі на ўскрайку вёскі сабраліся. Весела ім. І рады вы, думаю, дзе ваша чалавечае сумленне, дзе сэрцы вашыя. Не, каб коніка ўшчаміць у сані, прыхапіць вопраткі ды на ногі цяплейшае, дагнаць яе, апрануць, давезці да цэнтра раённага. А ім пацешна. Што

ж ты, кінуцца яны ў помач. Вялікі ж вораг Манька са сваім кублом для ўсіх. І яшчэ, хоць ты хлопча і малады, а скажу, што найбальней за жывое кранула. Стаялі ж там і мужыкі, кабялюгі клятыя, якія па начах бегалі да Манькі, тыя, хто ложак з ёю дзяліў. Няёмка мне старой пра гэтае казаць. Толькі ж для тваёй навукі наважылася мовіць ета.

Так-сяк паднялася я і пайшла да зборышча. Вастрэйшыя на язык гагочуць ды пытаюцца: што не зацугліла, не забрытала Маньку? Яна, маўляў, маржыха нейкая, у спарцменкі рвецца, а ты, старая, прыпынак чыніш.

Што мне было сказаць? Плюнула я ды пайшла. Толькі кінула ім: нелюдзі вы.

Хто паспачувае бязроднаму, а яшчэ з такім няскладным конам-лёсам?

Босьма дабегла ўсё ж Манька да цэнтра раённага. Няблізкі свет — вёрст з трынаццаць. Сунулася ля першых хат. Падабралі добрыя людзі, завезлі ў лячэбню. Там яна нежывое дзяўчо і нарадзіла. Ачомкалася, прыйшла вясной дамоў, прадала за капейкі сваю хату ў калгас і з'ехала. Во мой і ўвесь сказ. А пераказала табе яго, добры чалавеча, я таму, што вельмі ж тварам згадваеш ты Маньчынага сына — Мішу. Думаю, пачну гаварыць, ты і прызнаешся, што гэта маці твая. І мяне прыпомніш. Ды абмылілася, бачу.

Сама я шосты год у гэтым горадзе ў дачкі жыву. З яе садочку і яблыкамі во гандлюю.

Знацца, кажаш, маці твая Ірына. І ў гэтым горадзе свет пабачыў, нікуды так і не з'язджалі? А ўсё ж сходны ў цябе твар з Маньчыным Мішкам. Прабач старую — разгаманілася. Час у цябе адабрала. Але пачутае ў жыцці не пашкодзіць.

Дык, кажаш, забіраеш усе мае яблычкі? Во дзякуй, добры чалавеча, хоць стаяць не мушу. Спажывай на здароўечка. Спажывай.

**Адплата** Яго ўжо ніхто не помніў. Памерлі, паз'язджалі, хто застаўся жывы, з кім ён жыў, у каго на вяселлях гуляў, чыіх дзяцей хрысціў — забылі ўсе.

Дрэвы новыя выраслі за гэты час пад хмары, сухастоем бярэзнік стаў за малінавым валам, крапівой ды палыном дворышчы хат параслі. Якая ж тут табе памяць?

Гардзей зрання, калі сонца яшчэ не лізнула расы, вылез з піжмы ды бур'яну, там, дзе раней стаяла яго хата, пацягнуўся ў бліжэйшы лес. За ручаём Галуба карчаваў ён некалі палядак. Адзін рваў пні: сасоннік ды бярэзнік. Асіна, помніцца, лягчэй яму давалася.

Што за сілішча была ў гэтых руках, якія цяпер вострымі вугламі тырчаць з-пад прыліплай да цела світкі. Рукі вісяць путам, падобным на тое, якім хватка ён трыножыў свайго коніка. Вынасіўся ты, Гардзей, як выношваецца сяміполая дзяруга ці мех-крапіўнік.

Пуста і ціха вакол. Тупае Гардзей, крыва па роснай траве віхляе след. Такі няроўны, як і ўсё яго жыццё. Шукае Гардзей мінулага дня. Не, не ўчарашняга — гэта б яшчэ паўбяды...

А куды яму — з жыццём не раз дыхнуць — раўняцца з усімі ды шукаць рукамі нягубленага. Душой і сэрцам страчанага.

О, хутчэй бы, хутчэй ужо схіліць навек галаву. Не пад сілу Гардзею насіць яе з думамі, з памяццю. Ідзе, ідзе ён, шукае пачатак жыцця свайго чыстага, адкуль можна сілы ўзяць — і не знаходзіць.

— Не, не, людцы мілыя, не адганяйце, не адпрачайце. Зямелька родная, не адракайся. Увесь мой род тут, кроў Варварачкі на табе, зямліца. Мая рука праліла яе, бязвінную гарачую крывіцу. Жоначка, сынок, дзе вы? Пракляніце, але не адракайцеся зусім?!

Згорбленым сукам Гардзей хадзіў, нечага шукаў, вяртаўся на дворышча, падоўгу стаяў, шаптаў сваё, набалелае. Ніхто не чуў яго. Толькі вецер падхопліваў шэпт і нёс на балота, разбіваў аб сухастойны бярэзнік, тапіў у гнілой багне.

— Я, Варварачка, па нагаворы, па навеі згубіў цябе, галубка. Згубіў праз гадзюку падкалодную. Залезла яна ў маё сэрца, дыхнуць не давала. Засланіла сабой цябе: сваім чорным касмыллем — тваю жытнёва-чыстую касу, сваімі бельмамі-глядзелькамі — твае вочы. Ох, як мне цяжка. Акруціла, звяла з зямлі роднай, нацешыўшыся, адпіхнула абцасам у зубы. Лепшы знайшоўся... Прабач, Варварачка, прабач.

«Я б, можа, і забыла, не адпрэчыла цябе. Толькі ты не адну мяне загубіў — і дзетак, і зямельку родную знявечыў...»

Гардзей схамянуўся.

— Варвара, дзе ты? Што ты кажаш? — крыкнуў і бяссільна ссунуўся на зямлю. Адзін, адзін ён. Голас Варварын — голас зямлі. Зямлі, па якой некалі шчасліва хадзіў, якая яго карміла — яна ж забрала, прыняла Варвару. А куды кінуцца яму, дзе падзецца?

Стогне палын ад ветру, асыпаецца лісце з піжмы, колецца дзядоўнік, прылягаючы да плячэй старога. Гардзей бачыў цяпер і гэта, і колішняе заадно.

Плешчацца, купаецца ў небе жаваранак. Ды не-не, які жаваранак глыбокай восенню? Сонца так смаліць на небе, што Гардзею месца няма, нечым галаву прыкрыць. Не, гэта не сонца. Пылаючыя хаты, падпаленыя яго рукамі, пякуча помсцяць, пякуча помсцяць цяпер. З вогненным квачом, горда, як герой-пераможца з паходняй, бегае ён ад дворышча да дворышча, выпальваючы вёску. Толькі мігцела ў вачах белая стужка на рукаве. Здавалася, усё забыта: змыта кроў застрэленых, але ж не — зямля, памяць не забываюць.

— Хутчэй бы ноч. Ноч. Ноч,— шэпча Гардзей,—

цямнюткая, як багна, як прорва. Каб ніводнай іскрынкі-зоркі. Такую ноч, каб рукі сваёй не бачыў, каб нахлынула, задушыла думы памяці. А раннем, наступным ранням быць проста старым. Такім дзядком, якія дажываюць на роднай зямлі без здрады ёй. Толькі як зрабіць гэта? Не, бяссільная і ты — ноч.

— Ты не жаваранак, ты коршук, сіла чорная. За душой маёй прыляцеў? На, бяры, бяры яе. Забірай жа.— Гардзей сам спудзіўся свайго голасу, крыкнуў і анямеў. І не жаваранак, і не коршук уецца над ім. Стаяць загубленыя вяскоўцы — усе, каго паліў. Глядзяць на яго. Як яны глядзяць?..

Суседка Катрына калыша дачку. Гардзей адной куляй змітаваў маці і немаўлятка. Загубленыя глядзяць з балючым дакорам. Гардзей не вытрымлівае, хапае з-пад ног яблыневы сук і страляе, страляе ў іх. Вочы, як цыбуліны, здаецца, выкацяцца з вачніц.

— Та-та-тах.— Страляе паліцай у відовішчы. Яшчэ адзін стрэл — і прыціхае. Чуе стары, як горка ўсхліпвае зямля пад ім. Плача Варвара, спаленая з усімі разам.

Гардзей падскоквае. Клыпае ўсцяж колішніх двобышчаў вёскі. Вецер астудзіў тлум галавы, разагнаў мроістае насланнё. Стары ачомаўся. Стаяў і доўга цёр слязлівыя вочы, разганяў рэшткі толькі што перажытага.

Насуплена наступае ноч, халодзіць зямлю распасцёртай далоняй змяркання. Перад яе ўладнай хадой прыгінаюцца дрэвы, меншае кустоўе, прыгорблена хаваецца ў зрыжэлую някошаную траву.

Гардзей усё далей і далей адыходзіць ад былой вёскі. Ён ледзь цягнецца. Згладжаныя курганкі ад спаленых хат, здаецца, перабягаюць яму дарогу — так часта стары спатыкаецца. Памяць яго дабівае, а спаленыя аднавяскоўцы адганяюць яго, ірада, далей і далей са святой зямлі, з роднай зямлі. Помсціць памяць.

# Змест

**Казлоў А.**

К 14 І тады я памёр...: Аповесць, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1993.— 238 с. (Першая кніга празаіка).

ISBN 5-340-01191-7.

У творах маладога празаіка таленавіта спалучаецца рэальнае сённяшняе жыццё і фальклорна-міфалагічныя элементы. Так, лірычны герой аповесці «Адкуль з'яўляюцца яны?..», вярнуўшыся ў вёску, разам з каханаю дзяўчынаю трапляе ў містычны свет зданяў. Ім адкрылася шмат невядомага з гісторыі, жыцця продкаў, яны ўзбагаціліся духоўна. Апавяданні таксама прысвечаны нашай няпростай, шматпакутнай сучаснасці.

4702120201—119
К ———————— 34—93 ББК 84 Бел7
М 302(03)—93

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Казлоў Анатоль Сяргеевіч**

**І ТАДЫ Я ПАМЕР...**

**Аповесць, апавяданні**

Рэдактар *У. Я. Рубанаў*. Мастак *А. І. Карповіч*. Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*. Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*. Карэктар *Л. А. Дзядзюля*.

ІБ № 3959

Здадзена ў набор 25.09.92. Падп. да друку 20.08.93. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 9,75. Ум. фарб.-адб. 9,91. Ул.-выд. арк. 10,59. Тыраж 2700 экз. Зак. 2298. Цана 300 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

300 р.



Казлоў Анатоль нарадзіўся ў 1962 годзе ў в. Асінаўка Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт, а таксама Інстытут літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў рэдактарам аддзела публіцыстыкі і нарыса ў часопісе «Полымя». Цяпер рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць». У 1990 годзе ў бібліятэцы часопіса «Маладосць» выйшла кніга прозы «Міражы ценяў».